СЕРЫЯ
«БЕЛАРУСКАЯ ТУРЭМНАЯ ЛІТАРАТУРА»
заснаваная ў 2017 годзе
распрацаваная Праваабарончым цэнтрам «Вясна»

**Аліневіч, І.**

Еду ў Магадан : успаміны / Ігар Аліневіч. — Мінск, 2017. — 252 с. : іл. — (Серыя «Беларуская турэмная літаратура» ; вып. 2).

Ігар Аліневіч нарадзіўся ў 1983 годзе. Са школьных гадоў цікавіўся гісторыяй, асабліва анархісцкага руху, чытаў працы і вывучаў жыццё ягоных заснавальнікаў, тэарэтыкаў і практыкаў. Па адукацыі інжынер-электроншчык. Удзельнічаў у працы над расійска-беларускім спадарожнікам.

Быў абвінавачаны ў нападзе на амбасаду РФ у Мінску і ва ўдзеле ў іншых акцыях анархістаў. 27 траўня 2011 года асуджаны да 8 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй аўтамабіля, атрымаўшы найвялікшы тэрмін зняволення з усіх палітвязняў за ўсю найноўшую гісторыю Беларусі. Вызвалены 22 жніўня 2015 года ў ліку шасці беларускіх палітвязняў згодна з падпісаным прэзідэнтам Беларусі ўказам аб памілаванні.

Рукапіс дзённіка, напісаны ў турме КДБ, разам з іншымі артыкуламі Ігар Аліневіч здолеў перадаць на волю, і ў сакавіку 2013 года намаганнямі выдавецтва «Радыкальная тэорыя і практыка» выйшла кніга «Еду ў Магадан». Яе невялікі наклад разышоўся вельмі хутка, іншыя выдаўцы другое выданне зрабілі няпоўным — без некаторых артыкулаў.

У снежні 2013 года Ігар Аліневіч з кнігай «Еду ў Магадан» стаў першым лаўрэатам Прэміі імя Францішка Аляхновіча, заснаванай Беларускім ПЭН-цэнтрам сумесна з Радыё Свабода за найлепшы твор, напісаны ў зняволенні.

Кніга перакладзеная на іншыя еўрапейскія мовы — англійскую, нямецкую, польскую, чэшскую, сербскахарвацкую, французскую, іспанскую, беларускі пераклад дзённіка друкаваўся ў газеце «Новы час».

Асобнае выданне кнігі Ігара Аліневіча «Еду ў Магадан» на беларускай мове выходзіць упершыню і дапоўнена новымі артыкуламі аўтара, напісанымі пасля вызвалення.



ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

Ігар АЛІНЕВІЧ

# Еду ў Магадан

## Успаміны




**«Беларуская турэмная літаратура»**
**Мінск**
**2017**

**Змест**

Гэта кніга напісана маім сынам пра тое, што адбываецца зараз у сучаснай Беларусі, пра выбар чалавека ў сітуацыі паміж жыццём і смерцю, паміж воляй і палонам, сумленнем і здрадай. Усё, што здарылася з ім, адбылося ў рэальным жыцці ў XXI ст., у еўрапейскай краіне, якая лічыцца цывілізаванай, напярэдадні і пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. Задума гэтай кнігі ўзнікла ўвесну 2011 г. падчас адзінай сустрэчы, якую нам далі ў следчым ізалятары КДБ. Размаўляць можна было з вялікай асцярогай, але мы з мужам былі такія шчаслівыя бачыць яго... Усё, што адбывалася і адбываецца зараз з Ігарам, вельмі падобна да сітуацыі, якую апісвае Анатоль Рыбакоў у кнізе «Дзеці Арбата». І хоць Сашу Панкратава арыштавалі ў 1933 г., гісторыя, на жаль, паўтараецца. Я прапанавала Ігару напісаць пра ўсё, што адбывалася з ім, каб не забыць, каб пакінуць памяць для гісторыі.

Усе мы мяркуем, што беззаконне, бязмежжа, рэпрэсіі ніколі не закрануць нас саміх і нашых блізкіх. І вельмі важна, каб гэтая гісторыя зрабілася здабыткам усяго грамадства.

Падрабязнасцей яго скрадання ў Маскве і зняволення ў следчым ізалятары КДБ увесну 2011 г. я яшчэ не ведала. Толькі адбыўся суд, які паказаў усю недарэчнасць і неаргументаванасць абвінавачванняў, прадстаўленых у адрас яго і ягоных таварышаў, Мікалая Дзядка і Аляксандра Францкевіча. Цэлы шэраг падобных судоў адбываўся ў той жа час. Ужо прысудзілі турэмныя тэрміны маладафронтаўцам Дашкевічу і Лобаву, кандыдатам у прэзідэнты Саннікаву, Усу, Някляеву, удзельнікам іх штабоў, маладзёжным актывістам і шматлікім іншым сынам беларускага народа. Турмы і следчыя ізалятары былі перапоўненыя. Амаль аднaчасова з нашым судом адбываўся працэс над Мікалаем Статкевічам. Апошнія суды жорсткасцю сваіх прысудаў прывялі ў шок — 6 гадоў Статкевічу, 8 гадоў Ігару. Ужо з’явіліся нейкія чуткі пра ўмовы ўтрымання ў СІЗА КДБ, пра збіцці, катаванні, жорсткі псіхалагічны ціск. Але я

намагалася адрынуць ад сябе ўсё, што чула, не верыла, што такое беззаконне, здзекі маглі адбыцца з маім дзіцём, якога я нарадзіла і выхоўвала для таго, каб ён жыў шчаслівым, стваральным і свабодным жыццём, а не для таго, каб служыў гарматным мясам для рэжыму.

У мяне часта пытаюцца, што я адчувала, калі чытала дзённік майго сына. Я пішу гэтыя радкі — і, хоць прайшло ўжо два гады, пры ўспаміне пра гэта ў мяне зноў цякуць слёзы. Канешне, боль. Гэты боль працінае табе душу і сэрца. І тэрміну даўнасці ён не мае. Гэты боль не толькі за свайго сына, за сваю сям'ю — гэты боль за беларускі народ, за беларускую моладзь, якая вымушана цалкам несправядліва адбываць турэмныя тэрміны ў жудасных, нечалавечых умовах, эміграваць са сваёй краіны, хавацца, трываць прыніжэнні і збіццё толькі за тое, што яна хацела лепшага, свабоднага жыцця для свайго народа. Гісторыя паўтараецца. Намагаючыся захаваць уладу, рэжым знішчае будучыню краіны. У той жа час я адчуваю гонар за тое, што здолела выхаваць такога годнага чалавека, як мой сын. Перад абліччам смяротнай небяспекі, застаўшыся ў поўнай ізаляцыі без усялякай падтрымкі звонку, ён здолеў застацца верным сабе, той сістэме каштоўнасцяў, якую засвоіў. І не толькі ён. Снежаньскія падзеі 2010 г. паказалі, колькі вартых людзей жыве ў Беларусі. Яны могуць прылічаць сябе да розных колаў грамадства, да розных партый і рухаў, яны могуць глядзець у розныя бакі, але ў іх б'ецца адно сэрца. Гэта сэрца мужных, сумленных, шчырых патрыётаў, якія захавалі свой розум, годнасць і сумленне і якія не пайшлі на супрацоўніцтва з рэпрэсіўным рэжымам. Ігар, як і ўсе палітычныя зняволеныя Беларусі, аказаўся больш паважаным чалавекам за тых, хто апынуўся ў статку быкоў, што топчуць нашу краіну.

Калі Ігару было 16 гадоў, я яму падарыла верш Р. Кіплінга. Я хацела, каб на парозе ўваходжання ў дарослае жыццё ён засвоіў ісціны, важныя для сапраўднага чалавека. Даслала я яму гэты верш і перад судом, каб падтрымаць яго, каб ён зразумеў, што свет існуе, што чалавечыя каштоўнасці застаюцца назаўсёды і паўсюль. Нават тады, калі падаецца, што свет абрушыўся і ты застаўся сам-насам з жудасным цмокам.

Як маці, я адказная за тое, якое жыццё мы падрыхтавалі сваім дзецям. Як маці, я ганаруся тым, што выхавала сына, які застаўся Чалавекам.

***Валянціна Аліневіч***

*Джозэф Рэд’ярд Кіплінг*

## СЫНУ

Калі не згубіш галаў, хоць навокал
Усё бунтуе ў шале і кляцьбе,
Калі пад скосым незычлівым вокам
Ста сот няверцаў верыш у сябе;
Калі даўгім не знудзішся чаканнем,
Хлуснёй не азавешся на хлусню,
А злоснікаў раззброіш — дараваннем,
Не пнуўшыся паказваць дабрыню;

Калі ты марыш не для марных мараў,
Калі ты мысліш — не для думных дум;
Калі ні ласкі лёсу, ані ўдары
Не могуць павярнуць тваю хаду;
Калі стрываеш, чуючы аблуду —
З тваіх праўдзівых злепленую слоў,
Ці ўбачыўшы свой дом гарою хлуду —
І будаваць ты возьмешся наноў;

Калі свае ўсе разам перамогі
Паставіць рызыкнеш хоць раз на кон —
І ўсё прайграўшы, зноў ставаць на ногі,
І каб з душы не вырваўся ні стогн;
Калі прымусіш сэрца, нервы, жылы
Па-над мяжой напругі працаваць,
Каб — хоць перагараючы — служылі,
Як Воля ім загадвае: «Трываць!»

Калі з народам размаўляеш годна,
А з каралём не траціш прастаты;
Калі ні вораг, ані сябра родны
Цябе не ўкевляць, і ў пашане ты;
Калі напоўніш кожную хвіліну
Імклівым пульсам дарагіх секунд,
То значыцца, мой сыне, ты — Мужчына!
І пад табою ў свеце моцны грунт!

*Пераклад:* ***Галіна Дубянецкая***

## «СПРАВА БЕЛАРУСКІХ АНАРХІСТАЎ»*

«Справа беларускіх анархістаў» была ініцыявана пасля атакі «кактэйлямі Молатава» пасольства Расійскай Федэрацыі ў Мінску ўначы 31 жніўня 2010 года. Акцыя невядомай радыкальнай групы «Друзья свободы» стала кульмінацыяй «інфармацыйнай вайны» паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь, а магчымасць міжнароднага скандалу і ціск з боку расійскай улады каталізавалі расследаванне гэтай справы. Пасляператрусу на кватэрах і затрымання 7 актывістаў у Мінску 3 верасня 2010 года адбылася чарговая акцыя групы «Друзья Свободы», падчас якой анархісты атакавалі «кактэйлямі Молатава» браму ізалятара часовага ўтрымання на Акрэсціна. Цягам двух месяцаў у некалькіх гарадах Беларусі прайшлі допыты больш за 50 чалавек, некаторыя з іх правялі ў следчых ізалятарах ад 3 да 14 дзён, актывісты Дзмітры Дубоўскі і Дзяніс Быстрык былі змушаныя пакінуць краіну (Дубовский, 2011). У выніку па справе абвінавацілі Ігара Аліневіча, Мікалая Дзядка, Аляксандра Францкевіча, Максіма Веткіна і Яўгена Сілівончыка («Вясна», 01.06.2011).

2010 год у Беларусі прайшоў пад знакам судовых палітычных працэсаў. «Справу беларускіх анархістаў», якая, натуральна, выклікала грамадскі рэзананс, пачалі

* Палітычная сфера. 2013. № 20 (1). — URL: http://journal.palityka.org/wp-content/uploads/2015/04/05_Laneuski.pdf

асвятляць і каментаваць у медыях. Знаны блогер Будзімір (Зміцер Галко) трапна заўважыў: «Улада нечакана адкрыла для сябе анархістаў. Падазраваных у тэарэтычным і практычным анархізме зраўналі ў правах з традыцыйнымі public enemy, чырвона-чорны сьцяг зь бел-чырвона-белым. З гэтага часу быць анархістам у Беларусі — усё роўна, што быць апазыцыянэрам, з усімі вынікаючымі наступствамі...» (Будзімір, 2010).

Недальнабачнай аказалася думка Уладзіміра Някляева: «Ну нейкія “сябры свабоды” за тое, што іх актывістаў у Хімках арыштавалі, прыбеглі да расійскай амбасады, кінулі. Я ўпэўнены, што гэта правакацыя беларускіх спецслужбаў...» («Эхо Москвы», 2010). У Еўропе і Расіі, а нават у Мексіцы прайшлі акцыі салідарнасці (АЧК, 2011; Черепаха-луноход, 2011). Аднак найбольш радыкальная з іх адбылася ў ноч на 17 кастрычніка 2010 года ў Беларусі, калі «кактэйлямі Молатава» быў атакаваны аддзел КДБ у Бабруйску. Гэты эпізод атрымаў назву «бабруйская справа», па якой былі арыштаваныя Я. Васьковіч, А. Пракапенка і П. Сырамолатаў.

Суд па «бабруйскай справе» праходзіў 5–18 траўня 2011 года. У сваім апошнім слове Васьковіч заявіў, што ён абараняў беларускія каштоўнасці і не шкадуе аб сваім учынку. Пракапенка і Сырамолатаў пакаяліся і папрасілі аб змякчэнні прысуду. Усе абвінавачаныя прызналіся ва ўдзеле ў акцыі і ў выніку асуджаныя па ч. 2 арт. 339 КК («Злоснае хуліганства») і ч. 3 арт. 218 КК («Пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры») атрымалі па 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму (Радыё Свабода, 18.05.2011).

18 траўня 2011 года пачалося пасяджэнне, на якім разглядалася крымінальная справа па абвінавачванні мінскіх анархістаў па наступных артыкулах: ч. 2 арт. 339 КК («Хуліганства, здзейсненае групай асобаў») і ч. 2 і 3 арт. 218 КК («Пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам і ў асабліва буйным памеры»), ч. 2 арт. 349 («Несанкцыянаваны доступ да камп’ютарнай інфармацыі»), ч. 2 арт.

351 («Камп'ютарны сабатаж, спалучаны з несанкцыянаваным доступам да камп'ютарнай сістэмы»), арт. 354 КК («Распрацоўка, выкарыстанне альбо распаўсюджванне шкодных праграм») («Вясна», 01.06.2011). Падчас працэсу АЧК зняў невялікую стужку «Не признающие законов», у якой прадставіў сваю ацэнку сітуацыі (TorIsYourFriend, 26.05.2010). Самі затрыманыя анархісты не прызналіся вінаватымі, аднак 27 траўня 2011 года І. Аліневіч быў пакараны 8 гадамі пазбаўлення волі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй аўтамабіля*, М. Дзядок — 4,5 гадамі пазбаўлення волі ўзмоцненага рэжыму, А. Францкевіч — 3 гадамі пазбаўлення волі ўзмоцненага рэжыму. Анархісты, якія супрацоўнічалі са следствам і прызналіся вінаватымі: М. Веткін і Я. Сілівончык — адпаведна 4 і 1,5 гады абмежавання волі.

Вынесеныя прысуды сталі першымі сур'ёзнымі пакараннямі анархістаў у гісторыі незалежнай Беларусі і, безумоўна, нанеслі моцны ўдар па анархісцкім асяроддзі. Можна згадзіцца з меркаваннем А. Жыневіча, што «Анархісцкі рух у Беларусі аказаўся не гатовым да падобных рэпрэсій з-за сваёй нешматлікасці і адноснай аўтаномнасці, дзякуючы якой мог заставацца незалежным рухам. (...) Быць анархістам у Беларусі толькі падаецца зручным: на самай справе гэта патрабуе вялікай рашучасці і пастаяннага напружання розуму» (Жыневіч, 2011).

Варта звярнуць увагу, што «справа беларускіх анархістаў», а таксама «бабруйская справа» з'яўляюцца яскравымі прыкладамі палітычных працэсаў, у якіх важную ролю адыграла дзеючая ўлада. Падчас выбараў прэзідэнта Беларусі 19 снежня 2010 года анархісты прымалі актыўны ўдзел у масавых акцыях пратэсту (Albert, 2010; Революционное Действие, 21.12.2010; OurBelarus, 26.06.2011). У лістоўцы «Предвыборная программа анархистов» яны выказаліся за народнае самакіраванне, альтэрнатыўную

* Гэты прысуд аднадумцы з Расіі акрэслілі «дыяментам у кароне беларускага правасуддзя» (Детюк, 2011).

эканоміку, свабоду ад прымусу, а таксама прадставілі свае адносіны да маёмасці і нацыянальнага пытання. Менавіта тады аб анархістах нагадаў А. Лукашэнка: «...20 анархістаў з Расіі прыехала, і іншыя былі, мы іх там выявілі, з некалькіх дзяржаваў людзі былі...» (СТВ, 2010)*. 14 сакавіка 2011 года па тэлеканале БТ было паказана журналісцкае расследаванне Андрэя Крывашэева «Анархия. Прямое действие». У ролі «экспертаў» ад анархізму выступілі загадчык кафедры міжнародных адносін Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, доктар палітычных навук Сяргей Кізіма (паводле якога «анархізм як інтэлектуальная балбатня» не нясе пагрозы), кіраўнік аддзела следчага ўпраўлення ГУУС Мінскага гарвыканкама Аляксандр Іваноў і галоўны саветнік Дзяржаўнага сакратарыята Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь Ігар Паддубскі (Поддубский, 2009: 72–77; 2010а: 44–49; 2010б: 120–125).

Па словах «экспертаў», за мірныя акцыі «ў Беларусі не пераследуюць», нават акцыя каля Генштаба — не больш за «банальнае хуліганства». Праблема ў тым, што «мода на радыкальны анархізм» прыйшла ў Беларусь з Заходняй Еўропы і з'яўляецца «прамым гвалтам у дачыненні да дзяржавы». Калі б не аператыўная праца КДБ, то анархісты ў будучыні маглі б «спаліць школы і цэрквы, каб запалохаць грамадства». Стужка заканчваецца сцверджаннем, што «Беларусь спынілася за крок ад катастрофы, калі ўтопія баявога анархізму магла перарасці ў тэрор і вулічныя баі...» (Белтелерадиокомпания, 2011).

У адказ АЧК зняў 20-хвілінную стужку «Анархия. Прямое действие. Неангажированная версия» (РД, 16.03.2011; TorIsYourFriend, 18.08.2011), а ў інтэрнэце з'явілася рэцэнзія на стужку. Блогер Isto4nik_zarazi ў сваім аналізе сцвярджаў, што дата паказу была выбрана спецыяльна перад

---

* Раней прэзідэнт Беларусі, адзначаючы высокі ўзровень арганізацыі саміту АБСЕ ў Астане, казаў: «Нідзе ніхто не топчацца, ніякіх затораў, усё прадумана, ніякіх анархістаў, антыглабалістаў. Ніхто не перашкаджае працаваць» (БелТА, 2010).

судамі, каб сфармаваць «пэўнае грамадскае меркаванне», а таксама правесці «прафілактычную работу» перад Днём барацьбы з палітычнымі рэпрэсіямі. У блогу падкрэслівалася, што стужка з’яўляецца працягам дзяржаўнага прапагандысцкага серыяла, папярэднія серыі якога называліся: «Молодой фронт. Kidnapping», «Психология девиации», «Плошча. Железом по стеклу». Аўтар дадаваў, што пра ідэалогію анархістаў нічога канкрэтнага не сказалі, а таксама адзначаў плюс стужкі: асвятленне малавядомага эпізоду па «бабруйскай справе» (Isto4nik_zarazi, 2011).

Чарговы факт увагі да анархістаў быў звязаны з тэрактам у мінскім метро 11 красавіка 2011 года, калі старшыня КДБ Беларусі Вадзім Зайцаў адзначыў, што службы разглядаюць тры версіі здарэння, адна з якіх датычыла анархістаў: «...ёсць прадстаўнікі радыкальных маладзевых экстрэмісцкіх арганізацыяў. Цяпер заканчваецца крымінальная справа па анархістах. Мы не выключаем, што ў адплату, у першую чаргу, у дачыненні да КДБ маглі быць здзейснены падобныя дзеянні» (Интерфакс, 12.04.2011).

Гэтую версію пракаментавалі некаторыя грамадскія дзеячы і журналісты.: «...Я не веру ў версію, што выбух арганізавалі маладыя анархісты. Гэта проста смешна. Анархісты ў Беларусі — гэта дзіцячы садок, а не тэрарысты. Яны надакучылі нашай рэдакцыі са сваімі дурнымі лістамі і смешнымі акцыямі пратэсту. (...) Уся гэта версія з анархістамі — прапагандысцкая лухта» (Шеремет, 2011), а экс-кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч сказаў: «У Беларусі ніхто не заяўляў, таму я, напрыклад, не вельмі веру ў тое, што гэта звязана з анархісцкімі рухамі...» («Эхо Москвы», 2011). У сваю чаргу, анархісты ў адкрытай заяве рашуча асудзілі тэракт і падкрэслілі, што «мэтаю атакаў беларускіх анархістаў, нават па дадзеных следства, з’яўляюцца зусім іншыя аб’екты, беларускія анархісты шануюць чалавечае жыццё і не выкарыстоўваюць выбухоўку» (Streetsmedia, 2011).

Важным момантам, які сведчыць аб палітычным характары працэсаў, з'яўляецца факт, што «справай беларускіх анархістаў» з самага пачатку зацікавіўся Праваабарончы цэнтр «Вясна», які ў сваім аглядзе адзначыў шэраг нарматыўна-прававых парушэнняў, псіхалагічны ціск, жорсткае і бесчалавечнае абыходжанне падчас правядзення следства («Вясна», 01.06.2011). І. Аліневіч быў гвалтоўна выкрадзены ў Маскве прадстаўнікамі неўстаноўленых спецслужбаў і перавезены ў следчы ізалятар КДБ (РД, 01.12.2010). Акрамя праваабаронцаў барацьбу за М. Дзядка пачалі Студэнцкае прадстаўніцтва Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (у якім ён навучаўся) і моладзевая ініцыятыва «StudAlliance» (ЕГУ, 2011).

Першым грамадска-палітычным дзеячам, які публічна падкрэсліў палітычны характар справы, стаў Аляксандр Фядута: «Калі праваабарончыя арганізацыі не залічаць анархістаў да вязняў сумлення, а інтэрпрэтуюць іх учынкі як хуліганства — значыць, яны ўсталі на бок беларускага суду. Суду няpraведнага, у чым я перакананы...» (Федута, 2011). У выніку грамадскай кампаніі ў верасні 2011 года ў інтэрнэце з'явілася петыцыя «У абарону непрызнаных беларускіх палітвязняў», аўтары якой заяўлялі: «Тое, што да гэтага Дзядок, Францкевіч і Аліневіч былі невядомыя шырокай грамадскасці як грамадскія актывісты, не павінна ўплываць на ўзровень іх падтрымкі. Таму мы лічым падобнае размежаванне на "сапраўдных" палітвязняў і ўсіх астатніх няправільным» (Petitiononline.com, 2011).

Петыцыю падпісалі А. Фядута, эколаг Уладзімір Валодзін, кіраўнік «Свабоднага тэатра» Мікалай Халезін, журналістка Ірына Халіп, старшыня і першы намеснік БПЗ А. Новікаў і Ю. Глушакоў, экс-кандыдат у прэзідэнты А. Міхалевіч, журналіст А. Пачобут і іншыя. Паступова адбылася хваля салідарнасці беларускіх апазіцыйных палітыкаў з анархістамі, што прывяло да прызнання анархістаў палітвязнямі па схеме 11+3 (асуджаныя па «бабруйскай справе») (Naviny.by, 05.10.2011).

Анатоль Лябедзька сцвярджаў: «Што датычыцца Ігара і яго калег, то гэта справа з палітычнай падаплёкай. Уладзе трэба было прадэманстраваць паспяховую барацьбу з “мясцовым тэрарызмам”. У варунках адсутнасці незалежнай судовай сістэмы гэта зрабіць нескладана...» (Radiobemba, 2011), а Віталь Рымашэўскі дадаваў: «Мы заклікаем усе палітычныя сілы і міжнародныя арганізацыі ўключыць у спіс рэпрэсаваных па палітычных матывах Яўгена Васьковіча, Ігара Аліневіча, Аляксандра Францкевіча, Міколу Дзядка, Арцёма Пракопенку і Паўла Сырамолатава...»

Сяргей Марцалеў сказаў: «Я месяц правеў у адной камеры з Ігарам Аліневічам. Гэта мужны і прынцыповы чалавек, абвінавачванні супраць яго пабудаваныя на хлуслівых даносах, таму хачу далучыцца да петыцыі ў яго абарону». «Анархісты — палітвязні, без іх вызвалення дыялог з Лукашэнкам немагчымы. Гэта з’яўляецца пазіцыяй і Партыі БНФ, і усіх адэкватных людзей», — адзначаў першы намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў. Па словах былога палітзняволенага Мікіты Ліхавіда, «яны асуджаны па палітычных прычынах. Асабіста для мяне, яны — палітвязні, таму іх вызвалення трэба патрабаваць разам з удзельнікамі справы 19 снежня, і па справе Лобава–Дашкевіча... ».

5 кастрычніка 2011 года Праваабарончы цэнтр «Вясна» і Беларускі Хельсінкскі камітэт афіцыйна прызналі анархістаў палітвязнямі («Вясна», 05.10.2011). Што тычыцца ўлады, то, нягледзячы на пастаяннае падкрэсліванне крымінальнага характару «справы беларускіх анархістаў», асуджаным ужо некалькі разоў прапанавалі падпісаць прашэнне аб памілаванні (АЧК, 12.09.2011; Ярашэвіч, 2011). Гэта дае падставы меркаваць, што ўлада трактуе анархістаў нароўні з іншымі палітзняволенымі.

***Аляксандр Ланеўскі***

# Еду в Магадан

## воспоминания

28 ноября, Москва, кафе торгового центра у "Горбушки", 14.45 на часах. От бессонной ночи слипаются глаза. Толпы людей, суета, озабоченные лица. В каждом втором мерещится сотрудник, как, например, эти трое в чёрных куртках на соседних сиденьях. Дима сидит напротив. Смеёмся с собственной паранойи. Недавно пришло предложение от Бузатина (он же Лаптёнок Антон, студент БГУИР) встретиться. В душе настойчивое желание отказаться, ведь мы знаем, что он — предатель. Но это необходимо. Дима нервничает. По плану он должен наблюдать в стороне за встречей, но он изначально против всей этой затеи. Конечно, Дима прав. И место, и план должны были быть продуманы лучше, но три месяца в бегах притупляют чувство опасности, да и так не хочется думать, что и этот предал. Я должен успеть сфоткать агентов во время встречи и дать по тапкам, попутно залив газом морду "казачка". Поздно что-либо менять, уже время, пора выдвигаться.

Выходим из комплекса, со всех сторон метнулись четыре тени, схватив под руки. Я не удивился; ни один мускул не дрогнул. Дима отпрыгнул в сторону и бросился наутёк. Случайный прохожий делает ему подножку, но к счастью безуспешно. Страна господ, страна рабов.

Один из men in black успокаивает: "Это мы вашим помогаем". Хм, эти "наши" ваши, а не наши. Звякнули браслеты, запихнули в машину, шмон по карманам: баллон, нож, мобила, кошелёк, плеер. За часа полтора до стрелки я выключил телефон, с которого звонил. Вроде, думал, в людном месте не успеют найти и не будут искать вовсе, чтоб не рисковать. Дурацкая ошибка... Шапка на глаза, одна машина, затем другая. Между собой оперативники не переговариваются, пишут текст на телефоне и передают друг другу. Пару остановок в туалет, смотришь на поле, лес и кажется, что это сон...

...Граница, голову втапливают в пол, значит операция нелегальна, хотя мне ли придираться к законности? Передача местным в бусик, московские говорят: "Больше глаз хлопцу не подвязывайте." "Конечно, за нами дело, мужики" — отвечают тутэйшыя. Трогаемся. Начинают с угроз: "Ты понял, что сказать надо? Или заедем в одно место для выяснений?"

# ЕДУ Ў МАГАДАН

## Успаміны

### 1

28 лістапада 2010 года, Масква, кафэ гандлёвага цэнтра «У Горбушки», 14:45 на гадзінніку. Ад бяссоннай ночы зліпаюцца вейкі. Натоўп людзей, мітусня, заклапочаныя твары. У кожным другім мроіцца супрацоўнік, напрыклад у гэтых трох у чорных куртках з грузнымі мордамі. Дзіма сядзіць насупраць. Смяемся ад уласнай параноі. Уначы прыйшла прапанова ад Бураціны (ён жа Лапцёнак Антон) сустрэцца. У душы настойлівае жаданне адмовіцца, бо мы ведаем, што ён здраднік. Але гэта неабходна. Дзіма нервуецца. Паводле плана, ён павінен назіраць у бінокль за сустрэчай, але ён адпачатку супраць усёй гэтай задумы. Вядома, Дзіма мае рацыю. І месца, і план павінны быць прадуманыя лепей, але тры месяцы ў бегах падтупліваюць пачуццё небяспекі, і так не хочацца думаць, што гэты таксама здрадзіў. Я павінен паспець «змаляваць» агентаў падчас сустрэчы і даць па тапках, адначасна заліўшы газам пысу «казачка». Позна што-небудзь мяняць. Ужо час, трэба рушыць…

Выходзім з цэнтра, з усіх бакоў кінуліся чатыры цені, схапіўшы пад рукі. Я не здзівіўся, ні адзін мускул

не здрыгануўся. Дзіма адскочыў убок і кінуўся наўцёкі. Выпадковы мінак ставіць яму падножку, але, на шчасце, без поспеху. Краіна рабоў, краіна ўладароў.

Адзін з людзей у чорным супакойвае: «Гэта мы вашым дапамагаем». Хм, гэтыя «нашыя» — вашыя, а не нашыя. Бразнулі бранзалеты, запіхнулі ў машыну, шмон па кішэнях, мабіла, кашалёк, плэер... Гадзіны за паўтары да сустрэчы я ўключыў тэлефон, з якога тэлефанаваў Буры. Думаў, што ў людным месцы не паспеюць знайсці або не будуць шукаць зусім, каб не рызыкаваць. Дурная памылка... Шапка на вочы, адна машына, пасля другая. Паміж сабой людзі ў чорным не перагаворваюцца, пішуць тэкст на тэлефоне і перадаюць адзін аднаму. Пару прыпынкаў у прыбіральню, глядзіш на поле, лес — і здаецца, што гэта сон...

...Мяжа з Беларуссю. Галаву ўціскваюць у падлогу, значыць, аперацыя нелегальная. Перадача мясцовым у бусік. Маскоўскія кажуць: «Больш такой х*йні не падкідвайце». — «Вядома, за намі доўг, мужыкі», — адказваюць тутэйшыя. Кранаемся з месца. Пачынаюць з пагрозаў: «Ты зразумеў, што сказаць трэба? Ці заедзем у адно месца для тлумачэнняў?» — «Ды зразумеў, зразумеў, — адказваю я, — чаго ўжо тут...» Ага, як жа. Не корпацца ў памяці, не шкадаваць, лічыць секунды, супакойваць нервы. Трэба мабілізавацца, засяродзіцца на адной праўдзе: «Не вер, не бойся, не прасі...»

«Ужо 20:30, заязджай». Ляснула брама, машына заехала. На вачах па-ранейшаму шапка. Я цалкам дэзарыентаваны. Заводзяць у кабінет, садзяць на крэсла, тварам у стол, на шыю апусцілася рабро чыёйсьці далоні. Наперадзе самая доўгая ноч у маім жыцці...

— Ігар, давай пагаворым з табой як чалавек з чалавекам, — пачуў голас насупраць.

— У такім становішчы людзі не размаўляюць, — я сам здзівіўся свайму голасу. Мабыць, яны не чакалі су-

праціву і на некаторы час разгубіліся. Гэта надало мне ўпэўненасці. Пасля прыступілі:

— Мы ўсё ведаем, кажы, прызнавайся!

— Не ведаю, не быў.

— Цябе ўжо ўсе здалі, чаго аднеквацца?

Свярбіць толькі адно пытанне: Дзіма сышоў ці ўсё ж узялі пазней? Але як даведацца?

— А што Дзіма? Дае паказанні?

— Які Дзіма? Ты маеш на ўвазе Дубоўскага?

Зразумела! Не ўзялі! Значыць, усё не так ужо дрэнна.

— Якія навіны ў Інтэрнэце? Нікога не выкралі? Дрэнна працуеце. Пра вашага «казачка» было вядома загадзя. Мы падрыхтаваліся.

Адчыніліся дзверы, нехта сказаў: «Сапраўды, ужо вісіць на сайце». Няёмкая паўза. Усе, а іх было трое ці чацвёра, выйшлі. З сэрца як камень зваліўся: Дзімон на волі, не разгубіўся, а Бураціна выкрыты ўшчэнт. Цяпер трэба будзе перажыць дазнанне. Пабываўшы неяк на семінары з удзелам Маркелава[1] (зямля яму пухам), я засвоіў цвёрда: ніякіх прызнанняў! Менавіта на паказаннях, дадзеных у першыя дні, як правіла, будуюцца справы.

Вярнуліся дазнавальнікі.

— Ты наіўны. Ты думаеш, у цябе ёсць сябры? Табе ўсе здрадзілі, а ты падазраваў не таго!

Але я ўжо не слухаў гэтае трызненне. Першае правіла — «Не вер!». Усё, што яны кажуць — хлусня, паўпраўда. А калі і праўда, то ў мэтах далейшых маніпуляцый. Методыка была простая: пачыналі з аднаго эпізоду, але, як толькі атрымлівалі адпор, пераходзілі да іншага. Генштаб... Казіно... Білборды... Прафсаюзы... Банк... Амбасада... ІЧУ... Банк... Казіно... І так да бясконцасці.

Бралі зморам. Я засынаў шмат разоў і прачынаўся; як толькі адчувалі стомленасць, адразу ўзмацнялі

ціск. У ход ішло ўсё: пагрозы, ліслівасць, шантаж, разважанні пра бессэнсоўнасць барацьбы, сумневы ў бок таварышаў, упор на эгаізм і г. д. Я не ведаў, колькі часу прайшло. Ён перастаў існаваць. Было незразумела, дзе рэальнасць, а дзе сон…

«Закінем ў хату да скінхэдаў! У нас ёсць адмысловая скінхата!.. Ты — прыгажунчык, такіх у турмах любяць... Цябе яшчэ не білі нармальна... Ну ты маладзец. Здарова кідаеш! Такая адлегласць!.. Навошта табе гэта? Жыў бы, як усе. Яшчэ ёсць магчымасць!.. Ты займаешся каратэ? Ты супярэчыш сваім прынцыпам, бо яно іерархічнае!.. Ты баішся ўзяць адказнасць, ты — баязлівец!.. Ты сядзеш. Пытанне вырашанае. Толькі вось на пяць ці дзесяць гадоў, вырашаць табе... Я б даў табе 12, не, нават 20 гадоў. («А вось я б цябе расстраляў без варыянтаў, сука», — думалася мне.) Я тэлефаную тваёй бабулі. Хай даведаецца пра цябе ўсё... Табе ніхто не нойме адваката... У гэтым эпізодзе мы не ўпэўненыя, але ўсё роўна… Нам трэба ведаць толькі адно: хто табе заплаціў?»

Я ўключаўся толькі, каб сказаць: «Не ведаю, не быў», і зноў сыходзіў у бяспамяцтва. Другое правіла гаворыць: «Не бойся». Звычайна яны блефуюць. Але нават калі не, то толькі так можна даведацца, вытрымаеш ты ці не. Хто спалохаўся — ужо пераможаны. Варта паказаць страх — і ты на кручку.

На некаторы час знялі шапку. За сталом сядзеў толькі адзін:

«Эх, добры ты хлопец. Інжынер, здаровы лад жыцця вядзеш, спортам займаешся. Нельга так сябе марнаваць. Я ж і сам разумею, што вы шмат чаго правільна кажаце, вось толькі рэалізацыя... А можа, ну яго, усё гэта?»

На працягу ўсяго дазнання перыядычна ўзнікала пачуццё пазнавання, што вось гэта і гэта я недзе чытаў. Гэтая думка вельмі выцвярэжвае: пацвярджалася, што ўсё гэта — інсцэніроўка. Бо ўсё роўна ўзнікала адчуван-

не нейкай адарванасці, падсвядома хацелася паверыць у іх аргументы і тым самым усё спыніць. Псіхалагічная ахоўная рэакцыя. Ад яе нікуды не падзецца.

Зноў начапілі шапку на вочы. Прыйшоў нехта новы. Ён не стаў усебакова распрагаць, а з адборнымі фразамі і спецыфічным тонам стаў уціраць — маўляў, якое ж ты сцыкло. ...Зноў чаканне. Жудасна хацелася піць і карцела стрэльнуць цыгарэтку. Але я ведаў, што гэтага рабіць нельга. Любую просьбу трэба ставіць у фармат патрабавання. Трэцяе правіла — «Не прасі». Любая просьба робіць псіхалагічны клімат мякчэйшым, волю — больш падатлівай, і мажліва, менавіта гэтая кропля будзе канчатковай, каб пераважыць чашу шаляў на іх карысць.

Знялі шапку. Оперы сядзяць патухлыя, вычарпаныя. Я запатрабаваў ежы, яе тут жа прынёс мясцовы ахоўнік. Ён быў апрануты ў зялёны камуфляж, як салдат. «Чаму ён у вайсковай форме, а не ў мянтоўскай? Дзе ж я знаходжуся?» — увесь час круцілася ў галаве. Чагосьці чакаем вельмі доўга. Праз маленькую фортку прабіваецца святло. Значыць, ужо дзень. Раптам уздымаюць. Зноў калідорамі, лесвіцамі, кароткім пераходам па ўнутраным дворыку, міма мноства кабінетаў з шыльдачкай «Ідзе допыт». Заводзяць да следчага. Тут жа адвакат. Усё культурна. Уручаецца ордар на арышт па абвінавачванні ў акцыі ля ІЧС на Акрэсціна. Пачынаецца допыт, на гадзінніку 16:00. У іхніх лапах ужо суткі. Дазнанне доўжылася 19 гадзін. Нарэшце знялі кайданкі... Гэта чароўнае адчуванне свабоды — паварушыць рукамі... Бяру на сябе дымавуху на Генштабе. Усё роўна на відэа ёсць — апазнаюць, ды і Міколу лепш разгрузіць. Бо сказалі б, што гэта яго план, а зараз не выйдзе. У любым выпадку, ніякай віны не прызнаю.

Ператрус. Адабралі рэчы, «адшманалі» берцы, далі нейкія тапкі даваенных часоў. Ужо не вытрымліваю, засынаю проста на лаве ў адстойніку. Будзіць здзіўле-

ны ахоўнік, падымаюць, вядуць у вялікі круглы хол з масіўнымі сценамі. Вузкая лесвіца на другі паверх. Адчуванне, што трапіў у нейкі сімбіёз супрацьядзернага бункера і калізея. Гарызантальныя краты закрываюць увесь праём з другога паверха на першы. У сярэдзіне — цэнтральны пульт з тэлефонам. Канваір вядзе мяне ўздоўж дзвярэй, адна за адной, па коле. У руках у мяне матрац, падушка, прасціны. Спыняемся, адчыняюцца дзверы № 3, і я заходжу ў камеру. Нікога. Два жалезныя шканары з цвёрдымі прутамі, два зэдлікі, уманціраваныя ў сцяну. Такі самы стол. У кутку пластыкавае вядро з вечкам. На тумбачцы стаіць паднос: бульба, селядзец, сок. Маленькае акенца з відам на цагляную сцяну за падвойнымі кратамі ў выглядзе напысніка звязвае са знешнім светам. Дзверы з ляскам захлопваюцца. Падаю на матрац ды імгненна правальваюся ў сон.

**2**

Прачнуўся ад таго, што ў камеру ўвайшоў старшы прапаршчык і запатрабаваў даклад.

«У камеры адзін чалавек, лістоў і заяў няма, шпацыр — 1 гадзіну. Дзяжурны па камеры Аліневіч», — так гучала кожны дзень.

Цягнуліся гадзіны... Заняцца абсалютна не было чым. Дзікі холад і скразняк, але захутацца коўдрай нельга. Для тых, хто трапляе сюды без цёплых рэчаў, гэта катаванне. Асабліва адчуваецца адсутнасць абутку. Ногі прадзьмувае ў любых шкарпэтках, нават вязаных. Дапамагае толькі ўкручванне стоп у швэдар. Але гэта — дробязі. Самае важнае — вакол пастаянная цішыня, адсутнічае час. Калі-нікалі даносяцца крокі, рыпанне наручнікаў, ляск кармушак (вертыкальнае акенца ў дзвярах для падачы ежы), «маяковыя» апавяшчальныя ўдары ў дзверы, свіст і шэпт кантралёраў (яны не размаўлялі!).

За некалькі дзён пачынаеш лавіць і распазнаваць любыя гукі. За суткі кармушка адчыняецца некалькі разоў: сняданак, абед, вячэра, лекі. Дзверы адчыняюцца чатыры разы: раніцай і ўвечары ў прыбіральню, яшчэ раніцай на абыход дзяжурнага, адзін раз на шпацыр (калі ёсць). І так месяцамі, у некаторых — гадамі, з круглясутачным люмінесцэнтным асвятленнем.

Поўная невядомасць, дзе я і што далей. Гадзіннік забралі. Дні змяшаліся... Прачынаешся і засынаеш, не ведаючы, ні як доўга спаў, ні часу сутак.

Што такое свядомасць арыштанта ў першыя дні? Гэта рой думак, успамінаў, дрыжыкаў і «цёмнага» ўяўлення пад каталізатарам падсвядомага жывёльнага страху. Толькі пастаянныя фізічныя практыкаванні прыводзілі ў пачуццё рэальнасці. Ізаляцыя... Як гэта адчуваецца? Жыццё чалавека сплятаецца з тысячы сацыяльных нітак: зносіны, абавязацельствы, планы, праца, нават салата ў лядоўні — усё мае нітачку ў нашай свядомасці. І ў адзін момант ты пачынаеш вылузвацца з гэтага трывалага насцілу. Не адразу, а паступова. Раптам узгадваеш пра нейкія справы ад больш аператыўных да менш, розум пачынаецца як бы ўздрыгваць, кідацца, што трэба нешта рабіць. Ты спрабуеш ухапіцца за ніткі, не выпусціць, неяк увязаць па-новаму, але замест гэтага губляеш адну за адной усе і падаеш у бездань пустэчы. Гэта яшчэ не самае страшнае: тут хоць бы бачыш, што страціў.

...У гэтым апраметным вакууме першая перадача і першы ліст ад блізкіх, як прамень святла, прабівае змрок і абпальвае цяплом. Памятаю, як выцягнуў з пакетаў цёплыя шкарпэткі і шарсцяную коўдру. Захутаўся ў яе і тут жа праваліўся ў сон з адчуваннем дому і бацькоўскага клопату...

— У мяне ёсць пра што з вамі пагаварыць, — сказаў сівы, але моцны палкоўнік з 4-га аддзялення КДБ.

З акна самага далёкага кабінета адкрываўся раптоўны від начнога горада, цэнтральнага праспекта Мінска. Не паверу, што пасля камеры на кагосьці гэта не зрабіла б уражання. Так блізка — і так далёка, даўжынёю ў гады...

Гарбата, печыва, пернікі, іншая абыходлівасць, як у фільмах.

— Вы ведаеце, чаму вы тут? — прагучала падступнае пытанне, як гэта рабіла інквізіцыя стагоддзі таму.

— Хацелася б ведаць для пачатку, дзе я знаходжуся, — адказаў я.

— Гэта не турма, дзякуй богу, а СІЗА КДБ. Ёсць розніца. «Амерыканка», як кажуць у народзе. Яе пабудавалі паводле гатовага праекта турмы ў Чыкага, вядома, паменшаная копія. У трыццатыя гады тут было расстраляна больш за 30 тысяч чалавек. Сумна, але запэўніваю вас: ні я, ні мае калегі нават у думках не могуць дапускаць больш такога, — працягваў палкоўнік.

Тры дні запар размовы да ночы — пра анархічны рух, метады, асабісты выбар, сэнс жыцця і г. д. Я адразу вырашыў весці размову выключна ў межах інфармацыі, даступнай у Інтэрнэце. Гэта значыць, калі гучала пытанне, я ўяўляў сабе адкрытую крыніцу, дзе ёсць такая інфармацыя, і толькі пасля адказваў. Ніякай канкрэтыкі.

Палкоўнік цікавіўся такімі рэчамі, як фінансаванне, лідары, замежныя сувязі, г. зн. патэнцыял руху ў плане выкарыстання яго знешнімі сіламі для дэстабілізацыі абстаноўкі ў краіне. Зразумела: у іх думка ў адзін бок скіраваная. Ніхто ўжо не верыць, што людзі могуць нешта рабіць самастойна, з ідэйных меркаванняў.

Тут я зрабіў першую буйную памылку — уступіў у дыялог. Тым самым я паказаў сваю абазнанасць пра рух, свой узровень разумення, чым адпамог ім зарыентавацца ў тым, як далей раскручваць следства, каму якія ролі раздаць. Толькі напрыканцы я зразумеў, што да чаго.

Чэкіст спрытна абдурыў мяне. Яшчэ ў самым пачат-

ку ён сказаў між іншым, што да маёй справы не мае адносін, а займаецца выяўленнем карупцыі і незаконных метадаў следства, пракуратуры, судоў. І я распавёў яму пра тое, як на мяне псіхалагічна ціснулі дазнаваўцы. Ён рэагаваў з вялікай спагадай і спачуваннем. Цяпер жа ён заявіў, што «ваш бацька вельмі актыўны чалавек, непакоіцца за вас». Я, як дурань, сапраўды ўхапіўся за гэтую думку, што бацька спрабуе даведацца пра мяне і падключае праз свае нефармальныя сувязі супрацоўнікаў КДБ, якія не маюць адносін да следства. І недзе ўсярэдзіне гэта выклікала крупінку даверу.

На трэці дзень усё скончылася пытаннем:

— А ці могуць анархісты і ўлада ісці разам да светлай будучыні? Ці хацелі б вы стварыць уласную арганізацыю?

Тут, як пстрычка, у памяці ўсплыў фрагмент з «Дзённіка крыніцы»[2], дзе праз такую прапанову і адбылася вярбоўка!

— Пасля заканчэння тэрміну я збіраюся заняцца пытаннямі альтэрнатыўнай энергетыкі, — павольна, слова за словам, адчаканіў я. Мой адказ моцна засмуціў палкоўніка... Па дарозе ў камеру ўспомніўся Маякоўскі і яго вялікае «я лучше в баре блядям буду подавать ананасную воду».

...Першы шпацыр пад мокрым снегам, у дзіравых пантофлях з тканіны. Шпацыр — гэта трохметровыя суровыя сцены, дворык тры на шэсць крокаў (!) і краты з калючым дротам пад электрычнай напругай. Першы раз надоўга адбівае жаданне выходзіць зноў, але роўна да таго часу, пакуль не прыходзіць разуменне таго, што неба, хай і ў клетачку, лепш, чым нязменная брудна-белая столь з нязменным святлом 24 гадзіны на суткі. Халодныя кроплі дажджу сцякалі па твары, проста як у тым лесе, праз які нам з Дзімам часта даводзілася хадзіць на электрычку, пакуль хаваліся ў Маскве.

## 3

Калі напачатку верасня адбыліся першыя затрыманні, ніхто не думаў, што ўсё абернецца гэтак сур'ёзна. Я адразу звязаўся з Дзімам, і мы разам чакалі, спадзеючыся, што ўсё абыдзецца і ўсіх адпусцяць. Але на працягу трох дзён нам стала вядома, што мянты (працавала ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю) хочуць накрыць пяць кватэр. Кожны дзень колькасць затрыманых узрастала, і з'явілася інфармацыя, што таварышаў раскручваюць не толькі па амбасадзе, але і па многіх іншых эпізодах, нават зусім фантастычных. Ды ўсё роўна не верылася, што кагосьці пасадзяць у турму, і тым больш пасадзяць з рэальным тэрмінам. За шмат гадоў мы прывыклі, што нікому не патрэбныя: ані мянтам, ані журналістам, ані палітыкам. Праўда, у апошні час з'яўляліся трывожныя прыкметы. На панк-канцэрты сталі актыўна наведвацца людзі ў цывільным. Яны ж спрабавалі ўсталяваць сувязь пад выглядам спачуваючых, а вясной сашрубавалі мерапрыемства Беспартшколы (публічныя лекцыі пра анархізм). Але неяк ніхто не надаваў гэтаму вялікага значэння.

З моманту затрыманняў у Мінску кожны дзень праводзіліся экстранныя сходы, каб зразумець, што рабіць далей. Многія з'ехалі на іншыя кватэры, унутраныя электронныя камунікацыі былі паралізаваныя з-за магчымасці ўцечкі. Усе ліхаманкава чысцілі свае камп'ютары, пазбаўляючыся перапісак, фатаграфій і іншых палеўных матэрыялаў.

Але падзеі, якія інтрыгуюць куды больш, разгарнуліся ў Інтэрнэце яшчэ за пару дзён да затрыманняў. Беларуская Індымедыя, з'яўляючыся свабоднай навінавай платформай для анархісцкіх і каляанархісцкіх ініцыятыў, ужыла цэнзуру, выдаліўшы паведамленне пра акцыю ля амбасады. Больш за тое, іх калектыў абвясціў акцыю правакацыяй. Трэба сказаць, што радыкальныя

дзеянні анархістаў сталі рэгулярна ажыццяўляцца з 2008 года і ў Беларусі, і ў Расіі. Падзеі ў Грэцыі, безумоўна, сталі галоўным каталізатарам. За шмат гадоў упершыню было агучана, што за бунтам стаяць не нейкія абстрактныя антыглабалісты, а цалкам канкрэтныя анархісты. За смерць юнака такі адказ, усёахопны і бескампрамісны[3]! Але за тры гады толькі ў апошняй акцыі Індымедыя ўгледзела правакацыю. Карыстаючыся агульнай блытанінай і прастоем сайта Рэвалюцыйнага Дзеяння, Індымедыі ўдалося навязаць свае ацэнкі большасці з руху, у тым ліку і за мяжой. Іншая частка руху, меншая, не павялася за астатнімі, але на той момант сілы былі няроўныя.

У бяссільнай лютасці мы глядзелі на адкрытае адступніцтва і вар'яцтва. Было балюча ўсведамляць, што большая частка прыхільнікаў свабоды розуму і волі паводзіць сябе як статак, прагнуўшыся пад запэўніванні пары-тройкі чалавек. Было відавочна, што пад гэтым хаваецца адкрыты страх за сваю шкуру, і ўбогая дэмагогія аб правілах Індымедыі не магла гэтага схаваць. На жаль, у той сітуацыі нам давялося аператыўна вырашаць іншае пытанне: падзяліць долю затрыманых або схавацца ад рэпрэсій.

На шчасце, мы з Дзімам трымалі свае кватэры ў сакрэце ад шырокіх колаў удзельнікаў руху, і таму мянтам патрэбны быў час, каб вылічыць наша месца пражывання. Сустрэўшыся, паставілі пытанне аб ад'ездзе: марудзіць было нельга, мянты ў любы момант маглі нас накрыць.

Гэта зусім нялёгка — узяць і ўсё кінуць. На працы чакаюць важныя і цікавыя праекты, на лецішчы ў разгары рамонт, на выходныя — планы выбрацца з сябрамі на рэйв. Дзясяткі нітак сацыяльнай павуцінкі трымаюць цябе і задаюць рух. І тут у адзін момант трэба ад усяго адмовіцца. Развагі прыводзяць да глыбіннага са-

мааналізу, падчас якога трэба будзе высветліць свае сапраўдныя каштоўнасці, ступень перакананасці ў ідэях, мэты жыцця, гатоўнасць да ахвяры. Своеасаблівая праверка, што ў жыцці важней: воля, хай худая і галодная, ці камфорт, авось пранясе.

Апошнія дні ў ліхаманкавых зборах і спробах скончыць хоць нейкія справы. Паездка да бабулі і дзядулі, дапамога з гародам на лецішчы. Яны ўжо старэнькія зусім, і, хутчэй за ўсё, мне іх больш не ўбачыць. Пасля — да бацькоў, правесці святло ў гаражы, бо даўно абяцаў. Маці распавядае пра планы на наступны тыдзень, а ў мяне камяк у горле. Начуем на лецішчы ў сябра. Я не тлумачу, у чым справа. Ён не распытвае. Добра, калі сябры разумеюць, што раз так трэба, то ёсць важкія прычыны...

...Дарога да мяжы. На душы цяжка. Адрываешся ад усяго роднага і блізкага. Лёс таварышаў пад вялікім пытаннем. Але мне лягчэй за Дзіму. Бо яму даводзіцца пакінуць і сваю каханую. Забівае драма, якая разыгралася ў руху. Публікуюцца артыкулы і агучваюцца думкі, маўляў, «нам з радыкальнымі не па дарозе». Адказ на падобныя заявы азначае прыцягненне ўвагі ссучаных, а значыць, і мянтоў. Калі дзеля ўласнай бяспекі свае дзяўбуць сваіх, адзіны рух перастае існаваць. Салідарнасць — гэта мінімальны падмурак, на якім магчыма ўзаемадзеянне розных меркаванняў і плыняў. Адбылася дыферэнцыяцыя, як у Нямеччыне, Польшчы, Францыі, Грэцыі, Іспаніі. Што ж, так таму і быць. Дух прыгодаў бярэ сваё, і мы зноў поўныя аптымізму. Мы не адступім і не здамося. Мы будзем змагацца далей, дзеля саміх сябе і нашых таварышаў. Хай хоць увесь свет павернецца супраць нас.

...Масква. Месяц жывём у таварышаў, знаёмімся з маскоўскім рухам, сочым за падзеямі ў Беларусі. Чамусьці хлопцаў усё не адпускаюць, але і не прад'яўля-

юць абвінавачванне. Іх зноў і зноў перазатрымліваюць, такога раней не бывала. Даведваемся, што прыходзілі і да нас, зператрусамі. Але здаецца, што ўсё хутка скончыцца. І раптам тэлефанаванне: «Кватэру, на якую вы неяк заходзілі, накрылі эшнікі[4]. Узялі гаспадара ў пад'ездзе, з пісталетам наперавес. На ўпіску не вяртайцеся!»

Упіскі, пераезды, пошукі халяўнага Wi-Fi, знаёмствы, бессань, часам штодзённая змена кватэр. Мы ведаем, што ўжо ў вышуку, і нас шукаюць па-сапраўднаму. Пошукі бяспечнага месца, суровыя працы ў холад і дождж, кідалава замоўцамі, часам голад. Але менавіта той восенню я ўбачыў небывалую салідарнасць на справе. Начлег, ежа, грошы, зносіны, вольны час. Мы ніколі б самі не выцягнулі без дапамогі. У тыя дні радкі Крапоткіна пра ўзаемадапамогу чыталіся неяк па-новаму. Братэрская падтрымка і пачуцці паўсталі перад намі ва ўсёй сваёй красе і велічы.

Па крупінках паступала інфармацыя пра справу. Хмары згушчаліся. Саню і Міколу абвінавацілі ў шэрагу акцый і зачынілі ў следчым ізалятары. Гэбісты ладзілі падкопы, адпісвалі правакацыі ў Інтэрнэце, дасылалі падробленыя лісты, ціснулі на блізкіх. За Дзіму прыняліся асабліва жорстка, бесчалавечна. Мянты пэўны час пісалі яму ад імя яго дзяўчыны, узламаўшы яе пошту, з заклікамі здацца. У яго душы драма, але воля мацнейшая. Усё дарэмна, занадта нязграбна (за некаторымі выключэннямі). Тады оперы вырашылі падаслаць «казачка». У дачыненні да Бурацiна паступала занадта шмат трывожных сігналаў і папярэджанняў. Мы атрымалі ліст ад нашага таварыша, дзе ён выказаў асабістыя падазрэнні ў адносінах да Бурацiна. Затым мы атрымалі ліст ад ананіма, з папярэджаннем ні ў якім разе не сустракацца ні з кім з Беларусі. І нарэшце, яго спроба атрымаць кантроль над вэб-рэсурсамі не пакінула ніякіх сумневаў.

Вельмі не хацелася ісці на рызыку, пры тым, што мы толькі ўладкаваліся ў бяспечным месцы і знайшлі нармальную працу. Але, што б там ні стала, трэба вывесці Юду на чыстую ваду. Пакідаць такога чалавека ў руху проста нельга.

Перад сыходам на сустрэчу адпраўляем ліст надзейным людзям, каб ведалі, калі што...

**4**

Праз некалькі дзён пачаліся следчыя дзеянні: тры вочныя стаўкі з людзьмі, што далі сведчанні. Цепліцца надзея, што гэтыя людзі не асмеляцца паўтарыць іх у твар. Арсэн — зусім прыгнечаны, Веткін хавае вочы і гаворыць, як недарэка. Дзяніс моцна хвалюецца, але глядзіць у вочы. У любым выпадку, трэба ўстрымацца ад ацэнкі да суда.

Канешне, вочныя стаўкі пакідаюць цяжкае пачуццё. Атрымліваецца, усё мае свой кошт. Пакуль што зразумела адно: я патрапіў, і патрапіў надоўга.



***

«З рэчамі на выхад!» — прагучала распараджэнне кантралёра. Скончыліся два тыдні адзіночкі, зараз — у іншую камеру. Заходжу, вітаюся. Перада мной стаяць людзі, самыя звычайныя людзі з чалавечымі тварамі. Неяк не так я ўяўляў сабе крымінальнікаў. Падыходзіць забіты масцямі[5] хлопец у «алкагалічцы» і пытаецца: «За МТЗ ганяў?» Кажуць, што свет цесны. Але хто б мог падумаць, што я сустрэнуся ў СІЗА КДБ, дзе ўсяго 18 камер на 60 месцаў, з чалавекам, з якім некалькі гадоў ганяў за МТЗ-РІПА[6]! Сапраўды, цесны свет!

Настрой палепшыўся. Макс, знаёмы, 22 гады, панк-рок, антыфа, футбол, амфетамін, 9 гадоў за продаж (арт. 328 ч. 3, ад 8 да 13 гадоў). Кірыл, прадстаўнічы хлопец, 29 гадоў, працаваў у КДК (Камітэце дзяржкантролю), абвінавачваўся па арт. 209 («Махлярства»). Па версіі следства, браў пазыкі ва ўлюблівых дзяўчат без вяртання. Маштаб уражваў: аж 1,5 мільёна[7] ў суме па чатырох эпізодах! Я б не паверыў ніколі, што за гэта можна трапіць, тым больш у КДБ, калі б ён не зачытваў урыўкі са справы. Уладзімір, пажылы мужчына, 55 гадоў. З адміністрацыі Магілёва. Некалькі гадоў таму пераправіў пару грузавікоў з пяском і яшчэ трошкі да сябе на лецішча. А цяпер перайшоў дарогу не таму, вось і пясочак усплыў. Да 10 гадоў без права на амністыю...

Паскакалі дні-тыдні... Сядзець у кампаніі адэкватных людзей значна лепш, чым у адзіночцы. З пункту гледжання побыту вырашаецца процьма пытанняў па недахопе тысячы дробязяў. Часнык, цыбуля, мыла, паста, запалкі, кіпяцільнік, асадка, аловак, аркуш паперы, капэрта, таз, ніткі, усякія мыльна-рыльныя прылады... Усё не запомніш. Але што больш важна — гэта атрыманне ўяўлення пра далейшыя перспектывы знаходжання за

кратамі. Як і што вырашаецца з адміністрацыяй, якія працэсы адбываюцца ў следча-судовай сістэме, чаканыя тэрміны папярэдняга расследавання, артыкулы КК, якія пагражаюць па справе. Зрэшты, цэласны погляд на сваё бягучае становішча.

Але самае галоўнае — гэта пачуццё калектывізму. Вельмі хутка выпрацоўваецца арыштанцкая салідарнасць, хоць у амерыканцы ўсталяванай зэкаўскай культуры няма. Практыкуюцца ўсе натуральныя імкненні чалавека да зносін, узаемадапамогі, пачуццё датычнасці, гульні, жарты і, вядома ж, смех. Бяда збліжае, і заўважна, як чалавек, які быў на волі індывідуалістычным, замкнёным, становіцца больш сацыяльным і адкрытым. Гатаванне ежы, прыборка, памыўка, нават простае перамяшчэнне па камеры або строем патрабуе пастаяннай агляды на іншых. Адным словам, сыходзіць першасны страх перад невядомасцю і суровасцю турмы. Бо самы галоўны вораг — гэта ўласнае ўяўленне. Неўзабаве акалічнасці прымусілі ўпэўніцца ў праўдзівасці гэтага сцвярджэння. Усе мы, зняволеныя «амерыканкі» таго часу, пераканаліся ў гэтым.

А пакуль што мы забівалі «казла» ў даміно, арганізоўвалі турніры па шашках, гулялі ў сокс на шпацырах, глядзелі тэлевізар па вечарах, травілі байкі і гісторыі з жыцця.

Ад родных і сяброў, таварышаў і незнаёмых прыходзілі лісты са словамі падтрымкі і салідарнасці. Адбылася сустрэча з адвакатам. З сабой ён прынёс часцінку таго свету, што такі блізкі мне і абсалютна чужародны гэтаму каменнаму вакууму. Гэта натхніла мяне і яшчэ больш умацавала ў думцы, што я не адзін. Пачуццё ўпэўненасці ў сабе абсалютна дамінавала і душыла галасы адчаю і жалю аб паламаным жыцці, кар’еры, побыце і іншых дробязях жыцця. Што хаваць, першы час пра гэта думае кожны. Пытанне ў тым, скончацца гэтыя

думкі ў гэты самы «першы час» ці будуць і далей катаваць душу.

**5**

Вынікі прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня мы даведаліся ўночы, калі ў камеру паднялі пятага чалавека, Алега Корбана. Высветлілася, што дзясяткі тысяч людзей выйшлі на вуліцу і адбыліся сутыкненні каля Дома ўрада. Неяк не верылася...

На наступны дзень мы ўбачылі дзясяткі выгабляваных па крузе драўляных шчытоў-шконак. Большая частка з іх мела самы свежы выгляд, што падштурхоўвае да яшчэ адной думкі...

Адно стала ясна дакладна: масавыя затрыманні. У той жа дзень Алега забралі. Замест яго паднялі Анатоля Лябедзьку, старшыню АГП. Праўда, партыю мы перайменавалі ў АПГ[8] — гучыць прывычней у турэмных катавальнях. Вопытны палітычны дзеяч, ён шмат дзе паспеў пабываць і паўдзельнічаць у шматлікіх справах. Іронія лёсу. Праўда, гэта ніяк не перашкодзіла яму «зрабіць» нас у даміно і іншыя гульні, з якімі ён быў добра знаёмы, мабыць, па ізалятарах. На знак пратэсту Лябедзька пачаў галадоўку і мужна трымаўся да Новага году.

Тады панаваў настрой, што ўлада вырашыла трохі пристрашыць апазіцыю і патрымаць пад замком дзён дзесяць. Самае вялікае паскудства, якое малявалася ва ўяўленні на той момант, было ў тым, што людзей маглі не адпусціць да свята, пакінуць у турмах на пару дзён даўжэй. Але нават такая думка здавалася амаль неверагоднай. Усе так прызвычаіліся, што беларуская дыктатура кволая, на сур'ёзныя ўчынкі не здольная ў прынцыпе і трымаецца толькі на рабскім менталітэце народа.

Мы зусім не надавалі значэння з'яўленню аховы ў штурмавых масках. Неяк выглядала лагічна, што калі следчы ізалятар моцна перапоўнены, то даслалі ўзмацнен-

не штатнаму персаналу. Мы не ведалі, што азначае ўвод спецназа ў турму. Вопытных зэкаў сярод нас не было...

Але тады яшчэ на выраз «мордой в пол» мы ў гневе агрызаліся, а хамства і грубасць спісвалі на тое, што гэтых грамілаў узялі з якога-небудзь АМАПа. Нават калі нас паставілі на расцяжку падчас ператрусу, спецыяльна вывеўшы для гэтага ў спартзалу, мы ўспрымалі гэта як гнілыя панты, грубыя спробы прыстрашыць, танны фарс, які вось-вось скончыцца. Бо ўся грамадскасць глядзіць цяпер, як разгортваюцца падзеі, увесь Захад пільна назірае за Беларуссю.

Ілюзіі развеяліся, калі ў нас забралі тэлевізар, калі сукамерніка Уладзіміра ахова ледзь не давяла да сардэчнага прыступу (на скаргі адказалі: «Памраце — вынесем»), калі ў дворыку сталі прымушаць дзве гадзіны хадзіць па коле, калі а 10-й гадзіне вечара 31 снежня Лябедзька сышоў з усімі рэчамі, а праз паўгадзіны яго вярнулі назад... Змянілася СІЗА, змянілася краіна. Улада зрабіла выразны крок у бок адкрытай дыктатуры. Дэманструе сваю ўпэўненасць ва ўласнай сіле, непахіснасці, беспакаранасці.

Гэты Новы год быў самым неверагодным навагоднім святам у маім жыцці. Нават у фантастычным сне я не мог і ўявіць, што сустрэну 2011 год у засценках КДБ у гэтакай мудрагелістай кампаніі, з кока-колай і шакаладным торцікам на стале, дакладней тумбачцы, пад акампанемент старых песень і з цьмяным чаканнем грандыёзнага шухеру.

На правах старэйшага Уладзімір сказаў тост з серыі «Как здорово, что все мы здесь сегодня собрались!». Лябедзька быў нешматслоўны: «Жыве Беларусь!»

**6**

2011-ы пачаўся змрочна. Першага студзеня на шпацыры мы з Максам намалявалі снежкамі смайлік і сло-

ган «Vivat anarchia». Толькі вярнуліся ў камеру, як у кармушцы з’явілася галава кантралёра з пытаннем: «І хто ў нас тут мастак?» Я ўзяў на сябе і пайшоў заціраць назад адзін. Памылка. Неяк не звярнуў увагі на эскорт з дзвюх масак, якія зайшлі за мной на двор. Раптам яны загадалі зняць швэдар (бабуля вязала) і ім жа сцерці снежныя майстэрствы. Зразумела, я адмовіўся. Тут жа атрымаў дубінкай па галаве. Першыя секунды я быў у шоку, не мог паверыць, што яны сур’ёзна разлічваюць, што нармальны чалавек будзе распранацца ў мароз і драіць сваёй шмоткай гэтую брудную шурпатую сцяну. Але менавіта гэтага яны і хацелі! Загад — адмова — удар, загад — адмова — удар... Білі па галаве, па вушах, па шыі, у пахвіну, пад калена, у зубы, вочы. Кроў закіпела, кулакі сціснуліся самі сабой. Убачыўшы такі паварот, маскі адышлі на пару крокаў і ўсталі з дубінкамі наперавес, крычалі, каб расціснуў кулакі, але я іх ужо не чуў. Сітуацыю разруліў дзяжурны, які нечакана з’явіўся за іх спінамі. Пры ім яны не пасмелі працягваць. Унутры ўсё гарэла... На зваротным шляху пры лесвіцы зноў тармазнулі. Тыя ці іншыя, не разабраў. Патрабавалі па камандзе схіліць галаву. Адмова. Магутны ўдар па галаве, па шыі ззаду. Адмова. Зноў комплексны падыход. Адмова. Дарэшты выведзены з сябе карнік закрычаў:

— Ты што, ідэйны?!

— Так, ідэйны.

— Не разумею, ты злодзей, ці што?!

— Не.

— Дык, бл*дзь, за якую ты ідэю?!

— Я анархіст!

Хай ведаюць і прывыкаюць, гады. А вертухай усё крычаў: «Бл*дзь! Ідзі нах*й адсюль!!!»

Гістэрычка.

Раніцай наступнага дня экзекуцыя працягнулася. Вычапілі на зваротным шляху з сарціра. На гэты раз

маскі сабраліся ўсе разам, чацвёра ці пяцёра. Перагарадзілі дарогу, каманда — апусціць галаву. Адмова. Пару ўдараў, нуль рэакцыі. Ставяць на расцяжку каля сцяны. Пацікавіліся, ці буду далей адмаўляцца. Адказ станоўчы. Рэзкі ўдар па нагах, падаю як падкошаны на калені і локці. Хапаюцца падняць, але дах ужо сарвала, у вачах — чырвоная заслона. Гэта ўжо не я. Адбіваюся ад захопаў, кручуся на падлозе як ваўчок. Скручваюць, пстрыкаюць бранзалеты. Цягнуць у спартзалу. Ставяць на вельмі жорсткую расцяжку, упёршы галавой у сцяну. Расцягваюць ногі берцамі, на галёнцы падэшвай ірвуць скуру. Б'юць пад дых, туды-сюды, але болю ўжо не адчуваю. У крыві львіная доля адрэналіну. Падносяць да твару ўключаны электрашокер. Страшна, але толькі мацней сціскаю зубы. Перамовы. Сыходзімся, што буду толькі апускаць позірк пры камандзе «галаву ўніз». Хоць нешта. Цішком мажуць ранкі — перакісам вадароду, мабыць.

Яшчэ праз суткі запісваюся ў медпункт, каб зняць пабоі. На лбе — гематома, калені і локці разбітыя. На галёнцы — шнар. Вусны, вуха... больш чым дастаткова. Аднак замест лекара ўся камера ідзе на прыём да начальніка СІЗА. У прасторным, добра ўладкаваным кабінеце сядзеў чалавек невысокага росту, але з уладным і самаўпэўненым тварам.

— Вы тэрарыст? — жорстка спытаў палкоўнік Арлоў.

— Не.

— Навошта вы збілі дваіх кантралёраў? У мяне вось рапарты ляжаць. Аднаму прыйшлося бальнічны даваць. У другога рука пашкоджаная.

Во як! Распавядаю ўсё, як было, але начальнік толькі ўхваліў дзеянні сваіх падначаленых.

— Тут як у войску, — працягваў Арлоў. — Дысцыпліна патрабуе пакарання нават невінаватых. Мне па-

трэбны парадак і не патрэбныя праблемы. Самі бачыце, з якімі выпрабаваннямі краіна сутыкнулася.

Па дарозе назад да мяне стала даходзіць, што тут усё схоплена і гэтыя падзеі не былі выпадковасцю. Як і само з'яўленне Арлова, які замяніў ранейшага начальніка СІЗА акурат пасля выбараў. Стала зусім маркотна.

**7**

Дні, і без таго бязрадасныя, сталі ператварацца ў катаванне. Усё пачыналася раніцай а 6-й гадзіне, з рыкання масак, калі людзей выганялі ў сарцір. Рэзкія ўдары дубінкамі па сценах, парэнчах, падлозе, пастаянныя крыкі: «Галаву ўніз!», «Жывей!», «Бягом!» тонам эсэсаўца, які гарлапаніць «Schneller!» габрэям у Аўшвіцы ля газавых камер. Ляск дзвярэй — і тое самае з наступнай камерай. Усё разам гэта стварала гучную і жорсткую какафонію, якая падаўляе волю і сілкуе страх.

Пасля ранішняга абходу дзяжурнага ўсё паўтаралася. Спачатку а палове на дзявятую, калі на шпацыр выходзіла першая змена, затым кожныя 1–2 гадзіны аж да паловы на першую, калі вярталася апошняя змена. З часам мы сталі заўважаць, што на адных гарлапаняць моцна, на іншых — сярэдне, на трэціх — зусім не крычаць. Дыферэнцыраваны падыход.

З 13 да 15 — абед. Пару гадзін адпачынку.

Пасля трэцяй гадзіны пачынаецца другі заход: шмон. Калі раней ператрусы праводзіліся раз у паўтара месяца, то зараз гэта ператварылася ў штотыднёвую працэдуру (канкрэтна ў нашай камеры). Звычайна нас выганялі ў спартзал, дзе мы павінны былі распрануцца і прысесці некалькі разоў. Пасля прамацвання адзення ставілі на расцяжку да сцяны, часцяком з выгнутымі на тыльны бок далонямі, як пэзэ (пажыццёва зняволеныя). Аднойчы мы з Максам прастаялі так паўгадзіны пакуль ішоў ператрус. Памятаю, першы раз стаялі «ўсяго»

пяць хвілін, але і гэта — катаванне, пасля якога з цяжкасцю ўдаецца паварушыць нагамі. Пасля 30 хвілін ужо наогул нічога не хочацца. Трымаешся, абы не самлець, а пад нагамі лужына ўласнага поту, і дрыжыкі дзікія ў руках.

А палове на пятую другі вывад у сарцір. Усё тое ж самае па ранішняй схеме. І зноў шмон да 18:00. Вячэра. А 20:00 заступае новая змена, якая таксама спрабуе паспець правесці «мерапрыемствы». Тут звычайна тузалі на т. зв. «асабісты дагляд». Гэта азначала збор усіх рэчаў, скручванне матраца з бялізнай, пакоўка прадуктаў і да т. п. Затым з усімі бауламі спускалі ў спартзалу, прычым асобна занесці рэчы дазвалялі толькі ў першыя дні, пасля прымушалі несці на сабе адразу ўсё. Кантралёры вытрэсвалі сумкі, абшуквалі шмоткі, лісты, пакеты; ізноў усё трэба збіраць. Прычым увесь час падганяюць: «Жывей!», «Хутчэй!» Не спадабалася хуткасць выканання — яшчэ раз па коле. Назад рэчы не складалі, а запіхвалі. Бо часу было мала. На чарзе стаялі многія іншыя.

Потым пачыналася самае складанае — дарога назад. Спачатку мы хадзілі крокам, затым — бегам. У выніку прыйшлі да шматразовых забегаў. Па камандзе, загрузіўшыся кешарамі і матрацам з прасцінаю, якая вечна выпадае, трэба было бегчы ўверх па вузкай крутой лесвіцы. Амаль на фінішы карнікі спынялі і прымушалі спускацца ўніз. І зноў наверх... Гэтага не вытрымае нават вельмі моцны фізічна чалавек! Дапаўзаеш да нараў упараны, як конь, і нават не раскладаешся — так усё становіцца абыякава.

Закатаваўшы «цялесна і душэўна», карнікі прыматліся за мозг. З 18:00 да 22:00 па мясцовым «СІЗА ТБ» (звычайнае ТБ адключылі яшчэ ў снежні) пачыналі круціць усякія праграмы, з якіх 90% складаў самы сапраўдны шлак. Містыка, псеўдагісторыя, чачэнскія ба-

евікі, тэрарысты, палітыканы, наркаманы, габрэйская змова, даляр-крывасмок... Усё б нічога, але гэта паўтаралася кожны дзень. Дзясяткі разоў адно і тое ж. Яны дзяўблі мозг трывожнасцю, пачуццём небяспекі. Разлік будаваўся, мабыць, на выпрацоўку неўрозаў, у першую чаргу неўрастэніі. Гэтае ТБ-замбаванне было горш за ўсё. Часам даводзілі да панікі і самаразбурэння. Акрамя гэтага, трансляваліся праграмы адкрыта ультраправага зместу. Паказвалі фільмы «Расія з нажом у спіне» і да т. п. Гэта выглядала зусім па-ідыёцку, калі зэкаў пераконваюць, што Пуцін — габрэй, а Расія — сіяністкая дзяржава. Перыядычна заходзілі кантралёры ў суправаджэнні масак з дубінкамі ў руках. Правяралі, ці глядзім. З часам мы сталі хітрыць: рабілі гук фонавым, а пасля адключалі зусім.

Шпацыр у дворыку — 1–2 гадзіны — быў аддушынай, нягледзячы на панурыя моташлівыя матава-шэрыя сцены і памер 3 на 6 крокаў (былі дворыкі і меншыя). Кантора на вышцы ўключала радыё (пазней адключылі зусім) або дыскі, часам з цалкам прыстойнай электронікай. Але і тут карнікі здолелі папсаваць нам жыццё: прымушалі хадзіць па коле, першы час з рукамі за спінай. Адмаўляешся — адводзяць назад у камеру. У выніку частка арыштантаў зусім адмовілася выходзіць. Сталі прымушаць. Вельмі няпроста хадзіць дзве гадзіны па коле, калі ўжо праз 15 хвілін зямля ператвараецца ў ледзяны каток. Натуральна, лёд ніхто і не думаў пасыпаць пяском. Толькі праз некалькі тыдняў, калі снег пачаў раставаць і людзі падалі ў гэтай слізкай жыжцы кожны дзень, пясок з'явіўся. У дадатак да ўсяго на вышцы сталі круціць блатняк і іншую турэмную лірыку, накшталт «Паўночны вецер» Каліны ці «Еду ў Магадан» Васі Абломава. Такія песні малявалі ва ўяўленні зусім нярадасныя перспектывы…

Лісты зніклі рэзка. Яшчэ ў снежні я паспеў атры-

маць цэлы стос, але са студзеня ўсё стала амаль ніяк. Даходзілі толькі асобныя лісты ад асобных людзей: бацькоў, родных, пары сяброў і разавыя лісты ад таварышаў, дзе па тэксце складана было зразумець, што гэта — палітычныя. У залежнасці ад паводзінаў, зместу гутарак у камеры лісты ішлі ад некалькіх дзён да месяца. У сярэднім два тыдні для тых, што з Мінска ў Мінск.

Лісты — падступная штука! Яны выдатна падымаюць настрой, асабліва калі апісваюць розную драбязу з нармальнага паўсядзённага жыцця. Але вераломства ў тым, што карнікі, рэгулюючы плынь і фільтруючы пошту, могуць ствараць няпраўдзівае ўражанне пра сапраўднае стаўленне людзей да цябе, пра рэальнае становішча спраў на волі. Напрыклад, пішуць некалькі людзей, з якімі ў цябе прыкладна роўных па ступені блізкасці адносіны, але прапусцяць толькі аднаго, а потым і яго абразаюць. Вось і пачынае здавацца, што пра цябе забыліся і нікому ты не патрэбны. Ці могуць сабраць запар некалькі лістоў з негатыўнай інфармацыяй. Гэта цяжка. Вядома, розум тысячу разоў паўтарае, што гэта падстава і не трэба браць да галавы, але чарвячок сумнення точыць падсвядомасць. Ад гэтага нельга ўцячы. На гэта і ідзе разлік.

Ва ўмовах інфармацыйнага вакууму выбарачная падача інфармацыі ўплывае на цябе незалежна ад твайго жадання. У гэтай сітуацыі неабходна паўтараць, як малітву: «Прыйдзе час — і я даведаюся, як усё было», што я і рабіў штодня. Нягледзячы на тэхналогіі фільтрацыі, сёе-тое яны выпусцілі. Вестачкі ад сяброў, якія я паспеў атрымаць у самым пачатку, далі мне дадатковую кропку апоры. Сябры... Колькі гадоў сумеснага шляху, вясёлых тусовак, адвязных прыгод, душэўнага разумення. Здавалася, што гэта будзе вечна. Хто мог думаць, што замест штурму драўляных сцен ролевага замка ў кальчугах і шлемах вы будзеце штурмаваць засценкі гэ-

тага «чырвонага дома» лістамі з волі? Кожнае пасланне са словамі падтрымкі, што я атрымаў, аказалася бясцэнным. Гэтыя словы бударажылі памяць, не давалі забыцца, кім я быў і хто я ёсць, не дазвалялі карнікам ляпіць з мяне сляпое паслухмянае пудзіла.

**8**

У пачатку студзеня ў камеры адбыліся перастаноўкі, якія вызначылі будучы склад выпрабавальнага вальера № 4. Валодзю і Лябедзьку прыбралі, а на замену даслалі Малчанава Саню і Фядуту Аляксандра. Абодва — палітычныя.

Малчанава ўзялі ў першыя дні студзеня ў Барысаве. «Апазнаны» па відэакамерах. Ён выглядаў хваравіта хударлявым студэнтам-ідэалістам. І можа быць, таму яго прасавалі асабліва жорстка. Ён рэгулярна падвяргаўся марш-кідкам. Яго часцяком чаплялі за шыю і галаву, крычалі і зневажалі. Чэкісты з першага дня ўзялі яго ў актыўны абарот і выціснулі пакаянне на камеру і прызнанне віны. Памятаю, дзверы адчыніліся і ў камеру ўвайшоў адзін з масак — без маскі (!) — з дубінкай наперавес. Мы думалі, зараз будуць маскі-шоу (масавае збіццё ўсёй камеры), але ён вычапіў аднаго толькі Саню і вывеў яго з камеры. Прычым з такім выглядам, як быццам бы на расстрэл. Пытанне Кірыла: «Мужыкі, што будзем рабіць?» павісла ў паветры.

З часам мы спазналі Саню з іншых бакоў. Удзельнік дэмакратычнага руху з юных гадоў, да сваіх дваццаці ён паспеў шмат дзе засвяціцца. У свой час цудам сышоў з-пад распрацоўкі камітэта, адчуўшы падставу, калі чэкісцкі агент прапаноўваў яму купіць трацілавую шашку. Прыхільнік бандэраўцаў і Булак-Балаховіча, Саша больш спецыялізаваўся на ўсякага роду дзёрзкіх акцыях, у тым ліку і радыкальных. У вольны ад палітыкі час захапляўся сталкерствам[9], чытаннем, падарожжамі.

Такі станоўчы лад жыцця прывёў да таго, што Малчанаў стаў свайго роду тэлезоркай плошчы 19 снежня. Былі зафільмаваныя і зрыў дзяржаўнага сцяга з будынка КДБ, і размахванне бел-чырвона-белым сцягам на даху снегаўборачнага трактара... Пасля кожнага прэсу Саша не адчайваўся, а мацюкаў чэкістаў на чым свет стаіць, хоць ведаў, што камера праслухоўваецца і вядзецца відэаназіранне.

Аляксандр Фядута аказаўся 46-гадовым мужчынам у акулярах. Наколькі буйны ў целе, настолькі буйная палітычная фігура. На выбарах і агулам. А быў ён паліттэхнолагам і адным з кіраўнікоў штаба кандыдата ад апазіцыі Някляева[10]. Ён ствараў уражанне вялікага гуманіста XVIII стагоддзя і таямнічага шэрага кардынала. Аляксандр ледзь не начаваў на допытах. 8–12 гадзін у інквізітараў былі стабільна яго. Нягледзячы на быццё яго ў ролі палітычнай акулы, мы хутка паладзілі. Калісьці Аляксандр быў школьным настаўнікам, правадыром камсамола, журналістам, які сустракаўся з Горбі[11]. Затым — адным з верхаводаў брыгады Лукашэнкі, а цяпер стаў яго вязнем. Жыццё — гэта жыццё, як сказаў хтосьці. Аляксандр выявіўся не толькі палітыкам, але і прафесійным літаратарам і выдатным апавядальнікам. Гэтую рысу мы актыўна эксплуатавалі. Успамінаецца, як уся камера пасля адбою, прытаіўшы дыханне, слухала «Графа Монтэ-Крыста» ў пераказе. Як я даведаўся пазней, на фені гэта называлася «ціснуць раман». Было цікава назіраць за асобамі сукамернікаў, калі граф ажыццяўляў чарговы акт помсты: напэўна, кожны пракручваў ва ўяўленні сваю сітуацыю, прымяраючы на сябе ролю графа. І ў маіх крыважэрных фантазіях таксама ўсплывала некалькі персанажаў — якраз чацвёра.

Чым больш нас прасавалі, тым мацней у камеры гучаў смех, тым актыўней мы гулялі ў настольныя гульні. Найбольшай папулярнасцю карысталася старая

арыштанцкая гульня «мандавошка», якую Фядута, як генетычны інтэлігент, неадкладна перахрысціў у «таракашку». Зразумела, мы не маглі не скарыстацца сітуацыяй для падколаў на гэтую тэму.

Супрацьстаяць таму жаху дапамагала выключная камерная салідарнасць. Конскі смех і чорныя жарты служылі спосабам псіхалагічнай абароны, бо розуму мірыцца з тым, што адбываецца, было немагчыма.

У харчовым плане быў пабудаваны камунізм у асобна ўзятай камеры. Як правіла, да абеду і вячэры падсаджваліся за стол (дакладней, тумбачку, засланую газетай) усе разам. Звычайна Кірыл, а пазней і я, гатаваў салату. Наразаліся гароднiна, цыбуля, зеляніна, часнык, хлеб, сала і каўбаса. Пасля я ўсё ж такі вярнуўся на вегетарыянскую сцежку і нават сагітаваў Макса. Чай, кава, печыва, прысмакі, садавіна таксама збольшага абагульваліся. Кожны проста выконваў меру з дэфіцытным прадуктам, і праблем не ўзнікала.

І ўсё ж такі з узмацненнем здзекаў з боку карнікаў здараліся дні, калі праз страх і роспач ніхто амаль не размаўляў. Нават успыхнула пару канфліктаў, але нам своечасова ўдалося іх патушыць. Мы супраціўляліся: усё часцей размаўлялі шэптам у мёртвай зоне, схаванай ад відэакамеры. Калі нас прымушалі перасоўвацца бегма (абавязкова з рукамі за спінай і апушчанай галавой), мы ставілі наперад Фядуту. Такім чынам, ніхто не адставаў і апошняга не падганялі дубінкамі.

Карнікі спрабавалі разбурыць салідарнасць. Як быццам адмыслова праводзілі шмон або «асабісты дагляд» падчас настольнай гульні, калі ў запале азарту мы забывалі пра ўсё. Ці адных шманаюць, а іншых — не, каб выклікаць зайздрасць і падазрэнне. На арыштанцкім жаргоне гэта называецца «повестись на мусорские мармыли». Мы не вяліся, але на ўзроўні падсвядомасці ўсё роўна заставаўся асадак. На гэта і быў разлік, як аказалася пасля. У ход пускаўся і падман.

Так, пасля чарговага допыту Фядута з парога заявіў: «Мужыкі, што я такога зрабіў? Чаму вы напісалі заяву на адсяленне мяне ў іншую камеру?» Мы нават асалапелі ад гэткай нахабнай хлусні. Зрэшты, няма чаму дзівіцца: нашай камерай і раней палохалі апазіцыянераў як прэс-хатай наркаманаў і тэрарыстаў. Не варта думаць, што такі падман праходзіў на чалавечай дурасці і даверлівасці, бо майстар-клас маніпуляцый паказваў сам наваспечаны начальнік СІЗА, палкоўнік Арлоў.

**9**

Выклікі да гаспадара «амерыканкі» — асобная тэма. Ва ўсім гэтым дурдоме толькі яго кабінет уяўляў сабой лагуну супакою і міру. Звычайна ён сустракаў вельмі добразычліва, умеў цікава гаварыць і выслухоўваць. Ён не піў і не паліў. Распавядаў, што ўдзельнічаў у аперацыях у гарах, сядзеў дзесьці ў азіяцкай турме. Нават неяк не верылася, што менавіта ён катуе нас, гуляецца, як кот з мышамі, дырыжуе ўсёй гэтай трагікамедыяй. Ён не рабіў тапорных памылак, як простыя оперы. Ён мог цішком пацікавіцца меркаваннем пра сукамернікаў. Памятаю, як ён прапаноўваў паглядзець фоткі, дзе, маўляў, адлюстравана, што Лябедзька не выконваў галадоўку. Тут ён даў маху, бо гэты фокус ён праварочваў з кімсьці іншым, яшчэ раней. У тым выпадку камп'ютар «раптоўна» падвіс пры спробе адкрыць фотаздымкі. Тое ж самае адбылося і са мной, так што я не здзівіўся. Да таго ж я асабіста бачыў, як Лябедзька за некалькі дзён значна саслабеў, пачаў хістацца, нават твар ягоны збялеў.

Арлоў казаў пра сітуацыю ў турме як пра «адказ на той выклік, з якім сутыкнулася краіна». Ён параўноўваў апазіцыю з французскімі рэвалюцыянерамі, якія падводзяць акалічнасці да тэрору, і «невядома, чый тэрор будзе горшы».

Увесь час мне даводзілася быць у максімальным напружанні: сачыць за кожным словам, сачыць за ходам думкі (яго і сваёй), сачыць за дыялогам у цэлым. Гэта вельмі няпроста. Заўсёды ёсць небяспека выказаць меркаванне або нейкую дэталь, якую ён для праўдападобнасці зможа ўплесці ў размову з іншымі вязнямі, пасеяўшы тым самым сумнеў і разлад. Не гаварыць з Арловым было немагчыма. Неаднаразова я ішоў з думкай звесці размову да аднаскладовых адказаў, але раз за разам Арлову ўдавалася разгаварыць мяне. У кабінеце знаходзіўся прыгожы сервіз, пернікі, каньяк — усё, як у фільмах.

Ніякай гарбаты з карнікамі! Я так адразу і заявіў, і паўтараў кожны раз, калі начальнік прапаноўваў. Людзі чамусьці думаюць, што гэта — драбяза. Маўляў, калі мент паводзіць сябе культурна і прыстойна, то можна і гарбатку паганяць. Тым самым прызнаюцца дапушчальнымі ўсе тыя здзекі і падман, якім падвяргаюць зняволеных. Турэмшчыкі дзеляцца на два тыпы: кепскія і вельмі кепскія. Гэта — аксіёма. Любая далікатнасць з іх боку ёсць элементам павуціння, закліканага выклікаць падсвядомы давер. Арловым практыкавалася падладжванне праз далучэнне да сістэмы каштоўнасцей (згода з шэрагам вашых думак), а таксама адлюстроўванне (пераймание позы). На жаль, мае веды ў гэтай галіне вельмі сціплыя, і большая частка гэтай псіхалагічнай асады засталася для мяне нябачнай.

Я прымаў контрмеры. У якасці абароны, гледзячы на начальніка з лёгкай усмешкай, я паўтараў у думках раз за разам: «Гэта ён мяне душыць, зневажае, прыносіць боль блізкім мне людзям. Ён — вораг. Усё, што ён кажа, хлусня».

Нянавісць да ворага... Неяк адзін прыяцель распавядаў мне, што, спакушаючы дзяўчыну, трэба распранаць яе позіркам. Для надзённай сітуацыі я адаптаваў

гэты падыход наступным чынам: уяўляў, што праз увесь стол хапаю начальніка за горла адной рукой і душу, а ён хрыпіць, зыходзіць пенай, выпучвае вочы, панікуе ў беспаспяховай спробе расціснуць сталёвую хватку. Дапамагала выдатна!

Арлоў адкрыта абмяркоўваў метады катаванняў, маральны бок справы. Ён сцвярджаў, што яго мэтай з'яўляецца прымусіць нас сумнявацца. На маё пярэчанне, што мы яшчэ не асуджаныя, ён нічога не адказаў. Зрэшты, і так было відавочна, што чалавек вінаваты для іх не тады, калі суд выносіць свой вердыкт, а калі чалавек трапляе пад падазрэнне. КДБ! Яны ж не могуць памыляцца! Куды ўжо простым смяротным да іх!

З размоваў мне стала вядома, што яны практыкуюць індывідуальны падыход да кожнай камеры і да кожнага чалавека. Толькі 18 камер, каля 60 арыштантаў. Вялікіх тэхнічных сродкаў і буйнога штату супрацоўнікаў не патрабуецца. Усё дакладна планавалася: каго, калі, дзе і колькі разоў. Як праводзіць шмон, каго падвяргаць персанальнай экзекуцыі, дзе пакінуць святло на ноч, дзе забараніць паліць. Нават каго зачапіць у страі падчас прагонаў у туалет ці на шпацыр. Арлоў пры мне тэлефанаваў кудысьці і даваў інструкцыі, каб Малчанава два дні не чапалі. Ну і, вядома ж, камерыператусоўвалі, каб ускладніць ці палегчыць жыццё.

— Свет — гэта зграі ваўкоў. І больш моцная зграя заўсёды спрабуе ўрваць у меншага суседа. Я атаясамліваю сябе са сваёй зграяй, і яе дабрабыт ёсць дабрабыт маёй сям'і, блізкіх, супляменнікаў, — разважаў Арлоў пра свой светапогляд.

На гэтыя патрыятычныя довады мне было што сказаць.

— Класіка фашызму. Пачытайце Мусаліні, вам спадабаецца, — каментаваў я. — Так, карціна цывілізацыі такая, як ёсць сёння, не паспрачаешся. І з ваўкамі ўсё ясна. Толькі што ў вашым свеце рабіць простым антылопам, якія цягнуць гэтых ваўкоў на сваім карку?

Падобна на тое, што антылопам заставалася толькі крычаць і сядзець, выконваць харчразвёрстку, здаваць скуру на ваенныя рамяні і ранцы. Ну а пакуль антылопаў у залежнасці ад паводзінаў вадзілі да начальніка альбо культурна, без кайданкоў, альбо «ластаўкай». «Ластаўкай» — гэта калі кайданкі захлопваюць за спінай і выкручваюць рукі ўверх настолькі, што пры жаданні можна пацалаваць уласныя чаравікі. І так па калідорах, па прыступках, зноў-такі нібы я пэзэшнік. Аднойчы забыліся інструкцыю наконт мяне, заспрачаліся. Тэлефанавалі начальніку, удакладнялі, як менавіта весці. «Я вам учыню Гуантанама тут», — пагражаў Арлоў. Так «амерыканка» стала «гуантанамкай».

**10**

У канцы студзеня забралі Фядуту. У камеры стала зусім паныла. Я бавіў час за энцыклапедыяй па псіхалогіі, якую мне такі купілі праз некалькі тыдняў пастаянных заяваў. Па вечарах вучыўся маляваць паводле дасланага бацькамі дапаможніка. Ці адціскаўся ад падлогі або на нарах, як на брусах.

Часам раздавалася жахлівае рыканне масак, якія, як звычайна, здзекаваліся з кагосьці. Гэта даводзіла да адкрытай панікі. І толькі фіза дазваляла хоць неяк даць рады сабе.

Цішком абмяркоўвалі сцэнары вострых эпізодаў для фільма «Піла 8: ніхто не забыты». Зразумела, з вертухамі ў галоўнай ролі. Нянавісць пераlівалася праз край, і ўяўленне бурліла яркімі крывавымі фарбамі. Смех усё часцей насіў гістэрычны характар. Спецыфічны турэмны гумар, створаны пераломнай жыццёвай сітуацыяй і замкнёнай прасторай, узведзены ў ступень бесчалавечнага абыходжання, падмяніў нармальныя чалавечыя жарты.

«Вядома ж, было немагчыма даведацца, ці ў гэты мо-

мант за табою сочаць. Як часта і паводле якога графіка Паліцыя Думак уключалася ў чыйсці індывідуальны канал — можна было толькі здагадвацца. Магчыма нават, яна сачыла за ўсімі бесперапынна. Але, у кожным разе, яна магла ўключацца ў ваш канал, калі толькі хацела. Аднак трэба было неяк жыць, і неяк жылі, і звычка рабілася інстынктам, калі ты ведаў, што кожнае тваё слова будзе пачутае, кожны твой рух, калі толькі не ў цемры, будзе заўважаны»[12].

Гэтыя словы з рамана Джорджа Оруэла «1984» лепш за ўсё адлюстроўваюць той псіхалагічны стан, у якім знаходзіўся кожны з нас. Толькі святло ў нас ніколі не згасала. Было дзённае святло — 100 Вт лямпачка, было начное, настолькі яркае, што можна было чытаць. Здаралася, што па некалькі дзён запар спалі пад святлом адразу дзвюх лямпаў. Кантралёр толькі бездапаможна адказваў: «У мяне загад». Кожны тыдзень станавілася ўсё горш. Метадычна, крок за крокам. Мы чакалі нейкай развязкі, таму што так далей было нельга. Адчувалася мяжа.

Тады ўзнікалі моманты «другой хвалі». Адна справа — адчуваць страту, бяссілле перашкодзіць чаму-небудзь. Але пакуль ёсць гэта «нешта», самаасэнсоўваеш сябе, сваё становішча, хто ты. А тут пачынае здавацца, што нічога няма і нічога не будзе. Аднастайнасць забівае настолькі, што ўжо і не ўяўляеш іншага раскладу. Каменны мех у пустэчы з немудрагелістым наборам знешніх раздражняльнікаў, заўсёды адных і тых жа. Адчуванне ліхалецця, без пачатку і канца. Ляжыш на нарах і не можаш устаць, таму што незразумела, што важней і актуальней: метэарыт у космасе ці гарбаты папіць, пакуль кіпяцільнік ёсць. Шызафрэнічны распад свядомасці. І тады стараешся, як ненармальны, гатаваць салату, наразаць усё, што ёсць, уперамешку, адціскацца, праз сілу сядаць за шахматы. Займаешся бытавымі рэ-

чамі кожны дзень, як рытуал, — гэта становіцца тваім панцырам супраць вар'яцтва. Але часцяком наведваў і іншы госць — страх. Тады заставалася толькі своеасаблівая саматэрапія.

Бывала, згортваешся абаранкам на нарах, захінаешся, каб нічога не бачыць і не чуць, і ўпотай глядзіш на фотаздымак, дасланы невядомай мне Кацярынай з Піцера. На ім — суцэльнае чорнае воблака, у якім ледзь-ледзь адгадваюцца абрысы фігуры з каменя, сціснутай у кулак. Здаецца, зусім ужо завалакло гэты камень, але ўсё роўна стаіць непарушна, як маяк у тумане. Колькі людзей прайшло праз турмы і лагеры, ганенні і катаванні. Шмат разоў я чытаў пра іх і ведаю, што гэтым людзям даводзілася па-сапраўднаму цяжка. Колькі іх згінула ў абсалютнай галечы і невядомасці. І ўсё роўна ішлі, усё роўна не змірыліся. Гэтая барацьба — супрацьстаянне свабоды і рабства — чырвонай лініяй праходзіць праз усю гісторыю чалавецтва.

Мяняліся эпохі, цывілізацыі, назвы, але сутнасць заставалася той самай: антаганізм памкненняў простага чалавека і памкненняў гаспадароў (роду, веры, грошай, становішча). Чалавек vs Улада, ва ўсе часы. Я — толькі маленькая часціца ў гэтай стыхіі пачуццяў, думак, дзеянняў. Як кропля ў акіяне: без мяне ён меншым не стане, але сам цалкам складаецца з такіх вось кропелек, і кожны ўносіць сваю лепту ў агульны рытм акіянічнага біцця. Няхай карнікі робяць са мной, што захочуць, я ўсё роўна перамог...

**11**

У пачатку лютага маскі азвярэлі дарэшты. Была пятніца, трое ў камеры захварэлі на грып. Усю ноч трэсла: тэмпература, дрыжыкі. Назаўтра схадзілі да лекара, ён выпісаў таблеткі. Увечары тузанулі мяне і Малчанава з усімі шмоткамі. Навучаныя горкім вопытам, мы вы-

клалі кнігі і іншыя цяжкія рэчы. Як звычайна, спусцілі ў спартзал, але чамусьці крокам і без рыкання. Падазрона ціха. Нічога добрага гэта не прадказвала. Кешар і пакеты выварочваюць, звальваюць змесціва ў адну кучу. Чаканне басанож на бетоннай падлозе голым. Пачалося.

«Сабраць рэчы!», «Жыва!», «Што незразумелага?!!», «Жывей!», «Я сказаў!!!», «БЯГОООООМ!!!!»

Па лесвіцах, калідорах. Заганяюць у дурхату[13] ў склепе. Зноў шмон. Ставяць на расцяжку і сыходзяць, але перыядычна падыходзяць да вочка праверыць. Збор шмотак, ледзь паспяваеш апрануцца, матрац пад паху і бягом па калідоры на лесвіцу, якая вядзе ў цэнтр гэтага неакалізея. На фінішы стаіць карнік і гарлапаніць: «Занадта павольна, назад!» Другі падганяе. Чую, як на іншай лесвіцы ганяюць Саню Малчанава. Свалата. Вяртаюся назад у дурхату. Дзіка горача, пот ільецца літаральна ручаём, у галаве туман. Гэта — мяжа. Калі пераступіць, то што будзе далей??? Усё, пляваць.

Карнік гарлапаніць:

— Дубль два! БЯГОООМ МАРШ!!!

— Не.

— Я сказаў. Узяў рэчы і бягом, жывей!!!

— Я адмаўляюся.

— РЭЧЫ Ў РУКІ І БЯГОМ!

— Рабі што хочаш. Больш не пабягу.

Некаторы час ён глядзеў на мяне, затым ідзе па другога, нешта шэптам абмяркоўваюць. Затым другі карнік падыходзіць і, як ні ў чым не бывала, самым ветлівым і міралюбным тонам кажа: «Збірайце вашы рэчы і праходзьце ў камеру». Я аж асалапеў, не верачы сваім вушам. Настолькі гэты тон супярэчыў сітуацыі. Аказваецца, яны ўмеюць гаварыць па-чалавечы. Усё...

...Не сцелючы матраца, падаеш проста на жалезныя пруты. Сілаў няма ні на што. У галаве ўсё хадуном. Саня завальваецца следам. Ледзь жывы, бледны як смерць.

Яму дрэнна, ванітуе. У камеры магільнае маўчанне. Кірыл з Максам яшчэ так не траплялі. Усім страшна. Ды якое страшна?! Жах пракраўся ў кожны атам цела і розуму настолькі, што ўсе сядзелі моўчкі, баючыся сказаць хоць слова...

Я ліхаманкава цямлю, што рабіць. Сітуацыя падышла да рысы, пераступіўшы якую паважаць сябе ўжо нельга. Яшчэ адзін крок — і тады што заўгодна стане магчымым. Прыходзіць яснае разуменне, што такога і блізка дапускаць нельга. Катэгарычна. Трэба ісці ў адмову ў самым пачатку, не збіраць рэчы. Калі гэта будзе не чарговы прагон, а перасяленне ў іншую камеру, прыйдзе дзяжурны. А так яго ніколі няма. Спецыяльна адсутнічае, каб не быць сведкам. Хітра прыдумалі, сволачы.

Няхай б'юць, няхай закрываюць у дурхату — ускрыю вены на руках, і кропка! Гэтая думка азарыла мяне быццам інсайт. У спакойных абставінах гэтая думка здаецца вар'яцкай, але тады яна выглядала такой мэтазгоднай, што я ажно здзівіўся, як раней не дадумаўся. Бо з ускрытымі венамі немагчыма не тое што трымаць матрац з кешарам, а нават стаяць на расцяжцы. Што можа быць прасцей?

Назаўтра дзяжурны спытаў: «Ну, хто яшчэ хворы?»

А праз некалькі дзён здарыўся самы жорсткі прэс за ўсю гэтую чорную зіму. Роў стаяў такі, што гук выразна даносіўся са спартзалы, г. зн. праз двое дзвярэй і цэнтральны хол. Мы не маглі ні чытаць, ні пісаць, ні гуляць, ні проста ляжаць. Хтосьці хадзіў наперад-назад, хтосьці адціскаўся. Некалькі гадзін у чаканні, увесь час адчыняюцца суседнія камеры, але чамусьці праходзяць міма нас. Звонку даносіцца крык: «Легчы! Устаць! Легчы! Устаць!..» Гэта — жах. Ніхто не глядзіць адзін аднаму ў вочы, і толькі губы выдаюць: «Сукі, пачвары, свалота...»

У мяне на руках нядаўна купленая энцыклапедыя па біялогіі. У раздзеле «Анатомія» знаходжу размяшчэнне артэрый і вен. Ціхенька, каб ніхто не чуў, шэпчамся з Максам, з чаго б змастырыць рэзку. Быў чацвер, наступная выдача прылад для галення будзе ў панядзелак, там ёсць аднаразовыя пластыкавыя станкі. Расплавіць дзяржальню запальнічкай, вынуць лязо, заціснуць паміж пальцамі на вышыню 2 мм — і рэж! Патрэбна ўсяго толькі пара хвілін. Прастата рашэння акрыляла, дарыла адчуванне вызвалення, і я не мог зразумець, як гэта мы раней не здагадаліся!..

Вячэра. Значыць, нашу камеру пранесла. Але ці надоўга? Цуд не здараецца двойчы, у наступны раз абавязкова зачэпяць. Галоўнае — дачакацца панядзелка, а там…

У суботу з самай раніцы мяне адвялі да начальніка. Арлоў, апрануты ў цывільнае, сустрэў мяне ветліва. Адразу ж спытаў мяне:

— Што вас трывожыць?

Затым ён прама сказаў нешта наконт майго стану і што яму даручана развеяць «непаразуменне».

— Бо гэта ўсё не больш чым тэатральная пастаноўка, — казаў ён даверліва-добразычлівым тонам. — Мы пільна сочым за станам кожнага, і запэўніваю вас, нічога нікому на самай справе не пагражае.

І дадаў:

— Галоўны вораг — уласны страх. Не трэба рабіць паспешлівых дзеянняў, і любую праблему можна вырашыць вось тут.

Я быў у шоку. Якім чынам гэта стала вядома? Няўжо ўсе гэтыя размовы пра псіхалагічны кантроль — не пусты разгон?

Пытаюся ў лоб:

— Як вы даведаліся?

«Па вачах», — сур’ёзным тонам адказаў грамадзянін начальнік СІЗА КДБ.

## 12

Дзясятыя чыслы лютага адзначыліся пачаткам «пацяплення клімату». Штосьці, відаць, адбылося на волі, узровень прэсу значна панізіўся. Забегі з г. зв. «асабістым даглядам» спыніліся. Шмон стаў мякчэйшым, радзейшым. (Як я даведаўся пазней, для многіх іншых здзекі працягнуліся ў прыватным парадку.)

23 лютага Кірыл упаў з лесвіцы. Па замацаванай маскамі звычцы ён спускаўся ўніз бегма з рукамі за спінай, не трымаючыся за парэнчы. Я ўпершыню бачыў гематому на палову спіны. У Кірыла быў болевы шок. Яго трэсла так, што ён не мог ні нармальна размаўляць, ні нават паліць. Кантралёры літаральна ўнеслі яго ў камеру, і той ці не са слязьмі дзякаваў ім. Тады я ўпершыню ўбачыў, як самы моцны аказваецца зусім не самым стойкім. У выніку павезлі ў шпіталь рабіць укол. Мяркуючы па абрыўках размоваў паміж кантралёрамі, былі і іншыя падобныя выпадкі. Так ці інакш, на наступны дзень карнікі крычалі на нас за тое, што... мы перасоўваліся бегма і не трымаліся за парэнчы!!!

З кожным днём мы ўсё радзей і радзей бачылі масак, і нарэшце да пачатку сакавіка іх не стала зусім. З плячэй быццам камень зваліўся. Стала лягчэй дыхаць. Больш мы не хадзілі па дворыку па коле, хоць неаднаразова чулі, як гэта прымушалі рабіць суседзяў. Дыферэнцыраваны падыход захаваўся, але стаў вытанчаным.

Цікава назіраць, як ва ўмовах росту ўладных паўнамоцтваў змяняюцца шараговыя выканаўцы. З ветлівых і лагодных некаторыя станавіліся адкрытымі быдлам. Як, напрыклад, парачка, якая запомнілася ўсім: Вася і Жаба. Апошні аднойчы вычапіў да масак толькі таму, што я не падняўся пры адкрыцці дзвярэй. Паставілі на расцяжку, абступілі гуртом. Жаба ўрэзаў па назе так, што ледзь выстаяў. Было бачна, што гэтыя двое хочуць давесці маскам, што яны таксама

«крутыя пацаны». Лаш'ё маркотнае, ужо праз месяц хадзілі па струнцы.

Былі і тыя, хто не ступіў на сцежку аскаціньвання, заставаўся чалавекам. Але ўсё роўна трэба разумець, што шасцёрка ёсць шасцёрка. Гэтыя, самыя прыстойныя, усё роўна павінны выконваць загады. Няхай яны самі і не праводзілі экзекуцый, але пры гэтым вялі нас да тых, хто праводзіў. Праблема не ў людзях, праблема ў сістэме, што дазваляе ўчыняць бязмежжа.

Саню і Кірыла асудзілі. Малчанаў адхапіў траяк, а Кірыл альбо «дамашку»[14], альбо ўмоўна: у камеру ён ужо не вярнуўся. У кармушку зазірнуў кантралёр і загадаў сабраць яго рэчы. Нас гэта нават трохі працверазіла: аказваецца, у гэтай падводнай лодцы ёсць выхад. Што характэрна, ні той, ні другі так і не атрымалі магчымасці сустрэцца з адвакатам.

(Аляксандр Малчанаў быў памілаваны разам з іншымі шараговымі «дзекабрыстамі» ў верасні 2011 года. Праз пару месяцаў ён быў зноў арыштаваны ў Барысаве за незаконны збор металалому і асуджаны на паўтара года лагера строгага рэжыму. У 2015 годзе ўступіў ва Украіне ў дабравольніцкі батальён на баку цэнтральнай улады.)

Прыкладна тады ж мы даведаліся, што Міхалевіч — адзін з арыштаваных кандыдатаў у прэзідэнты, — выйшаўшы на падпіску аб нявыездзе, заявіў пра катаванні ў «амерыканцы» і даў драпака ў Чэхію. Са здзіўленнем прачыталі (нам сталі прыносіць «Белгазету»!), што гэты ход выклікаў некаторую крытыку ў яго адрас. Напэўна, хтосьці не разумее, што жыццё палітуцекача — не цукар. Чужая краіна, чужыя людзі, і надзея вярнуцца толькі адна: змена рэжыму. Кожны дзень мы згіналіся ў гэтым пекле, і невядома, да чаго б дайшло, калі б не гэты самаадданы ўчынак. За гэта дзякуй ад многіх вязняў чырвонага дома тых часоў!

Была прызначаная пракурорская праверка, праўда, ліпавая.

Аднак на той момант мяне больш хвалявалі іншыя навіны, якія прасачыліся, нягледзячы на амаль поўную ізаляцыю. Усе гэтыя месяцы мяне мучылі думкі пра маіх сяброў. Ці змог схавацца Дзіма, як трымаюцца Саша і Коля (з Малчанавым я паслаў ім на Валадарку[15] вуснае паведамленне) і што будзе рабіць Дзяніс. Калі ўсе іншыя, хто даў паказанні, былі для мяне людзьмі пасрэднымі, то з гэтым чалавекам сітуацыя была прынцыпова іншай. Даўным-даўно мы пазнаёміліся на панк-сэйшне і адразу ж трапілі ў буйную калатнечу з фашыстамі: за зрыў канцэрту Toro Bravo мы адказалі проста на Кастрычніцкай плошчы Мінска сілай у 150 чалавек. У тыя гады (канец 1990-х — пачатак 2000-х) нараджалася некамерцыйная музычная сцэна — D.I.Y.[16], і яна мела патрэбу ў абароне, бо ультраправыя не цярпелі людзей, якія адкрыта прамаўлялі «Расізм — дзярмо» і «Смерць фашызму!». Кожны дзень на вуліцах ішла нябачная вайна, пастаянна адбываліся нейкія падзеі: канцэрты, тусоўкі, сходы, сутычкі, буйныя сутыкненні, палітычныя акцыі. Гэта быў свет, якім мы жылі, за які мы змагаліся, які ўзбагаціў і сфармаваў нашыя асобы і загартаваў наш характар, бескампраміснасць і волю да перамогі. Так што за тыя гады нам выпала шмат што перажыць і прайсці разам. І хоць два-тры гады таму я адышоў ад субкультуры, а Дзяніс, наадварот, сканцэнтраваўся на каляфутболе, але адзін аднаго з-пад увагі мы не гублялі і ў патрэбны момант дапамагалі адзін аднаму. Асабліва ў апошні год, калі ў мяне здарыліся жорсткія страты ў асабістым жыцці і свет стаў зусім шэры, а характар — чэрствы. Тады менавіта зносіны з Дзянісам дапамаглі пераадолець гэтую чорную паласу.

Па жыцці нямногіх сяброў можна назваць сябрамі. Але калі трапляеш у турму, то разумееш, што іх яшчэ

менш, чым меркаваў. Да таго моманту стала зразумела, што яго паказанні ніякай ролі не сыграюць, для судзілішча цалкам дастаткова слоў Веткіна. Але ж справа не ў словах, не ў прысудзе, а ў прынцыпе, што мацнейшае: страх ці сяброўства? Які б ні быў тэрмін, ён пройдзе, а верны сябар застанецца назаўсёды. Мяне грызлі сумневы, але я верыў. І таму, калі даляцела вестка (Максу пра гэта сказала адвакат), што Дзеня ў Інтэрнэце выклаў ролік з адмовай ад паказанняў і зваліў за бугор, я дні тры хадзіў у эйфарыі. Не ўсё ж гэтым гадам піць нашу кроў! Хай ціснуць і кашмараць колькі хочуць, але ёсць рэчы, якія ім не па зубах. Надыдзе той дзень, калі гэтыя чалавечыя каштоўнасці зламаюць хрыбет гэтай пагарджанай уладзе.

(З Дзянісам мы папярэдне дамовіліся, што калі яго паказанні ўжо не будуць мець значэння, то трапляць за краты на роўным месцы яму сэнсу няма. Калі яго затрымалі ў першы раз і кінулі на некалькі дзён у адзіночку, ён нічога не сказаў. А пасля паказанняў Веткіна яго затрымалі другі раз, тады Дзяніс даў патрэбныя ім паказанні паводле нашага ўгавору і тым самым застаўся на волі. На гэтым яго ліхія прыгоды не скончыліся. Мянты сталі вымушаць яго выйсці са мной на сувязь праз нашу прыяцельку Ганю, з якой, па іх звестках, я падтрымліваў адносіны. Мэтай было прызначыць мне сустрэчу ў Маскве і паведаміць яе дэталі мянтам. Але Дзяніс адразу папярэдзіў яе і ў далейшым сабатаваў іх спробы, спасылаючыся на тое, што ад мяне быццам бы няма адказаў. Затым мянты сталі патрабаваць ад яго прыняць удзел у фільме, які выкрывае анархістаў. Тады Дзяніс сабраў рэчы і праз латвійскую мяжу пакінуў краіну, прадбачліва зрабіўшы крук праз Расію. Польшча прадаставіла яму палітычны прытулак, дзе ён паступіў ва ўніверсітэт.)

У лістах маці былі нейкія намёкі на салідарнасць:

хлопцы тэлефанавалі, прыходзілі дадому. Гэта дадало мне новых сілаў. Але лістоў так і не было.

Следчы, які не з'яўляўся з мінулага года, раптам наляцеў з адвакатам і экспертызамі па справе. Адвакат сказаў, што яго не пускалі «за адсутнасцю тэхнічнай магчымасці», як і многіх іншых. Цікава, а каго тады наогул пускалі?

На гэтай сустрэчы я даведаўся, што Дзіму так і не ўзялі, чаму я шалёна ўзрадаваўся, не саромеючыся следчых.

У экспертызах супраць мяне не было наогул нічога! Ні тэлефонных перамоваў, ні перапіскі, ні якіх-небудзь слядоў на камп'ютары, ні доказаў зператрусаў на кватэрах і ў машыне, ні супадзенняў ад мабільнага апаратара. Жыццёвы тонус павысіўся. Засталося толькі чакаць азнаямлення са справай, а там ужо суд ды лагер не за гарамі. Але гэтае «толькі» цягнулася вечнасць.

**13**

У першых днях сакавіка да нас, на змену тым, каго забралі, закінулі яшчэ дваіх. Марцалеў Сяргей аказаўся паліттэхнолагам кандыдата Статкевіча[17]. Выраз яго твару, калі ён увайшоў у камеру, быў такі, што мы з Максам трохі асалапелі. Але выявілася, што Сяргей «у дошку наш пацан». У адной з камер Марцалеў набыў мянушку «студэнт» за тое, што меў тры вышэйшыя адукацыі.

Аляксандр Кісялёў быў буйным расійскім бізнесменам і па сумяшчальніцтве мясцовай славутасцю «амерыканкі» па мянушцы Алігарх. Ён займаўся інвестыцыямі дзеля павелічэння капіталізацыі кампаній з наступным перапродажам. Паводле ацэнак рынкавага капіталізму Аляксандр — малайчына, паводле ацэнак бюракратычнага капіталізму — таксама малайчына. Але паводле ацэнак КДБ — злачынец. Яго злачынства складалася ў адмове ўнесці ўзнос у памеры паўмільёна даляраў у

«хакейны клуб»[18] (цяпер гэта так называецца). Ну і як вынік, змяніў лонданскую прапіску (а там у яго была кватэра) на VIP-апартаменты проста ў цэнтры Мінска. Аліграх стаў славуты тым, што прапанаваў камітэтчыкам у якасці адкупнога свой самалёт busines jet класа (прыкладна $22 млн.), але з іх боку кошт пытання вырас да $30 млн. Тады Алігарх засмуціўся, моцна засмуціўся і зрабіў ход канём: адмовіўся плаціць наогул.

Па іроніі лёсу следчы, які ўзбуджаў справу на яго, заехаў у «амерыканку» следам, прычым... у тую самую камеру, дзе знаходзіўся Кісялёў! Свет цесны да вар'яцтва! Ён і расказаў Сашу ўсё, як было. Як аднойчы да гэтага следака прыйшлі двое камітэтчыкаў з просьбай узбудзіць справу, дзе толкам і складу злачынства не было. Слядак пачаў пярэчыць, што ў пракуратуры дакладна не пройдзе, аднак камітэтчыкі сказалі, што возьмуць пракуратуру на сябе.

Кісялёў выявіў сябе высокаарганізаваным чалавекам, да ўсяго меў канструктыўны падыход. Пры гэтым быў цвёрды, дабрадушны і пазітыўны. Вярхоўны турэмшчык Арлоў яго ненавідзеў. Шэраг кантралёраў таксама (напрыклад, Вася, калі стаяў на раздачы баланды, не даваў Алігарху хлеба!). Яго пастаянна перакідвалі з камеры ў камеру (ён пабываў у 14 з 18), яго ўвесь час вазілі прасаваць на Валадарку. Але Саша сышоў у жорсткую адмову і з гэтай нагоды казаў: «Хай мяне тут лепш згнояць, але я не саступлю, таму што павінна быць мяжа ва ўсім, а ў гэбістаў яе няма». Кожны дзень фіза. Кожны дзень вывучэнне нямецкай, кожны дзень непахіснасць — адным словам, сталёвы чалавек.

Увесь тыдзень мы бесперастанку абмяркоўвалі тэмы сусветнага капіталізму і фінансавага крызісу, перспектыў беларускай эканомікі, працоўнага кантролю і працоўнага самакіравання, бандыцкага паходжання расійскай палітыкі і, вядома ж, бязмежжа беларускага

рэжыму. Сталі вядомыя падрабязнасці «вечнай зімы» ў іншых камерах. Гаворка ішла пра камеру № 13, «залётную».

Арлоў неяк мімаходзь згадаў трынаццатую, маўляў, «там людзі, незадаволеныя жыццём». Аказалася, што ў тыя дні да гэтай камеры было два падыходы: шмон праз дзень і шмон кожны дзень. Там шмоткі высыпалі з кешараў проста на падлогу і таптали нагамі. Маскі маглі зайсці і разбіць дубінкамі кантэйнеры з гарбатай. Там бывалі выпадкі збіцця толькі за тое, што чалавек перадаў скаргу ў пракуратуру проста ў зале пасяджэння суда (студзень 2011 года), а другога, схапіўшы за каўнер, закідвалі на падворак, але «прамазаўшы», патрапілі ў сценку... «Асабісты дагляд» — ставілі на расцяжку абсалютна голымі, а кантралёр задаваў вязням ужо зусім пахабныя пытанні. Казалі, што сам Арлоў прходзіў палюбавацца на гэтыя відовішчы цішком.

Арыштанты 13-й камеры не заставаліся ў даўгу, адпускалі ў адрас Арлова едкія жарцікі, напрыклад празвалі Грэнадзёрам (пры росце метр з кепкай) ці намякалі, што, пры яго ўзросце і пасадзе, ён — кадравы труп, не бачыць яму генеральскіх пагонаў. Арлова гэта дзіка абражала. Пасля такіх уколаў адзін жартаўнік патрапіў у карцар на некалькі дзён, прычым яму дазвалялася толькі хадзіць або стаяць, прысесці забаранялася. Пасля такога карцара чалавек ледзь на нагах стаяў.

Дзён праз дзесяць Кісялёва перавялі. Для мяне ён быў яркім прыкладам непрымірымасці і стойкасці.

(Пазней ціск на Аляксандра Кісялёва ўзмацніўся. Яго збівалі ў дворыку для прагулак, да яго прыязджалі з ужо завераным чыноўнікамі Міністэрства юстыцыі бланкам, каб ён перапісаў уласнасць. У красавіку 2011 года яго вывезлі на Валадарку, дзе ён прайшоў праз прэс-хату Сашы па мянушцы Баксёр. Але яго так і не зламалі. Аляксандр быў асуджаны на 4 гады. Яго

брат — на 2,5 года. Пазней лёс звёў на сяшчэ раз, і мы змаглі ўзнавіць многае з таго, што адбылося.)

Дарэчы, аб пракурорскай праверцы ў сувязі з катаваннямі. Сам намеснік пракурора Швед з тусоўкай «белых каўнерыкаў» зрабіў ласку нас наведаць. Начальнік Арлоў на некалькі секунд увайшоў у камеру і абвёў усіх вельмі строгім позіркам, затым рэзка выйшаў. Зайшлі пракурорскія. Швед пару раз спытаў, ці ўсё нармальна. Насупраць дзвярэй, выбудаваўшыся ў лінію, стаялі вертухаі з такімі тварамі, быццам бы прыйшлі на бандыцкую разборку. Натуральна, усе маўчалі. Ніхто не верыў гэтым пракурорам. Мы яшчэ ў канцы снежня бачылі, чаго вартая тая пракуратура. Тады Анатоля Лябедзьку выклікалі да лекара (другі раз за дзень) якраз у тыя паўгадзіны, калі пракурор хадзіў па камерах з чарговай штомесячнай праверкай. Зразумела, што Лябедзька шмат бы чаго сказаў. Хаця што толку? Гэты пракурор нават не пацікавіўся, дзе яшчэ адзін арыштант. І тут было тое ж кіно. Гэтую тэму выдатна ілюструе вядомая карцінка з малпай, якая закрывае сабе рот, вушы і вочы.

Да нас дадалі маладога хлопца Дзяніса. Абвінавачвалі ў распаўсюджванні амфетаміну. Здольны аўтаслесар, збіраў аўтамабілі з канструктара. Упершыню мне давялося пабачыць паводзіны свежага арыштанта збоку. Балюча было бачыць, як дзень за днём да чалавека даходзіла — крок за крокам, што, па ўсёй верагоднасці, у ранейшым жыцці засталося ўсё: справа, нявеста, маці-інвалід. Цяжкае відовішча...

Лістоў не было ўвесь сакавік. Ніякіх вестачак ад родных. Абарвалі адзіную нітачку, якая злучае мяне з навакольным светам. Відаць, мае гутаркі не спадабаліся камусьці зусім. Хоць зразумець іх логіку цяжка, так што я і не спрабаваў. Час бавілі таксама за чытаннем, маляваннем і размовамі. З Максам часцяком успаміналі старыя добрыя дзянькі з антыфа-дзеянняў, каляфут-

больных манеўраў і панк-канцэртаў. Ці крэатывілі на тэму кафэ-клуба ў стылі кіберпанк. А вось з Сержыкам можна было паспрачацца на тэмы гісторыі, напрыклад патрыятызму часоў сусветных войнаў. Або што рабіць прыстойнаму чалавеку ў выпадку акупацыі NATO. Марцалеў разумна і цікава расказваў пра асобныя аспекты палітычных тэхналогій і рэкламы.

Яшчэ раней Фядута распавядаў у агульных рысах пра працу выбарчага штаба. Сур'ёзная справа. Машына! Даведаўся, што падчас кампаніі кандыдат з'яўляецца цалкам несамастойнай фігурай: ён павінен з усёй дакладнасцю выконваць дырэктывы свайго штаба. Што апранаць, як сказаць, з кім сустрэцца — стратэгія штаба. Так што сапраўднымі геніямі выбараў з'яўляюцца не самі кандыдаты, а начальнікі штабоў. Слухаючы гэтыя апавяданні, я разумеў дзве рэчы: як моцна мы, анархісты, саступаем на інфармацыйнай ніве і наколькі ў рэальным жыцці ілюзорная «дэмакратыя» ў «дэмакратаў». Народ для іх — усяго толькі электаральная маса і запасны козыр. Яго настроямі маніпулююць, выкарыстоўваюць у меркантыльных мэтах (так бальшавікі ў свой час апявалі пралетарыят). У імя народа гаворацца пафасныя прамовы, але ў рэчаіснасці існуе толькі дэмакратыя буржуазіі і яе палітычнага апарату. Каб не дапусціць народ да рычагоў кіравання, першыя буржуазныя рэспублікі ўводзілі маёмасны цэнз, так што фільтр праходзілі толькі заможныя грамадзяне. Толькі калі буржуазія пераканалася, што ўсеагульнае выбарчае права не пагражае дамінаванню буржуазных партый, маёмасны цэнз быў адменены. Народ для палітыка — тое самае, што мора для марака: сродак перамяшчэння, крыніца даходаў і цэлы калодзеж фальклору. Але таксама і вечны сімвал стыхіі, якая змятае ўсё на сваім шляху.

І ўсё ж, нягледзячы на адсутнасць знешняга фінансавання і няведанне сацыялагічных заканамернасцяў і

тэхналогій, у анархізму ёсць дзве ключавыя перавагі: невычэрпны энтузіязм і чыстая праўда. А тэхнічныя магчымасці і здольнасці — справа нажыўная.

**14**

У канцы сакавіка нарэшце пачалося азнаямленне са справай. Пакуль следчы гуляў у ноўтбуку ў стралялку, я высветліў, што нам дадалі арт. 218 «Пашкоджанне маёмасці». У Сані і Колі старт быў з 3 гадоў ажно да 10, у мяне — з 7 да 12. Аказваецца, бываюць вось такія нерэальныя тэрміны на роўным месцы. Раней я думаў, што столькі даюць за дыверсіі, тэрарызм, забойства і г. д. У першую чаргу я шукаў паказанні хлопцаў, каб больш не мучыцца пытаннем, ці вытрымалі яны. Усё аказалася ў парадку. Не прагнуліся. Таксама было цікава, што сказалі ўсякія сведкі і на чым увогуле будавалася справа. Адбіткі, збіты шаблон дэтэктываў — ужо мінулае стагоддзе. Пах (потавыя выдзяленні), клеткі скуры, сліна і нават паветра ў закрытых памяшканнях — вось па-сапраўднаму істотныя ідэнтыфікатары асобы. Каля амбасады знайшлі пальчаткі з потам (узор ДНК) Веткіна і слядамі вадкасці, магчыма той жа, што была знойдзеная і на аскепках бутэлек. Яшчэ быў яго званок з бліжэйшага прыпынку транспарту. У прынцыпе, гэта само па сабе яшчэ нічога не даказвае, але ён вырашыў інакш. Трымаўся дзён пяць, пасля здаўся. Спачатку паказаў саўдзельнікамі мяне і незнаёмую асобу, затым прыплёў Дзіму Дубоўскага, пасля змяніў Дзіму на Дзяніса. Вось так мяняюць таварышаў на ласку карнікаў і надзею на ілюзію волі. Сука ёсць сука, гарэць яму ў пекле.

Слядак гнаў на Сашу: маўляў, той духам упаў; казаў мне яшчэ нешта наконт тэрмінаў: накшталт, дадуць няшмат, але што не ён іх вызначае, і г. д. Толькі такія адмазкі грамадзяніна лягавага не пракацяць: ён такі ж саўдзельнік гэтага судова-следчага бязмежжа. Слядак

нешта яшчэ спрабаваў уціраць пра адказнасць, але яму было не зразумець адно: я ўжо даўно забіў і на «суд», і на тэрмін. Я толькі хацеў пабачыць сваіх таварышаў і хутчэй з'ехаць з гэтага дурдома ў лагер.

Лагер… Як жа мы яго чакалі, каб нарэшце пазбавіцца ад гэтых сцэнаў, перагарнуць старонку! Ён стаў сінонімам вызвалення. З ім звязваліся новыя надзеі. Па наіўнасці сваёй мы яшчэ не разумелі, што гэта значыць…

Прыйшла газета, у якой быў артыкул пра вызваленне Фядуты: выпусцілі на падпіску пра нявыезд. Але нармальна парадавацца мы не змаглі. Бянтэжыла адна дэталь. Аказалася, што з нашай камеры яго перакінулі ў другую, транзітку, у якой ён прабыў адзін... 55 дзён! Наўрад ці хто-небудзь звярнуў увагу на гэтую акалічнасць, але мы зразумелі ўсё без слоў. Горш за ўсе пакуты — гэта быць адным і кожны дзень чуць, як катуюць іншых. На трэці дзень адзіноты хочацца лезці на сценку, на пяты — з'язджае дах. Я прабыў у адзіночцы два тыдні (максімальны тэрмін пакарання ў карцары), і я быў шчаслівы, калі перавялі да людзей. Але амаль два месяцы... — гэта жах. Тым больш кожны дзень чуць, як катуюць іншых людзей. Доўга мы абмяркоўвалі, як нашаму літаратару даліся гэтыя дні, і ніхто не жартаваў, не пасміхаўся, не выказваўся легкадумна. Прыйшлі да высновы: кожнаму вязню «амерыканкі» ў большай ці меншай ступені прыйшлося хапіць пакутаў і пацярпець, але самая жорсткая доля сярод усіх выпала Фядуту. Мала таго, што трэба было не зламацца. Не звар'яцець — вось што было на парадку дня.

***

Красавік. Справа пайшла ў пракуратуру. Марцалеў чакаў суда, Макс — пройдзе ці будзе завернутая другая справа, Дзяніс нічога не чакаў, у яго ўсё толькі пачыналася. Увечары 11-га чысла з праспекта даносіўся нязвы-

клы шум, як быццам усе збягаліся на пажар. Дзяжурны даў распараджэнне наладжваць ТБ на дзяржканал (хоць афіцыйна антэна была ў непрацоўным стане). Так мы даведаліся пра тэракт у метро. У першы час усе думалі толькі пра сваіх блізкіх. На наступны дзень прынеслі спісы загінулых і пацярпелых. Страшна шукаць знаёмыя прозвішчы ў такім пераліку. Пазней даведаўся, што палкоўнік Арлоў з пенай ля рота забягаў у камеру да палітычных (у прыватнасці, да Саннікава[19]), крычаў на іх і абвінавачваў у тым, што адбылося. Потым, праўда, ён прыходзіў прасіць прабачэння, але прабачэнні прынятыя не былі.

Але больш за ўсё я ашалеў, калі прачытаў у газетах заяву Зайцава (старшыні КДБ), што адной з версій таго, што адбылося, мяркуецца, была... помста анархістаў! Гэта што трэба ўжываць, каб дадумацца да такога трызнення? Што ў гэты момант адчуваў Дзіма?..

Зразумела, што будуць тузаць. Увечары тузанулі... У кабінеце начальніка было двое, сам Арлоў і яшчэ адзін, якога я ўжо бачыў раней у кабінетах. Прапанавалі паглядзець відэа з камер назірання метро. Той другі сеў справа ад мяне нібыта таксама глядзець відэа, але насамрэч назіраў за маімі вачыма. Тое ж самае было на допыце ў чацвёртым аддзяленні і тады, калі прыязджалі оперы з Магілёва з нагоды падпалу будынка Бабруйскага КДБ. Пракруцілі відэа, пацікавіліся маімі меркаваннямі, але мне не было чаго сказаць, ды і не для таго мяне прывялі. Напрыканцы далі з сабой фота найлепшага кадра, хоць якасць усё роўна была жахлівая, і нічога падобнага з фотаздымкамі ў газетах не было.

У дзень жалобы грала класіка. СІЗА захоўвала магільнае маўчанне. Толькі ідыёт, кантралёр Вася, умудрыўся закрычаць «БЯГОМ!». Калі ішлі на шпацыр, Сярога і Макс напісалі заяву на здачу крыві для пацярпелых, але ім афіцыйна адмовілі...

...Уначы прывезлі дваіх. Іх паднялі ў транзітныя камеры № 2–3. Мы ж былі ў наступнай, 4-й. Тое, што гэта былі падазраваныя па выбуху, не выклікала ніякіх сумневаў. Атмасфера была неймаверна наэлектрызаваная. Скепсіс хутка знік, таму што пачалося нешта жудаснае. Ляск замкоў, рыпанне дзвярэй, звон наручнікаў, скрыгат металу па нарах, бег па лесвіцы, няўпэўненыя пярэчанні, адгалоскі крыкаў, глухі стук. Кожныя паўгадзіны аднаго прыводзілі, прычэплівалі да нараў, іншага выводзілі. Той ноччу з арыштантаў наўрад ці хтосьці змог заснуць. За гэтыя месяцы я паспеў адчуць першабытны страх, параною, безнадзейнасць. Але ў тую ноч мяне скаваў дзікі жах. «Зрабіць усё што заўгодна з любым чалавекам...» — гэтыя словы Арлова атрымалі плоць і кроў. Не хацелася і думаць, што там з імі рабілі, але розум усё маляваў самыя змрочныя карціны.

Пазней нам пару разоў даводзілася бачыць ахоўніка ў масцы і разгрузачнай камізэльцы каля тых камер. Пакеты з асабістымі рэчамі і скручаныя матрацы заўсёды стаялі каля дзвярэй. Мабыць, выдавалі толькі на ноч. Ды што матрац, нават гарбату ім рабілі самі кантралёры. Асцерагаліся, каб не ўдушыліся шнуром кіпяцільніка.

**15**

Марцалеў чакаў суда ў канцы красавіка. Яму перабілі артыкул з арганізацыі масавых беспарадкаў (ад 5 да 15 гадоў) на абвінавачванне папрасцей (да 3–6 гадоў). Ён доўга пакутаваў і вагаўся, прызнаваць ці не. Бо яго паставілі перад выбарам: або стары артыкул, або новы, але з прызнаннем. Мы ўгаворвалі пагаджацца, бо для ўсіх ужо было відавочна, што ў гэтай сістэме, якая не мае нічога агульнага з правасуддзем, малая кроў — гэта таксама перамога.

Сяргей моцна нерваваўся і маральна рыхтаваўся

да лагера, а мы яго за гэта дражнілі і лаялі, таму што было відавочна, што атрымае ўмоўна (як аказалася пасля, Паўлу Севярынцу[20] далі цалкам рэальную «хімію» з накіраваннем у камендатуру, так што асцярогі Сяргея былі зусім не беспадстаўныя).

(Сёння я лічу, што рабіў няправільна, угаворваючы Марцалева згадзіцца на такі размен. Чалавек павінен мець права захаваць душэўную гармонію ў крыштальным выглядзе за кошт фізічных нягод. Такі выбар я лічу правільным пры любых абставінах.)

З Марцалевым мы часцяком спрачаліся. Ён быў сацыял-дэмакратам і праваслаўным патрыётам. Так што спектр спрэчак быў вельмі шырокі. Больш за ўсё мяне абурала яго стаўленне да Першай сусветнай вайны, бо ён падтрымліваў пазіцыю Мартава, г. зн. абаронччую пазіцыю. А я лічыў бессэнсоўным узаемнае знішчэнне працоўных працоўнымі дзеля выгады нацыянальных ваенна-прамысловых і ваенных колаў усіх ваюючых бакоў. У першыя дні заключэння мне ў рукі трапіла «Сям'я Ціба. Ч. 2». Кніга пра пачатак гэтай бойні, пра сацыялістаў Францыі, Нямеччыны, Аўстрыі, Швейцарыі, якія яшчэ напярэдадні прапаведавалі інтэрнацыяналізм, класавую барацьбу, усеагульную забастоўку. Але чым больш напальвалася сітуацыя, тым хутчэй яны каціліся ў патрыятычную яму і ў выніку дружна пайшлі забіваць сваіх учарашніх таварышаў.

Вось яны, сацыялісты! Марцалеў сцвярджаў, што гэта адпавядала інтарэсам працоўных, бо акупацыя рэзка зніжае іх узровень жыцця. Але хіба сама вайна не выклікала яшчэ большую разруху? Ды і не ў гэтым справа. Няўжо выбар з дзясятка гатункаў каўбасы ёсць сапраўды маральная мерка? Хіба маральна выбіраць сабе паноў, прычым коштам крыві сваіх сабратаў па класе? Патрыятызм аб'яўляецца адной з самых галоўных маральных каштоўнасцяў чалавека. Нацыянальныя інта-

рэсы вышэй за ўсё. Інтарэс — гэта карысць. Але з якога часу карысць — па тэрытарыяльнай або этнічнай прыкмеце — прыраўнялі да маральных паняццяў, да справядлівасці і дабра? «Справядліва тое, што выгадна», — такое бачанне патрыятызму прыйшлося па душы таму палкоўніку КДБ з чацвёртага аддзялення, ды і Арлоў на 100% за гэты падыход. Вось так цяпер мараль вызначаецца нейкай выгадай. Такая мадэль не можа мець нічога агульнага з прыроднай маральнасцю, таму што павага, гонар, раўнапраўе, альтруізм, узаемадапамога, правы і свабоды не могуць мець колеру сцяга або межаў. Але менавіта гэтымі якасцямі і каштоўнасцямі вызначаецца чалавечнасць чалавека, усюды і ва ўсе часы. Патрыятызм спекулюе на любові чалавека да сваёй зямлі, спрабуе атаясаміць сябе з прыроднай сімпатыяй чалавека да родных краёў. Але вось ёсць, напрыклад, такое святое паняцце, як любоў да маці. Ніхто і не думае будаваць вакол гэтага, такога натуральнага і блізкага пачуцця, нейкую ідэалогію. Чаму ж можна выдумляць ідэалагічныя канцэпцыі вакол любові да зямлі? Тым больш, што гэтыя самыя канцэпцыі патрабуюць абвергнуць маральнасць, узвысіцца над чалавечымі каштоўнасцямі.

Кажуць, трэба прышчапляць гонар за сваё. Але калі нейкі факт гісторыі краіны выклікае не гонар, а сорам? Гісторыя Беларусі — гэта гісторыя розных перыядаў: славяна-балцкіх плямёнаў, ВКЛ, царскай Расіі, чырвонай імперыі. На якой падставе адны перыяды адмаўляюцца, а іншыя ўзвялічваюцца? Я не хачу ганарыцца ані бальшавізмам, ані царызмам, ані княствам. Чамусьці забываецца, што ў часы Літвы народ знаходзіўся ў рабскім становішчы. Ды і як можна ганарыцца тым або саромецца таго, да чаго сам не маеш дачынення? Можна захапляцца пэўнымі старонкамі нашай гісторыі, і такія старонкі знойдуцца ў кожным перыядзе. Зрэшты, як і старонкі смутку. У школах трэба прышчапляць не

хлуслівы патрыятызм, які аднабока глядзіць на мінулае, а цікавасць да ўласнай гісторыі. Гэта ўмацуе самасвядомасць, дасць прыклады нашых продкаў — якімі б яны ні былі — для разумення гэтага.

Грамадства, заснаванае на свабодзе і справядлівасці, мацнейшае, чым соцыум, заснаваны на адфільтраванай гісторыі і гіпертрафаваным калектывізме.

Я — беларус, таму што адношуся па паходжанні да гэтай унікальнай гісторыка-культурнай супольнасці. Гэта ні добра, ні дрэнна, ні нагода для гонару, ні для сораму. Гэта ёсць, і гэтага дастаткова. А што тычыцца каштоўнасцяў, то чалавецтва ўсёй сваёй гісторыяй, філасофіяй і навукай выпрацавала трывалы этычны фундамент — гуманізм.

У спрэчках пра сацыялізм я паказваў на той факт, што менавіта пад уладай «малінавых»[21] Еўропа зайшла ў тупік. Менавіта пад уладай сацыял-дэмакратычных урадаў адбываецца дэмантаж так званай сацыяльнай дзяржавы. Розніца паміж правымі лібераламі і эсдэкамі стала чыста касметычнай. Падобна на тое, што паміж імі зусім не засталося адрозненняў, акрамя як ідэй па стаўцы падатку на прыбытак. Правыя хочуць абмежавацца 25% (гэта сярэдняя лічба ў ЗША), левыя — большай лічбай. На справе што рынкава-ліберальная сістэма ЗША, што рынкава-сацыяльная ЕС знаходзяцца ў самым жорсткім крызісе. І тыя, і другія набралі крэдытаў, а аддаваць не атрымліваецца. Фінансавы капітал падпарадкаваў сабе і ўрады, і рэальны сектар эканомікі. Дзяржаўны капіталізм у асобе СССР сцвярджаў, што імкнецца да камунізму. І паваліўся як падкошаны, ніякага камунізму з кніжак і блізка не атрымалася. Рынкавы капіталізм сцвярджае, што вялікія дэпрэсіі засталіся ў мінулым. Дык чаму ж Амерыка з Еўропай апынуліся сёння ў такой дупе? Таму што ўстойлівае развіццё, як і дзяржаўны камунізм, — гэта міф. Драпежнікі заўсёды застануцца драпежнікамі, як іх ні назаві.

Марцалеў любіў сцвярджаць, што ў сучасным свеце класы больш не актуальныя, а сацыяльную структуру грамадства нібыта вызначаюць страты[22]. Маўляў, нават на нейкім там кангрэсе Сацыялістычнага Інтэрнацыянала 60-х гадоў быў скасаваны класавы падыход. Гэта рашэнне не можа быць аўтарытэтным, бо сацыялісты ва ўсіх сваіх формах (і бальшавікі, і сацыял-дэмакраты) паказалі поўнае банкруцтва сваіх тэорый. Капіталізм не ўпаў, урад бальшавікоў прывёў да таталітарызму, а парламенцкія рэформы ператварылі сацыялістаў у чарговую партыю буржуазіі.

Я прыгадваю, як у 2006 годзе паехаў працаваць на Захад і змог самастойна, на асабістым досведзе адчуць, што такое хвалёнае «сацыяльнае партнёрства». Я ўладкаваўся ў кампанію Carnival Cruis Lines, якая займалася падарожжамі на круізных лайнерах, у асноўным у Карыбскім басейне. Як і многія іншыя, я разлічваў упартай працай зарабіць грошай пабольш, бо ЗША заўсёды асацыяваліся з формулай «больш працуеш — больш атрымліваеш». На жаль, рэальнасць апынулася зусім іншай... Праца на лайнеры — гэта дзесяцігадзінны працоўны дзень чыстага часу, без выходных у літаральным сэнсе. У большасці работнікаў (напрыклад, кухараў, кладаўшчыкоў, прыбіральшчыкаў, сцюардаў, маляроў) аклад быў ад 450 да 780 даляраў у месяц. Перапрацоўкі не аплочваліся, таму што афіцыйна іх не было: менеджары падпраўлялі адпрацаваны час. Падпрацоўкі — на іх усе вельмі разлічваюць — афіцыйна строга забаронены. Ніякіх даплат, ніякіх бонусаў. Па вялікім рахунку, мы працавалі за грошы, якія пры жаданні можна было зарабіць і ў нас менш цяжкой працай. Да гэтага мне даводзілася працаваць і на дарожна-пліткавай укладцы, і маляром-тынкоўшчыкам, і на будаўніцтве жылога дома (заліванне падмурка). Так што мне было з чым параўнаць. Але той узровень нагрузак, што быў

на караблі, аказаўся залімітавым. Збітыя ў кроў мазалі на нагах, расцяжэнне звязак на руках, праблемы з хрыбетнікам — самыя звычайныя спадарожнікі жыцця там. Даходзіла да таго, што ў дзяўчат мяняліся месячныя цыклы. Нават бывалыя хлопцы, якія паспелі папрацаваць на клубніцах у Еўрапейскім саюзе, на птушкафабрыках у Англіі і ў рэстаранах ЗША, праклінали гэтую працу. У афіцыянтаў і абслугі кают сітуацыя была не нашмат лепшай: 900–1100 даляраў аклад, амаль без магчымасці атрымліваць чаявыя.

Горш за фізічныя ўмовы працы быў маральны клімат. Паўсюль супервайзеры, якія гналі работнікаў, сістэма стукацтва, ахова з дубінкамі, парушэнне за тое, што не ўсміхнуўся афіцэру або пагаварыў з пасажырам. Алкагалізм і наркотыкі — як адзіны спосаб зняць стрэс. Сітуацыю пагаршала абсалютнае бяспраўе перад начальствам: менеджары маглі ў адкрытую валіць свае касякі на цябе, і ты нічога не мог зрабіць. Там дзейнічала кругавая парука ўпраўленцаў, якая не пакідала шанцу даказаць сваю праваату. Работнікі былі падзеленыя на некалькі іерархічных кастаў, у кожнай з якіх быў свой рэглямент і ўзровень правоў. Нават сталовыя для кожнай з кастаў адрозніваліся. Звычайным чорнарабочым нельга было хадзіць у шортах, мець своеасаблівую прычоску, размаўляць з пасажырамі. Іншай касце, абслузе, ужо можна было размаўляць з турыстамі. «Белым каўнерыкам» дазвалялася мець любы знешні выгляд, заводзіць знаёмствы і сябраваць з кліентамі кампаніі, карыстацца іх сэрвісамі, а афіцэрам наогул можна было ўсё, ажно да рукапрыкладства. Рабілася ўсё, каб перашкаджаць зносінам паміж кастамі. «Белым каўнерыкам» забаранялася прыходзіць у сталовую для «неграў», хадзіць разам у порт або тусавацца ў бары.

Памятаю, прыязджала адна скрыпачка з Менска. Нармальная дзяўчынка. Ёй было пляваць на гэтую іе-

рархію. Аднойчы мы разам вялікай кампаніяй пайшлі на пляж. Хтосьці стукануў, яе выклікалі ў офіс і паўгадзіны паласкалі мазгі, маўляў, з такімі табе тусавацца нельга. Або пазнаёміўся з адным панкам з Канады, гукатэхнікам. Пагулялі ў настольны футбол, праз гадзіну ўжо даклалі наверх. Бязглуздзіца, але так усё і было ўладкавана. Падзяляй і пануй. Сітуацыя даходзіла да адкрытага маразму. Работнікі прыязджалі на карабель парай, але адзін з іх быў ніжэйшы за другога па статусе. Як правіла, пара распадалася. Што не рабіла сама сістэма, тое дароблівала выпрацаваная сістэма прыніжэння, зайздрасці, крывадушнасці, даносаў, пагарды, злараднасці. У такой атмасферы нават разавы сэкс паміж прадстаўнікамі розных кастаў успрымаўся як пратэст супраць гэтай «маралі». Пасля такіх рабскіх умоў і быдлячага стаўлення ніякіх ілюзій у дачыненні да капіталізму не засталося. Той узровень дэмакратыі, што ёсць у заходніх краінах, абумоўлены не столькі рынкам, колькі гатоўнасцю людзей абараняць свае інтарэсы і выходзіць на вуліцы.

У гэтым плане я моцна запаважаў амерыканцаў і еўрапейцаў. Пачуццё ўласнай годнасці і класавая самасвядомасць у іх на парадак вышэйшая. Але, як бы там ні было, былі і ёсць кіруючы клас і клас працоўных. Іх — 1%, нас — 99%. Беларусь з яе змешанай эканомікай і дыктатурай бюракратыі рана ці позна ўбярэ ў сябе сучасныя карпаратыўныя метады кіравання (у сферы IT і некаторых сферах гандлю гэта ўжо ёсць). Але нічога добрага гэта нам не прынясе. Ніякага вызвалення, толькі больш дасканалую эксплуатацыю і крэдытную залежнасць ад банкаў, якая падобная да наркаманіі.

Я бавіў час за чытаннем «Гадзіны Быка» Яфрэмава. Павольнае, удумлівае чытво. Як у Стругацкіх. На Зямлі перамагло салідарнае грамадства. Былі рэалізаваны вышэйшыя анархічныя ідэалы. Дзяржава перастала

існаваць. Людзі жылі забяспечана і цікава. Кіраванне ажыццяўлялася гарызантальнымі структурамі, якія служылі сродкам каардынацыі для агульнай карысці. Шматбакова развіты, гарманічны і маральны чалавек — цэнтр такой сістэмы. Калі-небудзь такое грамадскае ўладкаванне стане самай звычайнай з’явай. А сёння даводзіцца жыць у свеце, дзе вакол толькі гора і бяда, дзе парасткі розуму і радасці прабіваюцца толькі насуперак змрочным умовам.

Марцалеў адсудзіўся, атрымаў умоўнае. Пракуратура завярнула справу Макса, і яго тут жа этапавалі на Валадарку. Дзяніса перакінулі. Болей я пра яго не чуў.

Мяне перамясцілі ў суседнюю, пятую камеру. Травень пачаўся з чакання суда...

(Сяргей Марцалеў у далейшым даведаўся, што лёс Дзяніса склаўся трагічна. Ён перанерваваўся, пагнаў, як кажуць у турме, на глебе маці-інваліда, якая засталася без апекі. Пайшоў на здзелку са следствам, даверыўся іх слову. Яго падманулі. У выніку Дзяніс звар’яцеў, у яго здарылася нейкае функцыянальнае расстройства. Ён перастаў быць адэкватным, перастаў мыцца і сачыць за сабой, стаў мішэнню для здзекаў з боку кантралёраў. Адным словам, ператварыўся ў чуху. Гэта дарога ў адзін канец.)

**16**

Новая камера адрознівалася ад іншых чатырохмесцавых тым, што ў ёй было не адно акенца, а цэлых два. Нябачаная раскоша!!! Але значна больш характэрнай аказалася кампанія. Зноў я сустрэў Уладзіміра, з якім спачатку быў у адной камеры. Мяне ўразілі перамены, якія з ім адбыліся: за чатыры месяцы з бадзёрага пажылога мужычка ён ператварыўся ў прыкметна пасівелага, ватнага, прыбітага старога. Выкажам здагадку, што яго апраўдаюць. Але як дзяржава зможа кампенсаваць ТАКОЕ?

Двое іншых сукамернікаў аказаліся супрацоўнікамі карных органаў, што патрапілі пад малаткі сістэмы, якой самі і служылі. Першы, Сяргей Елін, быў намеснікам пракурора Гродзенскай вобласці. Абвінавачваўся ў атрыманні хабару. Цікавыя акалічнасці справы. Чалавек, які даў хабар, нейкі час спрабаваў вырашыць праз Сяргея свае пытанні, але апошні адмаўляўся. Тады гэты суб’ект выйшаў на камітэтчыкаў і прапанаваў «утапіць» незгаворлівага следчага. Ён паспрабаваў перадаць Еліну 5 тысяч даляраў, але беспаспяхова. Тады на наступны дзень ён паўтарыў свой манеўр, але на гэты раз, зноў атрымаўшы адмову, прапанаваў узяць 500 даляраў «за юрыдычныя паслугі і выдаткаваны час». Елін узяў і тут жа быў павязаны. У справе першы эпізод адсутнічаў зусім, як быццам яго і не было. Аўдыёзапіс размовы падчас перадачы грошай быў прадастаўлены самім правакатарам, хоць затрыманнем займаўся камітэт! Не дзіўна, што аўдыёфайл меўся толькі на дыску, а на дыктафоне арыгінала не аказалася (нібыта быў сцёрты з-за недахопу месца). Па словах Еліна, у гэтым запісе не хапала шэрагу рэплік, якія сведчылі на яго карысць. Камітэтчыкі не мелі санкцыі на ўтоенае праслухоўванне і не маглі прадставіць яго ў судзе. Таму, па ўсім відаць, яны і прыдумалі гісторыю з дыктафонам. А на самай справе ўсё праслухоўвалі, запісалі на дыск толькі патрэбнае ім і падшылі ў справу. Вось так, без усякай першакрыніцы, па «дзіўным» супадзенні менавіта Елін зачыніў у мінулым аднаго з кіраўнікоў прадпрыемства «Лідская мука» (здаецца, дырэктара), які хадзіў пад канторай...

Другі сілавік, Захар Джылаўдары, паспеў папрацаваць operам у АБЭЗ, УБАЗ[23] і ДФР[24]. Удзельнічаў у расследаванні выбуху ў Мінску ў 2008 годзе. Менавіта ён распрацоўваў апошняга, паводле яго слоў, беларускага злодзея ў законе, Біру. Але самы цікавы момант — гэта

арышт Захарам першага намесніка старшыні КДБ, калі не памыляюся, па справе аб мытні, г. зн. ён удзельнічаў у аператыўна-следчай групе Байковай[25], той самай апальнай прокуроршы. Самога Захара абвінавачвалі ў замаху на атрыманне хабару са словаў сведкі. Праўда, у судзе сведка памыліўся з сумай меркаванага хабару, а таксама не змог канкрэтна ўказаць валюту (даляры, еўра, рублі) Абвінавачанне не разгубілася, перакваліфікавала справу па артыкуле «Бяздзейнасць» (да трох гадоў). Дробязь, здавалася б, ды толькі чалавек (хоць і мент) ужо дзевяць месяцаў у гэтым бетонным калодзежы сядзеў... Цікавая дэталь: Захар за тыдзень тройчы сутыкнуўся ў калідоры на кабінетах з... Байковай! Сутнасць у тым, што ў КДБ выпадкова сутыкнуцца немагчыма. Кантралёры суправаджаюць арыштанта свістам, каб выпадковая сустрэчная партыя своечасова спынілася. У крайнім выпадку загадваюць адвярнуцца да сцяны, як пару разоў і здаралася. І толькі аднойчы да нас у камеру завялі левага чалавека. Паблыталі нумары. Было бачна, як кантралёры спалохаліся і момантам выцягнулі яго. Мабыць, гэта лічыцца сур'ёзным касяком.

Такім чынам, Захару далі зразумець, за што насамрэч ён трапіў пад малаткі сістэмы. У краіне яшчэ ў 2009 годзе ішла самая сапраўдная вайна сілавых структур паміж сабой, і засадзіць адзін аднаго для іх — святая справа. Пасля прыняцця пастановы, якая дазваляе падоўжыць арышт на два месяцы без санкцыі пракурора (як і праслухоўванне), вайна прыняла сапраўды грандыёзныя маштабы. Цяпер МУС (у асобе некалькіх аддзелаў), КДБ і ДФР атрымалі магчымасць распачаць тыя справы і ўпекчы ў СІЗА тых людзей, якія б раней не прайшлі ў пракуратуры. Больш за тое, калі раней паміж структурамі існавала спецыялізацыя, г. зн. канкрэтны пералік артыкулаў у Крымінальным кодэксе, якія падлягалі расследаванню пэўнымі ведамствамі, дык цяпер

гэтай мяжы не стала. Натуральна, сілавікі пачалі ціснуць адзін аднаго. Параўнальная статыстыка за 2009–2010 гады паказвае... двухразовы рост па карупцыйных артыкулах! Справа Байковай азначала канец пракуратуры як рэальнаму органу. ДФР таксама стаў ахвярай КДБ: спачатку паставілі свайго дырэктара (былога чэкіста), потым аднаго за адным арыштавалі найбольш незалежныя кадры (да прыкладу, справа Адамовіча[26], сядзеў паралельна з намі).

Суды кантралююць часткова, і ў прыватнасці — некаторыя раённыя суды Мінска і сталічны гарадскі. Вярхоўны Суд, можа, яшчэ і не, але, па ўсёй верагоднасці, гэта пытанне часу. А вось даць рады з МУС значна цяжэй. Па-першае, колькасць 100 000 супраць 5 000. Па-другое, у МУС існуе ГУБАЗ[27], якое падпарадкоўваецца наўпрост міністэрству. І хоць КДБ мае тэхнічную і кадравую перавагу, займаюцца яны, мяркуючы па вязнях «амерыканкі», адным і тым жа. А два казлы на адзін агарод, як вядома, занадта шмат, так што ўбазаўцы маюць той жа вопыт і самі гатовыя адправіць якога чэкіста адпачываць на Валадарку. Елін наракаў, што з-за гэтай барацьбы рэзка знізіўся прафесіяналізм следчых: ужо нармальна справу пашыць не могуць, усё больш прыходзіцца спадзявацца на пакорлівасць пракуратуры і суддзяў.

Такі расклад сярод сілавікоў заахвочваецца кіруючай зграяй, ды і сам метад не новы: у гісторыі быў адзін рускі грузін, які любіў змешваць і тасаваць кадравыя калоды. Метад называецца «вывядзенне пацучынага караля». Апаратчыкі грызуцца і рвуць адзін аднаго, у выніку дамінантнае становішча займае самы беспрынцыпны, але эфектыўны. Сама ж вярхоўная ўлада застаецца непрыступнай: у выпадку сумневаў у вернасці «пацучынага караля» кіраўнік вывальвае на яго падрыхтаваны кампрамат.

Захар распавядаў, як выявілі ў Драздах блядзюшнік для VIP-кліентуры з вярхоў. Але толькі вырашылі накрыць установу, як па тэлефоне ад начальства паступіла выразная дырэктыва: «У*бвайце неадкладна адтуль нахуй!» Ці быў выпадак, калі новы дырэктар ДФР яшчэ не асвоіўся. Яму прымудрыліся паспяхова падсунуць на подпіс спіс прадпрыемстваў на планавую праверку. Усё б нічога, толькі ў спісе неўпрыкмет апынуўся «Трайпл»[28]. Калі прыйшоў час праверкі, дырэктар схапіўся за галаву і прамовіў Захару: «Ты ведаеш, чыё гэта?»

Закраналі мы і тэму апазіцыі. Трэба сказаць, хадзіла нямала чутак пра ўсякія нюансы палітычных справаў. Пэўна разабрацца не ўяўляецца магчымым, таму я прынцыпова апушчу гэтыя моманты. Да таго ж пасля эпізодаў з усялякімі раманчукамі[29] і рымашэўскімі[30] і першай рэакцыі апазіцыйных СМІ рэпутацыя апазіцыі і так не ахці якая. Але адзін выпадак адбыўся пры Джылаўдары з Еліным. Няхай пра яго ведаюць усе. Справа была 31 снежня 2010 года ў камеры № 1, дзе ў той час знаходзіўся Дзмітрыеў, начальнік штаба Некляева. Увечары Дзмітрыева пацягнулі на кабінет, дзе ён выгандляваў сабе вызваленне невядома за што. Пасля яго паднялі ў камеру, каб ён сабраў свае рэчы. Аднак сукамернікам Дзмітрыеў сказаў, што, маўляў, яму абяцалі Новы год у асяроддзі масак. Мужыкі сабралі яму з сабой два пакеты з ежай і, перажываючы, развіталіся. А грамадзянін Дзмітрыеў роўна патупаў дадому... У размове ён, не саромеючыся, распавядаў, як пабудаваў кватэру і зрубіў грошыкі на прэзідэнцкай кампаніі, а сама палітыка дэмакратычных сіл яму фіялетавая. Верагодней за ўсё, Дзмітрыеў данёс пакеты з прадуктамі да бліжэйшай сметніцы, хоць, хто ведае, можа, і да навагодняга стала, бо ўсёедны палітык нічым не грэбуе.

## 17

Цэлымі днямі мы гутарылі на тэмы судова-следчай сістэмы, асаблівасцяў розных структур, працы операў і следчых. Шмат спрачаліся і пра палітыку. Так ці інакш, сышліся на тым, што без актыўнага ўдзелу народу, без рэальнага кантролю грамадства за кіраўнічымі структурамі любая рэспубліка коціцца да дыктатуры. Гэта можа падацца дзіўным, але менавіта самі мянты разумеюць гэта выдатна, бо штодня бачаць расклад знутры і не маюць ілюзіяў адносна сапраўднай прыроды ўлады.

Сама судова-следчая сістэма простая і жахлівая да вар'яцтва. Ключавы момант: рэальная ўлада знаходзіцца ў операў. Менавіта яны праводзяць усю папярэднюю распрацоўку, назапашваюць матэрыял для ўзбуджэння крымінальнай справы. Тут няма ніякіх абмежаванняў. Усё будуецца на асабістым вопыце, логіцы і інтуіцыі. У ход ідуць любыя доказы. Юрыдычная сіла іх не важная. Галоўнае для опера — стварыць карціну падзей, у якой адгадваецца шаблоннае злачынства. Яго начальнік на падставе суб'ектыўных уражанняў прымае рашэнне пра ўзбуджэнне справы. Вызначальным крытэрам паспяховасці кар'еры опера з'яўляецца колькасць распачатых справаў. Яму выгадна трактаваць сітуацыю ў бок наяўнасці складу злачынства і датычнасці да яго падазраванага. Падстава для падазрэння — суб'ектыўнае меркаванне опера. Любога чалавека можна зачыніць у ІЧУ на трое сутак проста таму, што опер так захацеў.

Тут надыходзіць момант ісціны. Па любой хоць трохі ўскоснай зачэпцы могуць прад'явіць абвінавачванне. Звычайны недакурак цыгарэты са слядамі ДНК (сліна, пот), сігнал сотавага тэлефона непадалёк, пустая бутэлька з адбіткамі або паказанні нядобразычліўца з'яўляюцца дастатковай падставай для арышту і змяшчэння чалавека ў СІЗА, г. зн. турму. Раней арышт быў санкцыянаваны пракуратурай, і для станоўчага рашэння ў

сумнеўнай сітуацыі ў ход ішлі асабістыя сувязі, фактар зацікаўленасці ўплывовых асоб і да т. п. Цяпер жа для арышту на два месяцы дастаткова подпісу начальніка сілавога ведамства. Як толькі чалавек арыштаваны, ён каціцца па нахільнай уніз, проста да прысуду. З гэтага моманту ўсе астатнія фазы гэтай сістэмы — фармальнасць, і чым далей, тым больш. Калі справа распачата, яна перадаецца следчаму. Хоць гэтая фаза і называецца «папярэдняе следства», на справе следчы толькі даследуе і афармляе матэрыялы, здабытыя операмі, згодна з юрыдычнымі нормамі.

Паказчык кар'ернага поспеху следчага — адносіны колькасці спраў, даведзеных да абвінаваўчага прысуду, да агульнай колькасці спраў, г. зн. папросту каэфіцыент асуджаных. Іншым важным паказчыкам з'яўляецца цяжар артыкула паводле класіфікацыі Крымінальна-працэсуальнага кодэкса (менш цяжкія, цяжкія, асабліва цяжкія). Таму кожнаму следчаму выгадна, каб чалавек: а) сеў; б) па найбольш цяжкіх артыкулах.

Самае жудаснае, што пералічаныя паказчыкі паспяховасці опера і следчага носяць не нейкі схаваны, нефармальны характар, а замацаваны афіцыйна: менавіта па гэтых прыкметах супрацоўнікі атрымліваюць прэміі, пасады і чарговыя званні. Няма большай катастрофы для следчага, чым апраўдальны прысуд. Гэта можа прывесці да самых жорсткіх мераў спагнання, аж да звальнення. У выпадку, калі падчас папярэдняга следства следчы разумее, што па жаданым артыкуле чалавека спакаваць не атрымаецца, то ён можа прапанаваць перакваліфікаваць справу па іншым, слабейшым артыкуле, аж да ўмоўнага тэрміну, альбо абмяжуецца ўжо адседжаным у турме. Для абвінавачанага гэта ўжо перамога: выйсці абсалютна цэлым з гэтай мясасечкі практычна немагчыма. Такая механіка сістэмы спараджае наступную статыстыку: ККД абвінаваўчых прысу-

даў у Беларусі... больш за 99,7%! У Еўропе гэтая лічба складае 80%, прычым большасць тых, што сядзяць тут, ніколі б не селі там. У 1937 годзе, з яго «тройкамі» і завочнымі судамі, было 10% апраўдальных прысудаў.

Калі следчы пашые справу, ён накіроўвае яе ў пракуратуру. Толькі ў гэтым прамежку абвінавачаны і адвакат нарэшце могуць азнаёміцца з матэрыяламі. Да гэтага следчы з операмі могуць прыадчыніць толькі некаторыя карты. Адвакат — фактычна бяспраўная асоба і мала што можа зрабіць. Пракуратура павінна праверыць справу на прадмет, ці не поўнае гэта шыла. Мяркуючы па тым, што ўсплывае на судах, пракуратура сваю працу робіць не сваімі рукамі. І, нарэшце, апошні этап — суд. Суд — гэта блеф, спектакль. Суддзя ніколі не бачыць нестыковак і парушэнняў. Для яго працэс даўно ператварыўся ў руціну. Нават у відавочных выпадках, калі ёсць яўная лагічная супярэчнасць, суддзя зробіць выгляд, што нічога незвычайнага няма. Суддзя не хоча ісці супраць плыні, бо ўсё ўжо падрыхтавана, разжавана і пададзена на сподачку. Суддзі прасцей асудзіць абвінавачанага з сумнеўнымі абставінамі справы і тым самым перакласці адказнасць за лёс чалавека на вышэйстаячы суд (гарадскі, Вярхоўны), у які падаюцца наступныя апеляцыі і скаргі.

Такім чынам, прысуд фактычна выносіць опер. Далей усё ідзе па канвееры, дакладней, па сістэме шлюзаў: нібыта і з малога пачынаецца, але механікай усяго ўладкавання гэтай сістэмы малое трансфармуецца ў сярэдняе, а сярэдняе — у буйное, разгорнутае і грунтоўнае.

Усё пытанне ў тым, каб знайсці першапачатковыя зачэпкі, якія стануць «доказамі». Опер, не знайшоўшы ніякіх доказаў (а шэрлакхолмсы альбо звалілі з органаў, альбо сядзяць), пачухае не надта разумную галаву і ўжыве стары і надзейны метад — сведчанні.

Сведкам пагражаюць тым, што яны могуць перайсці

ў статус падазраванага, а дзе падазраваны, там і абвінавачаны. Класічная схема: даеш паказанні — праходзіш як сведка, не даеш — як саўдзельнік. Калі ж абставіны справы не прадугледжваюць саўдзелу, то ціснуць на ўкрывальніцтва, паграsevere праблемамі на працы / вучобе, у тым ліку ў блізкіх.

Іншая схема, складанейшая, прадугледжвае выкарыстанне паказанняў іншага абвінавачанага ў абмен на абяцанне больш мяккага пакарання. Працуе безадмоўна па арт. 328 (наркотыкі). Мяркуецца, што наркаманы ўтвараюць адзінае сацыяльнае асяроддзе, так што кожны з іх так ці іначай купляе наркотыкі ў іншых ці перапрадае іх іншым. Атрымліваецца своеасаблівы сеткавы маркетынг.

Напрыклад, бяруць траіх наркаманаў з некалькімі грамамі травы ці амфетаміну. Гэта кваліфікуецца як арт. 328 ч. 1 (захоўванне, да трох гадоў, менш цяжкае злачынства). Але па плану неабходна «раскрыць» асабліва цяжкае, ч. 3 арт. 328 (распаўсюджванне). Дваім прапануюць даць паказанні на трэцяга ў абмен на ўмоўны прысуд, абмежавацца адседжаным або атрымаць малы тэрмін — пару гадоў. Гэта калі пашанцуе, бо следчы можа слова і не стрымаць. А могуць і самі трапіць на ролю таго, каго раскручваюць, і заехаць следам за трэцім на 8 (калі прызнаюць віну) або на 9 (калі не прызнаюць) гадоў. Такая вось карусель.

Найбольш каштоўнымі матэрыяламі для следчага, вядома ж, з'яўляюцца ўласныя паказанні абвінавачанага. У ідэале — прызнанне віны. У гэтым выпадку следчы, не запарваючыся, будзе паволі афармляць справу з поўнай упэўненасцю, што нічога не сарвецца. Для атрымання паказанняў ужываецца разнастайны набор сродкаў. Звычайна спрабуюць узяць на спалох. Маўляў, даеш паказанні — і табе самому будзе лепш. Або хлусяць, кажучы, што разумеюць становішча, што самі ве-

раць у тваю невінаватасць, што зробяць усё, каб справа не склалася, але трэба даць паказанні, каб «мець магчымасць дапамагчы табе, хлопец. Бо ты — “нармальны пацан”». Або пагражаюць жахамі турмы, у прыватнасці, што закінуць у прэс-хату, да пеўняў, да хворых на туберкулёз, да гамаў[31]. Могуць пагражаць і праблемамі ў блізкіх, ажно да рэальных спробаў націснуць на іх. Асноўная стаўка робіцца на псіхалагічны злом таго, каго дапытваюць. Метады чаргуюць, вымотваюць доўгім допытам, ціскам, крыкамі, лаянкай, абразамі, абмежаваннем перамяшчэння, смагай, яркім святлом.

Калі з наскоку ўзяць паказанні не атрымліваецца, кідаюць у камеру «памарынавацца» і ставяць на змор. Турэмная атмасфера ў першыя дні ўспрымаецца цяжка. Невядомасць і суровасць нараджае паніку і страх. Бывае, што чалавек знайшоў у сабе мужнасць вытрымаць дазнанне. Але камера з яе невядомасцю, жахлівасцю, ізаляванасцю ад усяго разбурае абарону, і чалавек мужнасць губляе. З вялікай верагоднасцю ў камеры будзе наседка. Пры наступных выкліках робяць выгляд, што хочуць дапамагчы. Могуць ужыць і гвалт, пачынаючы з пагроз і канчаючы імітацыяй альбо нязначнымі ўдарамі (аплявуха, па карку, удары ў грудзі, па назе). На сур’ёзны гвалт і катаванні, а таксама на ажыццяўленне пагроз расправы ў камеры, як правіла, не ідуць. Але, у прынцыпе, пайсці могуць. Такія метады — ужо ведавочны склад злачынства. Працы, тым больш волі, ніхто пазбаўляцца не жадае. Хоць у якасці выключэння ўсё можа быць. Гісторый хапае. Людзі церпяць, не здаюцца і выходзяць пераможцамі.

Нават адмоўныя паказанні ўсё роўна ўжо сёе-тое для іх. Бо ў выпадку зафіксаванай «несазнанкі» ім ужо ёсць ад чаго адштурхоўвацца. На паказаннях, дадзеных у час папярэдняга следства, будуецца каля 80% спраў. Сістэма прывыкла да такога ходу падзей. І гэта — яе

галоўная слабасць: следчы больш за ўсё баіцца адмовы ад дачы паказанняў. Бо ім давядзецца ўсё рабіць самім, шукаць моцную доказную базу. Не кажучы ўжо пра тое, што няма гарантый, што фальсіфікацыі застануцца незаўважанымі. Да прыкладу, следчы падрыхтаваў левага сведку. На яго паказаннях будуецца справа. А абвінавачаны раптам на судзе дае такія паказанні, што становіцца занадта відавочнай хлусня сведкі. Следчы можа сур'ёзна патрапіць. Так што адмова ад дачы паказанняў — самы дзейсны спосаб, самая выгадная пазіцыя.

Так ці іначай, як толькі чалавек арыштаваны, яго шанцы на апраўданне мізэрныя. Абысціся малой крывёю — гэта ўжо перамога. Але ў любым, нават самым спрыяльным выпадку перамога будзе піравай.

І тры месяцы ў СІЗА — велізарны тэрмін, як і пакаранне. Тыя, хто знайшоў зачэпкі і змагаецца, могуць сядзець год, два гады і нават больш. За гэты час у жыцці многае зменіцца, згубіцца, паламаецца, абрынецца, забудзецца. Гэта ўсё роўна жорсткае пакаранне, пакаранне за тое, што адважыўся ісці супраць плыні, адважыўся падвергнуць аўтарытэт улады сумневу.

Каб зразумець цалкам, як функцыянуе следчы механізм, неабходна сказаць пра яго ключавы кампанент, які прыводзіць сістэму ў рух, вызначае канкрэтныя лічбы, адказвае на пытанне: «Чаму менавіта столькі?» Імя гэтага кампанента — ПЛАН. Ён не існуе афіцыйна, але ў сапраўднасці вызначае ўсю колькасную працу следства. Сутнасць плана вызначаецца формулай: колькі справаў было распачата па злачынствах кожнай ступені цяжару ў мінулым годзе, столькі ж (не менш) павінна быць распачата і ў бягучым. Аналагічна з каэфіцыентам раскрывальнасці. Іншымі словамі, опер і следчы кіруюцца не толькі заахвочвальнымі (кар'ернымі) матывамі: яны са скуры лезуць, каб выканаць нарматывы. Не спраўляешся — вызвалі месца іншаму, хай менш прафесійнаму, затое больш выкрутліваму і амаральнаму.

Прэзумпцыя вінаватасці — вось асноўнае крэда карнай (па-іншаму і не назавеш) сістэмы беларускага рэжыму. Вось што такое мараль і правасуддзе беларускай дзяржавы!

**18**

Зусім хутка першае пасяджэнне суда. Яго чакаеш, як збавення. Калі справу перадалі ў суд, далі кароткае спатканне з бацькам. Шкло, тэлефонная трубка... Цяжка знаходзіцца ў метры ад блізкага чалавека і не мець магчымасці абняцца. Бацька дае зразумець, што ўсведамляе, што мяне пасадзяць. Я рады, што ён гэта разумее і маральна гатовы. Бо ўсе гэтыя надзеі ў лістах, маўляў, «цябе 100% апраўдаюць» і г. д., выклікаюць толькі горкую ўсмешку. Праўда заўсёды лепш. Даю зразумець бацьку, што дух мой моцны і прысуд прыму ціхамірна.

Апошняя ноч перад судом... Вельмі хочацца адчуць змену абстаноўкі, убачыць бацькоў, родных, сяброў, знаёмых, таварышаў, тых, хто спачувае. Нарэшце змагу хоць трохі пагутарыць са сваімі паплечнікамі. Колькі гадоў сумесных надзей, спадзяванняў, спроб, памылак, расчараванняў, дасягненняў, сходаў, спрэчак. Усе мы пачыналі з поўнага нуля, з невыразных памкненняў да свабоды, да праўды, да справядлівасці, да братэрства. Рамкі апазіцыйных моладзевых рухаў былі для нас занадта вузкія, таму што наша інтуітыўная цяга да свабоды не прызнавала паўмераў. Чалавечая асоба не павінна ведаць межаў. Народжаныя ў апошнія гады СССР, мы ўжо не паспелі набрацца надзей перабудовы. Наша юнацтва — ліхія 90-я, з нянавісцю да казарменнага духу саўдэпіі, але без абагаўлення Захаду. Мы запомнілі гіперінфляцыю, фінансавыя піраміды, «новых рускіх», прагу ўзбагачэння, бандыцкія разборкі, выбітыя з жыцця масы людзей.

Першыя артыкулы пра анархізм на дыскетах з не-

дапампаваных «крывых» сайтаў, першая кніга Крапоткіна. Не было скарбу даражэйшага, бо там раскрывалася мара. З гэтага моманту ні ўсёмагутнасць улады, ні рабалепства народа, ні абыякавасць абывацеля ўжо не маглі спыніць нас. Ад размоў на лаўцы за піўком — да першага самвыдата. Першая групка на раёне, пасля ў інстытуце. Удзел у дэманстрацыі, знаёмства з такімі самымі энтузіястамі. DIY-субкультура, сходы, публічныя акцыі, налепкі, брашуры, перыёдыка... Вулічная вайна з фашыстамі, канцэрты, вандроўкі... З сыходам першых людзей сыходзіць і першая рамантыка. Хто застаўся — гуртуецца шчыльней... Крызісы ў асабістым жыцці, як стрэлы снайпера, выкошваюць шэрагі... Бясхмарнае дзяцінства скончылася: працаўладкаванне, кватэрнае пытанне, плацяжы прымушаюць па-новаму зірнуць на словы «сацыяльная справядлівасць», «эканамічная эксплуатацыя». Гэта — тое, чым мы дыхаем кожны дзень... Менш словаў — больш адказнасці, такое разуменне бярэцца ў аснову. Паўсюль адчуваецца рост, колькасны і якасны. Гэта пачалося ў 2008 годзе. Анархізм. Знішчаны канчаткова ў ГУЛАГу, адрадзіўся ў перабудову. Прайшло яшчэ 20 пакутлівых гадоў, пакуль змяняліся некалькі пакаленняў актывістаў, пакуль намацаваліся метады і арганізацыйныя формы. Цяпер мы — паўнавартасны грамадскі рух і гатовыя біцца за поўную рэалізацыю гуманістычных ідэалаў.

Азіраючыся назад, я ўсведамляю, што гэтыя гады вартыя таго, каб за іх адседзець. Гэтыя гады, гэты вопыт ўзгадавалі нас, сфарміравалі нашы асобы. І заўтра мы разам будзем трымаць адказ.

Улада прагне нашых пакаянняў, аблівання брудам адзін аднаго, спроб выставіць нас зламанымі людзьмі, плачу па сваім «загубленым» жыцці. Улада хоча бачыць паказальны працэс, каб іншым непанадна было, каб упівацца сваёй магутнасцю. Але гэтаму не бываць! Мы не

прамяняем саму сутнасць нашага жыцця на шкадаванне і літасць. Мы не дамо нагоды таварышам сумнявацца ў нашым жыццёвым выбары. Мы занадта любім свабоду, каб маліць пра яе. Нашыя блізкія ўбачаць рашучасць і нязломнасць на нашых тварах. Гонар родных і павага сяброў, а большага і не трэба. Мы паедзем у лагеры, застаўшыся самімі сабой, захаваўшы сваю годнасць.

**19**

...Раніца. Права на станок для галення па-за графікам і дадатковы вывад у туалет. Вядуць уніз. Канвой, кайданкі, аўтазак, глухі стакан[32] у апраметнай цемры. Машына імчыцца па зялёнай, з мігалкамі. Каб уседзець на месцы, даводзіцца ўпірацца галавой у сценку. Пад'ехалі проста да дзвярэй з чорнага ўвахода. Да дзвярэй падвойны калідор з мянтоў. Паасобку вядуць у склеп. Размяркоўваюць па камерах-стаканах, на гэты раз бетонных. Паўметра на метр. Шмон, старанна правяраюць вопратку. У гэты момант сустракаемся позіркамі. Саня, Калян... Столькі хочацца сказаць, абняцца, паціснуць рукі. Але пакуль вітаемся, прыдзірліва ацэньваем адзін аднаго. Відаць, што кожны хоча пазбавіцца ад драбнюткіх унутраных сумневаў: «А ці не ўпалі духам?» Але па цвёрдасці голасу, па манеры паводзінаў з мянтамі відавочна, што ніхто не прагнуўся. Камунікуем смялей, нягледзячы на пастаянныя заўвагі канвою, і ад гэтых першых словаў становіцца цёпла. Веткін спрабуе загаварыць, але з ім ніхто не размаўляе. У яго вачах толькі шкурны інтарэс. Мог быць усім, а стаў нікім. Гэта сумна. Чаканне ў стакане. Сцены спісаныя: паграмухі[33], артыкулы, тэрміны, пажаданні. Больш за ўсё 205-х і 328-х, крадзяжы і наркотыкі. Дадаю сябе, малюю сімвалы і лозунгі. Хай ведаюць, што сядзяць не толькі за карысьлівасць або бытавуху. Час ідзе вельмі марудна.

Нарэшце наша чарга. Выстройваюць калонай і

выводзяць у залу пасяджэнняў. У холе куча народу, успышкі фотакамер. Усё гэта ўводзіць у ступар. Ля ўвахода металашукальнікі, вельмі шмат міліцыі і людзей у цывільным, жах нейкі. У клетцы здымаюць кайданкі. Спрабуем кантактаваць, але вертухаі сочаць пільна, перарываюць размову. Кажуць, што суд ачэплены АМАПам. Адным словам, цырк вакол цырка.

Прыходзяць адвакаты, адзін за адным з'яўляецца мноства знаёмых і незнаёмых людзей. За доўгія месяцы ў СІЗА так адвыкаеш ад соцыуму, што губляешся пры такой колькасці людзей. Бацькі, сваякі, сябры, таварышы. Гэтая падтрымка шматкроць умацоўвае. Бо на свае вочы пераконваешся, што можаш разлічваць не толькі на сябе, але і на ўсіх гэтых неабыякавых людзей. Ізаляцыя ізалятара трашчыць па швах.

Суддзя і дзве ківалы[34] робяць выгляд, што не заўважаюць абсурднасці шэрагу доказаў і паказанняў, ціску операў і да т. п. Зомбі. У паказаннях сведкаў адмова за адмовай. Пракурор ціснe, але безвынікова. Доўгія нудныя гадзіны абсалютна непатрэбных словаў, левых людзей, а я гляджу ў акно. Ніколі не думаў, што так буду рады пабачыць зеляніну дрэў і чыстае сіняе неба. Не ў клетачку.

Пракурор заяўляе, што мы прызнаём толькі законы фізікі і хіміі. Дакладна, як і ўсе натуральныя законы быцця: законы біялогіі, гісторыі, а таксама самы галоўны маральны закон, зацверджаны ўсёй сутнасцю чалавечай прыроды і сацыяльнага развіцця. Аднак няма ў нас павагі да нікчэмных кодэксаў-шмодэксаў, з якіх выкраслена ўсё жыццё, вартых адно для ўбогага прыкрыцця дзяржаўнага бязмежжа, ілжы і рабаўніцтва.

Апошняе слова. Не рыхтаваўся, думаў, што заўтра. Вырашыў сказаць пра Дзіму Дубоўскага, нашага таварыша, якога абылгалі і цяпер пераследуюць. Веткін і Канафальскі, падонкі, назвалі яго адказным за некаторыя

рэчы, але так забрахаліся, што на судзе гэта выплыла. З нас чатырох яму выпалі самыя цяжкія выпрабаванні. Хай нават яму і ўдалося захаваць тое, што ў гэтым убогім грамадстве называюць «свабода». Да яго ўжылі самыя подлыя і гідкія метады аператыўнай распрацоўкі. Але Дзіма ўсё вытрываў і пераадолее любыя цяжкасці. Такія людзі — назаўсёды. І гады ў засценках — не перашкода для нашага брацкага таварыства. Саня і Коля сказалі вельмі годна. За намі няма віны перад сумленнем, а значыць, любыя пазбаўленні — толькі ўзнагарода. Прысуд. Што ж, восем гадоў на адным уздыху! Апошні позірк на блізкіх мне людзей. За выключэннем бацькоў, якія прыедуць на першае ж спатканне, астатніх я ўбачу зусім не хутка. Развітваюся з адвакатам. Яго з’яўленне ў СІЗА КДБ было як глыток свежага паветра. І ў гэтай безнадзейнай сітуацыі ён змог мне дапамагчы. Паціскаем рукі і абдымаемся з Колем. Для мяне гонар падзяліць лёс з такімі людзьмі.

Веткін выхапіў ласку: чатыры гады «хіміі». Ён, Захарчык, Арсенчык, Бурачка будуць жыць няшчасным пагарджаным жыццём. Няма даравання здрадзе. Калі ў іх будуць дзеці, чаму іх навучаць такія бацькі?

…Зноўку аўтазак; прыпынак «КДБ». Выходзячы, крычу: «Таварышы, да сустрэчы!»

**20**

Спатканне з бацькамі. На гэты раз пусцілі і маці. Нашы дарагія матулі... Ужо хто па-сапраўднаму няшчаслівы, дык гэта яны. Таты таксама пакутуюць, але па прыродзе сваёй разумеюць, што суровыя выпрабаванні пойдуць іх дзіцяці на карысць. А маці не прымае ніякіх довадаў, калі яе сын за кратамі. Зняволеных заўсёды двое. Маці не можа і дня пражыць без перажыванняў за сваё дзіця. Стаяць у чэргах на перадачу, чакаць лісты, лавіць любую навіну пра турму або калонію, дзе

мы адбываем тэрмін, — вось іх прысуд з дня ў дзень, з году ў год. І таму сапраўднымі гераінямі і пакутніцамі з'яўляюцца маці зняволеных. Ведаю і бачу, што вельмі за мяне перажываюць. Але мне радасна бачыць іх бадзёрымі і ганарлівымі. Абмяркоўваем суд. Даведваюся думкі розных людзей, іх прывітанні і пажаданні. Гэтая параза — на самай справе наша перамога. Такімі працэсамі рэжым капае сабе магілу. Не ўлічылі ўрокі сталінскіх рэпрэсій, не ўлічылі.

Апошнія дні ў «амерыканцы». Адчуваю, як гэта месца губляе сваю ўладу. Промні сонца на шурпатай сцяне глядзяцца вельмі прыгожа. Але ўсё ж у іх застаецца нешта трывожнае. Гэтыя паўгода не даліся дарма. На душы назаўжды застанецца адбітак гэтага дома, чырвонага дома. Ніколі не забыць мне тое вымярэнне, калі навакольны свет распадаецца, калі памірае нават надзея, калі не існуе ні часу, ні прасторы. І ў гэтай канстанты жыццё згортваецца ў клубок чыстага страху і чыстай волі. Апошні раз аглядаю гэтыя масіўныя і суровыя сцены, калідоры, лесвіцы, поручні, вышку, скруткі дроту, жалезныя дзверы. Сотні дэталяў, і ўсе ўтвараюць адзіны маналіт, надзелены адной мэтай — растаптаць асобу. Але менавіта ў гэтым пекле, дзякуючы гэтаму кашмару, я змог зазірнуць у сябе і многае зразумець. Цудоўны матэрыял для антыўтапічных карцін, для музыкі ў стылі industrial ambient. Шкада, у мастацтве не разбіраюся, не тое раскрыў бы гэты змест праз форму. На жаль!

За тыдзень тройчы сутыкаўся з сімпатычнай дзяўчынай з белымі касамі. З абслугі. З чаго б гэта такая расхлябанасць кантралёраў? Хаця ўсё роўна. Я ўжо маральна не тут.

З дня на дзень чакаю этапу на Валадарку. У камеры кожны сышоў у сябе. Усе на судах. Уладзіміру прыйшла адмова па памілаванні. Захар сказаў што «дзядзь-

ка Вова» разлічвае вельмі моцна на ўжыванне арт. 70 (менш за меншае), але такую ласку трэба чымсьці заслужыць. Узгадваю, як у Малчанава пры азнаямленні са справай апынулася папера аб камернай распрацоўцы, якая не дала вынікаў. Па даце аднавілі той дзень і ўзгадалі, што праз пару дзён Уладзіміра перавялі. Сюды ж і яго роспыты пра тое, хто ў анархістаў галоўны, хто мне распараджэнні аддае. І спробы даведацца рэцэптуру «кактэйлю Молатава», і падбухторванне да дзеянняў а-ля Баявая Група з кнігі Акуніна «Стацкі саветнік». У сваю чаргу, я «ўключаў дурня» і плёў дзятлу абы-што...

(З размовы з адным арыштантам «амерыканкі» 2012 года мне стала вядома, што Макс Нячай насамрэч так і застаўся там. Толькі звалі яго ўжо не Максім, а Андрэй. Іншым вязням ён распавядаў, што быў арыштаваны ў 2011 годзе. Давераная яму сакрэтная інфармацыя аб запланаваным праносе забароненых прадметаў, схаваных у цыгарэтах, стала вядома турэмшчыкам. Так пацвердзілася старая арыштанцкая мудрасць — у турме нічога нельга ўтаіць ад іншых. Максім Нячай, з кім я пасябраваў і каму прыадчыніў душу, аказаўся наседкай. Як высветлілася, аб гэтым падазравалі ўсе, акрамя мяне.)

У адзін з гэтых апошніх дзён адчыніліся дзверы і ў камеру ўвайшоў... палкоўнік Арлоў уласнай персонай! Натуральна, па маю душу. Начальнік цікавіўся маім настроем, стаўленнем да тэрміну, што мне «прыпісалі». Нават выказаў некаторае спачуванне. Я не веру ў сентыментальнасць чэкістаў, і таму чакаў сутнасці дыялогу. Нягледзячы на гэта, усё-ткі быў заспеты знянацку, Арлоў раптам выпуліў: «А давайце да нас хакерам? Вунь як кітайцы разгарнуліся! Уласны ноўтбук вам дамо». Прызнацца, я аслупянеў і зусім разгубіўся. Тады Арлоў выдаў другую порцыю: «Ну, калі не хочаце хакерам, давайце сюды ў гаспадарчую абслугу. Тут добрыя ўмовы, шмат пераваг». Разрыў шаблонаў, вынас мозгу,

татальны шок... Няўжо я дзесьці калісьці хоць у чымсьці даў падставу прапаноўваць мне такое? Колькі людзей загінула ў барацьбе з гэтай канторай? А колькі мільёнаў лепшых прадстаўнікоў народа яны змарнавалі?! А як здзекуюцца з народа зараз? І яшчэ думаюць, што я прамяняю сумленне на іх нікчэмныя падачкі. Камфорт, магчымасці... Усё гэта ў мяне было, і пра іх страту я не шкадую. Адказаў так:

— Я лепш вазьму тэрмін у лагеры.

— Восем гадоў — гэта нямала.

— Мне абыякавы тэрмін, буду развівацца.

— Усе так кажуць. Першыя тры гады яшчэ цярпіма, а пасля...

— У мяне будзе магчымасць пра ўсё даведацца на практыцы. Наша гуманная дзяржава прадаставіла мне такую магчымасць.

Шчыра кажучы, так і не змог зразумець гэтых камітэцкіх палкоўнікаў. Яны ўмеюць гаварыць выключна пераканаўча, хоць і хлусяць. Але хлусіць — іх прафесійны абавязак, і таму мне так і засталося незразумелым, у якіх словах быў прагматычны разлік, а ў якіх — сапраўдныя меркаванні. Усё гучыць аднолькава. Арлоў неаднаразова заяўляў, што яго мэта — прымусіць нас сумнявацца. Што ж, гэтай мэты ён, безумоўна, дасягаў. Я прыйшоў да высновы, што палкоўнік КДБ — гэта майстар далікатных даручэнняў: ні дадаць, ні адняць.

Што тычыцца Арлова, то мне здаецца, што ён нас шкадаваў. Але не варта блытаць гэта пачуццё са звычайным людскім жалем. Тут — нешта іншае. Чымсьці ён быў падобны на Крамера, таго напалову маньяка з фільма «Піла». Але не зусім дакладна. «Піла» ўсё ж такі кіраваўся этычнымі меркаваннямі. Ён прагнуў гуманістычнага ператварэння асобы ў экстрэмальных умовах. Тут жа пра гуманізм гаворкі не ідзе зусім. Найбольш прыдатны персанаж будзе ўсё ж такі О'Брайн з «1984»

Оруэла: перакананы, сістэмны, бязлітасны. Яго жаласлівасць — гэта жаласлівасць аб вінціку, які выпадае з адзінага механізма. Але перад тым, як пайсці, ён-такі прамовіў: «Магчыма, восем гадоў усё ж несправядліва».

...Этап на Валадарку. Адбылося! Развітваюся з сукамернікамі, кешар у рукі, шмон, фармальныя працэдуры. Вядуць да бусіка. Абарочваюся, азіраю гэта месца, наскрозь прасякнутае пакутамі, горам, адчаем. «Амерыканка»... Калі-небудзь тут будзе музей.

(Праз некалькі месяцаў палкоўніка Арлова вызвалілі ад пасады начальніка «амерыканкі» і накіравалі на іншы аб’ект. Аднак, па некаторых звестках, на новым месцы ён не затрымаўся: быў зусім звольнены з КДБ. Арлоў спрабаваў аднавіцца і нават судзіўся ў закрытым судзе. Але тая сістэма «воўчай зграі», якой Арлоў так аддана служыў, адпрацаваны матэрыял назад не прымае.)

**21**

Валадарка — гэта буйныя змрочныя скляпенні і доўгія калідоры. Але развязныя манеры мянтоў і зэкаў адразу кажуць, што суровая цішыня — толькі фасад. Тут мурашнік, працяты тысячамі нітак, ён кіпіць жыццём. Атрымліваю матрац, пасля халодны душ, чаканне ў адстойніку, нарэшце падымаюся ў «хату». Уражанні абсалютна супрацьлеглыя тым, што былі, калі ўпершыню перада мной адчыніліся дзверы ў камеру «амерыканкі»... Здаецца, што трапляеш у бяндзёгу[35] да гастарбайтараў. На цябе скіроўваюцца позіркі з верхніх і ніжніх ярусаў нараў, з-за стала і нават з падлогі. Пятнаццаць мужыкоў, узмакрэлыя ад спёкі і духаты, сядзяць у адных трусах у апраметным кумары тытунёвага дыму. Вось цяпер я ў сапраўднай турме!

4 чэрвеня — дзень шчасця. У камеры 10 шканароў, 16 чалавек: палова — эканамічныя, трое наркаманаў, угоншчык, махляр, ка́рдар[36] нардэп[37], аліментнік, за-

бойца, бандыт, палітычны (Казакоў) — карацей, Ноеў каўчэг. Тут рух 24 гадзіны ў суткі, тут паветра прасякнута нейкай вольнасцю, а не толькі цыгарэтамі і потам. Пачаставалі гарбатай, далі пачытаць газету з рэпартажам пра суд, параўноўвалі з фоткай: «падобны — не падобны». Новы рытм і атмасфера свабоды аказалі незвычайны эфект: дні тры я прахадзіў у ступары. Так моцна адвыкаеш ад буйнога соцыуму і так глыбока сыходзіш у сябе за паўгода! Мужыкі гэта прыкмячалі, выказвалі спачуванне, цікавіліся асаблівасцямі ўмоваў «амерыканкі» і тым, як там прасавалі. Стараўся расказаць усё як было, але адчуваў, што не ўсе рэчы магу перадаць словамі.

Як перадаць адчуванне чакання катаванняў, якое ўзмацняецца з дня на дзень? Альбо адчуванне сталага назірання за табой? Тут у камеры былі мёртвыя кропкі для вочка, тут была адгароджаная (!) прыбіральня, можна было пабыць аднаму хоць троху. Трэба пазбавіцца нават гэтага, каб зразумець, што значыць пазбаўленне аўтаномнай прасторы для асобы.

Мяне вызначылі ў начную змену: з 8 раніцы да 8 вечара шканар мой, наступныя 12 гадзін — іншага чалавека. Так і працякалі дні: удзень спаў, уночы камунікаваў, гуляў у нарды і шахматы, вырашаў свае справы. Зэкаўская кемлівасць дазволіла мне звязацца з Сашам — сапраўдны падарунак! Мы максімальна выкарыстоўвалі магчымасць, якая нам прадставілася. У ацэнках падзей мы былі аднадумцамі. Класна, калі ёсць адзінства і разуменне, нягледзячы на ізаляцыю і цяжар на душы. Бо на волі далёка не ўсё так, як хацелася б: хапіла і страт, і расчараванняў. Але што рабіць, як казалі легіянеры, marsh or die[38].

Кароткае спатканне з маці. Нарэшце мы змаглі пагутарыць без аглядкі на камітэтчыкаў. Даведаўся ў адносных дэталях, што адбывалася на працягу гэтых шасці

месяцаў. Як быццам новы свет адкрыўся. Вакуум стварыў ілюзію цішыні, а на самай справе звонку ішоў актыўны рух. Плаціна грымнула. Лінуў струмень лістоў са словамі падтрымкі і салідарнасці ад самых розных, знаёмых і незнаёмых, а часам і зусім нечаканых людзей. У такой сітуацыі неяк адразу напаўняешся жыццёвай энергіяй, становішся значна мацнейшым.

За 10 дзён спазнаў сякія-такія асновы арыштанцкага жыцця. З савецкіх часоў у турмах і зонах трымаецца асаблівы ўклад зэкаўскай культуры. Паняцці — нефармальны кодэкс турмы — ахопліваюць усе сферы жыцця чалавека, выбудоўваюць альтэрнатыўную сістэму каштоўнасцей. Вось уначы кампанія размалявала маркерам спячага наркамана, ён вылаяўся на іх. Здавалася б, натуральная рэакцыя, усе забыліся. Але ж не. Раніцай «смотрящий»[39] зладзіў «арэлі»[40]: маўляў, не меў права наркаман так абзывацца, паколькі не адпавядае ўчынак сказаным словам. Схáваў[41] наркаман прад'яву[42], давялося адказаць за словы. І быў біты, і быў гнабімы. Вось заехаў бомж, п'яны і брудны. Хоць звычайна яны імкнуцца заехаць у турму на зіму, перачакаць маразы. Не паложана ў правільнай хаце як звяры жыць, чысціня выконваецца ідэальна. Узялі мужыкі пакеты на рукі, адмылі начыста, знайшлі шмаццё яму, мыла, пасту, шчотку. Хоць і чушка, а крыўдзіць не дазволена — ні па паняццях, ні па-людску. А вось адбылася кілішоўка[43]: забралі аднаго арыштанта, закінулі іншага, страгача. Па законе забаронена, хто ведаў, той пераглянуўся. Падазрона, з чаго б гэта? Значыць, каламуціць нешта оперчастка, не дрэмле кум. Гэта былі толькі першыя сігналы іншага, невядомага свету, але на волі немагчыма ўявіць сабе, наколькі ён велізарны, усёабдымны, як ён паглынае асобу.

Розныя людзі, розныя шляхі, розныя ўклады, але непрадказальны лёс звёў усіх тут у адной бядзе. Раз-

маўляючы з людзьмі пра іх справы, сітуацыі ў турмах і на зонах, тактыку паводзінаў абвінавачаных і следчых, якая выпрацоўвалася тысячамі і тысячамі выпадкаў і, як старажытныя веды, перадаецца ад зэка да зэка, я пабачыў відавочную сутнасць «праваахоўнай» сістэмы. У сваю чаргу, сама гэтая карная сістэма арганічна ўпісваецца ў агульны лад беларускага грамадства. Развагі аб сістэме[44] складзеныя мной нават без усякага анархізму на аснове гутарак у салідарна-даверлівай атмасферы, якая ўзнікае ў цяжкіх і экстрэмальных умовах турэмнага зняволення. Гэта меркаванні палітыкаў, бізнесменаў, навукоўцаў, чыноўнікаў, прадстаўнікоў сілавых ведамстваў і крымінальнага свету. Сутнасць разваг нечакана падвёў малады кардар: «Галаву, хворую на рак, вылечыць нельга. Яе трэба адрэзаць».

**22**

Апошняя ноч, заўтра этап на лагер. Хтосьці спіць, нехта курыць каля рэшкі, хтосьці гуляе ў нарды, а я хаджу ад дубка да тармазоў, шэсць крокаў туды-назад. Турма, што я пра яе наогул ведаў? Я ж з вышэйшай адукацыяй, інжынер па прафесіі, не наркаман, не алкаголік, не агрэсіўны — гэта ж не маё, я тут выпадковы пасажыр. Але вось заварушылася памяць, не ўсё так гладка, як здавалася.

...Мама расказвала, што адзін наш прадзед быў расстраляны ў 37-м як агент польскай дэфензівы, другі — сагнаны ў 16 гадоў на працы ў Нямеччыну, а пасля адматаў за гэта дзясятку сталінскіх лагераў. Сваяк наш сядзеў, і не раз. Усё ўмеў рабіць, залатыя рукі. У дзяцінстве жылі ў нас суседзі па лесвічнай клетцы, з блатнога свету. Бывала, мянты абшуквалі іх кватэру. Хоць жулікі, а падкрэслена ветлівыя і пазыку заўсёды своечасова аддадуць. Былі і песні на лавачках пад гітару, пра ўцё-

кі зэка. Быў выпадак, адзін знаёмы з тусоўкі «хімію» атрымаў за бойку з фашыстамі.

У студэнцкія гады ўзялі мяне аднойчы мянты з накладам стыкераў. Пасля гэтага ў інстытут па маю душу заявіўся чэкіст, разам з дэканам правялі са мной «прафілактычную гутарку». Тады ж і данос на мяне паступіў ад выкладчыка правазнаўства, адстаўнога вайскоўца, пра мае погляды на дзяржаву. Яшчэ ўспомнілася, год таму назад позна ўвечары шпацыраваў з сяброўкай па сваім старым раёне, Велазаводзе. І ўбачыў каля метро карціну: патройнае ачапленне салдат з аўтаматамі, аўчаркі, начальства ў вялікіх фуражках. А наперадзе — цягнік, уздоўж якога дзіўна рухалася вялікая калона людзей, кароткімі перабежкамі, паўпрысядам, з бауламі ў руках. Некаторыя чамусьці ў плоскіх кепках. І так гарлапанілі на іх канваіры, і аўчаркі надрываліся, і азіраліся па баках салдаты, быццам хавалі нешта, і так гэта не адпавядала начной цішыні пустых вуліц, што стаў я як укапаны і не мог погляд адвесці. Праз пару месяцаў ехалі мы вялікай кампаніяй на начны рэйв у адзін раённы горад. На пад’ездах да горада заблукалі. Пятляючы па прамысловай зоне, праязджалі каля доўгага шматрадовага плота з густымі віткамі калючага дроту, з-за якога відаць былі вышкі і баракі. Тужлівае такое месца, пад Наваполацкам. А праз тыдзень я кінуўся на ўцёкі.

Турма заўсёды дзесьці маячыла, строіла морду з-за рога дзесьці ўскосна, дзесьці жыццё паказала выразнае. Не быў я тут выпадковым пасажырам. Па-іншаму і быць не магло.

...Этап. Нават не ведаю куды. Забралі раніцою і трымалі да вечара ў адстойніку[45] з дзясяткамі іншых небаракаў. Спрэс моладзь з усёй краіны, разгубленыя і трывожныя твары. Спачатку шмон турэмны, пасля шмон канвойны, з гумовымі пальчаткамі і металадэтэктарамі.

У адстойніку сутыкаюся з палітычным Кіркевічам: таксама сядзеў у «амерыканцы», не перастаў размаўляць выключна на беларускай мове, а ў Валадарцы сядзеў з Колем. Дасталі кіпяцільнік, кубак, п'ём гарбату. Зноў кілішоўка ў іншы адстойнік. Вады няма. Нарэшце выводзяць. Выстройваемся ўздоўж сцяны пад аркай двара. Называюць прозвішча — і з рэчамі ў аўтазак. Разам з кешарамі лезем у стаканы, як шпроты ў бляшанку. Вязуць на станцыю. Месца перасадкі ачэпленае: па адным, праз калідор з канваіраў грузімся ў вагоны. Вось ён, знакаміты «сталыпін»[46]. Трох'ярусны плацкарт, без акна, адгароджаны ад калідора кратамі. Ярусы з глухой столлю: каб патрапіць на наступны, трэба пралазіць у люк. Кітайскі экспрэс.

Вось і ўсё, наперадзе — новая паласа. Што я зразумеў за гэты час? Сапраўднае багацце — гэта людзі, якія застаюцца з табой, нягледзячы на ўсе нягоды. Упэўненым можна быць толькі ў тых, хто дзеліць з табой выпрабаванні, побач і на адлегласці. Астатняе — крохкае.

Мінулае існуе ў тваіх успамінах, будучыня — ва ўяўленні, але сапраўды важнае толькі існае, канкрэтны момант часу. Мінулае паблякне, яго перайначаць і абылгуць, чаканая будучыня можа так і не наступіць, але погляд назад і памкненне наперад напаўняюць сэнсам гэта самае Тут і Цяпер.

Сёння свабоды няма. Пакуль існуе дзяржава, мы не можам быць вольныя. Але можна дакрануцца да свабоды, адчуць яе дыханне ў змаганні за яе. Барацьба прыносіць у жыццё ўсе тыя пачуцці і думкі, якія прыдушвае дзяржаўная дысцыпліна. У барацьбе за свабоду мы не толькі набліжаем чаканы дзень перамогі справядлівасці, але і ратуем сваю ўласную асобу ад шэрасці быцця і дэградацыі. Любы акт вызвалення мае сэнс Тут і Цяпер.

Наперадзе гады змроку і выпрабаванняў, але мяне гэта не засмучае. Чым горш — тым лепш, бо што не

забівае, тое робіць нас мацнейшымі. Скарыстаць выпрабаванні з карысцю для сябе — гэта адзінае правільнае рашэнне. Мяне чакае магчымасць спазнаць знутры ўвесь гэты свет, народжаны векавым кругазваротам мільёнаў людскіх лёсаў у засценках турмаў і лагераў.

...Цягнік імчыць кудысьці на поўнач. Усе спяць, толькі два бывалыя зэкі абмяркоўваюць лагернае жыццё ды канваір у бронекамізэльцы павольна ходзіць па «сталыпіне». А ў галаве засеў матыўчык песні з турмы «Еду ў Магадан», і на душы лёгка.

*Лета 2011 г.*

*Пераклад **Таццяны Шапуцькі**,*
*газета «Новы час»*

## КАРПАРАЦЫЯ

Беларусь — гэта сямейная карпарацыя са штогадовым прыбыткам у некалькі дзясяткаў мільярдаў даляраў (для параўнання, штогадовы даход Intel — 15 млрд даляраў, Apple — 45 млрд даляраў). На чале карпарацыі стаіць савет дырэктараў з міністраў і кіраўнікоў камітэтаў пры Савеце Міністраў. Яны — не гаспадары, а ўсяго толькі топ-менеджары. Любы з іх заўтра можа апынуцца нікім. Рэальны гаспадар толькі адзін — Сям'я. Сярэдняе звяно карпаратыўнага менеджменту (узровень выканаўцаў праектаў) складае каля 1000 чалавек. Гэта людзі, у чыіх руках сканцэнтравана хоць нейкая істотная ўлада. Ніжні ўзровень — выканаўчы персанал, тыя, хто забяспечвае палітыку карпарацыі на месцах. Сумарна апарат карпарацыі складае каля 90 тысяч функцыянераў. Гэта і ёсць кіруючы клас краіны. Апарат закліканы выконваць дзве найважнейшыя задачы карпарацыі:

1) улік, кантроль, збор падаткаў з усёй гаспадарчай дзейнасці ў краіне;

2) гарантаванне карпаратыўнай бяспекі і сацыяльнага падаўлення.

Найбольш прыбытковыя галіны карпарацыі — перапрацоўка і продаж расійскай нафты і нафтапрадуктаў,

калійных угнаенняў, прадукцыя машынабудавання і мяса-малочнага комплексу, тавары хімічнай прамысловасці.

80% усёй уласнасці належыць дзяржаве, 20% — прыватным асобам. Прыватны бізнес больш эфектыўны за дзяржпрадпрыемствы, але Сям’я ўсяляк стрымлівае яго рост. Па-першае, дзяржуласнасць прасцей абкрадаць. Найбуйнейшыя кавалкі сыходзяць персанальна Сям’і. Па-другое, інтарэс апарату карпарацыі. Разам з карпаратыўнымі льготамі і прывілеямі кіруючы персанал жадае атрымліваць сваю долю прыбытку ў абмен на лаяльнасць. У ход ідуць законныя і незаконныя крадзяжы, адкаты, субпадрады, кумаўство і г. д. Схемы крадзяжоў адпрацаваныя да бляску. Сям’я вымушаная з гэтым мірыцца. Па-трэцяе, прыватызацыя, хоць і абяцае імгненныя выгады, вядзе да росту колькасці буржуазіі, г. зн. прыватных юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў. Небяспека ў тым, што буржуазія не жадае (па прыродзе сваёй) дзяліцца з кім бы там ні было, і таму непазбежна хоча скінуць з сябе ярмо сямейнай карпарацыі. Будучы шматлікай, валодаючы здольнасцямі, воляй і сродкамі, буржуазія імкнецца аб’яднацца з ліберальнымі палітычнымі рухамі (апазіцыяй) і / або часткай карпаратыўнага апарату. Мэта — скінуць Сям’ю і ўсталяваць калегіяльны орган кіравання апаратам, г. зн. парламент. Ліквідаваць прыватны сектар цалкам Сям’я не можа, бо камерцыя — рабочы конік, за кошт якога затыкаюць дзіркі ў эканоміцы.

На самым нізе, пад карпаратыўным апаратам і гаспадарчымі суб’ектамі, знаходзіцца народанасельніцтва, якое называецца беларусамі. Яно не валодае абсалютна нічым, бо ў асноўным залежыць ад бюджэту і дзяржаўных прадпрыемстваў. Народанасельніцтва — гэта вечны галаўны боль карпарацыі, таму што яно патрабуе забеспячэння ў выглядзе заробкаў, ільгот, медыцыны,

транспарту, адукацыі, арганізацыі вольнага часу. Праблемы пачынаюцца тады, калі масы праяўляюць незадаволенасць. Па вялікім рахунку, самі па сабе незадаволенасць і хваляванне насельніцтва для карпарацыі не ўяўляюць пагрозы. Іх з лёгкасцю могуць задушыць сілы бяспекі. Адзін толькі МУС налічвае 14,5 супрацоўніка на 1000 чалавек насельніцтва. Аднак незадаволенасцю могуць скарыстацца буржуазія і ліберальныя палітычныя сілы. Вось чаму Сям'я ўсяляк душыць любыя праявы грамадзянскай супольнасці, не дае фармавацца ўстойлівым ліберальным сілам, прыхавана рэпрэсуючы актыўных дзеячаў ад буржуазіі і апазіцыі (да прыкладу, адлічэнні і звальненні, праверкі бізнесу і г. д.).

Хваляванні народанасельніцтва — штука перманентная. Па сваёй логіцы ланцужок выглядае так: незадаволенасць — хваляванні — страйкі — бунт — рэвалюцыя. Больш за ўсё астатняе карпарацыя баіцца нават не ліберальнага ўплыву на масы, а расчаравання мас у любых сілах наогул. Калі насельніцтва зразумее, што ўсё вакол створана ім жа, што без звычайных працоўных начальнікіператвараюцца ў нішто, калі насельніцтва адчуе сваю сілу, то ў гэты момант насельніцтва трансфармуецца ў народ. Народ — гэта соцыум, які ўсведамляе сябе, свае правы і свае інтарэсы. І гора тады любой уладзе!

Усе палітыкі ва ўсе часы з асцярогай глядзяць на «народную карту» ў сваіх гульнях. Адваротны бок гэтай карты — сацыяльная рэвалюцыя. І яе немагчыма ўтаймаваць нічым, акрамя жорсткага тэрору. З гэтым сутыкнуліся банапартысты часоў Французскай рэвалюцыі, з гэтым сутыкнуліся і бальшавікі. Нездарма Ленін з Троцкім казалі, што народныя паўстанні былі для іх больш небяспечныя, чым усе белыя арміі разам узятыя! А таму карпарацыя робіць усё, каб насельніцтва заставалася абыякавым да палітыкі. Менавіта таму другой

функцыяй карпарацыі з’яўляецца ўласная бяспека і сацыяльны прыгнёт.

У карпарацыі існуюць спецыяльныя інстытуты, якія на самай сучаснай навуковай аснове адсочваюць магчымы ўплыў ваганняў эканомікі на настрой думак мас. Шляхам эфектыўнага маніпулявання лічбамі ў галіне сацыяльнай палітыкі ў карпарацыі атрымоўваецца год за годам забяспечваць адносную абыякавасць. Адзін з такіх механізмаў — Камітэт дзяржаўнага кантролю, які атрымлівае канкрэтныя інструкцыі зверху. Але гэта прыватныя выпадкі. У цэлым сістэма сацыяльнага падаўлення навязвае насельніцтву:

1) каштоўнасці канфармізму, калі людзі баяцца і саромеюцца думаць не так, як усе;

2) каштоўнасці спажывецтва, калі асабісты рост прывязваецца да ўзроўню выкарыстаных матэрыяльных выгод;

3) каштоўнасці нацыянал-патрыятызму, калі праз гіпербалізацыю калектыўнага пачуцця прымушаюць любіць сімвалы карпарацыі, адчуваць адзінства з ёй, атаясамліваць сябе з кіруючым класам, бачыць у насельніцтве іншых краін ворагаў, ідавочных і прыхаваных.

Сацыяльны прыгнёт уключае ў сябе штучнае падтрыманне пастаяннага дэфіцыту (каб ледзь хапала), пачуццё знешняй і ўнутранай пагрозы, каб адцягнуць людзей ад разумення сапраўдных праблем і прычын, якія спараджаюць гэтыя праблемы. Акрамя навязвання разбуральных каштоўнасцяў, акрамя штодзённага абалваньвання і хлусні праз СМІ, карпарацыя актыўна праводзіць палітыку алкагалізацыі і наркаманізацыі насельніцтва. Першае — легальна, праз манаполію на продаж алкаголю і тытуню. Другое — нелегальна, праз крышаванне лабараторый, каналаў паставак і дылерскіх сетак (так, менавіта так!). Гэта і вельмі вялікія грошы, і выгадны сацыяльны інструмент.

У ідэале Сям'я хацела б валодаць:

1) абсалютна лаяльным і безадмоўным карпаратыўным апаратам;

2) пакорлівай буржуазіяй, заўсёды гатовай быць астрыжанай;

3) фармальнай нежыццяздольнай апазіцыяй у якасці шыльды «цывізізаванаму» свету;

4) паслухмяным быдлам, якое знаходзіцца ў стане поўнай дэградацыі, замест народа

Людзі для карпарацыі — расходны матэрыял. Заўсёды знойдзецца патрэбная колькасць беспрынцыпных кар'ерыстаў, гатовых па касцях лезці ўверх і папоўніць кіруючы клас, атрымаўшы для гэтага неабходную адукацыю і адмовіўшыся ад сумлення. Астатнія хай дэградуюць, эмігруюць...

І ўсё ж, нягледзячы на хітрыкі сацыяльнага маніпулявання, культурнага абезасаблення, прывязкі да дзяржсектара, ключавым інструментам падаўлення насельніцтва з'яўляецца карная сістэма, то бок апаратыўная распрацоўка, следства, пракуратура, суды, «папраўчыя» ўстановы. Вышэй была падрабязна разабраная судова-следчая механіка. Логіка яе працы патрабуе ўсё новых і новых спраў, што забяспечвае ўласнае бесперапыннае функцыянаванне. Пенітэнцыярная[47] сістэма выдае 45% (як мінімум!) рэцыдыву. Відавочна, што сістэма аднаўляе злачыннасць дзеля забяспячэння свайго існавання. Нашы лёсы — гэта паліва карных органаў. Вядома, прыведзенае сцвярджэнне тлумачаць толькі прынцыпы функцыянавання і самападтрымання гэтага механізму. Але ў чым заключаецца падаўленне, які сацыяльны эфект дасягаецца? Здавалася б, органам выгадна мець «хуткі кругазварот»: ад грамадзяніна да статусу зэка, і зноў, і зноў, г. зн. было б выгадна саджаць рэцыдывістаў на нязначныя тэрміны, каб яны хутчэй вызваляліся, здзяйснялі новае злачынства (ці ім прышы-

валі чыё-небудзь), распачыналася справа і далей па накатанай. І сапраўды, прафесійныя злачынцы або тыя, хто прыняў злачынны лад жыцця (майстэрствам не валодаюць), і дэбілы-дурні абмяжоўваюцца адносна мяккім пакараннем. Але пры гэтым велізарная колькасць першаходаў, чыё злачынства не звязана з крыміналам як такім, атрымліваюць унушальныя тэрміны, што ў рамках самой карнай сістэмы немагчыма зразумець. Навошта? Адказ становіцца ясны, калі скласці карціну сацыяльнай палітыкі карпарацыі з карцінай псіхалагічных тыпаў т. зв. «цяжкіх» злачынцаў (ад 3–6 гадоў і вышэй, аж да 20–25 гадоў пазбаўлення волі). У масе сваёй — і гэта кідаецца ў вочы любому — гэта людзі больш актыўныя, больш ініцыятыўныя, больш разумныя, больш арыгінальныя і, самае важнае, больш прынцыповыя, чым звычайны сярэдні абывацель краіны. «Дробязь» атрымліваюць альбо майстры-профі (іх вельмі мала, яны рэдка трапляюцца), альбо (абсалютная большасць гэтай катэгорыі) душэўныя калекі, якія спіліся, апусціліся, альбо простыя, але недалёкія людзі, якія трапілі па дурасці, непаразуменні або беззаконні. Іншымі словамі, «цяжкія» — гэта людзі, у асноўным здольныя на ўчынак, на рызыку, якія ведаюць сабе кошт і гатовыя змагацца за лепшую долю і павагу, хоць бы для саміх сябе. Гэта пасіянарная частка грамадства, якая б заняла ў гэтым самым грамадстве бачнае месца.

Выбіральна душыць свядомых грамадзян, патэнцыйную буржуазію, сацыяльных актывістаў, палітычных дзеячаў, працоўных лідараў — клопатны і ненадзейны працэс. Куды больш эфектыўна для задач сацыяльнага падаўлення душыць актыўныя сілы грамадства ў цэлым, масава. Гэта і дасягаецца праз мікраадбіранне (асуджэнне чалавека на доўгі тэрмін пры добрапрыстойнай падставе) актыўных, у шырокім сэнсе

слова, індывідаў. Гэта і карупцыя, і эканамічныя крадзяжы, і славутыя АЗГ (арганізаваная злачынная група), і забойствы. Усе гэтыя людзі патэнцыйна небяспечныя для самой карпарацыі, таму што валодаюць больш моцнымі інтэлектуальнымі і валявымі якасцямі. Дзякуючы ізаляцыі ў лагеры на доўгі час, чалавек выпадае з жыцця і ўжо наўрад ці зможа дасягнуць таго, чаго мог: хтосьці зламаецца, нехта з’едзе, хтосьці падарве здароўе. Ёсць такі тэрмін — «падаўленне інтэлігенцыі» — для абазначэння генацыду народа. Я гэта і маю на ўвазе, толькі разумею некалькі шырэй: падаўленне актыўных сіл грамадства наогул.

Зараз аб масавасці такой методыкі. За 20 гадоў у краіне перасядзела ў турмах і лагерах не менш за... паўмільёна мужчын! Усяго праз пенітэнцыярную сістэму, улічваючы «хімікаў» (ссыльных), калоніі-паселішчы і інш., прайшло не менш за 1,2 млн чалавек, у пераважнай большасці мужчын, г. зн. 60–70 тыс. асуджаных штогод. Гэта пры агульнай колькасці працаздольных мужчын 2–2,5 млн у краіне! Гэта значыць, кожны другі мужык сутыкнуўся з сістэмай, а кожны пяты (20%) пацярпеў ад турэмна-зонаўскай апрацоўкі. Нацысты лічылі, што пры ліквідацыі 15% насельніцтва рэпрадуктыўнага ўзросту народ дэградуе. Троцкі, пры падаўленні казацкіх мяцяжоў на Доне, прапаноўваў знішчыць такі ж працэнт дарослага мужчынскага насельніцтва. Як інакш можна тлумачыць такое «супадзенне»? Ці карпарацыя не разумее, што робіць? Усё яны выдатна разумеюць і дзеля ўтрымання ўлады гатовыя на ўсё!

Кажуць, беларусы «такія-сякія», нічога нармальнага няма, усё праз адно месца. А як па-іншаму, калі саджаюць і саджаюць пачкамі? Мы можам бачыць, да чаго за 20 гадоў прывялі гэтыя мікраадабранні: развіццё грамадства застапарылася, убогая культура, зніжэнне маральнасці, размыванне прыстойнасці, масавая абыяка-

васць, адсутнасць супраціву ўладам. Вось ён, духоўны генацыд. Але варта толькі ненадоўга аслабіць хватку, і вы ўбачыце, як дух адраджаецца.

За час існавання карпарацыі карная сістэма перацярпела пэўную эвалюцыю. На дадзены момант яна цалкам аднавіла навыкі і вопыт УНК–ДПУ–НКУС да ўзроўню пачатку 30-х гадоў, гэта значыць пачатку татальных расстрэлаў і найбольш гучных спраў сталінскіх рэпрэсій. Дзіўнае падабенства многіх этапаў развіцця рэпрэсіўных органаў тых гадоў і ў наш час не пакідае сумневаў, што ў аснову палітыкі Сям'я кладзе вопыт і методыкі Сталіна. Зрэшты, захапленне гэтым дзеячам (як і Гітлерам) ніколі і не хавалася.

Сталін пачаў з таго, што разграміў сваіх прамых праціўнікаў, у першую чаргу Троцкага і яго асяроддзе. Некалькі пазней прайшла калектывізацыя і раскулачванне. Т. зв. «кулакоў» асуджалі на смерць у сібірскіх спецпасяленнях, а іх хлеб прадаваўся за мяжу за валюту. У той жа час праводзілася траўля палітычных апанентаў, былых трацкістаў, фракцыяністаў, ухілістаў і да т. п. Аднак на той момант усё заканчвалася адносна мякка: ссылка на тры гады была крайняй мерай, што не ідзе ні ў якое параўнанне з фактычным знішчэннем працоўнага сялянства паралельным курсам. Бліжэй да сярэдзіны 30-х сталі актыўна фігураваць «шкоднікі», з ходам індустрыялізацыі ўсё больш людзей сталі асуджаць за «псаванне сацыялістычнай уласнасці». Затым «шкоднікі» плаўна перацяклі ў «сабатажнікаў», махавік стаў раскручвацца. Адметнай рысай сабатажу былі калектыўныя справы тэхнічных спецыялістаў. Заставаўся толькі крок, каб «сабатажнікаў», «дыверсантаў», «тэрарыстаў» хтосьці «ўзначаліў» палітычна. Забойства Кірава[48] стала такім гучным, нябачным крокам. Пачаліся тыя рэпрэсіі, якія вядомыя пад назвай «37-ы год»: працэсы Прампартыі[49], Зіноўева–Каменева, Пятакова–

Радэка, чыстка саміх карных органаў (Ягода, Яжоў), затым вайскоўцаў (Тухачэўскі і інш.) Найбольш ужывальныя ярлыкі, якія вешалі на абвінавачаных, — «агенты сусветнага імперыялізму», «ворагі народа», «пятая калона» і інш.

Сям'я пачала з ліквідацыі прамых і сапраўды небяспечных супернікаў (Захаранка, Ганчар, Красоўскі)[50] і разгрому парламента. Крыху пазней быў разбіты свет арганізаванай злачыннасці. «Смотрящий» за Беларуссю — злодзей у законе Шчаўлік — забіты, астатнія атрымалі ультыматум на працягу 24 гадзін пакінуць тэрыторыю краіны. Да гэтага моманту была праведзена вельмі маштабная аперацыя па АЗГ — «светлагорская справа». Што характэрна, колькасць дзейных асоб для сапраўды шырокай крымінальнай структуры апынулася досыць невялікай — 15 чалавек. Максімальны тэрмін склаў 15 гадоў.

Першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя адзначалася разгонам і цкаваннем апазіцыі, паступовым звужэннем свабоды слова і друку, адлічэннямі ўдзельнікаў дэманстрацый з універсітэтаў. Прадпрымальнікам абяцалі «пацiснуць руку ў 2010 годзе» і абдзіралі як ліпку. У 2006 з'явіліся буйныя палітвязні, а пагроза «хіміі» стала зусім рэальнай. Упершыню былі асуджаныя людзі за дзеянні ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Пакуль што разавыя выпадкі. У гэты ж час карныя органы на ўсю моц адпрацоўвалі крымінал. Праўда, незразумела, адкуль ён узяўся на такім узроўні пасля разгромных 90-х. Гэты час можна смела назваць «эрай АЗГ». Трэба патлумачыць, што АЗГ — гэта мафія, г. зн. структура, якая складаецца з розных падраздзяленняў са сваёй спецыялізацыяй, ад сілавых груп да юрыстаў і чыноўнікаў. КДБ і УБАЗ вырашылі не затлумляцца і пачалі штампаваць АЗГ дзясяткамі, ушчэнт пераплюнуўшы нават расійскіх сілавікоў. Колькасць спраў зашкальвала. Па

адной толькі Гомельскай вобласці «раскрыта» не менш за паўтара дзясятка АЗГ за 10 гадоў! Хойніцкія, уманаўскія, справа «кідал», рэчыцкія, марозаўскія, пажарнікі... Калі першыя АЗГ складалі «сціплыя» 5–15 чалавек, то да 2006 года на лаве падсудных ўжо сядзела па 70 (пажарнікі) і 130 (марозаўскія) чалавек! Адкуль?! Тэрміны фантастычныя — 10–25 гадоў! У поўнай адпаведнасці з тэхналогіяй сталінскіх працэсаў за аснову бяруцца некалькі чалавек, далей нарошчваюць іх кантактных асоб, эпізадычных або зусім выпадковых, такім чынам, справа набывае бачнасць аб'ёмнасці і сур'ёзнасці, становіцца магчымым прымяніць значна больш цяжкія артыкулы. Могуць аб'яднаць не звязаныя адну з адной, а часам і тыя злачынныя групы, што ваявалі паміж сабой, у адну арганізацыю і заявіць АЗГ. Любыя людзі з кола кантакту target group могуць трапіць пад следства. Практыкуецца паслядоўнае ўзбуджэнне спраў — нібыта не звязаных, — каб здушыць і атрымаць паказанні. Напрыклад, справа МТЗ, у якой, каб «ушатаць» галоўнага тэхнолага, распачалі яшчэ дзве справы на зусім іншых людзей, якія з прычыны сваіх прафесійных заняткаў маглі патэнцыйна даць тое, што патрабуецца.

Такі падыход працуе і ў адваротны бок: рэальную АЗГ свядома дробняць на не звязаныя злачынныя групы і асобныя эпізоды. Да прыкладу, справа мытнікаў, што распрацоўваецца следчай групай Байковай. Пракурорршу закрылі, а справа разбілася на мноства самастойных. Сілавікі, якія праходзяць па справе, напэўна, абыдуцца вельмі лёгка. І ўсё дзеля таго, каб прыкрыць карані, якія выводзяць на самы верх. Асаблівую ўвагу варта звярнуць на тое, што велізарная колькасць следчых і операў, занятых АЗГ, пасля самі садзяцца на лаву падсудных. Яшчэ большая колькасць следчых звальняецца і адхіляецца ад справы, каб пазбегнуць шуміхі. Гэта гаворыць аб вялікай уцягнутасці сілавікоў у крымінал. Наркаган-

даль, даходы з прастытуцыі, рэкет (!), зброя, каштоўнасці — усюды мянты і чэкісты. Зладзеяў разагналі, а братву знішчылі, каб прыбраць канкурэнтаў.

Вынік 2010–2011 гадоў заканамерны: масавыя палітычныя працэсы і гучныя карупцыйныя справы. Экс-кандыдаты ў прэзідэнты, намеснікі міністраў, генералы — усё роўна, карная сістэма ўжо разварушылася. Гэта стала магчымым не адразу, а на працягу доўгіх гадоў, калі справа за справай адпрацоўвалася адна методыка — пабудова абвінавачвання на прызнаннях і паказаннях сведкаў. Рана ці позна мы павінны былі прыйсці да гэтага стану: беспраўя і мянтоўскага свавольства.

Сёння ў зонах і турмах пакутуюць каля 47 000 чалавек, у 37-м было 45 000. Дзясяткі тысяч знаходзяцца ў калоніях-паселішчах («лясы») і папраўчых установах адкрытага тыпу («хімія»). Умовы там у многім горшыя, чым на лагерах. Час назваць рэчы сваімі імёнамі — мы жывём пад акупацыйным рэжымам, які вядзе барацьбу з народам дзеля ўласнага ўзбагачэння і ўсёўладдзя.

На міжнароднай арэне Сям'я звязвае сябе з расійскім рэжымам. Расія на чале з чэкістам Пуціным будуецца на канцэпцыі «petrolium state», г. зн. паліўнай дзяржавы. Стаўка робіцца на экспарт вуглевадародаў, развіваюцца толькі адпаведныя галіны і вузкі сегмент інфраструктуры. Некалькі буйных фінансавых цэнтраў абслугоўваюць патрэбы элітаў і кваліфікаваных кадраў, у іх забяспечаны высокі ўзровень жыцця, вольны час, забавы, гандаль. Астатняя Расія расійскаму рэжыму не патрэбна. Інтарэс Сям'і заключаецца ў атрыманні долі з транзіту вуглевадародаў на Захад, а таксама самастойная перапрацоўка і перапродаж. Расійская эліта кроўна зацікаўленая ў стабільнасці стратэгічнага транзіту і таму найбольш прымае дакладна такую ж уладу ў Беларусі, якой і сама з'яўляецца, — уладу часовых.

Такое становішча спраў можа захоўвацца аж да вы-

чарпання экспартнага патэнцыялу. Да 2023 года чакаецца скарыстанне каля 80% сусветных запасаў нафты. Зразумела, рэнтабельнасць упадзе яшчэ раней. У Еўропе гэта разумеюць і актыўна развіваюць альтэрнатыўную энергетыку, заснаваную на выкарыстанні аднаўляльных крыніц энергіі. У прыватнасці, такі індустрыяльны гігант, як Германія, ужо цяпер толькі адной энергіяй ветру пакрывае 20% (!) спажыванай электраэнергіі. На змену бензінавым і дызельным рухавікам прыходзяць вадародныя. Развіццё такой тэндэнцыі азначае скон улады часовых, яны пойдуць разам з нарабаваным капіталам. А Расію ўзрушаць сацыяльна-палітычныя змены, што, верагодна, прывядзе да частковага тэрытарыяльным развалу. Таму расійская эліта збліжаецца з ЕС.

Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, Беларусь не знаходзіцца на стыку ўплыву «Расія–Захад», Беларусь адносіцца да расійскай зоны, так было на працягу ўсёй найноўшай гісторыі. Ёсць адна простая прычына: Беларусь эканамічна выконвае ролю першаснай, найбольш экалагічна бруднай, перапрацоўкі сыравіны — нафтапрадукты, газ, пластмасы, харчовыя дабаўкі, даламіт у рудзе, калійныя ўгнаенні, цэлюлозна-папяровая галіна, цэмент і г. д. Як бачым, Еўропа колькі заўгодна можа прымаць рэзалюцыі і рабіць дэкаратыўныя манеўры ў бок дэмакратыі, але фактычна такое становішча рэчаў яе цалкам задавальняе. «Гандляваць можна і з канібаламі» — вось сутнасць еўрапейскай палітыкі. Але Еўропа стараецца «цывілізаваць» Расію, далучыць да сваіх працэсаў як партнёра, у гэтым ключы закранаецца і Беларусь. Для пераканаўчасці магу дадаць наступнае: у ЕС ёсць як мінімум два магутныя механізмы ўплыву на Беларусь. Гэта візавы рэжым і санкцыі на беларускі экспарт. Калі Еўропа так хоча дэмакратызацыі ў нас, чаму яна не выкарыстоўвае гэтыя рычагі, заўважу,

вырашальныя рычагі? Вось яны, нацыянальныя інтарэсы ва ўсёй красе!

Такім чынам, нам няма адкуль чакаць дапамогі, ніхто нас не ўратуе, акрамя нас саміх. Неабходна ўсвядоміць, што справядлівы грамадска-палітычны лад магчымы толькі шляхам самавызначэння народа. Інакш — рабства, тыранія, беднасць, дэградацыя. Улада можа бясконца тэрарызаваць народ усім сваім асартыментам рэпрэсіўных сродкаў і тэхналогій. Але ў яе ёсць слабое месца — людзі. Сям'я і ўся карпарацыя ўсё ж такі людзі, ім уласцівыя тыя ж слабасці і заганы, што і простым смяротным. Гэта страх, паніка, адчай, ірацыяналізм, самаўпэўніванне. Кулямёты і танкі бяссільныя, калі няма волі, калі целам і розумам авалодвае страх за сваю будучыню. Усведамленне ўласнай праваты і гатоўнасць змагацца без кампрамісаў абяззбройвае праціўніка, які звыкся да дамінавання і беспакаранасці. У «амерыканцы» я быў сведкам адной карціны, якую запомню на ўсё жыццё. У апошнія дні снежня 2010 года, пасля старту палітыкі прасавання, на адным з абыходаў да нас у камеру зайшоў дзяжурны. Маскі сталі у прамежку насупраць дзвярэй і ўсім выглядам дэманстравалі нянавісць і пагарду да нас. У гэты момант Анатоль Лябедзька пачаў узірацца ўдалячынь, як бы скрозь іх, здавалася, быццам ён і скрозь маскі разглядае іх асобы. Дзяжурны замер на паўслове, а маскі закруціліся і... расступіліся ўбакі. Калі дзяжурны выйшаў, яны зачынілі дзверы, і ніхто не ўзняў вачэй. Яны былі ўсёмагутныя, маглі рабіць, што хацелі (і рабілі), але ўсё роўна спалохаліся. Чым вышэйшы начальнік, тым большыя абставіны ціснуць на яго. Так што не ўсё так дрэнна, як здаецца. Рэжымы разбураюцца раптоўна, гісторыя таму сведка. Воля больш матэрыяльная, чым эканамічная бязладзіца. Мы бачым, як лівійцы бяруць у рукі зброю, хоць дапамога па беспрацоўі складае \$750. Мы бачым, як

сірыйцы штодня выходзяць пад кулі, абы прыбраць ненавіснага тырана. Воля перамагае, калі чалавек кіруецца не імгненнымі інтарэсамі, але высокімі ідэаламі, каштоўнасцямі свабоды і справядлівасці, годнасці і дабрыні. Усё можа быць па-іншаму, няма ніякага лінейнага гістарычнага шляху, усё можна змяніць!

*Зіма 2011 г.*

## САМАВЫЗНАЧЭННЕ

Што значыць самавызначэнне? Самавызначэнне ўяўляе з сябе такую сістэму, у якой звычайныя людзі могуць без марнавання часу і скажэнняў прымаць рашэнні аб тым, як ім жыць. Пад гэтым маецца на ўвазе сістэма грамадзянскага самакіравання на аснове прамой дэмакратыі. Самакіраванне дае магчымасць жыхарам кожнай мясцовасці — вёскі, раёна, горада — вызначаць найлепшы для сябе лад, зыходзячы з мясцовых асаблівасцей і абставін. Прамая дэмакратыя — гэта ўдзел саміх грамадзянаў у абмеркаванні пытанняў і праблем. Анархізм прадугледжвае такую мадэль кіравання, у якой робіцца стаўка на разгалінаваныя гарызантальныя сувязі, а вертыкальныя, наадварот, мінімізуюцца. Праўдзівае народаўладдзе ўсталёўваецца тады, калі ініцыятыва і воля сыходзяць ад саміх грамадзянаў на месцах. Мяркуецца ажыццявіць прыблізна такую схему: жыхары кожнага дома на рэгулярных сходах абмяркоўваюць пытанні жыллёва-камунальнай гаспадаркі, добраўпарадкавання прылеглых тэрыторый, экалагічнае становішча, пытанні правааховы і г. д. Дамавы камітэт абіраецца жыхарамі і кантралюе выкананне рашэнняў жыллёвых сходаў, а таксама займаецца актуальнымі справамі. Камітэт падпарадкоўваецца толькі сходу: у любы момант жыхары могуць змяніць склад камітэта. Такім чынам, уся ўлада

ў межах дома засяроджаная ў руках саміх грамадзянаў, якія яго насяляюць. Ніхто не зможа навязаць жыхарам несправядлівых і шкодных рашэнняў.

Дамавыя камітэты дэлегуюць сваіх чальцоў на камітэт вуліцы, камітэт вуліцы — на квартальную (раённую) асамблею. Кварталы фарміруюць гарадскую раду. Далей, гарадскія рады і рады сельскіх раёнаў складаюць вобласць / рэгіён, якія, у выніку, утвараюць раду федэрацыі. Што нам дае такая структура і такія прынцыпы? А тое, што любая службовая асоба неадкладна можа быць адхіленая паводле рашэння інстанцыі ніжэйшага ўзроўню. Болей не зможа ўзнікнуць такая сітуацыя, калі чыноўнік адказвае перад начальнікамі вышэйшага ўзроўню, карыстаецца заступніцтвам асоб высокага чыну і творыць беззаконне. Канечне, таму што ён падпарадкоўваецца не грамадзянам, а толькі сваёй вертыкалі! Цалкам зразумела, што ў калідорах сучаснай улады сплятаюцца бюракратычныя клубкі, з якіх няма як спытаць і на якіх не знайсці ўправы. Кругавая парука, заступніцтва, беспакаранасць робяць іх непрыступнымі. Сістэма дэлегавання і падпарадкавання ніжэйшым выключае бюракратыю як такую. Відавочна, што пры такім ладзе да пасады будуць прапанаваныя найбольш дасведчаныя і адказныя людзі, а не падхалімы.

Іншай формай самаарганізацыі грамадзянаў з’яўляюцца аб’яднанні і ініцыятывы ў любых сацыяльных сферах грамадства: экалагічныя, праваабарончыя, пенсіянерскія, моладзевыя, культурніцкія, краязнаўчыя, спартыўныя і г. д. Для вырашэння сваіх пытанняў і задач грамадзянскія аб’яднанні вольныя звязвацца з інстанцыямі самакіравання любога ўзроўню, калі ім неабходнае садзейнічанне мясцовай супольнасці.

На сучасным этапе тэхналагічнага развіцця — інфармацыйнае грамадства — вялікі патэнцыял для самаарганізацыі і самакіравання ўяўляюць IT-камунікацыі.

Яны дазваляюць кампенсаваць затрымкі ў абмеркаванні і прыняцці рашэнняў, выкліканыя велізарнымі памерамі гарадоў, вялікімі адлегласцямі і высокай колькасцю насельніцтва. Больш за тое, новыя тэхналогіі дазваляюць значна паскорыць камунікацыйныя працэсы. Сацыяльныя сеткі, IP-тэлефанія, мабільны інтэрнэт дазваляюць дасягнуць раней нязнанай аператыўнасці. Вялікая частка грамадства ўжо актыўна карыстаецца інтэрнэт-тэхналогіямі, атрымліваючы неабходныя веды, уменні і культуру віртуальных стасункаў. У бліжэйшыя пару-тройку гадоў інтэрнэт ахопіць усіх, па меры пранікнення сетак трэцяга і чацвёртага пакалення. Палітыка мае быць і стане здабыткам кожнага грамадзяніна.

Разам з самакіраваннем анархізм вылучае патрабаванне сацыялізацыі эканомікі. Гэта азначае, што кожны, хто працуе, мае права на долю ў прыбытках свайго прадпрыемства. Нам непрымальны такі стан грамадства, у якім меншасць жыве ў раскошы, а большасць кожны месяц ледзь зводзіць канцы з канцамі. 80% уласнасці ў краіне належыць дзяржаве, гэтая гаспадарка была створаная ў часы савецкай дыктатуры за кошт цяжкай, а часам і паднявольнай працы народа. Гэтая маёмасць павінна знаходзіцца пад кіраўніцтвам працоўнага калектыву, дзе кожны з'яўляецца акцыянерам без права продажу сваёй долі. Калі кожны працоўны стане саўладальнікам свайго прадпрыемства, то яго праца атрымае дадатковыя матывы і будзе накіраваная на поспех прадпрыемства, а не на атрыманне выгады любой цаной, як гэта масава адбываецца сёння. Прадпрыемствы павінны належаць працоўным сіндыкатам: гэта забяспечыць дабрабыт і сацыяльную справядлівасць.

Дадатковай формай самаарганізацыі працоўных з'яўляюцца прафесійныя асацыяцыі. У іх задачу ўваходзіць маніторынг забеспячэння роўных правоў на прадпрыемствах, павышэнне кваліфікацыі сваіх чальцоў за

кошт сувязі з навучальнымі цэнтрамі, прадастаўленне паслуг работнікаў тых спецыяльнасцей, якія не прадугледжваюць пастаяннага аб'екта дзейнасці (будаўнікі, прыбіральшчыкі, кур'еры і да т. п.).

Замест судоў, убудаваных у сістэму вертыкалі ўлады, анархізм прапануе выкарыстоўваць трацейскія суды[51]. Прафесійны суддзя — гэта перш за ўсё чыноўнік дзяржавы, у той ці іншай ступені ён залежны. Мы лічым, што ў суддзі павінны трапляць найбольш паважаныя грамадзяне з ліку добраахвотнікаў. Толькі так можна забяспечыць сапраўды незалежную ацэнку. Больш за тое, ніводнае злачынства не можа быць вытлумачана на падставе крымінальных кодэксаў. Кожны выпадак — унікальны, і таму мы выступаем за індывідуальны падыход да кожнай справы, у тым ліку пры вызначэнні пакаранняў. А яшчэ анархісты — прынцыповыя праціўнікі пазбаўлення волі як меры пакарання. Бетонныя засценкі вядуць толькі да дэфармацыі асобы — альбо ў бок страты волі, альбо ў бок азлаблення. Мерамі пакарання могуць быць грамадскае ганьбаванне, штраф, грамадскія працы, часовая ізаляцыя альбо выгнанне ў суворыя цяжкадаступныя мясціны. У асабліва цяжкіх выпадках мы прызнаём права пацярпелага або яго блізкіх на помсту. Стаўка робіцца на тое, што ў грамадстве эканамічнай справядлівасці ўзровень злачыннасці ўпадзе ў шмат разоў, бо карыслівыя матывы злачынстваў стануць малаактуальнымі.

Напрыканцы хацелася б пару словаў сказаць аб парламенцкай рэспубліцы. Праблема такога дзяржаўнага ладу ў тым, што ён не адпавядае заяўленым прынцыпам. Гэтак жа, як бальшавікі былі далёкімі ад камунізму, так і рэспубліканцы далёкія ад дэмакратыі. У бальшавікоў «дыктатура пралетарыяту» стала тыраніяй наменклатуры партыі. А ў рэспубліцы «ўлада дэмаса» ў рэальнасці значыць калегіяльнае кіраванне буржуазіі. І так было ад

пачатку. Сёння часта можна пачуць, што прататыпамі рэспублікі былі старажытнагрэчаскія полісы, «Афіны — калыска дэмакратыі». Аднак грамадскі лад тых жа Афінаў быў значна больш сугучны анархістычным прынцыпам, чым парламентарысцкім. Гісторыя рэспублікі (класічная Французская рэвалюцыя) паказвае, што яе асноўнай мэтай была ліквідацыя ўлады арыстакратыі (на чале з каралём) і духавенства на карысць трэцяга саслоўя, г. зн. буржуазіі. Выбарчыя правы былі дадзеныя тым, хто праходзіў маёмасны цэнз. Буржуазія, дэкларуючы лозунг «свабода і роўнасць», жадала роўна столькі свабоды, колькі трэба, каб забяспечваць у прадстаўнічых органах свае інтарэсы, і роўна столькі роўнасці, каб выраўняцца ў правах са шляхтай. Вядома ж, ад гэтых павеваў і народу перапала сёе-тое, напрыклад свабода слова, сходаў, асацыяцый, але толькі ў абмежаванай меры, якая не ставіла пад пагрозу саму ўладу буржуазіі.

У выпадку небяспекі рэспубліка можа быць настолькі ж бязлітаснай і жорсткай да сваіх апанентаў, як каралі і дыктатары. З часоў першых ліберальных рэжымаў 200-гадовай даўніны адбылася сякая-такая трансфармацыя: выбарчае права стала ўсеагульным. Але чаму? Таму што па ўсім свеце назіраўся рост і рашучасць сацыялістычнага руху. Каб пазбавіць сацыялістаў падмурку і ліквідаваць пагрозу, буржуазія пайшла на ўгоду з сацыял-дэмакратыяй. Апартуністы атрымалі доступ да ўлады ў абмен на адмову ад рэвалюцыі і класавай барацьбы. Сацыял-дэмакратычная інтэлігенцыя запрашэнне прыняла і з дапамогай падкантрольных ёй прафсаюзаў падавіла радыкальныя настроі сярод працоўных і дагэтуль займаецца тым жа самым. Натуральна, фасад рэспублікі стаў «народным», дэмакратыя стала самым ужывальным тэрмінам. Толькі вось усеагульнае выбарчае права нічога не змяніла: буржуазія хутка зразуме-

ла, што сілу любой з разнастайных партый вызначаюць укладзеныя ў яе грошы, а не праграма і лозунгі. Сумленны чалавек заведама прайграе ў выбарчай гонцы несумленнаму, але заможнаму канкурэнту. Вынік вырашаюць рэсурсы выбарчага штаба, узровень паліттэхнолагаў, палітыка папулізму, але не ідэі. Менавіта таму так шмат людзей у цытадэлі дэмакратыі — ЕС — не ходзяць на выбары, не цікавяцца сістэмнай палітыкай. Гэта называецца адчужэннем, пачуццём абыякавасці і бессэнсоўнасці фармальнага спектакля.

Канечне, культура і менталітэт вельмі многіх людзей сёння не спрыяе ўдзелу ў самакіраванні. Але гэты стан — вынік існуючага грамадскага ладу. Каб змяніцца, людзі павінны займацца і вырашэннем пытанняў, якія датычацца іх жыцця. Рана ці позна даводзіцца ўступіць у ваду, калі хочаш навучыцца плаваць. Дыктатура абыходзіцца з народам, як з дзіцём, рэспубліка — як з падлеткам, анархія — як з дарослым чалавекам. Самакіраванне, сацыялізацыя, самаарганізацыя — вось прынцыпы прагрэсіўнага грамадскага ладу. Перамога гуманізму, калі свабода, мір і шчасце стануць даступныя кожнаму, — вось да чаго імкнецца анархізм.

*Вясна 2012 г.*

## ПАЛІТЫЧНЫЯ*

*Вытрымкі з артыкула.*

Упершыню ў постсавецкай гісторыі нашай краіны адразу дзясяткі людзей былі арыштаваныя і асуджаныя да суровых пакаранняў (ад умоўных да цалкам рэальных) у сувязі з актуальнымі грамадскімі працэсамі.

Каго лічыць палітычным, а каго — не? Часта ў сучасным ліберальным свеце лічаць палітычнымі вязнямі людзей, якія былі асуджаныя за выключна мірную грамадскую дзейнасць. Адпаведна, палітычная справа — гэта крымінальны пераслед, у якім прысуд заснаваны не на законе, а на нефармальным рашэнні зверху.

Каб разабрацца ў сутнасці з'явы, варта ўзгадаць гістарычныя прыклады. Вялікая Французская рэвалюцыя: і раялісты, і жырандысты, і якабінцы, і «шалёныя» ўвесь час зрыналі адзін аднаго гвалтам. Усе бакі з мушкетамі і пікамі лезлі на ражон і пачкамі адпраўлялі сваіх апанентаў на гільяціну. Кім лічыць Луізу Мішэль, сасланую на выспу за актыўны ўдзел у Парыжскай Камуне? На барыкадах Манмартра яна зусім не плакаты расклейвала, а змагалася са стрэльбай у руках. Ці ж Кастусь Каліноўскі, кіраўнік паўстання касінераў, не ёсць пакутнікам свайго народа? Чым лічыць стрэл Фані

---

* Новы час. 2012. 4 траўня, № 18 (290).

Каплан у Леніна — спробай забойства «па бытавусе»? Тыя ж самыя дзекабрысты… Спроба вайсковага перавароту! Але хто скажа, што гэта не было самай яскравай палітычнай падзеяй тых гадоў? А тысячы раскулачаных людзей, ахвяраў калектывізацыі ў СССР, якія не змаўчалі, а з абрэзам падпільноўвалі камісараў і савецкіх супрацоўнікаў… Хто іх асудзіць?

Улада ва ўсе часы вызначала палітычных не метадамі, не артыкулам Крымінальнага кодэкса, а матывамі і мэтамі! Так было заведзена сусветнай гісторыяй, і ніхто не можа мяняць гэтае азначэнне, выведзенае пакутамі і крывёю.

Цяпер наконт судовай перадузятасці ў дачыненні да нашай «справы анархістаў». Для расследавання г. зв. хуліганскіх дзеянняў (ч. 2 арт. 339) былі задзейнічаны Камітэт дзяржбяспекі і Упраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Колькасць аператыўнай групы склала ажно 30 чалавек. Адных падазраваных апынулася 120 чалавек. Асабіста на мяне і майго сябра Дзмітрыя Дубоўскага арганізавалі сапраўдную аблаву ў Маскве за месяц да з’яўлення першых паказанняў супраць нас. Яшчэ на этапе папярэдняга следства быў зняты і паказаны па беларускім тэлебачанні прапагандысцкі фільм, аўтары якога не пасароміліся выдаць нашы аматарскія тэатральныя здымкі за падпольныя сходы.

Мы атрымалі абвінаваўчыя прысуды, што грунтуюцца на паказаннях людзей, якія, нягледзячы на свой актыўны ўдзел у радыкальных акцыях, ці выйшлі з клеткі ў залі суда (Веткін, Селівончык), ці наогул прайшлі па гэтай справе як сведкі (Канафальскі, Акдыф). Ігнараваліся заявы некалькіх сведак пра ціск з боку следства, няяўка ў суд ключавых сведак, двайны абгавор Дубоўскага з боку Веткіна і Канафальскага, выкрыты падчас судовага працэсу. Да хуліганскіх дзеянняў прыраўнялі нават антывайсковую маніфестацыю ля будынка Генеральнага штаба, што адбылася яшчэ ў верасні 2009 года.

У дачыненні да «бабруйскай справы» (падпал будынка КДБ) таксама ўзнікаюць пытанні: якім чынам фігурантам справы прыпісалі ч. 3 арт. 218 (наўмыснае пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры — памеры, які перавышае базавую велічыню ў 1000 і больш разоў), калі пашкоджанне бетоннай сцяны ад «кактэйлю Молатава» было ацэнена ўсяго ў 253 тысячы беларускіх рублёў? Гэтае абвінавачанне прадугледжвае зняволенне ад 7 да 12 гадоў, а «лягчэйшыя» часткі арт. 218, дзе гаворыцца пра меншы памер пашкоджання маёмасці, прадугледжваюць як меншы тэрмін зняволення — ад 3 да 10 гадоў, так і абмежаванне волі ды проста штраф.

Нашы прысуды склалі да 7–8 гадоў пазбаўлення волі. Такія тэрміны часта атрымоўваюць за разбой, наркагандаль, забойства і нават разбэшчванне малалетніх. Ведаю прыклад, калі за падпал машыны, у якой выпадкова апынуліся 2 чалавекі (згарэлі жыўцом), абвінавачаныя атрымалі 7 гадоў! Выходзіць, што падкопчаная сценка больш каштоўная за чалавечае жыццё?

Мы не маем ілюзій ні ў дачыненні следства, ні ў дачыненні суда. Нас не здзіўляюць прысуды, але здзіўляе, чаму такая відавочная сітуацыя не настолькі відавочная для ўсіх.

Можа, справа ў трывалых шаблонах дзеянняў на Захадзе? Пікеты, дэманстрацыі, мітынгі. Аднак давайце паглядзім на падзеі ў Сірыі: кожны дзень на працягу многіх месяцаў народ выходзіць на вуліцу, а войскі яго разганяюць і расстрэльваюць. Зразумела, што такімі дзеяннямі ўлады Сірыі разбураюць уласную легітымнасць. Захад рэагуе ўсё больш жорстка, і ўрэшце ці ўлада сыходзіць сама, ці ёй «дапамагаюць» па лівійскім сцэнары. Атрымоўваецца, што пытанне апраўданасці ўжывання сілы з боку пратэстоўцаў вырашаецца староннімі структурамі, урадамі лідзіруючых краін, у першую чаргу ЕС і ЗША.

Пакуль палітыкі прымаюць свае рэзалюцыі, людзей забіваюць і кідаюць у турмы, рабуюць і прыніжаюць. Аднак тых, хто ўзяў у рукі камень ці вінтоўку, а не проста падстаўляецца пад дубінкі і кулі, чамусьці вызначаюць як крымінальнікаў і правакатараў. Калі ж на высокім узроўні прымаюць неабходныя рэзалюцыі і даюць дабро, учарашнія «крымінальнікі і правакатары» прызнаюцца за герояў і пакутнікаў у барацьбе за дэмакратыю. Такія вось двайныя стандарты.

Прыкра асэнсоўваць, што ў нашай краіне, якая прайшла праз маштабныя рэпрэсіі царызму і бальшавізму, так складана атрымаць статус палітычнага без асаблівага лобі з боку апазіцыі. Справа не ў нас. Нам якраз няма прычыны гараваць: мы атрымалі велізарную падтрымку з боку як нашых родных, так і зусім незнаёмых людзей, і гэтая ўвага сапраўды каштоўная для нас. Аднак што рабіць усім тым, чыя крымінальная справа не на слыху? Праблема не ў некалькіх дзясятках людзей, праблема ў тысячах вязняў, асуджаных праз бязладдзе карных органаў, за тое, што паступалі па-чалавечы, трымаліся сваіх прынцыпаў, адмаўляліся выконваць злачынныя распараджэнні, не паддаваліся шантажу ды вымагальніцтву. У турме можа апынуцца кожны з тых, хто цяпер ходзіць па вуліцы побач з намі. Страшна, калі на стале няма кавалка хлеба. Аднак яшчэ страшней, калі бацькі бачаць сталенне сваіх дзяцей толькі па фотаздымках.

Вызваленне некалькіх дзясяткаў палітычных не гаворыць пра тое, што ўсё стала на свае месцы. У моры несправядлівасці беларускай рэчаіснасці паменела толькі на кроплю. Ужо цяпер крытычна важна прызнаць палітычнымі вязнямі ўсіх, каго сама дзяржава сваім судовым бязладдзем дэ-факта прызнала такімі; усіх тых, хто кінуў выклік уладзе ў барацьбе за праўду і справядлівасць.

*Зіма 2011 г.*

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА АНАРХІСЦКІХ КОЛАЎ

Вітаю, таварышы!

У першую чаргу хачу сказаць вялікі дзякуй усім тым, хто падтрымаў нас у цяжкі час. І асобна хачу падзякаваць людзям, якія аказвалі дапамогу да арышту. Вашая салідарнасць вельмі дапамагла вытрымаць усе цяжкасці. Мэта гэтага ліста — выказацца пра ўсё, што было і ёсць.

**Рэпрэсіі**

Самае галоўнае, што хачу сказаць: палеміка паміж легалістамі ды ілегалістамі страціла актуальнасць. Уся сітуацыя пераканаўча сведчыць пра тое, што разлічваць на закон, на ліберальную падачку ні ў якім выпадку нельга. Карныя органы кіруюцца нейкімі ўласнымі ўнутранымі меркаваннямі, хто вінаваты і як трэба рабіць. Дагаджаючы гэтым меркаванням, улада гатовая зневажаць людзей, закон. Гэта яе асноўны прынцып функцыянавання.

Захоўваецца толькі бачнасць выканання прававых працэдур. Калі ўлада адчувае пагрозу ці карыслівы інтарэс, то нават гэтая бачнасць робіцца ілюзорнай. Арыштаваць, пашыць справу і пасадзіць чалавека нічога практычна не каштуе. Я гэта сцвярджаю не толькі і не столькі сыходзячы з нашай справы, колькі з агульнай

практыкі следчых органаў, што бачна знутры няўзброеным вокам. А крымінальныя справы па 19-м снежня яскрава сведчаць, што ўлада гатовая на відавочнае самадурства нават ва ўмовах максімальна пільнай увагі грамадскасці тут і на Захадзе. Такімі самымі сродкамі ўлада распраўляецца з усімі непажаданымі: карупцыя, эканоміка, крымінал — не важна. Зляпляюць справы на адных паказаннях, і наперад — на нары! Менавіта гэта спрабаваў у сваім апошнім слове сказаць Саша, але газетчыкі ўсё перайначылі.

Увогуле, час скончыць з легалісцкімі ілюзіямі: кідаеш выклік уладзе — будзь гатовы адказаць па сваявольстве, а не па законе. Ніякіх прававых гарантый, калі закранаеш інтарэсы дзяржавы, у цябе няма.

Хачу звярнуць увагу, што справа не ў радыкальных акцыях, а ў любых анархісцкіх мерапрыемствах, якія ўлада расцэніць як падрыўныя. Канкрэтны прыклад — маніфестацыя ля Генштаба. Яе прызналі хуліганскімі дзеяннямі і па ёй выдалі рэальныя тэрміны, прычым дымавуха не з’явілася нечым вызначным. Колькі падобных шэсцяў праводзілася раней! А зараз няма ніякай упэўненасці, што за якое-небудзь графіці не будзе ўзбуджана крымінальнай справы па хуліганцы ці нават пашкоджанні маёмасці. Што ўжо казаць наконт сур’ёзных рэчаў кшталту забастоўкі. Уся наша барацьба праходзіць пад сярпом крымінальнага пераследу.

**Здраднікі і здрада**

На жаль, ідэі не з’яўляюцца гарантам прыстойнасці чалавека. І пакуль сам чалавек не патрапіў у сітуацыю выбару, пра яго нельга нічога адназначна сцвярджаць. Кожны павінны задаць сабе пытанне: «Ці гатовы я сесці ў турму?», «Ці гатовы я сядзець за перакананні і не за свае справы?», «Ці гатовы я не выдаць сваіх таварышаў коштам уласнай няволі?», «Што мне больш важна:

свабода ці гонар?». Хто не можа адназначна адказаць, няхай адыдзе ўбок і ціхенька жыве сваім жыццём: не варта падстаўляць ні сябе, ні іншых людзей.

З усёй масы людзей, якія прайшлі праз допыты, вядома чатыры сапраўдныя здраднікі: Захар, Арсэн, Веткін, Бура (калі яшчэ апраўдваецца, няхай закрые сваю суччу зяпу).

Грамадскае непрыняцце — само сабой разумеецца, хаця гэтага, канешне, мала. Праблема ў тым, што акрамя відавочных гадаў былі і тыя, хто «проста» адказаў на пытанні мянтоў і, пэўна, падпісаў паперу аб супрацоўніцтве. На дазнанні оперы дэманстравалі дастаткова шырокую дасведчанасць. Падпісаць паперу дапушчальна толькі ў адным выпадку: каб выйграць час, з'ехаць за бугор і выкрыцца. Так зрабіў Дзяніс, і да яго няма прэтэнзій. Тыя, хто падпісаў і захаваў гэта ў тайне, не маюць апраўдання. Таемнае робіцца бачным, рана ці позна, і за ўсё давядзецца адказаць.

**«Інды»медыя**

Ані рэпрэсіі, ані ўласныя перавагі не могуць служыць апраўданнем адмовы ад базавых прынцыпаў анархізму: плюралізму і дэмакратычнасці. Дзеянні Індымедыі з'явіліся подлым актам адступніцтва ў цяжкі момант. На маёй памяці ўпершыню так моцна быў падарваны давер унутры руху. Парадаксальная сітуацыя: з аднаго боку, калектыў Індымедыі кляйміў «правакатараў і радыкалаў», з іншага боку — спрабаваў узначаліць кампанію салідарнасці. Гэта — палова бяды. Яшчэ больш сумным аказалася тое, што значная частка анархістаў павялася на такую палітыку і нават горача падтрымала такія дзеянні. Былі і тыя, хто на словах Індымедыю асудзіў, але працягваў выкарыстоўваць яе як асноўную платформу ў кампаніі салідарнасці. Шмат хто

і ўвогуле адмаўчаліся. Знайшліся і такія, хто панапісваў артыкулаў, паплясаўшы на костках радыкалаў.

Яшчэ ў 2010 годзе на avtonom.org выйшаў добры артыкул наконт Індымедыі ў цэлым. Там верна ўказаны яе галоўны недахоп: закрыты калектыў, падкантрольны толькі самому сабе, які пры гэтым выступае ў якасці навінавай платформы для ўсяго руху як анархісцкіх, так і неаўтарытарных сацыяльных ініцыятываў. У выніку гэта ўсё прывяло да таго, што Індымедыя лічыць, нібыта мае права весці сваю рэдакцыйную палітыку на карысць асобных сегментаў анархаруху, якія адпавядаюць асабістым перавагам удзельнікаў Індымедыі. Падавалася б, можна замяніць усю рэдакцыйную калегію, але тут справа ўпіраецца ў неабходнасць тэхнічнай падтрымкі рэсурса, а такія здольнасці ёсць не шмат у каго. Таму большасць вырашыла проста заплюшчыць вочы на праблему. Але так рабіць нельга! Калі нешта ў корані няправільна, гэта трэба змяняць тут і зараз.

Платформа свабодных навін, якая прадастаўляецца арганізацыяй (тое самае АД), няхай і не ідэал, але ўжо значна лепшае рашэнне, бо рэдакцыйная група адказвае перад удзельнікамі арганізацыі. А Індымедыя ні перад кім не адказвае і фактычна з’яўляецца самастойнай сілай.

Маё катэгарычнае меркаванне, як і Сашы з Міколам[52], — Індымедыя пераўтварылася ў аўтарытарную структуру, варожую анархісцкаму руху. Яе далейшая эвалюцыя прывядзе яе ў сацыял-ліберальны лагер, модны апошнім часам шырпатрэб кшталту Піратскай партыі і г. д. Яны нам не таварышы, як і тыя, хто публічна адхрысціўся ад радыкалаў і інсураў. Байкот.

**Сістэма**

Знаёмства з судова-следчай сістэмай паказвае, што найбольш карысная мадэль паводзінаў: для абвінава-

чванага — адмова ад дачы паказанняў, для сведкаў — «не памятаю, цяжка адказаць». Справа ў тым, што паказанні заўжды можна даць у судзе ўжо пасля ўсіх іншых паказанняў. Такім чынам, застаецца прастора для манеўраў. Але нават адмоўныя паказанні на папярэднім следстве — гэта якая-ніякая апора следаку, каб пашыць справу. Ён можа падабраць ці сфальсіфікаваць улікі так, каб паказанні абвінавачванага аказаліся непраўдападобнымі. Любая інфармацыя следаку ці операм — гэта будаўнічы матэрыял для выраку. Менавіта таму мянты так ціснуць, асабліва ў першыя дні затрымання. Ані слова! Няхай яны ўсё ведаюць. Пляваць! Без пратакола гэтыя веды анічога не значаць. У скрайнім выпадку, калі ёсць падставы меркаваць, што з падазраванага цябе перавядуць у абвінавачванага, лепш пайсці ў адмаўленне, але не хлусіць. Няхай штрафуюць, даюць адміністрацыйнае пакаранне, няхай нават арышт на пару месяцаў — гэта ўсё лепей за тое, чым сесці ці паспрыяць пасадцы каго-небудзь яшчэ. Калі ціснуць на тое, каб «узгадалі», прасуюць, можна контратакаваць: «не прымушайце да дачы наўмысна хлуслівых паказанняў». Гэта ўтаймуе запал мянтоў, яны будуць больш баяцца праверкі і падумаюць двойчы. У справе было пару момантаў, калі некаторыя апазнанні можна было не рабіць. Гэта я не ў папрок, — хто ж ведаў! — а на будучыню. Любыя словы, любыя пратаколы даюць шанцы мянтам і адбіраюць шанцы ў таварышаў. У скрайнім выпадку заўжды можна пацярпець самому, затое сумленне будзе чыстым. Сэнс у тым, каб карнікі прызвычаіліся, што без сур’ёзных улікаў да нас савацца не варта. Выправіць памылкі ўжо нельга. У судзе ўсе бачылі, што нават масавае адмаўленне ад раней дадзеных паказанняў нічога не дало. Суд кваліфікуе гэта як пажадае, а жадае ён вядома як: як жадаюць мянты.

**Бяспека**

Як выявілася, узровень інфармацыйнай бяспекі не такі ўжо кепскі. Прынамсі, у параўнанні з апазіцыяй. Яе, па маім уражанні, чыталі як разгорнутую кнігу. У нашым выпадку крытычнай аказалася тая інфармацыя, якую здабылі традыцыйна, дзякуючы чалавечаму фактару (здрадзе). Тым не менш сітуацыя далёкая ад пажаданай.

Асноўнае — гэта мабільная сувязь. Праз гісторыю тэлефанаванняў оперы раскручваюць увесь клубок сацыяльных сувязяў. Так яны ведалі, каго затрымаць у першую чаргу. Па тэлефоне вызначаецца не толькі сетка, але і месцазнаходжанне, ажно да дома. Адзінае тэлефанаванне ці актывізацыя ў сетцы могуць дорага абысціся. У якасці прыкладу можна прывесці Веткіна, які, як высветлілася, уключаў тэлефон у непасрэднай блізкасці да амбасады і банка.

Мабільнікаў павінна быць некалькі для розных колаў стасункаў. Сімкі — левыя, г. зн. зарэгістраваныя нават не на знаёмых, а на зусім пабочных людзей. Мае сэнс адначасовая змена сімак і апаратаў (ці перапрашыўка?) адразу цэлай групай. Калі збіраецеся ў канспіратыўных месцах, адключайце тэлефон. Загадзя, каб не засвяціць месца вялікай канцэнтрацыі «сумнеўных» нумароў. І заўжды памятайце: любое ўключэнне тэлефона — гэта след!

Карыстаючыся інтэрнэтам, не забывайцеся пра IP — выкарыстоўвайце Tor не толькі пры доступе да спецыфічных сайтаў, але і пры палеўных запытах у пошукавіку. Лепш за ўсё ўвогуле падзяліць доступ у сетку на побытавы і палітычны. Для палітычнага можна вылучыць асобны нэтбук / планшэт з падключэннем Wi-Fi ці 3G-флэшак для бесправаднога доступу. Гэта дазволіць і перастрахавацца, і забяспечыць мабільнасць сродкаў камунікацыі ў палітычнай актыўнасці.

Пасля першых арыштаў была неабходнасць зацерці

любыя сляды на камп'ютарах, флэшках, вінчэстарах. На жаль, хаця, па вялікім рахунку, усё было ліквідавана, шэраг дробязей аказаўся не ўлічаным. Напрыклад, рахунак на YouTube, з якога было размешчана відэа па Генштабу, самое гэтае відэа ў добрай якасці (з якога, дарэчы, і апазналі шэраг людзей), вінчэстар з адноўленай інфармацыяй з дробнымі слядамі доступу да сайта няшчаснай наваполацкай адміністрацыі (трэба было прайсціся нізкаўзроўневым фарматаваннем, праграма Elasek).

Архівы TrueCrypt не ўзламалі. У матэрыялах справы спецыяліст скардзіўся, што нават васьмізначны пароль стварае больш за 32 трлн камбінацый, што занадта шмат нават для высокапрадукцыйных сістэм. Аднак слядак зрабіў намёк, што гэтыя архівы толькі афіцыйна не ўзламаныя. Можа, хацеў праверыць рэакцыю, а можа і не. Наконт скайпа нічога пэўна даведацца не атрымалася: ані ў справе, ані ў словах операў нічога не прагучала. Па маіх назіраннях, гісторыі скайп-чатаў у крымінальных справах фігуруюць часта, прычым некаторыя сцвярджалі, што захоўванне гісторыі адключалі. Мне падаецца, што лепш перайсці на альтэрнатыўныя IP-тэлефаніі без цэнтральных сервераў.

Усё ж такі шэраг пароляў ад скрыняў яны дасталі. Ці то паролі аказаліся слабымі, ці то стаяў аўтаўвод. Лёгкіх пароляў і тым больш аўтаўводу не павінна быць у прынцыпе. Тое ж самае датычыцца і паштавікоў. Не выкарыстоўвайце іх для актывісцкіх е-мэйлаў. Ліставанне не павінна захоўвацца на цвёрдым дыску. Звышважнае ліставанне ўвогуле трэба весці са спецыяльна створанага для гэтай мэты акаўнта(ў), каб, у выпадку чаго, аб яго існаванні ніхто і не ведаў.

Заўжды і паўсюль выключайце гісторыю наведванняў, cookies і да т. п. Па магчымасці выкарыстоўвайце віртуальную клавіятуру. Гэта нейтралізуе шпіёнскі тра-

ян Keylogger, які запамінае націсканне клавішаў. Для перастрахоўкі можна выкарыстоўваць спецыяльныя браўзеры і пашукавікі, якія не пакідаюць слядоў. У прыватнасці, адна з разнавіднасцей FireFox прыстасавана для такой працы.

Я пералічыў мноства вядомых рэчаў. Шмат хто грэбаваў шэрагам з іх, хаця меў у запасе час. У выніку гэта адыграла важкую ролю ў абвінавачванні. Няхай пра гэта памятае кожны.

Цяпер хачу сказаць аб некаторых іншых крымінальных аспектах. Адбіткі пальцаў — гэта мінулае стагоддзе. Зараз апазнанне ажыцяўляюць па ДНК, якое знаходзіцца ў сліне, выдзяленнях потавых залоз, эпітэліі (скурныя клеткі), не кажучы ўжо пра кроў і валасы. Веткін спаліўся на пальчатках з рэшткамі поту і эпітэлію, якія ён пакінуў недзе ў дварах непадалёк ад амбасады. Да гэтага дадаліся сігналы яго мабільніка. Вот такая карціна. У справе даследаваліся прадметы з месцаў акцый: недапалкі, бутэлькі, шкло, запальнічкі. На фаеры каля ІЧУ знайшлі сляды поту Дзімы, хаця ані адбіткаў, ані эпітэлію там не апынулася. Карацей, нават выпадковы волас ці плявок можа зрабіцца фатальным. Мала за тое, і паветра з памяшкання таксама бяруць на аналіз, бо пот выпараецца.

У самай бліжэйшай будучыні, якая плаўна перацякае ў цяперашняе, нам давядзецца сутыкнуцца з куды больш сур'ёзнымі выклікамі. З ростам значэння сацыяльных сетак і інтэрактыўнага Інтэрнэту ў цэлым усё больш актыўна развіваюцца праграмы аўтаматызаванага збору дадзеных. Паралельна, велізарнага поспеху дасягнулі праграмы па распазнані твару чалавека. Так, гэтыя праграмы могуць па выпадковых кадрах з камер відэаназірання знайсці чалавека па фотаздымках у адкрытым доступе, напрыклад у тых жа сацыяльных сетках. З улікам рэзкага павелічэння колькасці і якас-

ці гарадскіх відэакамер назірання (плюс аператыўная здымка) перспектывы выглядаюць наступнымі: у хуткім часе паліцэйскія сістэмы назірання і аналізу будуць здольныя з высокай доляй верагоднасці выдаваць пайменны спіс удзельнікаў масавых акцый з поўным профілем на кожнага. Пашпартныя дадзеныя, сацыяльныя сувязі, месцы сустрэч, маршруты перамяшчэння, акаўнты ў сетцы, сфера інтарэсаў і г. д. і да т. п. Ужо існуюць кампаніі, якія спецыялізуюцца на стварэнні профіляў спашукальнікаў вакансій пры працаўладкаванні ў карпарацыях. І гэта ўжо не футурыстычны сюжэт.

**Структура і чалавечы фактар**

Аналізуючы следчую сістэму, я прыйшоў да высновы, што ўлікі, следчыя і суд — рэчы другасныя. Галоўны вораг — гэта опер і любыя сляды, якімі ён можа скарыстацца для сваіх высноў. Калі оперы нешта пранюхалі, то запакаваць чалавека — справа тэхнікі. Яны ўсё роўна знойдуць зачэпкі ці сфальсіфікуюць іх. Адзіны сродак пазбегнуць іх увагі — ананімнасць. Мая прапанова зводзіцца да трох пунктаў:

• актывіст анархісцкага руху абавязаны прыняць правілы бяспекі за асабістую культуру паводзін. Палітычнае alter ego не павінна быць звязана з пэўнай фізічнай асобай. Паколькі поспех нашай барацьбы наўпрост залежыць ад функцыянавання нашых інфармацыйных сістэм і бяспечнага знаходжання ў варожых і нейтральных сістэмах, мы хочаш не хочаш павінны рухацца да ўзроўню хакерскіх груп. Устойлівасць актывісцкіх калектываў кшталту anonymous — пераканаўчы доказ;

• для распаўсюду нашых ідэй жыццёва важна, з аднаго боку, ствараць якасны медыязмест (аўдыё, відэа, выявы, паліфанія, вэб-шыхтоўля), з іншага боку, вывучаць і ўкараняць законы разумнай падачы і эфектыўнага

ўспрымання інфармацыі. Мне давялося камунікаваць з прафесійнымі паліттэхнолагамі, і, шчыра кажучы, у нас няма пісьменнага падыходу да такіх рэчаў. Мы нават не ведаем, як робіцца звычайны плакат, не кажучы ўжо пра ўсё астатняе. Неабходна вывучаць гэтыя тэхналогіі і выбіраць тое, што не супярэчыць анархічным прынцыпам;

• структура руху павінна базавацца на аўтаномных групах. Большасць удзельнікаў руху не павінны ведаць адзін аднаго на ўзроўні «дзе жыве, працуе / вучыцца». Гэта дазваляе панізіць крытычнасць чалавечага чынніка (здрады) да памераў адной групы. Адкрыты стан большай часткі руху ці напаўадкрыты статус арганізацыі — гэта траянскі конь. Немагчыма захаваць нармальнае функцыянаванне ў выпадку рэпрэсій. Адкрытасць непазбежна прыводзіць да траплення «пад каўпак», такі стан нельга назваць жыццяздольным. Досвед нашай справы выразна дэманструе, як мянтам двойчы атрымалася ўлезці ва ўнутраныя рассылкі, што прывяло да поўнага паралюшу руху.

**Асабісты выбар**

Усе мы жадаем кімсьці стаць, нечага дасягнуць на асабістай ніве, і да гэтага трэба імкнуцца. Але, адначасова, усё нашае жыццё можа перакуліцца ў адзін момант. Калі такі момант надыдзе — не бядуйце. Страціўшы адно, набываеце іншыя рэчы і каштоўны досвед. У турме жыццё не сканчваецца, яно цячэ па-іншаму. Рана ці позна тэрмін скончыцца і наперадзе будуць новыя магчымасці і планы, пра якія, быць можа, без турмы ніхто б не даведаўся.

Ні аб чым не шкадаваць і імкнуцца наперад, без усялякіх кампрамісаў.

Няхай жыве Сацыяльная Рэвалюцыя!

Хай жыве Анархія!

*Вясна 2012 г.*

PER [redacted] ASPERA AD ASTRA

(По мотивам "ULTIMA VERBA" В. Гюго)

Убита совесть! Власть довольная расправой
С улыбкой торжества снимает [illegible]:
Вандалы, отморозки, пятая колонна!
Стабильность подорвали, глумясь над страной.

Коснея в бездне лжи, стяжательства и блуда
Судья твердит "ЗАКОН!", кивают в такт менты
Но, если захотеть, за наглыми их [illegible]
Нетрудно рассмотреть крысиные хвосты.

Ничем не дорожа, попрала волчья стая
Долг, добродетель, честь, спустив цепей террор.
Народ уже раздела одною хищною лапой,
В другой она сжимает палаческий топор!

Народ отринул всё, чтоб угодить тирану
За чарку-шкварку млеют в всепламенной любви
Не удивляйся! Им газетой и стаканом
За несколько веков запудрили мозги.

Камрад! Пусть беспредел, легавыми творимый,
Смешал добро со злом, с героем подлеца.
Что двинуло тебя сражаться до конца?
К лишениям призвать уже никто не в праве
И жизнь подпольную вполне ты мог оставить.
Но счастью личному, любимой и семье,
Ты верность предпочёл друзьям,
себе,
мечте!

Товарищи мои! Мы цели небывалой,
Анархии верны! И наша крепнет связь!
Всё, что теперь презрят — мы увенчаем славой
Все то, что чтут ныне — мы ниспровергнем в грязь.

О, Беларусь! Пока в восторге самовластья
Купается злодей со свитой подлецов
Тебя мне не видать, край горести и счастья
Где был вскормлен я в любви моих отцов

Не видеть мне друзей, и нет того болючей,
Не петь нам у костра, как раньше, всей гурьбой
Тяжка моя печаль за проволокой колючей
С изодранной в клочки, как рубище, душой...

Но даже за решеткой, под массой угнетенья
Греметь я буду: "НЕТ!" — ведь так велит мне долг.
Здесь холод, ветер, смерть, тут море озлобленья,
Но мой не сломлен дух, и гнев мой не умолк!

На зоне заключение я с мужеством приемлю
Хоть не видать ему ни края, ни конца...
И если силы зла всю завоюют Землю
И закрадётся страх в отважные сердца

Не поколеблюсь я! Я побеждён не буду!
Моих не видеть слёз тебе, враждебный мир.
Со мной дух Равенства, со мной алтарь Свободы
Вы — верности мои гранитные столпы.

Я буду и тогда Анархии солдатом!
Мои тысячи бойцов. Я непоколебим
В десятке смельчаков я встану в строй десятым
Останется один — клянусь, я буду им.

# ПАСЛЯСЛОЎЕ

Перад чарговымі выбарамі прэзідэнта дыктатар Лукашэнка вырашыў выпусціць палітвязняў. 22 жніўня 2015 года, у дзень пенітэнцыярнай сістэмы Рэспублікі Беларусь, я выйшаў на волю. Але мае няшчасці на гэтым не скончыліся. Праз заходніх амбасадараў улада перадала паведамленне, што лічыць мяне звязаным з нейкімі будучычымі тэрактамі і маё знаходжанне ў краіне катэгарычна непажаданае. У пацверджанне сур’ёзнасці сваіх заяў да мяне прыставілі вонкавае назіранне. Праз два тыдні я пакінуў краіну і з тых часоў не вяртаўся. Мянты дагэтуль перыядычна заходзяць да мяне дадому, каб навесці пра мяне даведкі.

Прайшло пяць гадоў з таго часу, як я пакінуў свой дом. На волі многія людзі змагаліся за нас, палітычных, нашы імёны мільгалі ў газетах, радыё, нават на сустрэчах з еўрапейскімі і амерыканскімі дыпламатамі. Нашы родныя і сябры, паплечнікі і незнаёмыя аб’ядналіся і сфарміравалі альтэрнатыўнае ўладзе меркаванне. Нас не забывалі, і я заўсёды адчуваў да сябе ўвагу многіх і многіх людзей.

Толькі лагернае жыццё ідзе паралельна з жыццём звычайным, зусім мала з ім перасякаецца. І паступова, месяц за месяцам, год за годам, лагер усё больш выцясняў знешнія падзеі, замяняючы іх унутранымі. Свет за

плотам пачынае бачыцца як нешта мінулае, спаўзае ў вобласць успамінаў. За гэты час родных і сяброў спазнаў нанова. Амаль не памятаю, якім я быў да таго.

Турма аказалася брамай у іншае вымярэнне, дзе ўсё інакш. Ці можна сабе ўявіць анклаў сярэднявечча пасярод сучаснага горада? Уяўлення не хопіць, затое ўбачыць можна. Нават самыя праніклівыя пісьменнікі не змаглі даць поўную карціну ўнутранага свету турмы. Таму я чытаў мемуары рэальных вязняў, каб зразумець той, іншы свет.

Кажуць, час лечыць. Можа быць, але толькі не карнікаў. Усе гэтыя гады ішла нейкая вар'яцкая гульня з адной звышзадачай — з нас усялякімі спосабамі выціскалі прашэнне аб памілаванні. Тых, хто падпісаў, сапраўды адпускалі. Але прасіць літасці ў дзяржавы я асабіста не лічу вартым ні пры якіх абставінах. Такім чынам, магчымасць выйсці на волю павярнулася праклёнам. За гэта перакананне ў адных толькі карцарах я правёў траціну года. Я ставіўся да гэтага як да выпрабавальнага палігона самога сябе, выпрабаванне духу, і гэта дапамагло мне ўсё пераадолець.

Мае бацькі таксама падвергліся ціску: маю маці, дацэнта эканамічных навук, звольнілі з універсітэта. Здаецца неверагодным, што рэжым ішоў на канфлікт з еўрапейскімі і амерыканскімі бюракратамі, якія патрабуюць вызваліць палітвязняў, з-за некалькіх радкоў рукапіснага тэксту. Рэжым нават не хвалявала прызнанне віны — такой умовы не ставілася. Толькі папрасіць у іх волю.

Гэты факт, як і псіхалогія лагернага начальства, адкрыў мне ірацыянальнасць улады. Прынята лічыць, што яна дзейнічае з асабліва прагматычных, карыслівых інтарэсаў. Нібы дзіця, улада схільная да ўсіх чалавечым эмоцый, страхаў, фантазій. Таму я стаў разумець анархізм не толькі як маральную ідэю і палітычную

канцэпцыю, але і як прынцып сталення чалавека і соцыуму з тугіх пялёнак дзяржавы і іншых прыгнятальных інстытутаў.

Зараз я яшчэ не гатовы падвесці вынікі. Адной нагой я ўсё яшчэ ў турме, яна стала меркай усяго астатняга. Тым не менш, каб быў выбар нешта змяніць, я б усё паўтарыў спачатку, нават памылкі. Не спазнаўшы горыч, не спазнаеш радасці. Я станоўча ўспрымаю тое, што адбылося. Для гэтага ёсць тры прычыны.

Першая — неабыякавыя людзі самых розных слаёў і інтарэсаў з'ядналіся ў барацьбе за нас. Да гэтага многія з іх пасіўна ўспрымалі палітыку, але салідарнасць разбудзіла іх. Утворанае кола салідарнасці — гэта дасягненне само па сабе. Адно гэта каштавала гэтых пяці гадоў.

Другая — лагер ёсць канцэнтрат грамадства. Нідзе больш няма магчымасці ўбачыць усіх людзей з усіх слаёў грамадства, ды яшчэ ў жорсткіх умовах дэфіцыту і іерархіі. Я не ўяўляў сабе сапраўдную разнастайнасць людзей і жыццёвых сітуацый. Такая навука дорага каштуе.

Трэцяя — лагер ёсць канвеер па разбурэнні чалавечых лёсаў. З першых дзён усімі клеткамі цела адчуваецца галоўная мэта лагера — сцерці чалавека. Год за годам я скрупулёзна разбіраўся ў механіцы няволі ў надзеі давесці праўду, хоць бы дзеля самой праўды. Я не магу і не хачу нічога забываць.

*Лета 2016 г.*

## ПРА ЎМОВЫ Ў ПАПРАЎЧЫХ ЛАГЕРАХ: СУІЦЫДЫ, ЗДЗЕКІ І ПОЎНАЕ БЯСПРАЎЕ

*Публікуем ліст Ігара Аліневіча, у якім ён каментуе паездку прадстаўнікоў праваабарончай арганізацыі «Платформа» па выпраўленчых калоніях і падрабязна апісвае сістэму, у якой знаходзіцца апошнія пяць гадоў.*

Выйшаўшы з чарговага штрафнога ізалятара, даведаўся, што ў друку паднялося пытанне аб становішчы ў турмах і зонах. З усмешкай прачытаў артыкул Алены Красоўскай-Каспяровіч* пра тое, як «за пяць гадоў сітуацыя змянілася ў лепшы бок». Я асабіста назіраў прыезд у зону Красоўскай-Каспяровіч і Ліхавіда**, бачыў іх так званую «інспекцыю». Ліхавід быў у чырвонай куртцы з капюшонам, які закрываў амаль увесь твар, як у Кені ў «Саўс-парку». Мабыць, ён хацеў, каб яго не пазналі. Але хлопцы з «дзясяткі» [ВК-10] апазналі Мікіту, бо сустракалі яго з ШІЗА, дапамагалі яму. Вельмі шкада, што, прайшоўшы ўшчыльную міма мяне, ён не распытаў мяне. Я б расказаў, як у ШІЗА цяпер зімой у зэкаў забіраюць трусы, як не даюць узяць з сабой ручнік і

---

* Дырэктарка праваабарончай арганізацыі, зарэгістраванай як асветніцкая ўстанова, заснавальнік якой Андрэй Бандарэнка ў гэты час таксама знаходзіцца за кратамі.

** Ліхавід Мікіта.

мыла для ног, кубак для піцця. Бо ў яго час, пяць гадоў таму, такога яшчэ не было.

Смешна чытаць усё гэта, калі на маіх вачах зоны ператварыліся ў лагеры позънясталінскага тыпу, вядомыя як асоблаг [сістэма асобых лагераў ГУЛАГа для палітвязняў]. Вось толькі нумароў на спінах не хапае — прагрэс. На маёй памяці з паляпшэнняў было толькі павелічэнне ліміту атаваркі [магчымасць набываць тавары ў краме пры калоніі] для злосных парушальнікаў з адной базавай велічыні да дзвюх — 360 000 рублёў. Затое спіс пагаршэнняў... І пасылкі з садавіной забаранілі, і сродкі гігіены сталі ўключаць у вагу перадачы, і ўтрыманне заробку павялічылі з 3/4 да 90%, і асабістыя тазікі / вёдры пазабаранялі, і час спаткання паменшылі, і юрыдычную літаратуру забаранілі — усяго не пералічыш. Пара распавесці, як усё ідзе на самай справе. Хай ведаюць усе.

Прынцыповае адрозненне постсавецкіх зон ад ГУЛАГа: няма голаду, баракі больш-менш ацяпляюцца, няма самазнішчальнай працы, забойства зэка больш не штодзённасць. У сучасных зонах амаль зжытыя масавыя збіцці зэкаў. Яшчэ ў 2001 годзе на жодзінскім цэнтрале [СІЗА-турма № 8 у Жодзіне] арыштаваных сустракалі турэмшчыкі з кіянкамі і віталі: «Сардэчна запрашаем у “Чорны Бусел”». Збівалі для прафілактыкі. Віцебскую турму залівалі крывёю яшчэ ў 2006–2010 гадах. Мае прыгоды ў «амерыканцы» [СІЗА КДБ] — усяго толькі дзіцячая прагулка ў параўнанні з тымі турмамі. Хоць у 2012 годзе групу зэкаў збівалі і ў зоне, быў выпадак. А кропкавыя збіцці без усялякай неабходнасці працягваюцца і цяпер.

Кулак у зонах таксама не гуляе, але гэта дзякуючы абароне нефармальнага арыштанцкага кодэкса. Прымяніць неабгрунтаваны гвалт да іншага зэка — бязмежжа, адказваюць адпаведна. Зрэшты, турэмшчыкі

актыўна выцясняюць арыштанцкія традыцыі; калі гэта адбудзецца, наступіць сапраўднае бязмежжа.

За апошнія гады падцягваюць матэрыяльна-бытавое забеспячэнне. Робіцца гэта за кошт саміх зэкаў, роля турэмшчыкаў зводзіцца да выбівання неабходных сродкаў. Аднак матэрыяльшчыну паляпшаюць толькі такую, якой можна пусціць пыл у вочы ўсякім прыезджым праверкам. Вось прычына еўрарамонтаў і плазмаў у ленпакоях [пакой правядзення вольнага часу ў калоніях]. Але мы ведаем: дзе паказуха — там туфта.

Паралельна вонкавым прыгажосцям забаранілі разеткі ў жылых секцыях, на кабінках туалетаў няма дзвярэй. Афіцыйна з посуду дазволены адзін кубак (кераміка забароненая). У чым гатаваць кашы і салаты? Для гэтай мэты служаць пластыкавыя кантэйнеры, якія сягоння забараняюць у перадачах. Канфіскоўваюць электрачайнікі.

Нельга насіць ваўняны швэдар. На зіму і лета адна мадэль чаравікаў, са звычайным абуткам перыядычна змагаюцца, адбіраюць. Афіцыйна нельга шорты і спартшапачку. Адсутнічае міжсезонка: дажджавік, куртка, паліто. Альбо роба, альбо ватоўка. Нават манікюрныя шчыпчыкі / нажніцы ў пераліку дазволеных рэчаў адсутнічаюць, на этапе адбіраюць. Што казаць — шчотку зубную трэці месяц не магу купіць, няма.

Але матэрыяльныя ўмовы — не галоўнае. Па-людску можна і ў руінах жыць. Значна важнейшыя сацыяльныя ўмовы: прававое становішча і культурна-псіхалагічная атмасфера. І вось тут сталінскія парадкі квітнеюць і пахнуць практычна ў першапачатковым выглядзе.

Галоўная рыса, канешне, атрыманая сучаснасцю ад ГУЛАГа, — атмасфера ўсёдазволенасці з боку турэмшчыкаў. Арыштант не прызнаецца за паўнавартаснага чалавека, у дачыненні да яго дазваляецца любое самавольства. Такое адчуванне накатвае з першых жа дзён.

Механіка рабства пачынаецца з маналіту пад назвай «рэжым». Кожны дзень зэк абавязаны выходзіць у сталовую, незалежна ад уласнага жадання і надвор'я. Для самастойнага прыгатавання ежы часу часта не застаецца. Потым ідуць такія ж абавязковыя паходы ў клуб на нікому не патрэбныя выхаваўчыя мерапрыемствы. Выхад у санчастку, магазін, лазню таксама адбываецца строем і строга па камандзе.

Увесь дзень ператвараецца ў дурныя перамяшчэнні ўзад-наперад, абавязкова строем, не расцягваючыся, па пяць у шэраг. За гэтым адмыслова сочаць. Не дайшоўшы да лакальнага ўчастка атрада якіх-небудзь 20 метраў, дзяжурны наглядчык спыніць строй і прымусіць выстраіцца па пяць у шэраг, каб зрабіць апошнія некалькі крокаў.

Літаральна перад вячэрай пайшоў дождж, але выходзіць усё роўна трэба. На прамзону, у цэхі дайшлі прамоклыя да ніткі. Нагадаю, дажджавікоў у нас няма. А зараз хлопцаў зачынілі ў адстойнік [цесная камера, куды змяшчаюць зняволеных падчасператрусу ў камерах] за тое, што загаралі ў лакалцы. Бо па ПВР (правілы ўнутранага распарадку) вязні ўвесь час павінны быць у робах.

Увесь час, не заняты сталовай, клубам, прамзонай і г. д., мы праводзім у сваіх карпусах. Атрад складае 100–200 чалавек. Лакальны ўчастак корпуса ўяўляе сабой невялікі вальер, за плотам і калючым дротам. Хадзіць у іншыя лакалкі і карпусы нельга, толькі з дазволу опера. Перамяшчэнні па зоне атрада ладзяць так, каб вязні не перасякаліся адзін з адным. У зоне фактычна існуе дзясятак мікразон.

Жывём у секцыях на 25–70 месцаў. Выбіраць месца нельга, усё вырашае начальнік атрада ці опер, а таксама актывісты. Па задумцы, усе павінны ў вольны час сядзець у ленпакоі або ў секцыях на табурэтках. Пры-

думалі гэта далёкія ад жыцця людзі, таму масава не выконваецца такі рэжым. Секцыі фармуюць па прынцыпе сабраць разам абсалютна разнамасных людзей, каб не ўзнікала мужчынскага калектыву, каб людзі заставаліся псіхалагічна максімальна разрозненымі.

За масавым рэжымным дэбілізмам надыходзіць кропкавы, персанальны. У спякоту чапляюцца да незашпіленага верхняга гузіка, у холад — да паднятага каўняра целагрэйкі або робы. Або забараняюць ісці на званкі, калі выйшаў пазней, каб не стаяць дзве гадзіны ў чарзе. Або запускаюць родных на спатканне не раніцай, а пасля абеду, і не важна, што людзі прыехалі ў 8 гадзін. Або адпраўляюць пасылку назад, «забыўшыся» зрабіць пазнаку ў асабістай картцы.

Я нават шалік не магу завязаць так, як хачу, опер асабіста адчытваў мяне за гэта! Памятаю, як трэба было ставіць атас [падымаць хвалю абурэння], каб... памыцца. Я не жартую: калі заставалі за абліваннем вадой на ўмывальніку, саджалі ў ШІЗА за «парушэнне распарадку дня». Гэта ва ўмовах, калі душ — адзін раз на тыдзень. Такую колькасць Дэпартамент [выканання пакаранняў] лічыць цалкам дастатковым.

Каб патэлефанаваць дадому, мне трэба напісаць адразу некалькі заяў на кожны званок, здаць разам з усімі ў пэўныя дні, каб іх падпісалі праз 2–3 тыдні. Гэта значыць, кожны месяц зона выдае некалькі тысяч лістоў для абсалютна бессэнсоўнага рытуалу падпісвання. Бо званок усё роўна запішуць у адзіны часопіс рэгістрацыі. Уся гэтая бюракратычная валакіта ўведзена з адной мэтай: адбіць у зэка ўсякае жаданне тэлефанаваць дадому.

Часам гэта мае трагічныя наступствы. 18 мая хлопцу з майго атрада, схільнаму да суіцыду, начальнік атрада не даў патэлефанаваць дадому маці. Там былі нейкія праблемы з маючай адбыцца спатканкай. А ўвечары Віталік павесіўся на прамзоне. Думаеце, штосьці

памянялася? Не. Начальнік атрада быў адпраўлены ў адпачынак на паўтара месяца, пакуль усё ўляжацца. Як казаў адзін начальнік: «Мне табурэтку цяжэй спісаць, чым зэка».

Калі раней турэмшчыкі задавальнялі свае садысцкія схільнасці гвалтам, хамствам, бязмежжам, то цяпер маскіруюць іх пад патрабаванні папраўчага працэсу, распарадку дня і рэжыму. Адбываецца толькі перайначванне быдлячых адносін да чалавека. Бо ў нармальным хляве скаціну трымаюць у цяпле, кормяць уволю, не б'юць і не крычаць. Так і ў лагерах. Толькі хлеў застаецца хлявом, а жывёла жывёлай. Вы спытаеце: «Як вы гэта ўсё церпіце?» Зрэдку абурэнні здараюцца, усёткі разумення паміж турэмшчыкамі і зэкамі становіцца ўсё менш. Як раз нядаўна быў кіпіш і ў нас, на ўзорна-паказальнай «тройцы» [ВК-3]. 22–23 чэрвеня зона адмовілася ад прыёму ежы. Наглядчыкі, большасць з якіх раней працавалі на малалетцы [калонія для непаўналетніх зняволеных], усё ніяк не зразумеюць, што маюць справу з дарослымі людзьмі са сваімі норавамі. Іх актывісты чалавека на кружку адсадзілі [перавялі ў разрад «апушчаных», ніжэйшага саслоўя ў турэмнай каставай сістэме], народ гэтага не зразумеў, абурыўся.

Але такія акцыі — вялікая рэдкасць. Бо ў руках адміністрацыі датэрміновае вызваленне любога зэка. Ды і ў цэлым эфектыўна працуе прынцып «падзяляй і ўладар». Усім патрабаванням рэжыму і інш. у значна меншай ступені падлягаюць актывісты. Раней іх называлі «лагернымі прыдуркамі», а цяпер папросту «казламі». Актывісты — ніжняе звяно зонаўскай адміністрацыі з ліку саміх зэкаў. Афіцыйна іх павінны выбіраць асуджаныя ў атрадах, але на справе іх прызначаюць зверху.

Турэмшчыкі ствараюць ім адносна лепшыя ўмовы жыцця ў абмен на службу. Часам актывіст па свайму ўплыву пераўзыходзіць шмат каго з супрацоўнікаў. Ім

часцей даюць спатканні, вылучаюць трое сутак, даюць больш званкоў, дадатковыя пасылкі, скрозь пальцы глядзяць на іх парушэнні. Ім дазваляюць хадзіць у госці ў іншыя лакалкі або на стадыён па-за графікам, у душ. Часам даюць уласныя кабінеты.

Але гэта дробязі. Маючы доступ да пэўнага наглядчыка па родзе выкананай службы, яны могуць вырашаць розныя пытанні. Дадатковыя суткі на свіданцы, вага выносімых прадуктаў, дадатковая пасылка, спальнае месца, пасада актывіста, і галоўнае — датэрміновае вызваленне; нават нацкаваць турэмшчыкаў на непажаданага зэка або, наадварот, адмазаць ад спагнання — усё магчыма.

Казлы, якія прыбылі з «дзясяткі», аказаліся вельмі адкрытыя. Хваліліся, як за пару пачкаў цыгарэт ці кавы «адстрэльвалі» [атрымлівалі станоўчыя] характарыстыкі, шляхам інтрыг у кабінетах «ушатвалі» з пасадаў сабе падобных. Пра карупцыю і казаць залішне: прадавалі ўсё.

Вырашэнне пытанняў, зразумела, адбываецца на платнай аснове. Але не столькі асабіста на кішэню (хоць ёсць і такое), а праз афіцыйнае прыкрыццё: фонд калоніі. Будматэрыялы, фарба, шпалеры, вокны, грошы на афіцыйны рахунак, падпіска на газету «Працоўны шлях» — вось галоўны струмень. Гэта значыць, так упадабаныя Красоўскай еўрарамонты робяцца за кошт сродкаў сваякоў асуджаных, вычуваных адладжанай сістэмай вымагальніцтва. У зоне спецыяльна ствараецца штучны дэфіцыт матэрыяльных і сацыяльных выгод, «пераадольваючы» які папаўняюцца рахункі.

Атрымаць пасаду актывіста — «начапіць крыло» — запаветная мара многіх. Бо гэта не толькі палёгка ўласнага жыцця, але і далучэнне да ўлады. Дзеля гэтай улады ў лагеры кожны дзень ідзе сапраўдная вайна. Вязні і турэмшчыкі (я не ўтрырую) гуртуюцца ў кланы. Хто на каго ўплывае, ужо не разабраць.

Акрамя адкрытага прывілеяванага саслоўя сярод зэкаў ёсць і схаванае. Сексоты, стукачы, даносчыкі — адным словам, сукі. Вам уяўляецца пара-тройка нягоднікаў на атрад. Ды не. Методыка турэмшчыкаў у тым, каб ссучыць кожнага.

Прапанову супрацоўнічаць закідваюць пры ўсякім зручным выпадку. Адзін атраднік [начальнік атрада] выхваляўся мне, што ў яго атрадзе з 120 чалавек стукалі 65. Хочацца верыць, што гэта хлусня. Аднак у арыштанцкім асяроддзі ўжо даўно ніхто ніколі нічога ў адкрытую не гаворыць.

Шэпт,ківы, завуаліраныя фразы... Усё сказанае прылюдна данясуць турэмшчыкам — такое агульнае меркаванне. Парой хуткасць складае ўсяго некалькі хвілін! Як правіла, выяўленых сук люстрацыі не падвяргаюць. Больш выгадна ведаць who is who [хто ёсць хто], каб у патрэбны момант нейтралізаваць гніду або запусціць у яго вушы дэзу [дэзынфармацыю].

Ссучваюцца па розных прычынах. Для адных гэта першы крок па «чырвонай лесвіцы», каб стаць казлом, актывістам. Для другіх — абяцанне датэрміновага вызвалення. Для трэціх — матэрыяльнае падсілкоўванне (немаёмным сексотам даюць цыгарэты і чай). Для чацвёртых — магчымасць схадзіць у госці ў іншыя атрады, імунітэт ад дробных парушэнняў.

Але горш за ўсё тое, што нямала і добраахвотнікаў-энтузіястаў, якія стукаюць для задавальнення. На фоне агульнай забітасці і прыніжанасці стукач адчувае сваю значнасць за кошт патаемнай улады. Як я даведаўся праз гады, былі людзі, якія дапамагалі мне адной рукой і адначасова даносілі на мяне. Мабыць, падабалася гуляць лёсам. Увогуле, лагерная сістэма спрыяе масаваму ссучванню народа.

Жыццё ва ўмовах пастаяннага супрацьстаяння турэмшчыкаў, казлоў і сук накладвае свой адбітак.

Нездарма барак часам называюць вужатнікам. Інтрыгі, каму падпілавалі капыты, каго ўкінулі [падставілі], — вось галоўныя навіны дня. А чаго яшчэ чакаць ва ўмовах іерархіі і дэфіцыту?

Меры заахвочвання складаюцца ў праве на паляпшэнне ўмоў утрымання. Гэта права на дадатковую атаварку ў некалькі соцень тысяч рублёў, а таксама права на дадатковыя спатканні і пасылкі. Як вам? Выхоўваюць, як сабаку, ежай. Неспадзяванка ў тым, што большасць зэкаў не маюць сродкаў атаварыцца нават на стандартны ліміт у 900 тысяч рублёў (5 базавых велічыняў). Больш за тое, многія «улучшенники» не маюць нават за 360 тысяч (2 базавыя велічыні), мінімальны ліміт для злоснікаў [злосных парушальнікаў] і іскавікоў [зняволеных, абавязаных выплачваць іскі пацярпелым ці дзяржаве].

Аналагічная сітуацыя і са спатканнямі: да большасці проста ніхто не прыязджае. Тым больш, у нас у лагерах на спатканні дапускаюцца толькі блізкія сваякі. Дзядзькі, цёткі, стрыечныя браты і сёстры, сябры, калегі, аднакласнікі — забаронена. Гучыць неверагодна, бо мы прывыклі да стэрэатыпаў з кінафільмаў, але гэта праўда. ДВП [Дэпартамент выканання пакаранняў] крычыць пра важнасць падтрымання сацыяльных сувязяў і ў той жа час сячэ іх.

Але працягну пра грошы. Як так атрымліваецца, што ў людзей няма нават 900 тысяч на атаварку? Пераважная бальшыня вязняў — утрыманцы, жывуць на дасланыя на асабісты рахунак грошы. Таму што сумленнай працай у зоне зарабіць немагчыма.

Большасць (прыблізна 80%) лічацца працаўладкаванымі толькі фармальна: працы няма. Іх выводзяць на прамзону для галачкі (што само па сабе разбэшчвае чалавека). Тыя ж, хто працуе, дзеляцца на дзве няроўныя групы.

Першыя — некалькі дзясяткаў шчаслівчыкаў — сапраўды могуць атрымліваць мільёны, бо занятыя на высокадаходных вытворчасцях (тэнты, мэбля). Другая група — тыя некалькі соцень зэкаў, на працы якіх трымаецца ўся прамзона. Іх «зарплаты» нельга назваць грашыма.

Напрыклад, той, хто працуе на мнагапіле (станок для абразной дошкі) поўны працоўны дзень, атрымлівае на рахунак... 40 тысяч! Згодна з кодэксам, спачатку пагашаюцца выдаткі на ўтрыманне, але не менш за 10% заробку ідзе на асабовы рахунак. Значыць, заробак складае 400 тысяч. Як??? У некалькі разоў менш за мінімалку! Іншы мой знаёмы працаваў на лесапільні яшчэ ў той час, калі на асабовы рахунак залічвалася не менш за 25% (да восені 2013 года). Працуючы на паўтары стаўкі, па 12 гадзін, у выхадныя і па начах, ён атрымліваў 90–120 тысяч.

Пракуратура і міністэрства працы ўсё гэта пакрываюць, скаргі бескарысныя. Працоўны дагавор з асуджаным не заключаецца, адпаведны пункт у кодэксе адрэдагавалі яшчэ некалькі гадоў таму. Фактычна ў краіне дзейнічае сістэма рабскай працы, якая закранае дзясяткі тысяч чалавек.

Людзі выжываюць, як могуць, падпольна займаюцца ўсялякімі рамёствамі. Але гэта забаронена, укідваюць у момант, калі няма крышы з боку турэмшчыкаў. Думаеш, калі зэк пагодзіцца на «чырвоную крышу», ён будзе ў долі? Няма. Крышуючы турэмшчык забірае сабе ўсё, а наўзамен — толькі паслабленні па рэжыму (нават лічбавыя плэеры дазваляюць), рашэнне любых пытанняў, у тым ліку датэрміновае вызваленне. Чым не прыгонная гаспадарка?

Атрымліваецца, што чалавек можа рабіць шкатулкі, нарды, шахматы, гравюры, карціны, адзенне, абутак — але за бясплатна, каб нажываўся наглядчык. У выніку

чалавек працы не можа ні забяспечыць сябе, ні дапамагчы сям'і, ні пакрыць выдаткі на ўтрыманне, ні пагасіць іск, ні назапасіць грошай да вызвалення. Любы лагер можа выйсці на самазабеспячэнне і прыбытак хоць заўтра, абы турэмшчыкі не перашкаджалі. Але дзе разруха — там дзярбан [раскрадванне]. Так што нікому з начальства гэта не трэба.

Акрамя сродкаў на рамонты, першараднае значэнне адміністрацыя надае пагашэнню іскаў па крымінальнай справе. Усюды развешаны табліцы і цэлыя стэнды з графікам, колькі кожны атрад у якім месяцы пагасіў. Уся пенітэнцыярная сістэма на гэта працуе. Па-першае, амністыя: яна не прымяняецца да тых, хто не пагасіў пазоў. Па-другое, тыя, хто мае іск, пралятаюць міма датэрміновага вызвалення (хоць па кодэксе гэта не абавязкова). Па-трэцяе, іскавікі моцна абмежаваныя па краме: 360 тысяч (2 базавыя велічыні) у месяц. Калі пры гэтым зэк пазбаўлены пасылак, то гэта азначае напаўгалоднае існаванне. Таксама іскавікам даюць менш дзён на доўгае спатканне і амаль не даюць вынасу пакінутых прадуктаў харчавання. Бабулькі-маці, якія прыязджаюць на грамадскім транспарце, павінны везці астатняе назад.

Турэмшчыкі рэгулярна прамываюць мазгі: «плаці, плаці, плаці». А з чаго плаціць, зарабіць жа немагчыма! На гэта адміністрацыя мае суперадказы: 1) плаціць з грошай, дасылаемых блізкімі на ежу; 2) няхай заплацяць сваякі; 3) калі ў родных няма грошай, няхай возьмуць крэдыт у банку. Банкі прапускаюць велізарную магчымасць: гэта ж толькі прапануй крэдыт «Арыштанцкі» — мэтавая аўдыторыя знойдзецца ў момант.

Як бачыце, у зонах наладжана сістэма ўзаконенага вымагальніцтва. Прычым яна закранае не столькі зэкаў, колькі іх сваякоў. Але турэмшчыкі не спыніліся і на гэтым.

У 2013 годзе, у «эпоху значных паляпшэнняў», атаваркі сталі зразаць і тым, хто мае грамадзянскі іск, з

крымінальнай справай ніяк не звязаны. Гэта абсалютна незаконна, таму звычайна турэмшчыкі адступаюць, калі зэк пачынае абурацца. Хоць для некаторых гэтыя абурэнні сканчаюцца атэстацыяй «злосны парушальнік», з тым жа мінімальным лімітам у 360 тысяч. Тым, хто імкнецца сысці на датэрміновае вызваленне, усяляк даюць зразумець, каб плацілі грамадзянскія іскі, інакш камісія адмовіць.

Як адбываюцца пакаранні і рэпрэсуюць няўгодных? Памятаю, як у першы раз наглядчык сказаў мне: «Не ведаю, за што на цябе ў штабе засінілі [чым ты не дагадзіў], але там вырашылі ушатать цябе на кічу [спрадзіць у штрафны ізалятар]. Ты стаіш на ўборцы рукамыйніка, але ты ж не будзеш дзверы на дальняк [туалет] праціраць? Так што нічога асабістага. Круці тарпеды». Вось і ўсё: пратрэш хоць бы ручку прыбіральні — едзеш пеўнем у гарэм [у камеру для «апушчаных»], адмовішся — у ШІЗА.

Варыянтаў паставіць зэка ў бязвыхаднае становішча процьма. Бывала, раздаецца зраніцы па зоне сігнал уставаць, не паспееш з нараў злезці, як у секцыю ўрываюцца наглядчыкі. Стаялі ўжо «зараджаныя» для адстрэлу [з намерам прыкмячаць дробныя парушэнні і караць за іх]. Пішуць рапарт: «не выканаў каманду “Пад’ём”». Не ўстаў, калі наглядчыкі зайшлі ў секцыю (а яны заходзяць па некалькі разоў на дзень) — рапарт. Ці перавернуць матрац на нарах, запішуць «антысанітарны стан спальнага месца». Або зарадзяць суку сачыць, калі ты мыцца з тазам вады пойдзеш або пакуль не заснеш на нарах. Хоць няма такога пункта «забаронена мыцца на рукамыйніку» і «забаронена спаць днём». Пішуць «парушэнне распарадку дня», маўляў: калі па распарадку тры гадзіны культурна-масавых мерапрыемстваў (а іх няма!), то як бы зэк усё адно вінаваты. Трэба сядзець на табурэтцы або цэлік глядзець. Красоўскай трэба было б

самой ПВР пачытаць, перш чым за правы вязняў брацца. Бо вельмі зручна размахваць паперамі на канферэнцыях з воклічамі «Паглядзіце! У нас усё гуманна!» Толькі папяровыя правы ў рэальным жыцці выпусташаныя.

Яшчэ распаўсюджаны метад рэпрэсій —ператрус асабістых рэчаў і праверка адпаведнасці іх вопісу. Ні ў аднаго зэка ён не супадае, проста немагчыма ўсё ўлічваць дакладна. У лістападзе 2014 года мне вось так падкінулі на сумку зарадку ад трубы [мабільны тэлефон] і беларускія 40 тысяч. Супадзенне, але менавіта тады мне прыйшлі раздрукоўкі маіх скаргаў ў ДВП і пракуратуру. Фішка ў тым, што сярод зэкаў ходзяць толькі баксы, смяялася ўся зона. Часцей падкідваюць сім-карты.

Пільнавацца рэжыму, не пільнавацца — розніцы няма. Калі прынята рашэнне, то шанцаў няма. Ну, акрамя як шукаць уплывовых фігур з ліку казлоў, турэмшчыкаў або «вольнячих» [зняволеныя з ліку абслугі, якім дазволены выхад за межы свайго атрада], хто пацягне масу [закіне слова].

У гэтай зоне мяне спачатку двойчы ставілі на пеўневыя ўборкі [уборка памяшканняў, якую забаронена рабіць усім, акрамя «апушчаных», паводле арыштанцкіх законаў, самая чорная праца], у выніку я наогул на іх плюнуў. Цяпер жа асабліва падкрэсліваюць, што аб’екты ўборак мужыцкія [дазволеныя для ўборкі звычайнымі вязнямі, «мужыкамі»]. Спачатку скампраметуюць свой падыход, а потым «шчыра» рэпеціруюць, чаго ж гэта я адмаўляюся.

Ну-ну, прыходзіць малады шчанюк і патрабуе, каб тут і цяпер сталі прыбіраць у яго на вачах. То бок ставяцца, як да дзяцей, як быццам дарослыя мужыкі самі не ў стане павырашаць бытавыя моманты ў сябе ў атрадзе. Вядома ж, гэта зневажальна ў любым наборы, таму і з’яўляецца ўлюбёным сродкам турэмшчыкаў. Для іх

гэта накшталт як пальцам пагразіць, маўляў: «усё ведаем, усё бачым».

Акрамя ШІЗА, пазбаўляюць спатканняў (2 працяглых, 3 кароткіх у год) і пасылак (3 у год), абмяжоўваюць атаваркі як злосніку, 360 тысяч. Вось так у XXI стагоддзі чалавека караюць ежай і забаронай бачыцца з бацькамі і блізкімі. Ужо адно гэта ёсць беспардоннае скоцтва. Але і гэта яшчэ не ўсё.

Дробныя падлянкі ў атрадзе, накшталт выварочвання тумбачкі, рэчаў, перапіскі, нацкоўвання казлоў і сук або дэманстратыўнага пакарання ўсяго атрада / секцыі ў разлік ужо не бяру. Зачыненне чалавека ў бетонны панадворак а-ля «стакан» на гадзіны або нават на цэлы дзень — наогул штодзённасць.

Пасля ШІЗА зэка ўжо могуць змясціць у ПКТ, лагерную турму, на паўгода. Там чалавека пазбаўляюць не толькі спатканняў і пасылак, але і званкоў. Гэта да пытання падтрымання сацыяльных сувязей, якія прапагандуюцца ДВП.

А ўжо пасля ПКТ наступны прыпынак — «крытая», турма толькі для парушальнікаў. У Беларусі іх дзве: у Магілёве — для першаходаў [упершыню асуджаных], у Гродне — для страгача [асуджаных на строгі рэжым]. Адпраўляюць на тры гады, затым назад у лагер. Нямала людзей паехалі туды, каб толькі не набірацца лагернага скоцтва, не стаць ідыётамі. Аб падобным я чытаў ва ўспамінах вязняў ГУЛАГа, калі людзі ў лагерах марылі вярнуцца ў манаскія келлі палітізалятараў.

Але і гэта не мяжа. У Крымінальным кодэксе маецца артыкул 411 «Злоснае непадпарадкаванне». Фармальны склад — парушэнні на працягу года пасля ПКТ [памяшканне камернага тыпу, від пакарання злосных парушальнікаў]. Да двух гадоў плюс да тэрміну. Можна заехаць у зону з годам, а адседзець усе 25, па закону! Іншымі словамі, у Беларусі не важна, які артыкул:

усё роўна тэрмін безразмерны. Чалавек будзе сядзець столькі, колькі вырашаць наверсе. Чым гэта адрозніваецца ад сталінскага «ОСО» [Асобая нарада пры НКУС], калі людзям па адсідку падаўжалі тэрміны?

Ніякага грамадскага кантролю няма і блізка. Калі прыязджаюць важныя камісіі, зэкаў заганяюць на ленпакой, а ва ўсіх ключавых кропках зоны расстаўляюцца супрацоўнікі. У траўні 2015 года сюды прыязджала дэлегацыя на чале з нейкім аўстрыйцам. Нас загналі ў цэх на промцы, на ўваходзе стаў начальнік, каб толькі нас не бачылі.

Хоць нашто скардзіцца? У сакавіку 2014-га прыязджаў начальнік ДВП. Ён падышоў да двух вязняў у сталовай, пацікавіўся якасцю баланды. Трэба сказаць, супец у той дзень быў адметным лайном, суцэльная вада, пра што мужыкі прама і сказалі. Праз дзве гадзіны абодва ўжо былі ў ШІЗА. Знайшліся парушэнні.

Легальнай сувязі з воляй амаль няма. Любы ліст праходзіць праз цэнзуру, у тым ліку і скаргі. Без дазволу адміністрацыі нельга напісаць у газету. Скаргі ў ДВП і пракуратуру выходзяць далёка не ўсе: глядзяць на адпраўніка. Звычайна прасуюць, правяраюць, ці не адступіць. Калі ж праяўляе цвёрдасць і на волі ёсць падтрымка, то шанцаў больш. Хоць што перашкаджае пракурору забіраць скаргі раз на тыдзень самастойна?

Зрэшты, толку ад гэтых скаргаў амаль ніякага. Ні разу я не чуў, каб пракуратура ці суд адмянілі несправядлівае рашэнне адміністрацыі. Афіцыйныя адказы — стандартныя адпіскі накшталт «усё нармальна, парушэнняў не выяўлена». І так — заўсёды.

Турэмшчыкі знайшлі цікавы спосаб барацьбы са скаржнікамі: на рукі скаргі не выдаюць, а копіі не робяць. Сядзі і перапісвай ад рукі! Гэта наваўвядзенне апошніх гадоў.

Але самы свежы «прававы апгрэйд» — забарона на

валоданне кодэксамі і іншымі юрыдычнымі матэрыяламі. У лютым 2015 года, на «тройцы», у мяне самога канфіскавалі дасланыя папраўкі ва УВК і КК, нават акт склалі. Карыстацца юрыдычнай літаратурай можна, толькі ўзяўшы яе ў начальніка атрада. Такія вязні бяруцца на заметку. Гэта зроблена для таго, каб паменш наглядных скаргаў па крымінальнай справе пісалі.

Характэрны прыклад бяспраўя, самавольства і кругавой парукі адбываецца прама цяпер з маім знаёмым Шаманам Віктарам. Вясной 2015 года на яго было накладзена спагнанне за тое, што нібыта нанёс сабе татуіроўку на спіне. Падставай паслужыў данос. Віця патлумачыў, што гэтая татуіроўка была зроблена яшчэ на волі. Аднак у медыцынскай картцы апісанне гэтай тату адсутнічала з прычыны халатнасці доктара, які рабіў агляд. Бо кожны новапрыбылы ў зону зэк аглядаецца, яго тату заносяцца ў картку, часта абы-як. Віця напісаў скаргі ў пракуратуру з просьбай запытаць амбулаторную картку з жодзінскай турмы (СТ-8), у якой дадзеныя аб гэтай татуіроўцы ўнесеныя. Скаргі выпушчаныя не былі.

Тады Віця адправіў іх нелегальна, за што адседзеў у ШІЗА. Віцебская пракуратура адказала, што з боку адміністрацыі зоны парушэнняў няма: спагнанне правамернае. А запыт з СТ-8 ніхто не рабіў. Але Віктар самастойна дапісаўся да СТ-8, яны даслалі адказ, што амбулаторная картка была адпраўлена ў зону разам з ім. Такім чынам, доказ невінаватасці ляжыць прама тут, у асабістай справе. Але ўсім абыякава. А на коне — амністыя, якая не ўжываецца да Віці з-за гэтага спагнання.

Арыштанты ў масе сваёй не лічаць патрэбным змагацца, таму што датэрміновае вызваленне знаходзіцца ў руках адміністрацыі. Менавіта яна вырашае, ці «выправіўся» зэк. Мала хто ведае: каб атрымаць датэрміновае вызваленне, чалавек павінен прызнаць віну. Так

рука руку мые, замятае сляды і следча-судовага бязмежжа.

Што тычыцца адмысловага стаўлення да палітычных, то відавочна, што сама лагерная сістэма з'яўляецца адмысловым стаўленнем. Палітычны вязень займае ў ёй становішча непажаданага зэка, да якога прымяняецца адточаны набор рэпрэсіўных методык. Са спецыфічных — сустрэча з адвакатам праходзіць толькі праз шкло ў пакоі кароткіх спатканняў; вялікая частка адрасатаў лістоў заблакаваная. Я не магу атрымаць лісты ад старых сяброў, якія да палітыкі не маюць дачынення.

Жывучы ў рэжыме ўсебаковай рэгламентацыі, арыштант амаль губляе прастору для ініцыятывы, самарэалізацыі. Культурнае жыццё ў лагеры ўбогае, для галачкі. Прыгон і рабская праца, узаконенае вымагальніцтва, выкшталцоны здзек з асобы — характэрная рэчаіснасць лагера.

Хто ж выходзіць з лагераў? Сутнасць «выпраўлення» — ператварыць чалавека ў бязвольны аўтамат, які схіляецца перад уладай. Турма робіць усё, каб максімальна выключыць чалавека з грамадства, каб яму не было куды вяртацца. Адны вызваляюцца азлобленымі, без граша ў кішэні, без веры ў справядлівасць і чалавечнасць. Іншыя ж перасягнулі ўсе магчымыя межы маральнага: грамадства для іх як выпрабавальны палігон сваёй ахвоты ўлады і ссучанай маралі. Трэція наогул выходзяць бязвольнымі, у іх знішчана воля.

Афіцыйны рэцыдыў — 54%! Больш за палову. Нават з так званых «якія сталі на шлях выпраўлення» — чвэрць. Але не варта памыляцца наконт астатніх. Прайшоўшы «турэмныя ўніверсітэты», многія ўжо не трапляюцца, становячыся прафесійнымі злачынцамі. Яшчэ частка зусім пакідае краіну, разумеючы, што іх замятуць пры першым зручным выпадку. Лагерная псіха-

логія атручвае ўсё грамадства, бо рахунак ідзе на сотні тысяч, якія прайшлі праз турэмную мясарубку.

Лагеры некалькі падраслі матэрыяльна, бо час ідзе. Але ментальна — што галоўнае! — гэта ўсё той жа ГУЛАГ.

*https://abc-belarus.org/?p=6273*



## ПА ТОЙ БОК ПЛОТА

Як жыць у зоне анархісту і любому прыстойнаму чалавеку? Гэты артыкул зусім не аповед пра турмы і лагеры. Каб даведацца пра шматлікія тонкасці арыштанцкага жыцця, вы можаце прачытаць кнігі (у канцы артыкула вы знойдзеце невялікі спіс). Я ж напісаў гэты тэкст, каб даць вам уяўленне, што рабіць, калі здарыцца патрапіць у зону. Тут прыведзены агульныя парады, тут шмат жаргону, тут рэчы названыя сваімі імёнамі.

Артыкул напісаны на аснове майго асабістага вопыту. Я адседзеў каля пяці гадоў за ўдзел у анархісцкім руху, таму мае парады носяць спецыфіку для палітвязняў-анархістаў. Тым не менш непалітызаванаму чалавеку гэтая інфармацыя будзе вельмі карысная. Бо зона дзеліць людзей зусім па іншых крытэрах. Да таго ж пасля сустрэчы з Уладай без маскі апалітычнасць знікае.

За час адседкі самае галоўнае — не зламацца і выйсці чалавекам. Але прыстасоўвацца да мясцовых нораваў, пры гэтым захоўваючы ўнутранае ядро, усё ж давядзецца. Пачнём з таго, што ў зоне арыштанты кажуць адзін аднаму «ты», у такой манеры і будзе весціся апавяданне.

* * *

І вось, нарэшце, аб’яўлены прысуд, душная цесная камера засталася ззаду і цябе этапуюць у зону. У СІЗА

ты ўжо адчуў, што правоў у цябе мала. Падрыхтуйся маральна да таго, што іх стане яшчэ менш. Зона значна больш адарваная ад знешняга свету, чым турма. Што далей?

## 1. З КІМ СЯДЗЕЦЬ

Ёсць распаўсюджанае меркаванне, што ў турмах сядзяць адны падонкі-крымінальнікі. Іх вобраз тыражуецца ў кіно, а СМІ любяць пісаць аб гучных злачынствах. Але гэта — стэрэатып.

Як спяваў Высоцкі, «не верь молве, их там не больше, чем в Москве...» У рэальнасці працэнт падонкаў у турме такі ж, як і ў грамадстве ў цэлым. Бо хто такі злачынец? Гэта чалавек, які прызнаны судом вінаватым у парушэнні закона. Але каб парушыць закон, неабавязкова быць падонкам, гэта можна зрабіць нават з добрых памкненняў. Гэтаксама каб быць падонкам, зусім неабавязкова парушаць законы, што сучаснае ўладкаванне грамадства пацвярджае на практыцы штодня — самыя нягоднікі знаходзяцца на вяршыні. У першую чаргу важная матывацыя ўчынку, але судовую сістэму цікавіць толькі юрыдычны бок, або меркаванне зацікаўленых уплывовых асоб, або — што самае сумнае — ведамасныя інтарэсы, якія заключаюцца ў прынцыпе канвеернай вытворчасці абвінаваўчых прысудаў.

### Крыміналізаваныя

У турму часта трапляюць за крыміналізаваныя дзеянні. Нелегальная прадпрымальніцкая дзейнасць, ухіленне ад платы падаткаў, падробка дакументаў, абмен валют на чорным рынку, гандаль каштоўнымі металамі, нявыплата аліментаў, захоўванне наркотыкаў, самагонаварэнне, ДТЗ з цяжкімі наступствамі, захоўванне незарэгістраванай зброі, браканьерства, нелегальнае

перасячэнне мяжы, кантрабанда. Гэтыя з’явы — штодзённасць, акаляючая нас, няхай месцамі сумная і трагічная. Але па законе дзяржавы гэта — злачынства, і штодня новыя і новыя зняволеныя папаўняюць лагеры па гэтых артыкулах.

**Залётныя**

У турме шмат тых, хто трапіў туды выпадкова. Гэта можа быць нечаканая бойка, якая пацягнула цялесныя пашкоджанні, хуліганства, выбіванне даўгоў, псеўдазгвалтаванне (калі «ахвяра» спрабуе шантажаваць), нават выпадковае забойства ў выніку сваркі. Вядома, неабходна адзначыць, што часта гэтыя людзі вялі такі лад жыцця, які спрыяў трапленню ў падобныя сітуацыі. Як правіла, гэта ўжыванне алкаголю або наркотыкаў, радзей — прыналежнасць да субкультур, у якіх цэняцца рызыка і агрэсія (напрыклад, фанаты, гопнікі). Па маіх назіраннях, менавіта такім чынам у гэтых людзей адбываецца разрадка назапашанага стрэсу. Асабліва гэты эфект узмацняецца штодзённым уплывам спажывецкіх каштоўнасцей, якія нараджаюць адчуванне ўласнай непаспяховасці, нікчэмнасці, з цягай кампенсаваць гэта за кошт іншых.

**Карыслівыя**

У гэта цяжка паверыць, але толькі меншасць зэкаў сядзіць за крадзяжы, махлярства, рабаванне, рэкет або разбой. У асноўным гэта «героі»-аднадзёнкі або «полуцвет», г. зн. тыя, хто днём працаваў, а ўначы зарабляў. Сапраўднага прафесійнага або арганізаванага крыміналу там яшчэ менш, усяго некалькі адсоткаў. Сярод іх можна сустрэць вельмі розных людзей з рознымі матывамі. Але пераважаюць людзі, якія лічаць іх шлях здабывання сродкаў адказам на сацыяльную несправядлівасць, безвыходнасць. Звычайна яны маюць свой

этычны кодэкс дапушчальных і недапушчальных метадаў і ўчынкаў.

**Нелюдзі**

Самая малалікая група — рэальныя садысты, гвалтаўнікі, педафілы, забойцы-бязмежнікі. Іх вельмі мала — некалькі адсоткаў, павагай астатніх вязняў яны не карыстаюцца, адэкватныя людзі не прызнаюць іх за роўных.

Правіла № 2 — ні ў якім разе не думай накшталт «я — палітычны (інтэлігент, бізнесмен), а гэта крымінальнікі»: ты нічым не лепшы за многіх арыштантаў, а жыццё ў кожнага адно. Не стаў сябе вышэй, не адштурхоўвай ад сябе людзей, навучыся слухаць, унікаць у жыццё чалавека (пры гэтым не зблiжацца). Ты знойдзеш нямала прыстойных і годных асоб. Акрамя таго, зачыніцца ад соцыуму азначае гарантаваную дэградацыю.

Помні, што ўся сацыяльная несправядлівасць і псіхалагічнае адчужэнне ў грамадстве матэрыялізуецца ў выглядзе зламаных лёсаў людзей, кінутых у турму. На жаль, незадаволенасць жыццём не часта прыводзіць да народных пратэстаў, сацыяльнай барацьбы і рэвалюцыі, але абавязкова — да масавага псіхічнага надлому, нараджаючы шматаблічную плынь зняволеных. Менавіта таму турма дае крышталёвае ўяўленне аб сутнасці дзяржаўнай сістэмы.

## 2. ДЗЕ СЯДЗЕЦЬ

Зона жыве сваім паралельным жыццём, гэта іншае вымярэнне, іншая планета. Менталітэт зоны падобны да менталітэту традыцыйнага сярэднявечнага грамадства. Першыя пару тыдняў зняволенага закідаюць у ізаляваны барак, «каранцін». Афіцыйна гэта трэба для

адаптацыі і чакання інкубацыйнага перыяду захворванняў. У рэальнасці каранцін — першасная «пражарка», якая мае на мэце задушыць пачуццё ўласнай годнасці і адсеяць бунтаўнікоў.

У гэты перыяд трэба максімальна мабілізавацца: мянты, казлы, блатныя, іншыя вязні ацэньваюць цябе. Нават калі ты доўгі час правёў у СІЗА, павер, ты яшчэ нічога не ведаеш. Галоўная прычына памылак — адсутнасць элементарнай вытрымкі. Пачаткоўцы вельмі часта не могуць стрымацца, каб нешта не расказаць, не падзяліцца, не ўвязацца. Лепш не даваць пра сябе, пра свае навыкі падрабязнай інфармацыі, ніколі не ведаеш, да чаго гэта можа прывесці.

Выпадкова расказаная гісторыя з жыцця можа ва ўмелых руках быць разыграна ў адмоўны для цябе бок. Напрыклад, досвед працы поварам можа стаць прычынай настойлівай прапановы з боку турэмшчыкаў-лягавых і іх падпявалаў пайсці працаваць у сталовую, што па шэрагу невідавочных прычын з’яўляецца негатыўным. Нічога няма ганебнага ў тым, каб гатаваць ежу. Але ў сталовай прыйдзецца пакрываць і саўдзельнічаць у крадзяжы прадуктаў з агульнага катла, гатаваць ежу лягавым, якія не грэбуюць арыштанцкай пайкай, і быць заслужана пагарджаным за гэта астатнімі арыштантамі.

Аднойчы да нас прыехаў прафесійны мастак-дызайнер. Яму прапанавалі маляваць карціны для начальства, стварыць усе ўмовы і да т. п. Ён адмовіўся. Яго кідалі ў карцары (аднойчы на 60 сутак), ціснулі праз актывістаў і блатных. Мужык выстаяў, але замкнуўся ў сабе.

Дапусцім, ты захапляўся скалалажаннем і маляўніча расказваў пра гэта. А можа, яшчэ і пахваліўся, што «гэты плот нічога не варта пералезці». Не здзіўляйся, калі раніцай выклічуць у штаб і начэпяць чырвоную бірку «схільны да ўцёкаў».

Іншая папулярная катэгорыя, каго шукаюць лягавыя і асабліва заўхозы атрадаў, — прыбіральшчыкі. На такой працы таксама рабіць няма чаго, стаўленне да іх пагардлівае і, у залежнасці ад зоны, можа дайсці аж да вылучэння ў асобную касту, на ўзровень прыслугі. Таксама могуць прапанаваць пайсці працаваць у брыгаду, якая арэ зямлю і вырабляе рамонт на «запретке», г. зн. унутры платоў вакол лагера. Пра такіх кажуць «самі сабе турму будуюць».

Велізарнай памылкай будзе паводзіць сябе з астатнімі запанібрата. Так часта адбываецца яшчэ ў турме падчас следства, калі агульная бяда і жыццё ў адной камеры збліжае людзей. Пільнуйся дыстанцыі, людзей вакол яшчэ трэба будзе пазнаць, а тыя, каго ведаеш па турме, яшчэ пакажуць сябе ў зоне.

Распаўсюджаная памылка — выдаваць сябе за хаджалага, сябра або сваяка аўтарытэта, знаўцу турмы. Гэта можа спрацаваць толькі на час следства, максімум. У зоне падман стане відавочным за 5 хвілін і зробіць з цябе пасмешышча. А могуць і спагнаць за падман.

Але самая небяспечная тэма для размовы — асабістае жыццё. Вазьмі сабе за прынцып ніколі ні з кім не абмяркоўваць інтымныя падрабязнасці. Нямала хлопцаў былі апушчаныя ў пеўні за тое, што абмовіліся, як займаліся аральным сексам з дзяўчынай (не кажучы ўжо пра гомасексуалізм). Такой інфармацыяй ты ламаеш лёс не толькі сабе, але і тым, каму ты казаў, але хто не распавёў іншым. Наогул на гэтую тэму не прынята распытваць. Калі нехта праяўляе настойлівасць, то амаль напэўна гэта падонак, які капае пад цябе мэтанакіравана.

У цэлым шматслоўнасць у зносінах, дэталёвыя аповеды пра сябе і крымінальную справу (нават калі няма чаго хаваць) у зоне ўспрымаюцца як слабасць і несур’ёзнасць. Таму правіла № 3 — будзь стрыманы: кажы менш, даведвайся больш.

У цэлым каранцін трэба прайсці максімальна незаўважна. Пазбягай даваць пра сябе лішнюю інфармацыю. Адмоўся ад абсалютна любых прапаноў, накшталт элітных работ або размеркавання ў прывілеяваны атрад. Наадварот, трэба патрапіць на тыповыя агульныя працы са звычайнымі мужыкамі.

Пасля каранціну цябе накіроўваюць у адзін з атрадаў жылой зоны. Чым далей барак размешчаны ад штаба адміністрацыі, тым лепш. Не чакай цёплай сустрэчы ад тых, з кім сядзеў у турме і каранціне, лагер выбудоўвае адносіны нанова.

Што ж там чакае? Вельмі моцна залежыць ад таго, які ў зоне ход, іншымі словамі, чыя ўлада.

**Чорнае**

У чорнай зоне кіруюць блатныя. Сябе яны называюць басотай, бадзягамі. Блатнымі падтрымліваецца асаблівая сістэма арыштанцкіх адносін — Агульнае. Яна вызначае ўсе бакі арыштанцкага жыцця: кошты на гандаль, трактоўкі ўчынкаў, касты. Гэта самы сапраўдны няпісаны кодэкс законаў, які перадаецца з вуснаў у вусны. Захавальнікамі і тлумачальнікамі гэтых законаў-паняццяў выступаюць толькі блатныя.

**Касты**

Рэальная іерархія лагера выглядае наступным чынам. У самым версе знаходзяцца зладзеі («воры») у законе, эліта блатнога свету, ордэн прафесійнай злачыннасці, які сыходзіць каранямі ў 20-я гады мінулага стагоддзя. Зладзеі — вышэйшая інстанцыя, могуць адмяніць амаль любое рашэнне, прынятае ніжэйстаячымі блатнымі ў любой турме і зоне. Цяпер яны сядзяць рэдка, але надзяляюць сваёй уладай «положенцев», якія некалькі вышэй, чым звычайны блатны.

За зладзеямі ідуць блатныя (яны ж валацугі, ба-

сякі). Сябе яны называюць Людзьмі, усе астатнія для іх — фраеры, г. зн. «общечеловеки». Звычайна са свайго асяроддзя яны прызначаюць кіраўнікоў, «смотрящих», г. зн. апарат улады.

Паралельна блатным выбудоўваецца вертыкаль казлоў, г. зн. тых зэкаў, хто атрымаў ад турэмшчыкаў якую-небудзь пасаду: днявальныя, заўхозы, розныя актывісты рэжыму. На класічных чорных зонах казлоў няшмат, вялікай ролі яны не граюць.

Касцяк лагераў — мужыкі, самыя звычайныя зняволеныя, іх большасць. Мужык не блатуе, але абавязаны выконваць законы-паняцці, дапамагаць агульнаму. У чорных зонах мужыкі не займаюцца ўборкай, не ўдзельнічаюць у культурных і «выхаваўчых» мерапрыемствах без дазволу блатных.

Ніжэй ідуць шныры. Роля шныра зводзіцца да слугавання іншым зэкам. Напрыклад, мыццё посуду, адзення, уборка. Таксама ў чорных зонах да іх прыраўноўваюцца прыбіральшчыкі і нечысць, г. зн. тыя вязні, якія парушылі паняцці.

Пакрыўджаныя (яны ж пеўні) — ніжэйшая каста арыштанцкага свету. Яны практычна бяспраўныя і недатыкальныя. Пакрыўджаныя займаюцца ўборкай туалетаў і сметнікаў, частка з іх — гомасексуалісты, абслугоўваюць іншых зэкаў сексуальна (гомасексуалістам лічыцца толькі пасіўны бок).

Важная асаблівасць каставай сістэмы для неблатной часткі арыштантаў — статус можа толькі паніжацца, без выключэнняў.

**Блатная палітыка**

Блатныя займаюцца падтрыманнем устаноўленых паняццяў. Яны выступаюць арбітрамі ў канфліктах, сочаць за азартнымі гульнямі, з якіх плаціцца падатак у 10% з выйгрышу, выпускаюць распараджэнні-паста-

новы, забяспечваюць паступленне забароненых рэчаў у зону.

Але галоўная іх дзейнасць — збіраць у абшчак, блатную касу. Прызначэнне абшчаку — падтрымліваць-падаграваць зняволеных у асобнай унутрылагернай турме, грэць дах, які складаецца з памяшкання камернага тыпу (ПКТ) і штрафнога ізалятара (ШІЗА). У ШІЗА/ПКТ сядзяць парушальнікі рэжыму, тэрмінам ад некалькіх дзён да паўгода. Трапіць у карцар можна за незашпілены гузік ці незасланы ложак, за што заўгодна.

Акрамя таго, абшчак расходуецца на падагрэў хворых у санчастцы, каранціне, і — асабліва — спецыяльнай турме для злосных парушальнікаў з усіх лагераў, — крытай.

**Чырвонае**

У чырвоным лагеры ўлада належыць турэмнай адміністрацыі, наўпрост ці праз казлоў. Звычайна казлы проста замяняюць сабой блатных, але асноўныя ўклады блатных паняццяў і арыштанцкай культуры застаюцца. З аднаго боку, так прасцей кіраваць, з другога боку, казлы ў мінулым самі часта бывалі блатнымі. У чырвоным лагеры рэжым звычайна больш жорсткі, культурныя і рэжымныя мерапрыемствы з'яўляюцца абавязковымі, наведванне іншых атрадаў складанейшае, патрабаванні да дысцыпліны суровейшыя.

Акрамя ўтрымання ўлады важная функцыя казлоў і ніжніх чыноў турэмшчыкаў — вымагальніцтва. Пад рознымі добрапрыстойнымі падставамі — рамонты, падпіска на газеты, купля абсталявання, выплата пазову — штодня зона выцягвае сродкі з кішэняў сваякоў зняволеных. Таксама казлы з'яўляюцца прамежкавым звяном унутранай карупцыі, як правіла, лягавыя вырашаюць пытанні праз давераных асоб.

**Бязмежжа**

Трэцяя разнавіднасць лагера здараецца, калі да ўлады прыходзіць аўтаномная групоўка зняволеных. Гэта могуць быць члены адной банды, або псеўдаблатныя, якія толькі прыкрываюцца агульным, або клан казлоў, над якімі мянты страцілі кантроль. Бываюць выпадкі, калі група зэкаў-спартсменаў або нават камерсанты бяруць зону пад кантроль. Парадкі ўсталёўваюцца якія заўгодна, але звычайна ўсё роўна з апорай на блатныя паняцці, так глыбока яны пусцілі карані.

Некалькі гадоў назад такая гісторыя здарылася ў адным з расійскіх лагераў Цвярской вобласці. Блатныя масава падселі на наркотыкі, растрацілі абшчак і сталі вымагаць у мужыкоў. Увогуле жыцця не стала. У адзін дзень мужыкоў сабралі ў актавай зале, і начальнік-гаспадар зоны абвясціў, што цяпер зона чырвоная. У гэты момант па бараках ішла група мясцовых спартоўцаў пад правадырствам масцітага бандыта і збівала блатных. У выніку басота і іх асяроддзе былі ізаляваны ў асобны барак, які стаў жыць аўтаномна ад асноўнай зоны.

Бандыты не сталі нічога мяняць, у кожны барак даслалі дваіх «смотрящих». Многія пытанні былі пастаўлены на камерцыйную аснову (права мець тэлефон, віп-алкаголь, цёплыя месцы на прамзоне). У выпадку прыгнёту ў дачыненні да мужыкоў сходняк групоўкі караў бязмежніка, аж да выгнання са свайго асяроддзя. А казлы як былі «не в удел», так і засталіся.

У рэальнасці лагеры ўяўляюць звычайна сінтэз чорнага, чырвонага і бязмежжа.

Лічыцца, што сядзець у чорнай зоне лягчэй, а горш за ўсё — ва ультрачырвонай, дзе людзі маршыруюць ў нагу днямі напралёт.

**Культура і традыцыі**

Лагернае жыццё выпрацавала асаблівую арыштанцкую культуру, універсальную для ўсіх лагераў. Самая

распаўсюджаная традыцыя — чаяванне. Чай заварваюць пры візіце гасцей, на свята, пры важнай размове. Жменя цукерак або шакаладка да гарбаты паказваюць павышаны ўзровень увагі да ўдзельнікаў чаявання. Чай ці чыфір п'юць з аднаго кубка, па коле, робячы два глыткі (хоць ніхто не ведае чаму). Лічыцца непрыстойным перарываць чайную цырымонію, перасякаць круг людзей, якія п'юць, ці адмаўляцца ад яе без важкай прычыны.

Краевугольным каменем арыштанцкай культуры з'яўляецца адказнасць за прамоўленае слова: раз сказаўшы, сітуацыю ўжо нельга скасаваць. Узровень псіхалагічнага напружання ў лагеры настолькі высокі, што хлусня становіцца відавочнай (у гэтай з'явы ёсць навуковае абгрунтаванне). Арыштанцкі жаргон — феня — гранічна дакладная ў тэрмінах, вельмі цяжка спрабаваць перайначыць свае словы. У дачыненні да такой спробы часта намякаюць: «Чуў, launchраёбшчык горшы за підараса». Таму вязні стараюцца гаварыць удумліва, асцярожна.

Тое ж самае тычыцца ўчынкаў: калі хто спатыкнуўся, гэтага ўжо не забудуць. Справа ў тым, што лагерная супольнасць уяўляе сабой адкат у камунікацыях на ўзровень гаворкі, няма перагрузкі інфармацыяй. Рэпутацыя, вернасць слову, імя чалавека зноў становяцца найважнейшай каштоўнасцю.

Яшчэ адзін элемент культуры — павага да пакутніка. Прынята надаць увагу чалавеку пасля адсідкі ў ШІЗА — заварыць гарбату і прыгатаваць паесці, паставіць гарачую ваду, скінуцца гарбатай і цыгарэтамі (бо цыгарэты — валюта ў зоне), сабраць сродкі гігіены, новую споднюю бялізну.

Спецыфічных арыштанцкіх нормаў шмат. Так, не дапускаецца нядбалае стаўленне да забароны. Напрыклад, нож ці тэлефон нельга пакідаць на адкрытым

месцы. Калі турэмшчыкі знойдуць забарону, то могуць ператрэсці ўвесь барак. Арыштанты ставяцца да гэтага з разуменнем, але не ў выпадку легкадумнага галавацяпства. У зоне нельга мець уласнасць: нары, табурэткі, вечка тумбачкі, лаўкі, месца ў страі асабістымі быць не могуць. Іншыя зэкі маюць права прысесці на нару, пасунуць тумбачку, стаць і сесці дзе пажадаюць. Асабліва гэта важна ў выпадку азартнай гульні: гульню перарываць не прынята, страсці абвостраны, прычым 10% выйгрышу збірае «смотрящий» за гульнёй. У выпадку неасцярожнага ўмяшання ў гульню прайграючы можа паспрабаваць абвінаваціць цябе ў сваёй няўдачы і запатрабаваць кампенсаваць. У зоне нельга навязваць свайго меркавання або сваіх рашэнняў іншым. Такія спробы ў адносінах да сябе неабходна неадкладна спыняць. Але разам з тым ёсць правіла «сха́ваў — жуй», г. зн. нельга памяняць «не» на «так», і наадварот. Нельга грубіяніць і крычаць на іншага арыштанта, гэта расцэньваецца як непавага і пасля папярэджання можна смела ігнараваць размову альбо спытаць з хама. Лічыцца непрыстойным прыставаць з просьбамі на працягу сутак пасля спатканкі са сваякамі. У бараку арыштант абавязаны падтрымліваць гігіену, прыбіраць за сабой і мыць свой посуд адразу. Неабходна штодня мыць ногі, насіць свежую бялізну і шкарпэткі. Нельга тушыць святло, калі ім нехта карыстаецца (напрыклад, чытае кніжку) або патрабаваць цішыні ад іншых падчас сну. Таксама няправільна цалкам зачыняць акно: лічыцца, што свежае паветра важнейшае за цяпло, бо захворванне на туберкулёз у тысячу разоў большае, чым на волі. Уваходзячы ў памяшканне, чалавек павінен павітацца, хай нават ён заходзіць ўжо дзясяты раз. Плаціць за даручэнні можа толькі шнырам. За аказаную паслугу дзякуюць, звычайна ў ходзе чайнай цырымоніі.

Запамятай правіла № 4 — любы канфлікт сярод

арыштантаў вырашаецца самімі арыштантамі, катэгарычна нельга звяртацца да турэмшчыкаў па дапамогу, нават «усяго толькі» ставіць іх у курс. На фені гэта называюць «ламіцца да лягавых». Самі турэмшчыкі, як правіла, уяўляюць з сябе мразяў рознай ступені кончанасці. Менавіта яны адшмонваюць неабходныя ў побыце рэчы, менавіта яны пазбаўляюць спатканняў з блізкімі, менавіта яны гнояць людзей у ШІЗА і дадаюць новыя тэрміны. Нават дапамагаючы, яны выкарыстаюць гэта для сваіх мэтаў пазней, паспрабуюць маніпуляваць. У турме нічога не бывае «проста так», за ўсё даводзіцца плаціць. У фільме «Бязмежжа» паказаны вельмі праўдзівы момант, як опер аддае цёплыя шкарпэткі хлопцу, ведаючы наперад, што блатныя выкарыстаюць гэта як падставу, каб апусціць. І падобных сітуацый — тысячы, з іх выткана лагерная штодзённасць.

Жыццё ў зоне спасцігаецца недзе за год, на працягу гэтага часу з сур'ёзнымі рашэннямі лепш пачакаць.

**3. ЯК СЯДЗЕЦЬ**

Лічыцца, каб спазнаць зону і адчуць час, патрэбен год. Таму прыняцце сур'ёзных рашэнняў на гэты тэрмін лепш адкласці.

Сама сутнасць зоны — растаптаць або знявечыць чалавека. Таму сядзець трэба так, каб захаваць дух і душу. У зоне няма сярэдзіны, няма бяспечнай мадэлі паводзін. Кожны дзень успрымай як бой — бой з прыгнётам сістэмы, з яе спакусамі, з уласнымі слабасцямі. У гэтай бітве можна страціць здароўе, але застацца маральным, валявым чалавекам, стаць лепшым.

**Душа**

Аскацініцца ў зоне можна двума спосабамі: прынізіцца перад іншымі або ўзвысіцца над іншымі.

Правіла № 5 — не далучайся ні да якіх груповак. Так ці інакш яны альбо прывілеяваныя, ці ўлада, што анархісту непрымальна ні пры якіх абставінах. Гэта тычыцца не толькі блатных і актывістаў, але і гаспадарчай абслугі. На любое цёплае месца заўсёды ёсць чарга жадаючых аблегчыць сваё жыццё. За гэтыя месцы ідзе барацьба. Лягавым нічога не варта паставіць на такое месца найбольш лаяльных адміністрацыі. Так што рана ці позна за ўсё прыйдзецца расплачвацца. Не шукай лёгкага становішча, трымайся заўсёды мужыкоў.

Сярод прыблатнёных, т. зв. «движенцев», часам сустракаюцца вельмі нядрэнныя хлопцы, з якімі захочацца ўдзельнічаць ва ўсякіх падпольных справах. Але нават з такімі нельга занадта збліжацца. Яны скаваныя блатнымі паняццямі, абавязаны падпарадкоўвацца сваім іерархам. І могуць узнікнуць сітуацыі, калі яны папросяць аб дапамозе. Напрыклад, з-пад крышы ад блатных прыйдзе малява прасануць зэка за касяк. Напісана будзе адно, а рэальныя прычыны — іншыя. Таму заўсёды захоўвай дастатковую дыстанцыю ад удзельнікаў груповак, каб да цябе не звярталіся з непатрэбнымі табе просьбамі.

Гэтаксама (правіла № 6) непрымальна карыстацца паслугамі шныроў. На жаль, гэта распаўсюджаная з’ява, калі нават нармальныя людзі не супраць дазволіць шнырам мыць за сябе шмоткі, гатаваць гарбату, мыць посуд, насіць ежу са сталовай. Але часам бывае складана зразумець, што з’яўляецца прыслугоўваннем, а што не.

Справа ў тым, што раз на месяц у кожным бараку мужыкі скідваюцца цыгарэтамі, гарбатай у агульную касу для аплаты шэрагу работ. Да іх адносяцца ўборка барака і тэрыторыі, атас (спецыяльны дзяжурны, папераджальны барак, калі ў лакальны ўчастак заходзяць наглядчыкі або кантралёры), выкананне нормы на прамзоне. У залежнасці ад зоны гэтыя работы выконваюцца

як шнырамі, так і маламаёмаснымі мужыкамі. Для многіх гэта адзіны спосаб зарабіць неабходны мінімум для жыцця! Таму прыслугоўваннем можна назваць толькі тое, што носіць асабісты характар, напрыклад даць памыць свой кубак.

Таксама распаўсюджана падкрэслена грэблівае стаўленне да шныроў, не кажучы ўжо пра слоўныя і фізічныя здзекі з іх. Удзельнічаць у такіх траўлях дзеля таго, каб «быць як усе», — вялікі крок да маральнага падзення. Залішне цікаўным заўсёды можна адказаць «не бачу ў ім годнага суперніка». Наогул, папіханне слабых — першая прыкмета ўласнай слабасці.

Тым не менш адно з найважнейшых правілаў (№ 7) зоны — бойся слабых. Найбольшыя гвалт, падман і здзекі адбываюцца зусім не ад верхніх кастаў да ніжніх, а сярод шныроў і пеўняў адносна адзін да аднаго. Нярэдка такое адбываецца публічна, каб падняць свой капеечны аўтарытэт.

Гістарычнае адступленне: магчыма, менавіта таму арыстакратычны клас у Расійскай імперыі быў такім жорсткім і быдлячым. Справа ў тым, што традыцыйная арыстакратыя, баярства, чые карані ляжалі ў княжацкіх дружынах (як і ўсюды ў свеце), была практычна знішчана ў эпоху мангольскага іга і наступных цароў. Ім на змену прыйшло дваранства, былыя халопы пры княжым двары. Набраўшыся княжацкіх звычак і манер, яны саромеліся свайго чаляднiцкага паходжання, што кампенсавалася паталагічнай нянавісцю і пагардай да простага люду.

Ёсць такі распаўсюджаны ў зоне выраз «прыняў дабрыню за прастату», ён вельмі дакладна характарызуе большасць прадстаўнікоў ніжэйшых кастаў. Для іх не існуе роўнасці ў адносінах: ёсць толькі вышэй і ніжэй. І калі гаспадар сыходзіць, шныр звычайна зусім не радуецца вызваленню ад прыгнёту, а шукае сабе новага

гаспадара. Анархісту інтуітыўна складана зразумець і тым больш прыняць такі ход рэчаў, і ёсць спакуса «падцягнуць» шнырoў да сярэдняга ўзроўню. Гэты імпульс неабходна пераадолець. Для шнырoў такое тваё жаданне — дзівацтва, якое хутка пройдзе. І яго мэта будзе ў самыя кароткія тэрміны максімальна займець з гэтай сітуацыі, г. зн. дзербануць «альтруіста» на цыгарэты, чай і інш.

Акрамя таго, маладушнасць і ганьба заўсёды ідуць рука аб руку з подласцю. З высокай доляй верагоднасці шныр аказваецца стукачом, пастаянным або сітуацыйным. У яго, а тым больш у пеўня, няма прычын ставіцца да цябе ўзаемна, затое шмат прычын ненавідзець.

Калі шкадаваць, то шкадуй мужыка, які без грэву з волі круціцца (рэжа лыжкі, падпісвае паштоўкі, шчырус на прамзоне), але трымае сваю годнасць і ў слугі не ідзе, хай яно і гарантуе яму паляпшэнне матэрыяльнага становішча.

**Дух у турме**

У зоне жыццё працякае ва ўмовах сістэматычнага ціску лягавых, іерархіі і дэфіцыту. Гэта спараджае ментальна напружанае асяроддзе. Ад гэтай напружанасці нікуды не падзецца, яна точыць кожны дзень. Таму крытычна важна захоўваць самакантроль, для чаго неабходна ўмацоўваць дух.

Першае, чаму трэба навучыцца — казаць «не», не тлумачачы прычын (правіла № 8). Шэраг насельнікаў зоны, якія разглядаюць іншых як аб'ект нажывы, вельмі выразна ўлоўліваюць чалавечыя ноткі. Іх дзень праходзіць у выклянчванні ў іншых усялякіх выгод, як правіла ежы, цыгарэт або сродкаў гігіены. Калі чалавек пускаецца ў тлумачэнні, чаму не можа даць, чаго просяць, то гэта значыць, ён адчувае сябе крыху вінаватым,

што адмаўляе чалавеку. Для зонаўскіх дзярбаншчыкаў гэта прыкмета слабасці і сігнал ціснуць на жаль.

На волі звычайная справа — паабяцаць і не выканаць. Заўсёды можна патэлефанаваць, растлумачыць сітуацыю, схлусіць. У зоне гэта абсалютна не так, яна не любіць парушэнні слова і паўтоны. Нязначнае для цябе слова для іншага часта можа стаць падставай для дзеянняў. Напрыклад, ты замовіў на швейцы ватоўку. Чалавек правёў цэлую камбінацыю, каб дастаць тканіну, адмовіў у заказах іншым, купіў суткі свіданкі за будучы заробак. І раптам ты кажаш: «Не, я перадумаў». У выніку іншыя швейшчыкі будуць абыходзіць цябе бокам, а чалавек трапляе ў складаную сітуацыю, якой могуць скарыстацца іншыя. Прычым калі чалавек духавіты, можа і запатрабаваць кампенсацыю, аж да звароту па дапамогу да блатных. Трэба ўзяць за правіла (№ 9) выконваць абяцанні. Адпаведна, тройчы падумаць, перш чым даваць абяцанне, нават самае дробнае. Калі быць надзейным у адносінах, не пустазвоніць, да цябе пацягнуцца такія ж людзі. Да пустазвонаў цягнуцца пустазвоны і ўсякая брыда.

Ёсць такая катэгорыя зэкаў, якім усё трэба. Яны незадаволеныя сваёй пайкай, адзеннем, шконкай, падушкай і ўвесь час спрабуюць урваць лепшае. Мудрасць зоны: «Што маеш, губляй з лёгкасцю». Стрыманасць, сціпласць нараджае павагу, і — што асабліва важна — не дае лягавым рычагоў кантролю над табой. Не шукай выгады, матэрыяльшчына губіць чалавека як сама па сабе, так і з падачы лягавых.

Прыватны выпадак матэрыяльшчыны — абжорства, што на фені ёміста завецца «кішкаблуддзе». У лагеры харчаванне само па сабе беднае, што тлумачыць высокую ўвагу да ежы. Але ў многіх паглынанне ежы набывае маніякальны характар, мабыць, уключаецца нейкі псіхалагічны механізм. Апусціцца на кішцы — калі год-

насць разменьваецца на ежу — распаўсюджаная з’ява. Некаторыя кішкаблуды цалкам губляюць чалавечае аблічча. Будзь стрыманы: арыштант, які сябе паважае, ніколі не будзе бегам рвацца да пайкі, абганяць іншых па дарозе ў ларок, кружыцца вакол таго, хто атрымаў перадачу, клянчыць дабаўкі ў баландзёра і да т. п.

Адна з самых няўдзячных спраў — парада, тым больш няпрошаная. У зоне гэта ўспрымаецца вастрэй, ледзь не ўмяшанне ў асабістае жыццё. Вастрэй рэагуюць, калі парада аказалася няправільнай. У такім выпадку часта вінавацяць дарадцу, адкрыта або цішком, затойваюцца злобу, нярэдка знаходзіцца, хто падалье алею ў агонь. Яны сілкуюцца драмамі. Цалкам дастаткова давесці сваё меркаванне, але не настойваць («я сказаў, ты мяне пачуў»). Правіла № 10 — не лячы іншых.

У зоне нельга прыкінуцца крутым. Бывае, што ў асобных камерах турмы людзі ствараюць сабе значны аўтарытэт. Але гэты аўтарытэт — дуты. Ён можа падзейнічаць толькі на першаходаў ва ўмовах адной камеры турмы, на этапе альбо ў першыя дні каранціну. Крыху пазней ад яго не застаецца ні следу. У зоне хапае людзей, якія з маленства прайшлі жорсткую жыццёвую школу, напрыклад дзіцячы дом, ці былі ўдзельнікамі злачыннага свету. Яны задаюць эталон крутога, таму лагерны зэк у некалькі хвілін адрозніць фальшыўку. Нярэдка навояўленыя «аўтарытэты» папаўняюць касту шныроў або шасцёрак (гэта азначае чалавек на пабягушках, а не стукач). Сюды ж адносіцца прыкрыццё сябе роднаснымі сувязямі са злачыннымі аўтарытэтамі, т. зв. «сын злодзея». Такія становяцца ўсеагульным пасмешышчам-клоўнам. Не завышай сваю рэпутацыю, а пацвярджай заяўленую.

Што хутчэй за ўсё забівае арыштанта, дык гэта не лягавыя, не складаныя бытавыя ўмовы, не дрэнная ежа і не навакольныя людзі. Самая страшная зброя — гэта

ўласнае ўяўленне. Недахоп інфармацыі з волі, немагчымасць паўплываць на падзеі падштурхоўваюць чалавека да перажыванняў. Арыштанты называюць гэта «гнаць за нешта». Часцей за ўсё гоняць за ежу, за процілеглы пол і за свабоду. На маіх вачах хлопец, які прайшоў маналетку, бунт, бясконцыя інтрыгі ў козлаблатным асяроддзі, які падтрымлівае сябе ў добрай фізічнай форме, літаральна за паўгода страціў вагу, змарнеў, згорбіўся, скура збялела. Ён чакаў камісію па замене рэжыму, г. зн. шанц сарвацца на «хімію» (абмежаванне волі адкрытага тыпу). Бывае, чалавек вар'яцее з-за бесперапынных думак пра родных. Здымі з сябе ўсякую адказнасць за тое, што адбываецца за плотам. Неабходна стаць трохі фаталістам. Гады за кратамі вучаць таму, што жыццё ідзе сваім парадкам, мноства рэчаў не ў тваёй уладзе. А перажываннямі ты толькі рвеш душу. Правіла № 11 — не гані, прымай усё як ёсць, ціхамірна.

Асобнае месца ў жыцці зоны займае гульня. Гуляюць у карты-стосы, косці-зарыкі, шахматы, а часцей за ўсё ў нарды. Таксама дзейнічае таталізатар на ўсе віды спорту. Ды і спрачаюцца з любой нагоды. Аднойчы я назіраў, як двое зэкаў замазаліся на пачак цыгарэт, ці вынесуць смяротны прысуд па адной гучнай справе. Сумнасць дзён штурхае нават не азартных людзей гуляць.

Такое становішча рэчаў мае шэраг важных следстваў. Па-першае, 10% з гульні надаецца зладзейскаму. Па-другое, спартыўныя перадачы маюць прыярытэт пры праглядзе тэлевізара на ленінцы (пакоі вольнага часу). Па-трэцяе, рамсы па гульні — адзін з самых распаўсюджаных відаў канфліктаў. Для стымулявання адказнасці тых, хто прайграў, у паняццях прадугледжана спецыяльнае азначэнне — фуфлыжнік. Носьбіт такога вызначэння прыраўноўваецца да нечысці, г. зн. фармальна ніжэйшы за шныра. У рэальнасці да фуфлыжнікаў ставяцца не так строга. Часцей за ўсё гуляюць у

доўг, дамаўляюцца разлічыцца на канкрэтнае чысло. Але фармальна, па няпісаных правілах, разлік павінен адбывацца ў той жа дзень. І ў руках дасведчанага маніпулятара гэта становіцца магутнай зброяй, якая дазваляе схáваць чалавека. Таму добрым тонам лічыцца гуляць толькі на тое, што ёсць пры сабе. Правіла № 12 — пазбягай гульні, гэта вельмі тонкі і слізкі лёд.

На прыкладзе гульні я закрануў тэму маніпулятараў. У зоне іх называюць «інтрыганты». Трэба разумець, што зона — гэта нават не адна вялікая вёска, яна яшчэ больш празрыстая. І ў ёй жывуць людзі з нацягнутымі нервамі. Па гэтай прычыне ў адкрытую адзін супраць аднаго ідуць рэдка, а замест гэтага плятуць інтрыгі. Яны выводзяць у дамкі адных і абвальваюць зорныя кар’еры іншых. Паўшэптам і абстрактнымі намёкамі вакол ахвяры фармуецца негатыўная рэпутацыя (першыя месяцы нават незразумела, як пры такой манеры размовы людзі разумеюць адзін аднаго). Дыхаючы такой атмасферай гады і дзесяцігоддзі, адносіны становяцца падобныя на змяіны клубок, вужатнік. У ім нараджаюцца сапраўдныя стратэгі інтрыг, некаторыя з іх павязаныя з турэмшчыкамі ў карупцыі.

Інтрыганты шукаюць слабасці чалавека і цёмныя плямы на рэпутацыі, каб было з чаго пачаць. Як і з хваробай, лепш за ўсё не даваць ніякай нагоды сваімі ўчынкамі і ладам жыцця. Рэпутацыя павінна быць крышталёва чыстай, а ад слабасцяў трэба пазбавіцца. Але яшчэ больш важна самому не спакусіцца паўдзельнічаць у інтрызе. Часам сітуацыя падмывае кінуць зваротны камень, часам хочацца зрабіць гэта дзеля справядлівасці. Але нельга станавіцца на гэтую слізкую дарожку. Подласць разбэшчвае дух, а пасля і душу. Прамая размова заўсёды лепшая, яго інтрыганы баяцца больш за ўсё. Правіла № 13 — пазбягай інтрыг.

Гісторыя апошніх гадоў ведае некаторыя выпад-

кі, калі палітвязні, якія выйшлі на свабоду, быўшы ўшчэмленымі на зоне, пачалі моцна кампенсаваць сваю ўшчэмленасць барацьбой за кардонную карону «галоўнага анархіста», пераносячы на рух інтрыганукія метады і гнілы дух. Анархізм стаіць на каштоўнасцях чалавечай узаемнасці, братэрстве ўсяго чалавецтва, добраахвотным супрацоўніцтве. Але калі кожны дзень глядзець на людзей толькі праз прызму карысці, цкаваць у інтэрнэце і афлайне тых, хто з табой не згодны, не грэбаваць падробкай, ствараць вакол сябе атмасферу нянавісці і злараднасці, — ці можна лічыць сябе анархістам? Або анархізмам прыкрываюцца мары аб уласнай славе і велічы?

Ёсць такі выраз — на хі-хі. Арыштанцкі этыкет патрабуе ветлівасці ў размове, нават ужываць матныя словы лічыцца дрэнным тонам, і можна запатрабаваць ад суразмоўцы не ўжываць іх у гутарцы. Таму вельмі часта самыя гнюсныя і небяспечныя рэчы гаворацца мімаходзь, з усмешкай і смяшком, быццам бы несур’ёзна. Гэта яркая адметная рыса зэкаўскай культуры зносін. На самай справе ў зоне жартам не бывае НІЧОГА, часта гэта пачатак мэтанакіраваных дзеянняў, каб прыбіць чалавека. Дапускаць насмешкі і тым больш абразы ў свой адрас катэгарычна нельга. Калі такое спускаць, гэта пачатак канца, можна стаць у рознай ступені пасмешышчам з усімі вынікаючымі наступствамі. Паступова выпрацоўваецца разуменне, як адказваць на такія хі-хі, каб не перагнуць палку. Звычайна гэтым служыць раўназначны адказ альбо просьба растлумачыць, што мелася на ўвазе. Гэта развее 99% негатыўных сцэнарыяў.

Але ў выпадку прамой абразы неабходна адразу біць, без усялякіх размоў. У выпадку завуаляванай абразы трэба ў твар запатрабаваць тлумачэння. Нават калі ты перагнеш палку або сам будзеш біты, усё роўна гэта будзе магутным сігналам навакольным, на што ты

гатовы. Шакалы шукаюць слабых духам, здольных на ўчынак абмінаюць. Правіла № 14 — абараняй свой гонар неадкладна.

Як пісаў Шэкспір, «дзе мала слоў, вагу яны там маюць». Зона вучыць гаварыць (і пісаць) па-сутнасці, без пагалосак, акуратна падбіраючы выразы і іх адценні. Колькасць слоў прама прапарцыйная ўменню гэтымі словамі валодаць. Нават смелым людзям часта проста не хапае вытрымкі. Іх так і цягне ляпнуць, зрабіць высновы занадта хутка. Праявіўшы стрыманасць, ты ў далейшым шмат разоў пабачыш, як правільна зрабіў, што ў час стрымаўся. Балбатуноў не любяць, яны вечна трапляюць у праблемныя сітуацыі. Менш казаць, больш слухаць — надзейная формула.

Ніколі не спяшайся з адказам (гэта велізарная праблема ў сучасных зносінах). У практычнай псіхалогіі ёсць добры метад перад адказам лічыць да трох. У асабліва важных размовах лічы да дзесяці. Тым самым твая падсвядомасць, адказная за апрацоўку варыянтаў адказаў, атрымлівае час выбраць і сфармуляваць аптымальныя словы.

Цяпер мы падышлі да галоўнай спакусы зоны, якая ламае дух мацёрых уркаў. Гэтая спакуса — свабода. Асноўны сродак кантролю адміністрацыі над арыштантамі зусім не гвалт, не казлы і не сукі, а магчымасць умоўна-датэрміновага вызвалення (УДВ). Ёсць шмат яго разнавіднасцяў, але сутнасць адна — на прыступку бліжэй да волі. Як і амністыя, датэрміновае — адна з самых абмяркоўваемых тэм і галоўных надзей. З гадамі надзея выйсці раней так упіваецца ў чалавека, што ён пачынае гнаць за волю. Нібы дакучлівая ідэя, датэрміновае моцна авалодвае чалавекам, становіцца сапраўдным неўрозам. Гэта выяўляецца ў высокай запальчывасці, замкнёнасці, часта вядзе да страты вагі і бледнасці, выклікае захворванні. Я бачыў, як за паўгода здзімаліся

качкі, а мацёрыя бандыты браліся за рыдлёўкі. Пры гэтым у выпадку адмовы на камісіі — а так звычайна і бывае — чалавек прыходзіць у норму.

Пэўнасць лепшая за ўсё. Трэба жыць адным днём і не чакаць ля мора надвор'я. Тэрмін могуць як скараціць (у выніку перагляду справы, амністыі, змены артыкула Крымінальнага кодэкса), так і дадаць. Лепш выкінуць яго з галавы і не лічыць дні, і тады стане сапраўды лягчэй. Гатоўнасць да любых паваротаў разнявольвае.

У цэлым умераны фаталізм у зоне адназначна карысны. Тут немагчыма не быць прыгнечаным і не цярпець нягод. І вязні часцяком ладзяць вячоркі на тэму «ой, як кепска і будзе горш», тым самым самім заганяючы сябе ў дэпрэсію. Шмат слоў і думак на гэтую тэму актывуе адпаведныя нейронавыя сувязі ў мозгу, што руйнуе здароўе. Ні ў якім разе не смакуй негатыў, думай аб пазітыве.

Лепш за ўсё спазіцыянаваць гэтыя акалічнасці сабе на карысць: уявіць, што ты праходзіш сур'ёзнае цяжкае жыццёвае выпрабаванне (так яно і ёсць), перамога ў якім — застацца чалавекам з незаплямленым сумленнем, незламаным духам, узбагачаным ведамі. У кожнай сітуацыі шукай карыснае і добрае. Правіла № 15 — шукаць пазітыўныя бакі ў любой сітуацыі. Асабіста я навучыўся нават ШІЗА ўспрымаць як свята (з улікам таго, што мяне часта зачынялі на дзень нараджэння, то часам гэта бывала літаральна). Бо ШІЗА — адзінае месца, дзе можна пабыць аднаму, ачысціцца ад лагернага шумавіння, разгрузіцца псіхалагічна.

І нарэшце — пра турэмшчыкаў. Яны бываюць двух тыпаў: дрэнныя (па абавязку службы) і вельмі дрэнныя (якія атрымліваюць садысцкае задавальненне). Будуць нават такія, якія дапамогуць, але не шукай такіх і не спадзявайся на іх. Іх пагоны — непераадольны бар'ер. Трэба трымацца далей нават ад самых лаяльных мянтоў. Гэта правіла № 16. Тым не менш моцных духам паважаюць больш, чым слабых, і гэта адбіваецца на стаўленні да цябе.

Паводзіць сябе ў зоне «мянты мне не ўказ» проста немагчыма. Нават у ШІЗА праверка двойчы ў дзень і нейкія патрабаванні даводзіцца выконваць. З іншага боку, хто прымае ўсё тое, што турэмшчыкі прапіхваюць, тым будуць вечна панукваць. Дарыць мянтам без супраціву нічога нельга, пры кожнай магчымасці — пераходзіць у наступ, у іх ёсць слабыя месцы. У размове трымай сябе годна, вытрымка і мужнасць маральна душаць суперніка і выклікаюць павагу.

Запомні, у зоне без страт жыць немагчыма, сярэдзіны не існуе. Права трымацца сярэдзіны трэба падмацоўваць гатоўнасцю да супрацьстаяння і нягод. Галоўная твая абарона — у псіхалагічнай гатоўнасці даваць адпор. Ні статус, ні мышцы, ні асяроддзе гэтую здольнасць не заменяць.

### 4. ШТО РАБІЦЬ

> *Часта здараецца, што людзі цягнуць тую ці іншую палітычную, сацыяльную ці сямейную лямку толькі таму, што ім няма калі разабрацца, няма калі спытаць сябе: ці так уладкавалася іх жыццё, як трэба? Ці адпавядае іх занятак іх схільнасцям і здольнасцям і ці дае ён ім маральнае задавальненне, якое кожны мае права чакаць у жыцці? Дзейныя людзі часцей аказваюцца ў такім становішчы. Кожны дзень прыносіць з сабою новую працу, і яе накапліваецца столькі, што чалавек кладзецца позна, не выканаўшы ўсё, што збіраўся зрабіць за дзень, а раніцай паспешліва хапаецца за справу, незаконачаную ўчора. Жыццё праходзіць, і няма часу падумаць, што няма калі абмеркаваць яго склад. Тое ж самае здарылася і са мной.*
>
> Крапоткін «Запіскі рэвалюцыянера»

Старога звыклага жыцця больш няма. Зона дае ўнікальную магчымасць нарэшце паглядзець на сваё жыццё збоку. Гэта час для самаразвіцця, для выпра-

цоўкі самадысцыпліны і новага падыходу да жыцця. Старайся кожны дзень пражыць больш дасканала за папярэдні. Не варта прапальваць час на гульню, бессэнсоўны прагляд тэлевізара і дзённы сон (многія спяць яшчэ і днём). Трэба вызваляць час на газеты і часопісы, але ў першую чаргу на кнігі. За некалькі гадоў можна стаць эрудзіраваным чалавекам, чаго людзям у сучасным акіяне інфармацыі яўна не хапае. Бясконцая плынь навін, якія да таго ж чытаюцца па дыяганалі, не робіць людзей разумнейшымі. Толькі кнігі даюць па-сапраўднаму глыбокія веды.

Не менш важныя, чым кнігі, лёсы людзей. Вакол цябе вельмі розныя і няпростыя людзі з усіх сацыяльных слаёў, зона — адзінае месца на зямлі, дзе такія людзі сабраныя ў адным месцы. Гэта дае ўнікальны шанц спазнаць грамадства і набрацца мудрасці. Да таго ж рэальныя гісторыі людзей цікавейшыя за любыя выдумкі, у параўнанні з якімі прыгодніцкія кнігі і фільмы здаюцца шэрымі.

Але як завязаць з імі адносіны? Нават такая дробязь, як газеты, каштуюць грошай (не кажучы ўжо пра больш дарагія часопісы), і літаральна адзінкі афармляюць падпіску. Калі ты будзеш атрымліваць рэгулярна газеты і часопісы, вакол цябе з часам сфармуецца цэлая чарга людзей, хто любіць чытае. Газеты будуць шпацыраваць з барака ў барак па ўсёй зоне. Аналагічна і з кнігамі. З часам ты ўбачыш, што самыя цікавыя кнігі зусім не ў бібліятэках, а ў прыватных калекцыях.

Яшчэ адзін верны спосаб умацаваць рэпутацыю — пісаць наглядныя і касацыйныя скаргі іншым арыштантам. Напрыклад, такі спосаб практыкуе анархіст Ілля Раманаў, які знаходзіцца ў зняволенні.

Стрэс жыцця ў зоне, беднае харчаванне, цяжкія бытавыя ўмовы, карцары высмоктваюць здароўе. Таму, як ніколі ў жыцці, трэба рабіць усё для яго ўмацавання. У

першую чаргу — рэгулярныя заняткі спортам. Аднак часта арыштанты пачынаюць захапляцца менавіта жалезам. У гэтага кірунку ёсць два вялікія недахопы. Ты будзеш залежаць ад графіка працы качалкі, капрызаў адміністрацыі і тым больш карцараў. Але яшчэ больш важна тое, што заняткі з жалезам траўміруюць суставы. Больш за тое, нармальнай меддапамогі ў зоне няма, любая траўма можа моцна ўскладніць жыццё. Таму лепш спыніцца на турніку і брусах. Сістэма занятку сваёй вагой выдатна апісана экс-зняволеным Полам Уэйдам, які адседзеў 20 гадоў у ЗША. Каб ёй займацца, табе не трэба нічога акрамя турніка або пруткоў кратаў. Яна аднолькава падыходзіць як для лагернага рэжыму, так і для турэмнага. Вялікі плюс сістэмы ў тым, што яна разлічана нават на зусім непадрыхтаванага чалавека.

Адным спортам клопат пра здароўе не абмяжоўваецца. Вазьмі за правілы: спаць ноччу, а не днём, кожную раніцу рабіць гімнастыку і загартоўвацца халоднай вадой. Загартоўка арганізма — самы лепшы сродак супраць хвароб, бо галоўны прынцып турэмнай медыцыны — не хварэй. Пачні з лёгкіх абціранняў халоднай вадой пасля ранішняй гімнастыкі. Акрамя таго, звязак «гімнастыка + загартоўка» надае бадзёры настрой, дае энергію на цэлы дзень.

Вельмі важна развіваць памяць. На доўгіх штодзённых праверках або прамзоне завучваць вершы, яны табе вельмі спатрэбяцца для пераадолення адзіноты ШІЗА. Чытанне на памяць робіць розум чэпкім і жывым, паколькі яно стымулюе нейронавую актыўнасць. Падчас чытання кніг рабі закладкі на старонках, пасля чытання ўсёй кнігі зноўку праходзь закладкі і рабі паметкі думак, якія цябе зацікавілі. Будзе пра што пісаць у лістах, а таксама развіваецца аналітычнае мысленне.

**Барацьба з рэжымам**

Зразумела, інтэлектуальным і фізічным развіццём тваё жыццё абмяжоўвацца не можа. Каб падтрымліваць жыццёвы тонус, трэба змагацца супраць улады, без гэтага жыццё прэснае і агонь у сэрцы згасае. Важнай формай барацьбы з'яўляецца напісанне артыкулаў і адпраўка іх на волю «па-чорнаму», нелегальна. Раз у цябе ёсць магчымасць вывучаць фундаментальную літаратуру, пішы свае меркаванні аб прачытаным. У зоне мысленне вельмі абвастраецца, ты можаш прынесці карысць, прыўносячы свой уклад у дыскурс анархічнага руху і грамадства ў цэлым. Важна адпраўляць артыкулы менавіта нелегальна, гэта надае жыццёва важны смак супрацьстаяння з уладай і робіць цябе незалежным ад капрызаў цэнзуры.

Зараз пагаворым аб барацьбе ўнутры зоны. Сярод арыштантаў шырока распаўсюджана перакананне, што жыццё ў засценках — несапраўднае. Маўляў, тэрмін яго трэба хутчэй адбыць, а толькі потым рэалізоўваць жыццёвыя імкненні. Гэта небяспечная памылка, нават некалькі гадоў без памкненняў аказвае дэградуючае ўздзеянне на асобу. Тыя вязні, хто правёў тэрмін у супрацьстаянні з турэмшчыкамі, цярпеў нягоды і пакутаваў па карцарах, на парадак больш жывыя духоўна і разумова, чым тыя, хто праляжаў тэрмін на нарах.

У зонах нікога не трэба пераконваць, што ўлада заганная. Людзі ненавідзяць мянтоў, пракурораў, суддзяў, чыноўнікаў. Нават калі ў размовах пра грамадства суразмоўца кажа аб правільным у яго разуменні ўладкаванні дзяржавы, то, праводзячы аналогіі з турэмнай сістэмай, ён сам бачыць свае памылкі. Турма, як люстэрка грамадства, — найлепшы прыклад антыдзяржаўнай прапаганды.

Аднак магчымасці прапаганды ў зоне моцна абмежаваныя, прычым зусім не турэмшчыкамі. Ідэалогія

«выпраўлення» — гэта антыгуманістычная канцэпцыя найпоўнага здзеку з чалавека. «Выпраўляльнікі» бачаць у чалавеку бяздушны прадмет, тэорыя ўздзеяння зводзіцца да комплексу заахвочванняў і пакаранняў, як да малалетняга дзіцяці. Ніхто — акрамя рэдкіх фанатыкаў — не верыць у гэтае глупства і часта нават не хаваюць гэтага. Нам у каранціне афіцэр так і заявіў, што сама назва «папраўчая сістэма» — лухта. Турэмшчыкі нахабна карумпаваныя, ім абсалютна няма чаго супрацьпаставіць анархічнай крытыцы.

Галоўнай перашкодай прапаганды з'яўляюцца іерархічныя элементы блатной ідэалогіі, якая да гэтага часу прыкметна ўплывае на светапогляд зэкаў. Такіх элементаў тры: падзел грамадства на фраераў, гадаў і Людзей (г. зн. саміх блатных); дзяленне зэкаў па масцях (валацуга (бродяга), мужык, певень) і кастах; ададсабленне блатных у вярхоўную касту турэмнага свету, адзіных носьбітаў «закона». У той жа час зладзейская філасофія валодае прыцягальнымі ідэямі. Па-першае, гэта адназначнае проціпастаўленне сябе турэмшчыкам, казлам, дзяржаве. Па-другое, нават сама блатная іерархія згладжаная: усярэдзіне сябе яно як брацтва, г. зн. усе роўныя, кожны мае голас, адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. Гэтым басота адрозніваецца ад мафіі і бандытаў. «Смотрящий» адказны перад блатным кругам, у выпадку адступлення ад правілаў з яго спагоняць. Па-трэцяе, дзяленне злачынстваў на прыстойныя і непрыстойныя. Прыстойнымі лічацца крадзеж, махлярства, гульня. А вось гандаль наркотыкамі, зброяй, сутэнёрства лічацца бруднымі заняткамі. Нізка цэняцца гоп-стоп, хуліганства, забойства з мэтай рабавання. Непрымальнымі лічацца згвалтаванне, асабліва педафілія, безматыўнае забойства. Часам можна пачуць такую фразу: «Я тут за справу, за кішэню, а ты за што? За бакланку няшчасную, выпадковы пасажыр».

На чорных зонах нярэдка блатны, убачыўшы, як лягавыя адстрэлілі парушальніка, грузіцца за мужыка і ідзе замест яго ў карцар. Імі ж караюцца бязмежнікі, пацукі, стукачы. Таму шмат хто бачыць у блатных абаронцаў, адзіную крыніцу справядлівасці. Нават тыя, хто разумее супярэчнасць блатных паняццяў, усё роўна збольшага сімпатызуюць ім, бо паняцці — адзіная сфармуляваная альтэрнатыва мянтоўскаму рэжыму.

І ўсё ж нават у самай зладзейскай філасофіі ёсць падказка, дзе шукаць выйсце з сітуацыі. Нездарма Оруэл пісаў: «Калі яшчэ і ёсць надзея, то толькі сярод пролаў». Няпісанае правіла абвяшчае: «Не ведаеш, як паступіць, — зрабі па-людску».

Фармуляванне паняццяў адбылося дзесьці ў канцы 50-х. Да таго часу лагерная ментальнасць прайшла пэўную эвалюцыю, і радавы зэк ўжо не з'яўляўся такім бездапаможным, як раней. У сучых войнах зладзеям патрэбен быў саюзнік, і акрамя мужыка звярнуцца не было да каго. Замест адвольных пабораў мужык абавязваўся перадаваць ў зладзейскі абшчак некаторую частку даходаў, у дачыненні да яго ўжо нельга было дапускаць бязмежжа. Гэта дазволіла мужыцкай масе ўсвядоміць сябе як супольнасць. З іншага боку, палова зняволеных была асуджаная па антысавецкіх артыкулах і ўтрымліваліся ў асаблівых лагерах, што ў канчатковым выніку прывяло да згуртавання і масавых паўстанняў. Так ці інакш, людскае нарадзілася з практыкі супольнага пражывання ў лагерах, з неабходнасці ўжывацца адзін з адным.

Што тычыцца блатных, то ім людскае вельмі выгадна, бо гэты інстытут рэгулюе базавыя адносіны сярод зэкаў. Уласна, адна з прычын чаму адміністрацыя часта глядзіць на блатных лаяльна, гэта забяспечваны імі адносны парадак. У паняццях нават ёсць такое азначэнне — чорт, г. зн. які жыве не па-людску.

У цэлым, калі агульнае — гэта сістэма арыштанц-

кіх адносін у трактоўцы блатных паняццяў, то людскае ўласціва арыштанцкаму свету само па сабе, без залежнасці ад блатных. Людскае — гэта адносіны, заснаваныя на ўзаемаразуменні, узаемнай павазе і ўзаемадапамозе. Іншымі словамі, нармальная чалавечая маральнасць. І ў такім наборы анархісту ёсць дзе разгарнуцца.

**Як жыць па-людску**

Кожны складнік людскага мае свой выраз на практыцы ў штодзённым жыцці.

Узаемапавага абавязвае вітацца, не грубіяніць, не абражаць, не ігнараваць таго, хто задае пытанне, цікавіцца меркаваннем усіх, каго тычыцца канкрэтная сітуацыя (напрыклад, зачыніць акно ў памяшканні). Таксама гэта значыць не перарываць таго, хто гаворыць, а таксама не ўлазіць у чужую размову. Пачаткоўцам асабліва цяжка навучыцца гэтым правілам, бо людзі так прывыклі да «як хачу, так і кажу»!

Паразуменне азначае ўзважанае стаўленне да патрэб навакольных. Так, бытавыя канфлікты прынята вырашаць у спакойнай абстаноўцы, прысеўшы ў коле за гарбатай. Лічыцца правільным не настойваць на сваім меркаванні, а выбіраць варыянт, які задавальняе ўсіх. Таксама гэта азначае далікатнае стаўленне да прыватных сітуацый чалавека. Напрыклад, пасля спатканкі не прасіць у яго нічога (бо многім не церпіцца дзербануць!), чалавек удзеліць увагу астатнім, калі палічыць магчымым. Лічыцца, што спатканне — вельмі стрэсавая сітуацыя, своеасаблівы разрыў з зонаўскай рэальнасцю, таму лепш наогул нічым не напружваць чалавека адзін–тры дні. Ці даць чалавеку паспаць пасля спецыфічнай сітуацыі, скажам, быў збіты лягавымі або атрымаў благія весткі (а ў штодзённасці чый-небудзь сон не прычына паводзіць сябе ціха). Таксама лічыцца непрыстойным адрываць чалавека ад чытання лістоў, да

лістоў у зоне трапяткое стаўленне. У цэлым, паразуменне можна назваць як мастацтва не прыніжаючых асобу саступак.

Узаемадапамога, на мой погляд, настолькі ўніверсальная, што не патрабуе якіх-небудзь абгрунтаванняў. Крапоткін лічыў яе падмуркам маральнасці жывога свету. А ў цяжкіх умовах цяга да ўзаемнасці моцна ўзрастае. У чым выяўляецца ўзаемадапамога ў зоне? Удзялі ўвагу пачаткоўцу, патлумач асновы арыштанцкага жыцця; падзяліся рэчамі з тымі, хто мае патрэбу (але не забывай, каб дабрыню за прастату не прымалі); прынясі на сустрэчу таму, хто выйшаў з карцара (калі тып нармальны, то добра б і гарбаты папіць); падагрэй людзей пад дахам (чай, кава цыгарэты, салодкае, гігіена).

Людскае кожны дзень звязвае арыштантаў нябачнымі ніткамі сацыяльнасці, супрацьстаіць раз’яднанню і роспачы. Людскае гуртуе арыштантаў, стварае больш даверную, надзейную атмасферу, што крытычна важна ў зоне. Згуртаванне зэкаў паступова прыводзіць да двух наступстваў. Па-першае, людзі становяцца больш упэўненымі і рашучымі, расце канфрантацыя з рэжымам. Па-другое, выпрацоўваецца звычка самім вырашаць пытанні на месцах і менш глядзець на блатных і казлоў. Іншымі словамі, расце мера самаарганізацыі. Атрымліваецца што людскае можна супрацьпаставіць усім іерархіям. «Навошта чакаць ля мора надвор’я, навошта князя чакаць — трэба самім рабіць» — такі аргумент будзе сустракаць усё большае разуменне.

Неяк да нас у атрад падняўся педафіл. Паглядзелі яго паперы, віна відавочная: групавое згвалтаванне. Аднак блатныя выпусцілі пастанову: маўляў, з ім усё нармальна, лічыць мужыком. За адным сталом з педафілам сядзець ніхто не хацеў, таму цішком дамовіліся байкатаваць яго. Нават шныры не бралі ў яго цыгарэты. Месяцы праз тры педафіл не вытрымаў такога жыцця, пе-

растаў выконваць рэжым, яго хутка зачынілі на паўгода ў БУР і адправілі на крытую. Гэта стала магчыма толькі дзякуючы дастатковаму ўзроўню пазаблатной самаарганізацыі, у многіх іншых атрадах такое б не прайшло.

Часта атрымоўваецца растлумачыць асновы анархізму на прыкладзе лагера. «Жыць па-людску, вырашаць пытанні колам, самім выбіраць загружаных па агульных момантах» — такія вобразы аказваюцца значна больш даступнымі для разумення. Нават на чырвоных зонах часам здараюцца сходкі мужыкоў у розных форс-мажорных сітуацыях. Такія падзеі падсвядома даюць зразумець, што на такіх сходках можна вырашаць усе пытанні і наладзіць жыццё без лягавых і якіх-небудзь элітаў. Нездарма часам можна пачуць старую арыштанцкую мудрасць: «Зона на мужыку стаіць».

У зоне не любяць пустой размовы. Трэба вучыцца фармуляваць свае думкі гранічна ясна і, самае галоўнае, коратка. У многіх сітуацыях у цябе не будзе магчымасці размусольваць абстракцыі. Прыклад тыповай размовы:

— Анархізм — за што?

— Анархісты супраць дзяржавы, мянтоў, чыноўнікаў.

— А што прапануеце?

— Замест дзяржавы прапануем самакіраванне.

— Гэта як?

— Гэта калі людзі самі вырашаюць пытанні на сходках, без чыноўнікаў.

Калі ж пачаць тлумачыць з разраду «анархізм — гэта грамадства, у якім адсутнічаюць любыя іерархія, прыгнёт і эксплуатацыя чалавека, максімальныя ўмовы для ўсебаковага росту асобы...», то гэта — правал. Пераважная большасць людзей не можа ўявіць сабе і больш простых уяўленняў, ім патрэбна канкрэтыка, кароткая і простымі словамі.

Не варта падсаджвацца на вуха і спрабаваць сказаць

яшчэ і яшчэ. Назойлівых не любяць альбо высмейваюць. Наадварот, лепш дзесьці недагаворваць, даваць зразумець што «гэта табе, паважаны, цікава распытваць, а зусім не мне распавядаць». Павінен падтрымлівацца дастатковы ўзровень сур'ёзнасці пытанняў і адказаў, бо заўсёды знаходзяцца аматары задаць пытанні са здзекам. На такія пытанні нельга адказваць сур'ёзна.

Для сур'ёзнага ўспрымання ідэі асабліва важна, хто іх прамаўляе. Калі ўвесь час валяцца на нарах (ватныя львы), хáваць абразы або быць аб'ектам для жартаў (клоўнам), надаваць занадта вялікую ўвагу ежы і шмоткам (гнаць за матэрыяльшчыну), гэтаксама як і быць за прасцяка-панібрата, прагінацца пад патрабаванні лягавых, шукаць выгады і прывілей, тусавацца з непрыстойна людзьмі, або стаць казлом ці шныром — словы такога чалавека пра высокія матэрыі важаць мала.

Калі ж праяўляць валявыя якасці — не дрыжаць перад мянтамі і не шукаць кентоў сярод казлоў, займацца спортам, чытаць сур'ёзныя кнігі і часопісы, праяўляць цвёрдасць у характары і непарушнасць слова, у меру клапаціцца аб сваіх патрэбах і надаваць увагу патрэбам іншых, — тады тваё меркаванне будуць слухаць з належнай павагай.

Таксама важны ўзровень падтрымкі. Казаць аб анархісцкім братэрстве і ў той жа час не атрымліваць лістоў, пасылак, перыёдыкі і грошай на рахунак будзе вельмі дзіўным. Рэпутацыю ўмацоўваюць таксама артыкулы ў медыя і акцыі салідарнасці, у асаблівасці ля самой зоны.

### Метады барацьбы

У зоне арсенал барацьбы з турэмшчыкамі вельмі бедны, пры гэтым узровень бяспраўя непараўнальна высокі. Такія абставіны выключныя, таму няма нічога ганебнага ў тым, каб пісаць на лягавых скаргі. Часам

гэта адзіная магчымасць спыніць бязмежжа. Лягавыя ўсё ж асцерагаюцца за сваю кар'еру, бо любая паперка можа стаць прычынай адмовы ім у павышэнні па службе. Аднак маё меркаванне наконт гэтага сродку вельмі скептычнае. Па-першае, яны негатыўна ўплываюць на ўласны дух, прывучаюць арыштанта трываць шматмесячную перапіску і абскарджанне рашэнняў у вышэйстаячых інстанцыях. Па-другое, як правіла, ад скаргаў няма толку, імі немагчыма дамагчыся змен. Самі законы ў дачыненні да зоны вельмі фашысцкія, гэта надта слізкі лёд. Больш за тое, рука руку мые: скаргі трапляюць на патрэбныя ім сталы, праверкі ніколі не бачаць ніякіх парушэнняў. Ва ўтрыраваным выглядзе скаргі паказваюць усю абсурднасць і бессэнсоўнасць легалісцкага шляху барацьбы ў грамадстве. Раю выкарыстоўваць гэты сродак толькі як дапаможны, як элемент больш складанага плана. У агульным выпадку ён не варты затрачаных высілкаў.

Значна больш эфектыўны спосаб барацьбы — артыкулы ў СМІ. Асаблівасць у тым, што калі скарга ідзе па бюракратычных каналах і лягавыя могуць уплываць на ўзровень яе агалоскі (у крайнім выпадку яны заўсёды могуць пайсці на здзелку, абы ты забраў заяву), то са СМІ ў іх няма ніякіх сродкаў кантролю. Напрыклад калі ты напісаў аб карупцыі на прамзоне, то ўжо няма магчымасці спыніць эфект гэтай інфармацыі. Зонаўскае начальства можа банальна патрапіць пад раздачу, скажам, у ходзе праверкі генеральнай пракуратуры. Або Службы бяспекі, ім жа таксама трэба даваць справаздачу аб сваёй працы і кагосьці саджаць.

Людзі, якія могуць напісаць у СМІ, — вялікая праблема для любой адміністрацыі. Абавязкова збірай на яе кампрамат з усёй дбайнасцю: хто ў чым замяшаны, «дзе, калі і з кім» і да т. п. Але не казырай наяўнай інфармацыяй: могуць і забіць, ці мала што...

Важна разумець, што артыкул у газету або Інтэрнэт — гэта як стрэл са стрэльбы: небяспечны, калі стрэльба зараджана. Таму — пасля дэманстрацыі магчымасцей — пра запас павінен заўсёды знаходзіцца адзін забойны артыкул, гатовы да публікацыі з волі. Даць ведаць пра гэта лягавым можна праз якую-небудзь суку, «выпадкова» абмовіўшыся пры ёй.

Зона навучыць, як перасылаць-выганяць артыкулы на волю. Звычайна гэта вязні, якія вызваляюцца, фота з нелегальных тэлефонаў, радзей — вольнанаёмныя работнікі, «вольнячие». Вазьмі за правіла ніколі нікому не распавядаць, як выганяеш артыкулы. Калі атрымалася заручыцца падтрымкай «вольнячего», то гэта правіла павінна стаць асабліва дбайным. Аднаго слова, нават намёку, цалкам дастаткова, каб на чалавека данеслі.

Памятай! У барацьбе з лягавымі ў зоне спачатку робяць, а потым патрабуюць. Такімі рэчамі, як галадоўка, ускрыццё вен, публікацыі, беспарадкі, не раскідваюцца слоўна, іх моўчкі здзяйсняюць. Лягавыя не ўспрымаюць такіх заяў сур’ёзна. Аднойчы ў нас пад дахам (будынак ШІЗА/ПКТ) лягавыя збілі пацана. І знайшоўся адзін дзеяч, які стаў падбіваць мяне патрабаваць пракурора, інакш будуць ускрывацца. Нават прызначылі час. За пяць хвілін да гадзіны Ікс у камеры раптоўна ўварваліся маскі-шоу і прасанулі ўсіх. Гэта класічны прыклад, як рабіць нельга.

І ўсё ж нават артыкулы ў газеты мала што могуць памяняць. У лепшым выпадку могуць распачаць крымінальную справу ў дачыненні да якога-небудзь лягавага, могуць адстаць ад цябе, спыніць якую-небудзь асабліва бязмежную практыку. Але ў цэлым усё застанецца, як было. Па гэтай прычыне выкарыстоўвай гэтую методу вельмі выбарча, каб не абясцэніць яе. Ружжо небяспечнае, калі зараджанае.

Адзіныя значныя змены ў соцыуме вызначаюцца

псіхалагічным парытэтам паміж людзьмі і ўладай. Дух і самаарганізацыя арыштантаў перакройвае рэальнасць у лічаныя дні насуперак усім законам. Галоўная задача — згуртаванне арыштантаў і іх калектыўнае прамое дзеянне, астатнія інструменты павінны служыць гэтай задачы.

## 5. ПАДТРЫМКА

Для паспяховага праходжання выпрабавання зонай вельмі важная падтрымка з волі. Яна выконвае патройную функцыю:

• дапамагае арыштанту ў яго патрэбах;

• дэманструе іншым, што за лёсам арыштанта сочыць вялікая колькасць людзей. Бо мянты з большай лёгкасцю бязмежнічаюць ў дачыненні да пакінутых вязняў;

• дазваляе людзям на волі застацца маральнымі.

Каб зрабіць падтрымку эфектыўнай, лепш скаапераваццa ўсім зацікаўленым. Звычайна гэта бацькі, партнёр па жыцці (пара, муж), некаторыя сябры, а таксама сваякі, таварышы, калегі. Забеспячэнне арыштанта ўсім неабходным вельмі стратная справа, як па фінансах, так і па часе. Таму трэба рэгулярна скідацца грашыма, размяркоўваць пошук неабходных рэчаў, дапамагаць транспартам. Для каардынацыі можна стварыць групу ў сацсетках, у якой публікаваць актуальныя навіны, спісы неабходнага, даты спатканняў і інш. Таксама гэта дапаможа прыцягнуць больш шырокае кола людзей.

### Лісты ў зону

Зона год за годам выцясняе мінулыя ўспаміны. Свет за плотам усё больш асацыюецца з мінулым. Таму крытычна важна пісаць арыштанту, лісты — падтрымка нумар адзін. Нельга пісаць жаласлівыя лісты з разраду

«які ты бедненькі», такое толькі раздражняе. Таксама выклікаюць здзіўленне разнастайныя «Трымайся!» — адчуванне знаходжання ў палаючым танку сканчаюцца яшчэ ў турме. І ўжо тым больш нельга жадаць хутчэйшага вызвалення, бо «надзея забівае волю», ды наогул сама гэтая магчымасць звязана з большым прыніжэннем. Быць можа, менавіта ў гэты момант чалавек змагаецца са спакусай выслужыць датэрміновае.

Пісаць трэба аб уласных ўражаннях ад падарожжаў, прачытаных кнігах, прагледжаных фільмах, актуальных навінах. Можна прыкладваць фотаздымкі з розных цікавых месцаў. Гэтыя ўражанні падсілкоўваюць арыштанта. Хай гэты ліст будзе раз на паўгода, раз у год, але ён павінен быць. Чалавек сам абярэ, з кім перапісвацца больш шчыльна.

На дзень нараджэння і іншыя святы досыць паслаць паштоўку з некалькімі словамі, у гэтыя дні чалавеку будзе прыемна атрымаць шмат пасланняў. Таксама падымаюць настрой калектыўныя паштоўкі, падпісаныя ў сяброўскіх кампаніях і на публічных мерапрыемствах. Добрыя пажаданні: «Сілы!», «Мужнасці!», «Стойкасці!», «Непахіснасці!», «Бадзёрасці духу!», «Душэўнай гармоніі!», «Мудрасці!».

**Спатканні ў зоне**

Спатканне — самая эмацыйна моцнае падзея для арыштанта.

Іх бывае два віды: кароткае (праз шкло альбо за сталом) працягласцю 2–4 гадзіны і доўгае (у асобным пакоі на 1–3 сутак). Разам іх усяго толькі некалькі на год.

Звычайна на спатканні дапускаюцца толькі блізкія сваякі. Але ў залежнасці ад краіны і нават канкрэтнай зоны на кароткія спатканні могуць дапускацца сябры. На працяглыя спатканні прыязджаюць са сваім правіянтам і адзеннем. Арыштанту важна пачаставацца хатняй ежай

і надзець «вольнячую» вопратку, гэта стварае адчуванне адрыву ад зоны. Таксама пасля спаткання звычайна дазваляюць пранос прадуктаў і рэчаў з сабой у зону.

Перад паездкай блізкіх на спатканне трэба загадзя ўдакладняць, што арыштанту трэба, напрыклад кнігі і фільмы. Таксама гэта добрая магчымасць перадаць якія-небудзь паведамленні, якія нельга перадаць у лістах або па тэлефоне (бывае такая магчымасць).

Калі блізкіх сваякоў у арыштанта няма, то хто-небудзь з таварышаў павінен заключыць з ім фармальны шлюб і тым самым атрымаць права на спатканні.

**Асабовы рахунак**

У зоне працуе крама, куды арыштант мае доступ некалькі разоў на месяц. Аплата адбываецца з дапамогай сродкаў на асабовым рахунку. Акрамя крамы з дапамогай рахунку можна аплаціць і іншыя паслугі, напрыклад падпіску на перыёдыку, аплату збораў на наглядныя і касацыйныя скаргі.

Але трэба ўлічваць, што пераводы прыходзяць з затрымкамі. Да таго ж часта неабходных тавараў у краме няма, або няма патрэбнага супрацоўніка зоны, або мінае час афармлення падпіскі. Таму вельмі важна, каб грошы на рахунку былі заўсёды. Папаўняйце яго своечасова, а не ў апошні момант.

**Адвакат і праваабаронцы**

Іх галоўная каштоўнасць складаецца ў тым, што яны ёсць. Турэмшчыкі ўсё ж пабойваюцца выносіць з зоны факты бязмежжа і скаргі на рэжым у цэлым. Хай гэта не пераломіць сістэму, але кар’еру аднаго асобнага мянта цалкам можа. Турэмшчыкі павінны ўбачыць, што з любой нагоды ў арыштанта заўсёды ёсць юрыдычная падтрымка: адвакат прыбывае неадкладна, праваабаронцы пасылаюць запыты ва ўсе інстанцыі, у СМІ з’яўляюцца публікацыі.

**«Зэчкі»**

Паколькі пераважная большасць зняволеных — мужчыны, то з’ява «зэчак» набыла выразны гендарны характар. Так называюць жанчын, якія чакаюць сваіх сыноў, братоў, мужоў. У многіх сэнсах яны таксама сядзяць, і часта пакутуюць больш, чым самі арыштанты. «Зэчкі» знаёмяцца ў чэргах у пунктах прыёму перадач, на кароткіх і працяглых спатканнях, на рынках каля шапікаў са спецыфічнымі таварамі (накшталт каш хуткага прыгатавання і спецадзення), на інтэрнэт-форумах і па просьбах сваіх падапечных.

«Зэчкі» — сапраўднае нейроннае сеціва, у якім цыркулюе шмат карыснай інфармацыі. Яны граюць вялікую ролю і для ўзаемадапамогі паміж самімі арыштантамі. Так, можна дамовіцца перадаць некалькі кілаграмаў прадуктаў і рэчаў, або пакласці грошай на рахунак іншага арыштанта, ці дапамагчы з транспартам. Мае блізкія часта даведваліся аб тым, што я ў ШІЗА, ад «зэчак».

**Кантактная асоба**

У кожнага арыштанта павінна быць кантактная асоба, на якую ён можа выслаць артыкулы і да каго паслаць чалавека з даручэннем. Часта бывае, што па шэрагу прычын хатні адрас указваць нельга. Каментары залішнія: часам гэта адзіная магчымасць перадаць важныя весткі.

**Спагнанне з бязмежнікаў**

Бываюць такія турэмшчыкі, якія альбо па ўласнай тупасці, альбо з жадання выслужыцца, альбо з садысцкіх памкненняў пляваць хацелі на юрыдычныя або публічныя наступствы сваіх учынкаў. Напрыклад, здзекі з палітвязня Ільдара Дадзіна. Таму можа ўзнікнуць сітуацыя, калі арыштанта неабходна будзе абараняць непасрэдна. Перспектыва асабістай

адказнасці за бязмежжа спыняе нават самыя гарачыя галовы.

Аднак часта не атрымоўваецца ўсталяваць прамых выканаўцаў бязмежжа. У такім выпадку адказнасць кладзецца на:

- начальніка зоны;
- нам. начальніка па рэжыме і аператыўнай працы;
- нам. начальніка па выхаваўчай працы;
- начальніка рэжымнага аддзела;
- начальніка аператыўнага аддзела.

У зоне звычайна ўсё адбываецца з іх ведама. Тут дзейнічае правіла «хто меў магчымасць спыніць бязмежжа, але не спыніў, сам з'яўляецца бязмежнікам».

Далей адказнасць кладзецца на абласное ўпраўленне, дзе знаходзіцца зона, і на галоўнае ўпраўленне пенітэнцыярнай сістэмы. Там невінаватых няма.

Для больш глыбокага разумення сучасных турмы і лагера рэкамендую наступныя кнігі:

- Федор Крестовый «Как выжить в зоне» — не ва ўсім згодны з аўтарам, але напісана вельмі даступна і менавіта пра сучасныя зоны і турмы
- Александр Новиков «Записки уголовного барда» — «Вези меня, извозчик..» — ён таксама сядзеў.
- Владимир Переверзин «Заложник» — падзельнік Хадаркоўскага, вызваліўся ў 2013 г.

Таксама рэкамендую youtube-канал «Крымінал знутры», гэтая найбольш падрабязная інфармацыя пра жыццё за кратамі.

Напрыканцы я пакінуў самае галоўнае, Правіла № 1 арыштанта — «Не вер! Не бойся! Не прасі!». Усё, што лягавыя кажуць, — хлусня, усё, чым палохаюць, — понт, а за любую просьбу давядзецца плаціць. Гэтае правіла — надзейны компас, правераны мільёнамі зняволеных.

**Эпілог**

Улада вядзе сапраўдную вайну супраць народа. Любымі шляхамі спрабуе раз'яднаць людзей, заткнуць усім раты, спакусіць, ператварыць народ у маўклівае быдла. Адзін з метадаў — сістэма пенітэнцыярных лагераў, цёмнае вынаходніцтва XX стагоддзя. Яны дазваляюць зняволіць велізарныя масы людзей. У групу рызыкі ў першую чаргу трапляюць найбольш гарачыя, што прымеціў яшчэ Леў Талстой. Тым самым агульны напал жарсцяў у грамадстве застаецца нізкім. Але лагеры, як чорная дзірка, засмоктваюць у сябе ў шмат разоў больш, чым ёсць самі па сабе. Наглядчыкі-садысты, няўяўная карупцыя адміністрацыі, начальства прадпрыемстваў рабскай працы, вечна сляпая пракуратура і глухія чыноўнікі — усе яны знаходзяцца сярод грамадства, кожны дзень атручваючы яго ў тысячы разоў больш, чым крымінальнікі.

Лагер — вельмі сур'ёзнае выпрабаванне. Выйсці з яго пераможцам — значыць выйсці незламаным духам і чыстым сумленнем. Гэта частка жыцця, і ад гэтых гадоў нельга адмаўляцца, нельга нічога забываць.

Але арыштант у лагеры — гэта таксама выпрабаванне для тых, хто на волі. Няхай улада кідае ў сутарэнні аднаго, але тым самым гуртуюцца дзесяць. У салідарнасці і ёсць перамога людзей над уладай.

І каб не ўздыхаць у лагеры «як усё дрэнна і як мяне забылі-закінулі...», вы можаце пачаць удзельнічаць у лёсе арыштанта цяпер.

*https://avtonom.org/freenews/po-tu-storonu-zabora*

## КАМЕНТАРЫ

[1] Маркелаў Станіслаў Юр’евіч (1974–2009) — расійскі адвакат, праваабаронца, прэзідэнт Інстытута вяршэнства права, супрацоўнік інстытута «Калектыўнае дзеянне». Забіты нацыстамі ў 2009 г.

[2] Гісторыя-прызнанне завербаванага КДБ гамельчука Сяргея Гаўрыліна. — ***Т. Ш.***

[3] У снежні 2008 г. у Афінах паліцэйскімі быў застрэлены 15-гадовы падлетак Алексіс Грыгаропулас. Забойства выклікала бурную рэакцыю грамадскасці: Афіны ахапілі беспарадкі — былі зафіксаваныя дзясяткі падпалаў у розных раёнах горада, а цэнтр грэцкай сталіцы пераўтварыўся ў поле бою з барыкадамі, выбухоўкай, сутыкненнямі з паліцыяй і спецназам.

[4] Супрацоўнікі расійскай карнай структуры цэнтр «Экстрэмізм».

[5] З вялікай колькасцю татуіровак.

[6] МТЗ-РІПА — мінская футбольная каманда. З 2010 г. называецца «Партызан». Пераважная большасць фанатаў каманды трымаюцца антыфашысцкіх поглядаў.

[7] На пачатак 2011 г. — каля 500 даляраў ЗША.

[8] Гульня слоў: ОГП (Объединённая гражданская партия) — ОПГ (организованная преступная группировка).

[9] Сталкерства (сталкінг) — зацікаўленне, звязанае з наведваннем аб'ектаў, найчасцей якія або выйшлі з эксплуатацыі, або адпачатку не прызначаныя для наведнікаў.

[10] Някляеў Уладзімір Пракопавіч — беларускі паэт, празаік і грамадска-палітычны дзеяч. З 25 лютага 2010 г. ён стаў лідарам грамадскай кампаніі «Гавары праўду!». Вылучыў сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі. 19 снежня 2010 г. быў арыштаваны і абвінавачаны ў арганізацыі масавых беспарадкаў.

[11] Мянушка М. С. Гарбачова, генсека ЦК КПСС.

[12] Пераклад з ангельскай Сяргея Шупы.

[13] Камера, абабітая гумай і дэрмацінам, для ўціхамірвання буйных.

[14] Абмежаванне волі без накіравання ў папраўчую ўстанову (жарг.).

[15] Турма ў Мінску, знаходзіцца на вуліцы Валадарскага (жарг.).

[16] D.I.Y. (ад анг. Do It Yourself — «зрабі гэта сам») — у агульным выпадку ўжываецца ў сэнсе «самастойнае ажыццяўленне». У выпадку з музыкальнай культурай маецца на ўвазе самастойная праца не толькі па стварэнні музыкі, але і па яе выданні (музлэйблы адмаўляюцца) і правядзенні канцэртаў.

[17] Статкевіч Мікалай Віктаравіч — лідар Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), была кандыдат у прэзідэнты Беларусі. Удзельнічаў у мітынгу 19 снежня 2010 г. Быў затрыманы. У 2011 г. асуджаны на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

[18] Хакей з'яўляецца любімым відам спорту Лукашэнкі.

[19] Саннікаў Андрэй Алегавіч — былы кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, беларускі палітычны і

грамадскі дзеяч, каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь». Затрыманы падчас разгону мітынга 19 снежня 2010 г. У 2011 г. прысуджаны да 5 гадоў пазбаўлення волі калоніі ўзмоцненага рэжыму. Вызвалены ў красавіку 2012 г. пасля падпісання прашэння аб памілаванні. З'ехаў у палітычную эміграцыю, атрымаў прытулак у Вялікабрытаніі.

[20] Палітычны дзеяч, прадстаўнік партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

[21] Сацыял-дэмакраты.

[22] Страта — элемент сацыяльнай структуры (сацыяльны пласт ці група), аб'яднаны нейкай агульнай сацыяльнай прыкметай (маёмаснай, прафесійнай ці іншай).

[23] ОБЭП — Аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі. УБОП — Упраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю

[24] ДФР — Дэпартамент фінансавых расследаванняў

[25] Байкова Святлана — старшы следчы Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь. Была затрыманая супрацоўнікамі КДБ у лютым 2010 г. Абвінавачвалася па пяці артыкулах КК. Справа атрымала шырокі грамадскі рэзананс. Байкова была прызнаная вінаватай у перавышэнні службовых паўнамоцтваў і была прыгаворана да двух гадоў абмежавання волі («хатняй хіміі»).

[26] Адамовіч Дзмітрый — начальнік упраўлення па расследаванні злачынстваў ДФР КДК. Затрыманы ў жніўні 2010 г. Падпалкоўнік фінансавай міліцыі быў абвінавачаны ва ўчыненні злачынстваў супраць інтарэсаў службы.

[27] Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю.

[28] Група кампаній «Трайпл» — праект беларускага бізнесмена Юрыя Чыжа, які дзейнічае з 1992 г. Ад са-

кавіка 2012 г. Чыж унесены ў спіс неўязных у Еўрасаюз за падтрымку беларускага рэжыму, на ААТ «Трайпл» накладзеныя санкцыі.

[29] Раманчук Яраслаў Чэслававіч быў вылучаны ад імя Аб'яднанай грамадзянскай партыі кандыдатам у прэзідэнты на выбары 2010 г. Пасля падзеяў 19 снежня зрабіў заяву, у якой асудзіў іншых кандыдатаў за арганізацыю беспарадкаў. За гэта падпаў пад жорсткую крытыку і абвінавачванні ў здрадзе сярод апазіцыі.

[30] Рымашэўскі Віталь Анатольевіч быў вылучаны кандыдатам у прэзідэнты ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі на выбарах 2010 г. Затрыманы пасля разгону ўладамі мітынгу супраць фальсіфікацый вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. 20 траўня 2011 г. прызнаны вінаватым па арт. 342 КК «Арганізацыя групавых дзеянняў, якія парушаюць грамадскі парадак, ці ўдзел у іх» і прыгавораны да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкаю на два гады. Некаторымі прадстаўнікамі апазіцыі падазраецца ў супрацы са спецслужбамі.

[31] Бамжы, мурзы (жарг.)

[32] Маленечкая будка ў міліцэйскім аўтазаку або маленечкая камера меней як метр у будынку суда (жарг.).

[33] Мянушка (жарг.).

[34] Народныя засядацелі (жарг.).

[35] Бяндзёга — невялікая пабудова ці памяшканне: хлеў, будка, падсобка, бытоўка, каморка (жарг.).

[36] Махляр, які спецыялізуецца на крадзяжы сродкаў з банкаўскіх картак (жарг.).

[37] Народны дэпутат.

[38] Маршыруй ці памры (англ.).

[39] Упаўнаважаны ад блаткамітэта вырашаць пытанні, у гэтым выпадку — сачыць за выкананнем паняццяў у камеры (жарг.).

[40] Разбор канфлікту паміж арыштантамі (жарг.).

[41] Прыняць, не абурыўшыся (жарг.).

[42] Прэтэнзія (жарг.).

[43] Перамена месца. Звычайна гэта сітуацыя, калі некалькіх арыштантаў перакідваюць у іншыя камеры (жарг.).

[44] Гл. артыкул «Карпарацыя».

[45] Адстойнік — памяшканне, дзе праводзяць вобшук асуджаных (жарг.).

[46] Цягнік для перавозкі арыштантаў (жарг.).

[47] Крымінальна-выканаўчая сістэма, дзяржаўны інстытут, які які сочыць за выкананнем крымінальных пакаранняў, накладзеных на грамадзян у адпаведнасці з законам.

[48] Праз некалькі гадзін пасля забойства сакратара ЦК ВКП(б) С. Кірава 1 снежня 1934 г. была падпісана пастанова: «Следчым уладам — весці справы абвінавачаных у падрыхтоўцы або здзяйсненні тэрарыстычных актаў паскораным парадкам. Судовым органам — не затрымліваць выкананне прысудаў...» Затым пачаліся масавыя рэпрэсіі — «яжоўшчына».

[49] Справа Прампартыі — буйны судовы працэс у СССР па справе аб шкодніцтве ў прамысловасці, адбыўся 25 лістапада — 7 снежня 1930 г.

[50] Ю. Захаранка, В. Ганчар і А. Красоўскі знаходзіліся ў камандзе А. Лукашэнкі падчас выбараў 1994 г. У далейшым кожны з іх перайшоў у адкрытую апазіцыю да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У траўні 1999 г. у Мінску бясследна знікае Ю. Захаранка. У верасні — В. Ганчар і А. Красоўскі.

[51] Суд, які выбіраецца самімі бакамі для вырашэння спрэчкі паміж імі.

[52] Аляксандр Францкевіч і Мікалай Дзядок.

Игорю.

Друг! На Бутырке сейчас аж 3 экземпляра твоей „Еду в Магадан". От всех товарищей, захваченных тюрьмой, и от себя тоже, выражаю тебе глубокое уважение твоей силой, волей, твердостью. Я уверен, ты устоишь и выдержишь. У тебя очень славная мама (это мне жена рассказывает), и вы оба молодцы. Стены строят из одних и тех же камней, в Москве, Минске или Барселоне. Ваши стены выше и толще, но и они рухнут. Обязательно.

С солидарностью
Лёша Палихович
Бутырка

Здравствуйте, мама и папа! 05.01.2011

Новость о том, что от меня нет писем аж с 22-го неожиданна, но в целом неудивительна. Мне ещё повезло, что письма хотя бы приходят. Сами понимаете, зимние праздники, в почте большой наплыв, других причин быть не может. У нас же в стране всё цветёт и пахнет, и газеты подтверждают моё мнение, к примеру, статьи в "Рэспубліка" или "Советская Белоруссия".

По одежде: я всё делаю как полагается, но уже второй раз одежду, отложенную на стирку, не забирают. Видимо слишком загружено СИЗО работой, не успевают, надо понять, что винить тут некого. Но ничего, я справляюсь. Надо, думаю, требовать дальше, ждать золота Маккены.

Пластиковая тёрка есть, так разве что про запас. Посылку получил, тёте Томе спасибо, правда поменялся список разрешённых продуктов, часть изъяли, я заявление написал, чтобы вернули тебе, но результатов не знаю. Тем не менее, салаты с капустой заходят на ура. Соевую пасту не надо, это всё таки энергетик 2-го порядка по Бижнеру, не нужно сильно налегать.

Также получал посылки от тебя и от тёти Люды, от неё и Филиппа (видимо) ещё письмо пришло.

Мне тут тоже всякие сны диковинные стали сниться. Вот в последнем причудилось, что я научился переселять душу в собаку — эрдельчика пепельно-белого окраса. И в таком виде пошёл на работу к себе на "Пеленг". А потом возвращался назад в СИЗО и видел толпы людей в сквере, ждущих очереди на передачи. И ты сидела на лавке, но я не подошёл, боялся что узнаешь:) Тока ты до головы это не бери, все эти сны всего лишь переживания нашего подсознания, никакой мистики.

Л

Здравствуйте, мама и папа!

10
06.10.2013
№13

Как добрались домой? Третий вечер всё в лёгкой эйфории после свидания. Но времени катастрофически не хватило, толком не выговорился, даже за общую обстановку не успели поговорить. Пришёл в отряд, обнаружил кипу писем, неделю пылились где-то. Олишевич написал, тётя Лена Русакова, Кононова Люда, Надя Гродненская, Саня свои повести прислал и письмо, и других без счёту. А ещё от папы 25-го, печатное. Посмеялись над Шнабелем:) Лёша Пашкович сказал очень правильно, вопрос времени, главное — дух.



Сумки распаковал, пирую все выходные:) Всё очень классное! Какао — супер!! (как шоколад) Чай отличные! Приправ теперь как у кулинара:) От фруктов осталась одна груша и гранат. Яиц не удержался:) Пижаму уже одел. Сухоовощи с пюре — как в ресторане :) Но самое настоящее пиршество оказалось пиршество духа. Открыл Гинзбург и 200 страниц вернули меня на три года назад. Подчёркиваю карандашом почти на каждой странице. Были холоди, излагали на века. Знаю, что должен ответы писать, но тяга слишком сильна. Женщина психологическую сторону

P.S. Насчёт часов даже не знаю. Мои swatch и так хорошие. Если брать Casio, то от этих придётся избавиться. Только зачем? Если дадут длительную свиданку в декабре, возьмите те вторые, чёрные, они вроде как влагозащищённые, посмотрим, может действительно полезные будут.

нё же отражает гораздо тоньше. Фактическая сторона очень сильно пересекается с Рыбаковым (если кто-то ещё его фантазёром считает). "18 брюмера", наполеоновский переворот, а башка Троцкого ни добавить, ни отнять. Действительно, брюмер всегда следует за Термидором. Там 20 лет заняло созревание 37-го. У нас же пока где-то 18-ый год идёт, сходства поразительные.

Пока все мысли остановились на книге. Немного просмотрел другие, тоже хорошие. Как всё прочитать? Хотя "Этика" потяжелее их всех;) Тёте Лене напишу в первую очередь. Передавайте ей от меня особенный привет. Мисину уважаемому академику также не забудьте, ведь ещё летом пару раз привет передавал, но вы видимо в суматохе забываете. Соседям нашим дачным также. Веронике обязательно, ей, кстати, починили мотор в автосервисе, забыл спросить? Она ещё в 'Партии' играет? Давно её не было слышно (конечно же, только на октябре :)). Чеки пришли таки, чтоб не обижались, пусть до Нового Года подписывают ещё, а с 2014 начнём по новой системе — 'Поп. механику' за вами, газеты за мной. Плюс письма Вадиму и Жене, давно уже не отвечал.

Крепко-крепко обнимаю! Игорь

P.P.S. Недочёт книги то ли есть описка, и наоборот, и стилистическая. Вместо "школьный вопрос" — "шкурный вопрос" :) Вместо "вегетарианские твердыни" — "вег-кую степь". А так теперь много бы добавил по поводу.


Минское море
Пусть всегда будет повод
для того, чтобы почувствовать,
что жизнь прекрасна!
Поздравляю!
свою бесценную,
как Солнце драгоценную,
прекраснейшую
из прекрасных,
Уважаемую
и навеки любимую
МАМУ
с 8 МАРТА!
от сына Игоря
2013


Поздравляю!
2014
Пришла зима – пора чудес
И исполнения желаний –
Снегурочка укрыла лес
Своей пушистой снежной шалью,
Зажгла на ёлочках огни,
Сердца наполнила надеждой...
Пусть будут радостными дни
А год – счастливым и успешным!
Любимые мои
мама и папа!
2014 год обещает очередные вихри,
однако в любых ситуациях нужно находить
свой позитивный микромир.

## ПАЧАЎСЯ ЗБОР ПОДПІСАЎ ПАД ПЕТЫЦЫЯЙ У АБАРОНУ БЕЛАРУСКІХ АНАРХІСТАЎ

Адным з першых петыцыю падпісаў журналіст, кандыдат філалагічных навук Аляксандр Фядута, былы сукамернік анархіста Ігара Аліневіча па СІЗА КДБ.

«Прынцып "За вашу і нашу свабоду!" у беларускім палітычным жыцці ніхто не адмяняў. Я сядзеў месяц у адной камеры з Ігарам Аліневічам і паставіў свой подпіс з чыстым сумленнем, таму што ведаю: восем гадоў хлопец атрымаў на пустым месцы. Проста таму што не здаўся і не стаў прызнаваць сваю віну», — напісаў Аляксандр Фядута ў сваім блогу.

«Што да Ігара і яго калег, то гэта справа з палітычнай падаплёкай. Уладзе трэба было паказаць паспяховую барацьбу з "мясцовым тэрарызмам". Ва ўмовах адсутнасці незалежнай судовай сістэмы гэта зрабіць нескладана. Да таго ж я больш за месяц правёў з Ігарам у адной камеры і склаў уласнае ўяўленне пра яго як пра чалавека і грамадзяніна. Аб'яднаная грамадзянская партыя лічыць, што ва ўмовах адсутнасці незалежнай судовай сістэмы, у сітуацыі адкрытага палявання на іншадумцаў фігуранты "справы аб падпалах" могуць і павінны лічыцца палітвязнямі Беларусі», — лічыць

кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька.

«Я месяц правёў у адной камеры з Ігарам Аліневічам. Гэта мужны і прынцыповы чалавек, абвінавачванне супраць яго пабудаванае на хлуслівых даносах, таму хачу далучыцца да петыцыі ў яго абарону», — адзначыў былы кіраўнік выбарчага штаба кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча Сяргей Марцалеў.

«Я таксама паставіў свой подпіс. Пасля судовага працэсу і заяў сведак пра ціск на іх з мэтай дыскрэдытацыі склалася ўстойлівае адчуванне, што Мікалая Дзядка, Аляксандра Францкевіча і Ігара Аліневіча проста прызначылі вінаватымі, а "самы гуманны суд у свеце" банальна выканаў заказ спецслужбаў», — піша ў блогу журналіст Анджэй Пачобут, палітвязень, асуджаны ў ліпені гэтага года на 3 гады ўмоўна з адтэрміноўкай у выкананні прысуду на 2 гады па артыкуле 367 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

«Крыўдна бачыць такую сітуацыю ў сваёй краіне. Людзей кідаюць за краты, фальсіфікуючы справы, пагражаючы родным, сябрам і блізкім. Нібы ў краіне акупацыйных ваеннае становішча. Жах... З Мікалаем Дзядком знаёмы завочна, праз ЖЖ. Заўсёды гаварылі канструктыўна. Вельмі імпанавала яго ўзважанасць. Цікава было дыскутаваць. Выдатна, калі маладыя людзі ў любой краіне маюць сваю грамадзянскую пазіцыю, а ўдвая прыемней, што такія людзі ёсць у Беларусі, калі гэта так патрэбна. Студэнцкая супольнасць ЕГУ з самага пачатку паслядоўна выступала за вызваленне Мікалая Дзядка. Судовы працэс, на якім Мікалаю далі чатыры з паловай гады, пакінуў моцны адбітак... Закон Рэспублікі Беларусь як быццам аблілі брудам і выкінулі ў сметніцу. Я, мае сябры, а таксама мае калегі будзем прыкладаць усе намаганні для таго, каб Мікалай як мага

хутчэй пакінуў засценкі той установы, дзе павінны быць тыя, хто яго судзіў», — кажа публіцыст і каардынатар моладзевай ініцыятывы StudAlliance Кірыл Атаманчык.

«Яны асуджаныя па палітычных прычынах. Асабіста для мяне яны — палітвязні, таму іх вызваленне трэба патрабаваць разам з удзельнікамі справы 19 снежня і па справе Лобава–Дашкевіча. Яны ўсе разам палітвязні», — лічыць былы палітвязень Мікіта Ліхавід, які 81 суткі правёў у штрафным ізалятары Наваполацкай калоніі.

«З Аляксандрам Францкевічам я правёў некалькі месяцаў у СІЗА, а потым яшчэ 3 месяцы ў "Ваўчыных норах". Мы з ім, натуральна, пастаянна размаўлялі, хоць і былі ў розных атрадах. 9 верасня яму разам са мной, Мірзаянавым і Лобавым прапаноўвалі падпісаць прашэнне аб памілаванні, але ён адмовіўся (як і ўсе мы). Лічу, што іх (анархістаў. — ***Заўв. рэд.***) трэба выпускаць, бо ў курсе, як на іх аказвалі ціск падчас следства і як потым праходзіў "суд"», — кажа былы палітвязень Павел Вінаградаў.

Таксама пад петыцыяй падпісаліся адзін з кіраўнікоў Беларускага Свабоднага Тэатра Мікалай Халезін, першы намеснік старшыні Беларускай партыі «Зялёныя» Юры Глушакоў, кіраўнік Беларускай партыі «Зялёныя» Алег Новікаў, адзін з першых беларускіх палітвязняў і палітэмігрант Аляксей Шыдлоўскі, таксама асуджаная на два гады з адтэрміноўкай за ўдзел у мірнай акцыі 19 снежня журналіст і жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава Ірына Халіп.

*18 верасня 2011 г.*

*www.belarus.indimedia*

# АНАРХІСТ ІГАР АЛІНЕВІЧ: ХТО МАЎЧЫЦЬ — ТОЙ ПЕРАМОЖАНЫ

«Нягледзячы ні на якія віхуры і прагнозы ў дачыненні да 2012 года, я поўны аптымізму і веру ў лепшае. Жадаю вам глядзець у будучыню з энтузіязмам. З Калядамі і Новым годам!»

29 снежня Валянціна Алiневіч атрымала віншаванні з калядна-навагоднімі святамі ад свайго сына, палітвязня Ігара Аліневіча, які адбывае пакаранне ў Наваполацкай калоніі. Ігар хацеў павіншаваць родных па тэлефоне, але, як заяўляе адміністрацыя калоніі, «згубілася заява на тэлефонны званок». Наогул за час знаходжання ў калоніі Ігару толькі адзін раз далі пагаварыць па тэлефоне з маці.

Ігар умудрыўся знайсці дзесьці паштоўку з аленем — у калоніі маладога чалавека называюць «Алень» (утварылася ад прозвішча — Аліневіч). Маці ў захапленні і адначасова здзіўляецца: «Я шукала паштоўкі — павіншаваць усіх палітвязняў — не бачыла я такой паштоўкі. І дзе ён толькі яе адшукаў?..»

Як ні дзіўна, калі звычайна ліст маці ідзе 18–20 дзён, на гэты раз прыйшоў за два дні: 26 снежня ліст напісаны, а раніцай 29 снежня Валянціна Аліневіч ужо атрымала доўгачаканае пасланне ад сына.

Ігар Аліневіч, як звычайна, піша шмат пра ўсё і практычна нічога пра сябе.

«А з украінскімі феміністкамі паступілі па-свінску... Чым далей развіваюцца падзеі, тым больш выразная і больш яўная істэрыя ў вярхах. Як вынік — недарэчныя, гнюсныя, жорсткія рэакцыі на ўсё. Апарат усё больш нагадвае капрызнае дзіця-пераростка, які руйнуе ўсё вакол. Страх пранізвае вертыкаль, але самыя драконаўскія меры не дапамогуць — толькі дэманструюць бяссілле ўлады...

Сапраўдны парадак задавальняе лепш за ўсё само грамадства, калі ініцыятыва ідзе з тысячы месцаў. Туманнем за нітачкі з аднаго цэнтра армію з тысяч нямдараў і хапуг можна пабудаваць толькі казарму і калгас, а не квітнеючую краіну. У нетрах гэтай пухліны і зарадзілася абноўленая рэпрэсіўная карная сістэма, нават не змяніла назву. І яна запатрабуе ўсё новых і новых ахвяр, таму што жыве чалавечымі пакутамі.

У гэты няпросты час менавіта салідарнасць дазваляе людзям заставацца людзьмі. Мноства нябачных сувязей аднаго з адным, галоснасць і дзеянне ўтвараюць сілу. Хто маўчыць — той пераможаны, затым прыйдуць у наступны раз і ўсё забяруць. Так ужо было ў нашай гісторыі», — піша Ігар Аліневіч.

«Ігар, як і многія людзі, якія прылічваюць сябе да розных слаёў грамадзянскай супольнасці, захаваў розум, гонар і годнасць і не пайшоў на здзелку з рэпрэсіўным рэжымам. Бо нашыя маладыя людзі не спрабавалі захапіць уладу, як "спявае" прапаганда, — яны проста спрабавалі паўплываць на яе. Рэжым сам застаецца ў дагістарычнай эпосе і спрабуе цэлую краіну ўтрымаць там, нават не здагадваючыся, што ўвесь свет ужо ўяўляе сабой постіндустрыяльнае грамадства», — кажа Валянціна Аліневіч.

Пра сябе Ігар практычна нічога не піша. За ўвесь час

знаходжання ў калоніі Ігар толькі адзін раз патэлефанаваў маці ды адзін раз яму далі доўгатэрміновае спатканне з бацькамі.

«Кожнае месца заключэння наглуха закрытае ад грамадства — баяцца ўцечкі самай бяскрыўднай інфармацыі. Мы ўжо прайшлі праз Камсамольскую. Па месяцу-два не даходзілі лісты ні да Ігара, ні ад Ігара. Сястра, якая жыве ў іншай краіне, толькі атрымала ліст: "Жывём мы добра..." Як "добра" — зараз мы ўжо ведаем, мабыць, пад дыктоўку пісана. Пра сябе Ігар не піша, таму як там на самай справе, мы не ведаем. А ён ніколі не скардзіцца, нават калі гэта маўчанне ідзе на шкоду яму», — кажа маці.

Не паведамляе Ігар, ці вымагаюць ад яго пісаць прашэнне аб памілаванні, як гэта адбываецца з іншымі палітвязнямі.

«Пасля доўгатэрміновага спаткання настрой змяніўся і насцярожыўся — я адчуваю. Піша, будзем чакаць, калі сітуацыя зменіцца да лепшага. Выходзіць, у іх сітуацыя пагоршылася», — робіць выснову Валянціна Аліневіч.

Затрыманы людзьмі ў цывільным 28 лістапада 2010 года ў Маскве, Ігар Аліневіч быў вывезены ў невядомым кірунку. Толькі праз суткі стала вядома, што Аліневіч знаходзіцца ў ізалятары КДБ у Мінску — «амерыканцы». Пра гэта маці актывіста паведаміў дзяжурны адвакат.

27 мая 2011 года Заводскі райсуд сталіцы вынес прысуд групе актывістаў анархісцкага і сацыяльнага накірунку. І. Аліневіч быў асуджаны на 8 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Адбывае пакаранне ў Наваполацкай калоніі.

*29 снежня 2011 г.*

*www. belarus.avtonom.org*

## АНАРХІЯ І БЕЗЗАКОННЕ

Улада кажа, што палітвязняў у нашай краіне няма. Што ўсе, хто сядзіць у турмах, пакараныя за звычайныя крымінальныя злачынствы. Тым не менш цывілізаваны свет настойліва патрабуе ад беларускіх уладаў: «Вызваліце “палітычных”, для Еўропы XXI стагоддзя саджаць людзей у турмы за іх палітычныя погляды — гэта ганьба!»

Дык усё-такі ёсць у гэтых крымінальных справах палітыка ці не? «Народная Воля» распавядае пра крымінальную справу, якая дала адразу тры прозвішчы ў спіс палітвязняў, — Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Аляксандр Францкевіч.

**Аперацыя «Падпальшчыкі»**

Гэтая гісторыя здарылася ў разгар апошняй прэзідэнцкай кампаніі.

Вечарам 30 жніўня 2010 года невядомыя кінулі на тэрыторыю расійскай амбасады ў Мінску дзве бутэлькі з запальнай сумессю. У выніку інцыдэнту ніхто не пацярпеў. Але адна бутэлька трапіла ў прыпаркаваны на тэрыторыі амбасады аўтамабіль, ён загарэўся. Ахова амбасады справілася з пажарам самастойна. Але гісторыя атрымалася дзіўна гучная.

Аляксандр Лукашэнка высунуў версію аб расійскім следзе. «Атака адна, атака другая, трэцяя ў СМІ. Беспрэцэдэнтны ціск у эканоміцы. Не атрымліваецца, трэба шукаць іншыя метады. Таму гэта цікавая версія, і мы будзем яе адпрацоўваць. Хутчэй за ўсё, гэты інцыдэнт патрэбен быў ім, каб паказаць — вось, бачыце, які там Лукашэнка, што нібыта ледзь ці не ён сам зладзіў гэты тэракт, як яны яго называюць, і падпаліў аўтамабіль». Са слоў кіраўніка вынікала, што праваахоўныя органы старанна адпрацоўваюць версію аб магчымай датычнасці да пажару «расійскіх правакатараў».

Аднак ужо 2 верасня на сайце беларускіх анархістаў была апублікавана заява нейкай групы «Сябры свабоды», у якой адказнасць за інцыдэнт каля расійскай амбасады яны ўзялі на сябе. Акцыя нібыта стала пратэстам супраць затрыманняў актывістаў, якія выйшлі на абарону Хімкінскага лесу ў Маскве. Анархісты назвалі гэтую заяву правакацыяй, абвясцілі, што ніякія «Сябры свабоды» ім не вядомыя, але махавік запрацаваў...

Пачынаючы з 3 верасня па ўсёй краіне, паводле звестак праваабаронцаў, было затрымана больш за 50 чалавек. Затрымлівалі тых, хто меў хоць нейкае дачыненне да анархісцкіх групаў палітычнай і экалагічнай накіраванасці. Ноў-хаў праваахоўнікаў на гэты раз стала прымяненне працэдуры «перазатрымання». Паводле нашага заканадаўства, чалавека можна затрымаць на трое сутак, далей ужо патрабуецца абгрунтаваць і матываваць арышт. У гэтым выпадку дзейнічалі проста. Па заканчэнні трох сутак чалавека не выпускалі, а складалі новы пратакол затрымання. Так, Мікалая Дзядка «перазатрымлівалі» сем разоў, гэта значыць 21 дзень ён правёў у ізалятары без прад’яўлення абвінавачвання. Астатніх часцей за ўсё «перазатрымлівалі» па тры разы — на 9 сутак. Гэта пацвярджае, што ніякіх падстаў для затрымання людзей у праваахоўнікаў не было.

Справу «ляпілі» проста: хто што скажа, хто не вытрымае, хто на каго пакажа. Адвакаты па некалькі дзён не маглі атрымаць інфармацыю пра месца знаходжання сваіх падабаронных, натуральна, аб прадугледжаных законам сустрэчах з абаронцамі сам-насам у такіх умовах і гаворкі не было.

28 лістапада ў Маскве быў схоплены Ігар Аліневіч. На выхадзе з гандлёвага цэнтра на яго проста накінуліся шэсць чалавек без формы і якіх-небудзь знакаў адрознення і павялі з сабой. Сведкам таго, што адбылося, стаў сябар Ігара, інакш ніхто б і не ведаў аб тым. Сябры Ігара шукалі яго ў аддзяленнях міліцыі і ізалятарах Масквы, расійскія праваахоўнікі адмаўлялі наяўнасць у іх такога затрыманага, а таксама дачыненне сваіх супрацоўнікаў да яго арышту. А Аліневіч тым часам знайшоўся ў беларускім СІЗА КДБ. Яго пасадзілі ў машыну, закавалі ў кайданкі, нацягнулі на твар шапку і проста вывезлі з расійскай сталіцы на аўтамабілі. Ці трэба казаць, што такое «затрыманне», больш падобнае на выкраданне, з’яўляецца парушэннем усіх мажлівых працэдур? У тым ліку — працэдур экстрадыцыі беларускіх грамадзян з Расійскай Федэрацыі.

У студзені 2011 года міністр унутраных спраў Анатоль Куляшоў далажыў грамадскасці, што следствам устаноўлены ўсе ўдзельнікі нападу на амбасаду. «Гэта пяць грамадзян Рэспублікі Беларусь. Усе маладыя людзі належаць да анархісцкага руху», — сказаў міністр.

**Без цара ў галаве**

Анархізм («ан» — «без», «архэ» — «улада») — палітычная філасофія, якая зыходзіць з таго, што ў сістэме, заснаванай на дзяржаўнай уладзе і эксплуатацыі, людзі не могуць нармальна жыць і развівац-

ца. Анархізм зыходзіць з таго, што грамадства можа і павінна быць арганізавана без дзяржаўнага прымусу. Пры гэтым існуе мноства розных напрамкаў анархізму.

Анархізм прапануе замяніць супрацоўніцтвам індывідаў уладу, існуючую за кошт падаўлення адных людзей іншымі і дзякуючы прывілеям адных у адносінах да іншых. Гэта азначае, што, на думку анархістаў, грамадскія адносіны і інстытуты павінны грунтавацца на асабістай зацікаўленасці, узаемадапамозе, добраахвотнай згодзе і адказнасці (якая зыходзіць з асабістай зацікаўленасці) кожнага ўдзельніка, а ўсе віды ўлады (гэта значыць прымусу і эксплуатацыі) павінны быць ліквідаваныя.

Анархізм, асабліва рускі, можна разглядаць як увасабленне ў сусветнай сацыяльна-палітычнай філасофіі XIX–XX стагоддзяў старажытных ідэй аб свабодзе і свабодным грамадстве вольных людзей, якія зарадзіліся ў глыбокай старажытнасці ў стэпах Цэнтральнай Еўразіі і якія знайшлі сваё выражэнне, у прыватнасці, у светапоглядзе і філасофіі казацтва. Многія тэарэтыкі і паплечнікі еўразійскага анархізму мелі казацкія карані і былі звязаны з казацкім асяроддзем.

Тэорыя анархізму прадугледжвае наступныя прынцыпы:

1) адсутнасць улады;
2) свабода ад прымусу;
3) свабода асацыяцый;
4) узаемадапамога;
5) разнастайнасць;
6) роўнасць;
7) брацтва.

Сучасны анархісцкі рух вельмі разнастайны і ўключае ў сябе мноства плыняў. Нароўні са «старымі» анархістамі, гэта значыць прадстаўнікамі класічных напрамкаў у анархізме, пераважна анарха-сіндыкалістамі

і анарха-камуністамі, існуюць «аўтанамісты», рэд-скіны (чырвоныя і анарха-скінхэды), розныя экалагічныя рухі, культурныя ініцыятывы. Беларускія следчыя глыбока капаць не сталі і не разабраліся, да якога кірунку адносяць сябе беларускія анархісты і ці анархісты яны. Больш за тое, следчыя, мабыць, не зразумелі галоўнага: ідэі анархізму адмаўляюць іерархію. Яны ж упарта шукалі кіраўнікоў гэтага руху. І зрабілі такім Ігара Аліневіча, самага старэйшага з затрыманых, чалавека глыбокага, які сапраўды прасякнуўся ідэямі анархізму як філасофіяй і ладам жыцця. Праўда, нават нашым следчым хапіла розуму не ставіць анархістам славуты крымінальны артыкул «Дзеянні ад імя незарэгістраванай арганізацыі». Таму што ніякай арганізацыі ў іх няма. Ёсць толькі людзі, якія падзяляюць пэўныя погляды.

Пра анархістаў у Беларусі сапраўды чулі. Яны не хавалі, што ладзяць акцыі і флэш-мобы, самі паведамлялі пра гэтыя акцыі і нават выкладвалі на сваім сайце відэа з «мерапрыемстваў». Праўда, нікому ніколі не прыходзіла ў галаву ўзбуджаць з гэтай нагоды крымінальныя справы. Таму што акцыі былі відовішчнымі, але бясяскрыўднымі. Ніякай сур’ёзнай шкоды нікому яны, як правіла, не наносілі.

Напрыклад, яны зладзілі акцыю пратэсту супраць маштабных беларуска-расійскіх вучэнняў «Захад-2009». Тады каля 35 чалавек пад чорна-чырвонымі сцягамі і з банерам «Народ галадае, ваенныя гуляюць!» рушылі па праезнай частцы вуліцы Камуністычнай, скандуючы: «Народ галадае, палітыкі гуляюць!», «Армія — рабства!», «Улада нараджае паразітаў!», «Дзяржава — вораг народа!», «Чыноўнікі — зладзеі, палітыкі — хлусы! За долары капаюць магілу для краіны!». У ходзе шэсця запальвалася піратэхніка, а на сцены навакольных дамоў наносіўся трафарэт «Беларусь — не палігон!».

Ля Міністэрства абароны анархісты (як яны самі

паведамілі) «вырашылі патрывожыць армейскіх чыноўнікаў, якія сядзелі там, закінуўшы за агароджу Генштаба дымавую шашку». Пасля гэтага ўсе дэманстранты рушылі да метро і раз’ехаліся.

Галоўнай ідэяй акцыі, як яны распавялі, «было тое, што, крывадушна скардзячыся на крызіс і яго фінансавыя наступствы, наша (ды і расійская) улада тым не менш выкідае гіганцкія сродкі на катанне танкаў па палігонах дзеля славы “саюзнай дзяржавы” і “братняга яднання”. Кошты ў краіне бесперапынна растуць, заводы стаяць, але гэта не перашкаджае прэзідэнту марнаваць грошы на знешнепалітычныя гульні з усходнім суседам». «Нас, анархістаў, такое становішча рэчаў не задавальняе, — заявілі ўдзельнікі флэш-мобу. — Мы не хочам быць і не будзем пешкамі ў палітычных і грашовых гульнях уладароў. Сусветны крызіс ужо даказаў неэфектыўнасць і безгрунтоўнасць капіталістычнай эканомікі, неалібералізму, ды і дзяржаўнага ладу як такога. Несправядлівы парадак (дакладней, беспарадак) сённяшняга свету павінен быць заменены вольным грамадствам самакіравання і прамой дэмакратыі!»

Падчас акцыі ніхто не пацярпеў і ніхто не быў затрыманы.

Вось іншы прыклад іх «супрацьпраўных дзеянняў». Снежаньскай раніцай 2009 года імі была прадпрынятая атака на VIP-казіно «Шангры Ла» на вуліцы Кірава. Уваход у казіно яны закідалі лямпачкамі з фарбай і піратэхнічнымі паходнямі, а на сцяне пакінулі надпіс «Цябе ўжо прайгралі!».

На сайце анархістаў акцыю патлумачылі так: «Мінімальная сума для гульні ў гэтым казіно — 5000 долараў. Пяць тысяч даляраў... Успомнім, колькі ў нашай краіне атрымлівае сярэдні малады спецыяліст ці проста працоўны...»

Наступныя падзеі паказалі, што пратэст анархістаў

супраць нястрымнага адкрыцця ў Беларусі разнастайных казіно, самі таго не ведаючы, падзялілі мільёны беларусаў, якія адкрыта абураныя тым, што наша краіна ператварылася ў аазіс для аматараў лёгкіх грошай. І што адны ў нас адкрыта жыруюць, а іншыя не ведаюць, на якія грошы сабраць дзіця ў школу.

У тым жа духу была і акцыя ля будынка Федэрацыі прафсаюзаў. У ноч з 29 на 30 красавіка 2010 года група мінскіх анархістаў разбіла ў ім некалькі шыбаў і закінула ўсярэдзіну піратэхнічны факел. Побач пакінулі надпіс: «Далоў бюракратаў!».

«Гэтай атакай мы хацелі паказаць, што прафсаюзы з'яўляюцца не абаронцамі працоўных, а памагатымі іх прыгнятальнікаў. Мэтай прафсаюзных босаў ніколі не была абарона працоўных. Лепшае, на што яны здольныя, — дапамагаць дасягаць "дамовы" паміж працаўніком і наймальнікам. Але якое можа быць пагадненне паміж гаспадаром і рабом, прыгнечаным і прыгнятальнікам? — тлумачылася пазней па выніках акцыі. — Паглядзіце, чым сёння займаюцца афіцыйныя прафсаюзы і бюракраты, якія ў іх працуюць. Збіраючы штомесячныя ўзносы, нярэдка заганяючы людзей у свае шэрагі прымусова, максімум, на што яны здольныя, — гэта арганізаваць сваім сябрам пуцёўкі ў санаторыі ці нікому не патрэбныя "культурна-масавыя мерапрыемствы". Рэальная функцыя прафсаюза — быць "прывадным рамянём" эксплуатацыі паміж гаспадаром і працоўным, засцерагаць працоўных ад РЭАЛЬНЫХ дзеянняў па абароне сваіх правоў. Вы можаце ўзгадаць хоць адзін выпадак, каб прафсаюз вас рэальна абараніў перад уплывовым бізнесменам або чыноўнікам?

Недалёка адышлі адсюль і так званыя "незалежныя" прафсаюзы. Займаючыся легальным працаўладкаваннем, спрабуючы гуляць з Сістэмай па правілах (г. зн. па законах), яны загадзя выракаюць сваіх членаў

на рэпрэсіі. Адзінае, у чым можа быць упэўнены сябар недзяржаўнага прафсаюза, — гэта тое, што яго, хутчэй за ўсё, звольняць за знаходжанне ў ім. Бо чым горшае эканамічнае становішча ў краіне, тым менш сэнсу змагацца за свае правы пры дапамозе літары закону. Законы прыдуманыя не намі і відавочна не ў нашых інтарэсах!

Узамен афіцыёзных прафсаюзаў з іх псеўдаабаронай і крывадушнасцю мы лічым адзіна эфектыўным метадам барацьбы за свае правы прамое дзеянне. Прамое дзеянне — гэта любое дзеянне, у якім вы прама і непасрэдна адстойваеце свой інтарэс, не арыентуючыся ні на законы, ні на папяровую валакіту з бясконцымі зваротамі да чыноўнікаў. Забастоўка, сабатаж на прадпрыемстве, фізічнае ўздзеянне на начальнікаў — гэтыя сродкі заўсёды гучнейшыя за пісаніну і скаргі, таму што, дзейнічаючы прама, вы перастаяце быць ахвярай, перастаяце плакацца на сваю цяжкую долю, а замест гэтага самі атрымліваеце ў рукі рычагі ўплыву на сваіх гаспадароў!

Мы, анархісты, заклікаем усіх, хто незадаволены сваім жыццём, хто адчувае несправядлівасць і падман, самаарганізавацца ў барацьбе і пачаць нарэшце вырашаць свае праблемы не паасобку, а разам! Перад тварам крызісу, створанага гаспадарамі жыцця, перад тварам галечы і бяспраўя мы — працоўныя ўсіх сфер і прафесій — павінны ўзброіцца прынцыпамі салідарнасці і ўзаемадапамогі, каб дамагчыся для сябе лепшага жыцця!»

Апошняя заява тлумачыць, чаму праваахоўнікі адносяць анархістаў да экстрэмісцкіх плыняў: «сабатаж» або «фізічнае ўздзеянне на начальнікаў» — гэта зусім не метады мірнай барацьбы, яны ўсё ж выходзяць за рамкі прававога поля. Хоць большасць беларускіх анархістаў прапаведуюць негвалтоўны супраціў і нашы «махноўцы» ніколі ніякаму начальніку морду не білі, «паляван-

не» на іх упісалася ў праводзімую ў краіне палітыку застрашвання, прэвентыўных арыштаў, зачыстак. На фоне прэзідэнцкай выбарчай кампаніі праваахоўнікі гатовыя былі рапартаваць пра сваю перамогу і раскрыццё серыі цяжкіх злачынстваў, якімі і называлі вышэйзгаданыя акцыі. Што ж да падпалу машыны каля расійскай амбасады, з-за якой, уласна, уся гэтая аблава і пачалася, то і сёння, пасля суда, застаецца незразумелым, хто ж усё-такі яе падпаліў.

**Абгавары таварыша і будзь вольны**

З выраку суда вынікае, што напад на амбасаду ажыццявілі Ігар Аліневіч, Максім Веткін і «іншая асоба, уведзеная ў зман адносна правамернасці сваіх дзеянняў». «Іншая асоба» здымала тое, што адбываецца, на відэа, а Веткін і Аліневіч кідалі бутэлькі за агароджу амбасады. Прычым бутэльку, якая трапіла ў злашчасную машыну, з-за чаго тая загарэлася, кінуў менавіта Аліневіч.

Пра гэта следству і суду расказаў той самы Максім Веткін, якога выпусцілі з залы суда, прысудзіўшы да чатырох гадоў у «папраўчай установе адкрытага тыпу». І «іншая асоба» — чалавек, які нібыта здымаў акцыю. Праўда, пазней гэты чалавек даслаў у суд свае паказанні, завераныя ў польскага натарыуса, і паведаміў: «Свае паказанні я даваў пад маральным і псіхалагічным ціскам супрацоўнікаў міліцыі. Пра акцыі, пра якія ў мяне пыталіся, я не маю ніякай інфармацыі, сам не прымаў у іх удзелу і не падазраю зараз нікога са сваіх знаёмых. З размоваў са следчымі і аператыўнымі супрацоўнікамі я зрабіў выснову, што прамых доказаў датычнасці Ігара Аліневіча да таго, што адбылося на тэрыторыі амбасады РФ, у іх не было, таму яны мэтанакіравана схілялі мяне да дачы паказанняў супраць яго, пры гэтым абяцаючы, што я змагу пазбегнуць крымінальнага пакарання,

што і адбылося». Суд, праўда, не стаў разглядаць гэтую заяву: былі зачытаныя толькі паказанні з крымінальнай справы.

Зрэшты, на любое слова павінна быць нейкае матэрыяльнае пацверджанне. У прысудзе сапраўды пералічваюцца ўсе пісьмовыя доказы па справе, якія пацвярджаюць віну абвінавачаных. Што тычыцца пасольскай машыны, то гэта:

— рапарт аб падпале аўтамабіля «Мазда»;

— данясенне аб пажары на тэрыторыі расійскай амбасады;

— рахунак-фактура пра тое, колькі каштавалі запчасткі да пашкоджанага аўтамабіля;

— даведка, што аўтамабіль не падлягае аднаўленню;

— пратакол агляду месца здарэння і прылеглай мясцовасці, паводле якога былі выяўлены і канфіскаваны: два недакуркі, фрагмент запалкі, дзве пальчаткі з матэрыі, пластыкавая бутэлька з-пад піва, поліэтыленавы пакет, след абутку і г. д. і да т. п.

Даведкі і рапарты аб тым, што адбылося, натуральна, ніякім доказам з’яўляцца не могуць. А вось што тычыцца біялагічнай і генатыпічнай экспертыз рэчдокаў, то яны праводзіліся. Эксперты знайшлі на іх сляды сліны, поту, клеткі скуры «чатырох асоб мужчынскага генетычнага полу і адной асобы жаночага генетычнага полу». Праўда, гэта не сляды Ігара Аліневіча. Вось такімі аказаліся «аб’ектыўныя доказы».

**За што?..**

Ігар Аліневіч у сваім апошнім слове на судзе заявіў аб недатычнасці да падпалу машыны каля расійскай амбасады. «Акцыя каля Генштаба восенню 2009 года стала маёй апошняй анархісцкай акцыяй, пасля гэтага я адышоў ад спраў, таму што вырашаў жыллёвае пытанне

і працаваў у аэратэхнічнай галіне, і дзеянні праваахоўных органаў па прыцягненні мяне ў якасці “злога генія” я лічу спробай аказаць ціск на анархісцкі рух Беларусі, паказаць, што любы можа быць абвінавачаны, усё роўна — ён актыўны ўдзельнік або які спачувае», — заявіў на судзе Аліневіч.

Мікалай Дзядок заявіў, што не лічыць неабходным даказваць сваю невінаватасць, паколькі ў ходзе судовага следства не было прадстаўлена ніякіх доказаў яго віны. Дзядок, дарэчы, заявіў суду, што ніякага дачынення да анархісцкіх рухаў ніколі не меў і ні ў якіх такіх групах не ўдзельнічаў. З’яўляючыся студэнтам факультэта паліталогіі ЕГУ, ён проста цікавіўся рознымі палітычнымі вучэннямі і ідэямі, грамадска-палітычнымі плынямі і партыямі як у Беларусі, так і за яе межамі. Вывучаючы іх як сферу сваіх будучых прафесійных інтарэсаў, ён знаёміўся і меў зносіны ў сетцы Інтэрнэт з рознымі людзьмі, якія называлі сябе «зялёнымі», «анархістамі», «эколагамі», вывучаў літаратуру рознага палітычнага зместу. Але гэта злачынствам не з’яўляецца. Гэтыя словы Мікалая, дарэчы, на судзе пацвярджалі іншыя сведкі. Тым не менш суд вырашыў яго пакараць.

Аляксандр Францкевіч у апошнім слове расказаў, што на яго падчас следства аказваўся сур’ёзны псіхалагічны ціск. «Пасля таго як я адмовіўся даваць паказанні супраць Дзядка, мяне вырашылі пасадзіць за тое, што я адмаўляюся прыняць іх пункт гледжання, за тое, што адмаўляюся падпісваць тое, што яны мне казалі. Гэтага я не рабіў, таму што я не магу паклёпнічаць супраць іншых людзей, гэта ганебна», — заявіў ён. Суд ён назваў «спробай паставіць рамкі, запалохаць людзей, якія адносяць сябе да анархісцкага руху».

Тым не менш прысуд для гэтых траіх апынуўся суровы.

Ігар Аліневіч — 8 (!) гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Мікалай Дзядок — 4,5 года пазбаўлення волі ў ВК агульнага рэжыму.

Аляксандр Францкевіч — 3 гады пазбаўлення волі ў ВК узмоцненага рэжыму.

За што?..

**Лісты на волю**

На сайце «Аўтаномнае дзеянне» расійскія анархісты час ад часу публікуюць лісты арыштаваных беларускіх таварышаў.

Мікалай Дзядок:

«...Наогул, у мяне ўжо тры парушэнні, так што УДВ мне не свеціць. Са спортам усё выдатна. Тры разы на тыдзень хаджу ў качалку. Яна, праўда, на вуліцы і там халаднавата, але нічога — уцяпляюся. Кнігі таксама чытаю, праўда, вольнага часу замала — кніг шмат, а чытаць няма калі. Нядаўна дачытаў Эрыха Фрома "Уцёкі ад свабоды". Выдатная кніга, прысвечаная псіхалогіі ўлады і падпарадкавання. Вельмі многія пытанні тлумачыць і раскрывае.

Цяпер падсеў на беларускую літаратуру, чытаю Якуба Коласа "На ростанях". Гэты пісьменнік, дарэчы, з 1908 па 1911 год адседзеў на Валадарцы за ўдзел у нейкім нелегальным нацыянальна-асветным гуртку. Можа, я нават быў у той камеры, дзе ён сядзеў...

Рады, што ваш штогадовы фестываль (Чорны Петраград) прайшоў выдатна. Шкада толькі, што не атрымалася падтрымаць традыцыю і прыехаць на яго. Ну ды нічога, думаю, што мне даруюць, прычына ўважлівая.

Ваш "дуумвірат" усё больш вучыцца ў бацькі. Глядзеў па тэліку з'езд "Адзінай Расіі" — проста жах і ганебшчына. "Бурныя апладысменты, пераходзячыя ў авацыі" пасля кожнай фразы правадыра, удзячныя працаўнікі, інтэлігенцыя і дзеячы мастацтва з хвалебнымі прамовамі...»

Аляксандр Францкевіч:

«... Навіны з волі ўсё больш і больш песімістычныя — людзі бяднеюць, але і прымаюць гэта, маўчаць...

Часта чытаю пра гэтыя альтэрглабалісцкія антыкапіталістычныя пратэсты ў Еўропе і ЗША... Калі шчыра, то за кіламетр ад іх патыхае трацкізмам і эсдэкаўшчынай з гэтым патрабавальным крыкам дзяржаве: “Пакарай багатых!” У Беларусі Лукашэнка прыйшоў менавіта на гэтай хвалі, на гэтых настроях. Гэтак жа ліберальная крытыка дзяржавы ў краінах СНД і “дэмакратычныя” пратэсты бачацца мне толькі паказчыкам сацыяльнай напружанасці, але не прадвеснікам сац. рэвалюцыі...»

«У вас пабойваюцца, у нас жа сілавікі адмарожаныя — расстрэлы і арышты направа і налева... Шкада, што ў нас насельніцтва ўсё глынае, што б яны ні вытварылі. Вунь прысудзілі да расстрэлу віцебскіх дзецюкоў.

У масе сваёй людзі разумеюць, адкуль ногі растуць, але некаторыя нават гэта праглынуць. Жах. Вельмі хочацца верыць, што нішто не праходзіць дарма і гэтым памагатым таксама прыйдзецца ў свой час змяніць кіцелі на робы. У нас на плошчы хутчэй не за апазіцыю выйшлі, а супраць Лукашэнкі. Плюс многія паверылі ў “лібералізацыю”.

Наогул, складаецца ўражанне, што ў нас гэты астравок “саўка” не парушыць нават трэцяя сусветная — настолькі насельніцтва пасіўнае і настолькі эліта прызвычаілася да саўковага віду кіравання Брэжнева–Андропава. Нават хлусіць толкам не навучыліся — усё спадзяюцца на міліцыю і сексотаў. Нават перад пагрозай дэфолту баяцца прыбраць уласную манаполію на фінансы і эканоміку, бо насельніцтва ад такой чарговай шокавай тэрапіі можа разгайдацца, а губляць кантроль не хочацца. А чыноўнікі сярэдняга і ніжэйшага звяна ўвогуле праядаюць, што ім адвялі, і не моцна задумваюцца...

У маім побыце ўсё па-старому: кнігі — газеты — сон. Так ужо надакучыў гэты “адпачынак”. Калі б, напэўна, не яшчэ адзін палітычны у гэтым лагеры — дык наогул бы звар’яцеў. Так сумна».

Ігар Аліневіч:

«...Цяпер я ў поўным парадку. Суд і вырак мяне асабліва не хвалявалі, бо гэта толькі павярхоўная рабізна на плоскасці рэальных падзей і раскладаў, значна больш важных, чым усе гэтыя судова-пенітэнцыярныя патугі дзяржавы. Тэрмін пройдзе, многія іншыя сядзелі — і нічога, выйшлі людзьмі. Цяжкасці і суровасць толькі загартоўваюць. У цэлым я задаволены, як усё прайшло. Галоўнае, што мае таварышы не адступілі. І тым не менш некаторыя асобы выканалі сваю подлую ролю здраднікаў, у тым ліку тыя, каго лічыў сябрамі. Гэта сумна, бо людзі — самае галоўнае, і іх ужо ніяк не вярнуць і нічога не змяніць. Але што рабіць, трэба жыць далей і верыць у тых, хто апынуўся больш годнымі, балазе такіх больш. А жыць можна і тут, усюды можна жыць і быць чалавекам».

**Завочны дыялог**

Андрэй Саннікаў і Зміцер Бандарэнка на волі. Але ў зняволенні застаюцца яшчэ 13 чалавек, якіх міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічаць беларускімі палітвязнямі. У іх ліку анархісты.

«Не напісалі б прашэння аб памілаванні — сядзелі б да гэтага часу, — сказаў на днях Аляксандр Лукашэнка пра выпушчаных Бандарэнку і Саннікава. — А тыя, хто там застаўся і не напісаў гэты зварот на імя прэзідэнта, будуць сядзець».

Валянціна Аліневіч, маці Ігара, адказала А. Лукашэнку:

— Не ведаю, ці правільна я ацэньваю рэальную сітуацыю, але я прашу памілаваць майго сына кожны

дзень, кожную гадзіну. Я прасіла выратаваць і захаваць яго тады, калі кадэбісцкія піраты скралі яго ў Маскве і везлі ў Мінск, тады, калі з яго здзекаваліся ў «амерыканцы». Тады, калі перакрывалі Партызанскі праспект і яго везлі аднаго ў аўтазаку на суд, калі ён, таленавіты радыёэлектроншчык, сядзеў у клетцы суда, а я лавіла кожны яго погляд, каб падтрымаць і не ўпасці ў роспач. Тады, калі яго цкавалі аўчаркамі на этапе. Тады, калі маразы зашкальвалі за 20 і ён прамярзаў у Наваполацкай калоніі. Тады, калі яму здраджвалі сябры, дзеля якіх ён быў гатовы аддаць сваё сэрца. Я ўпэўнена, што пра гэта просяць усе мамы і таты, жонкі, дзеці, нявесты, сёстры і браты нашых палітвязняў. І нават тыя, хто ўжо памёр, таксама просяць міласці для свайго дзіцяці. Толькі на нябёсах. Прынамсі, мама Дзімы Дашкевіча і тата Алеся Бяляцкага ўжо сапраўды не пакідаюць у сваім заступніцтве сваіх дзяцей.

**Апошнія навіны**

З Мікалая Дзядка ўзмоцнена выбіваюць прашэнне аб памілаванні. Пра гэта палітвязень паведаміў у тэлефоннай размове з свайму бацьку.

Мікалай Дзядок распавёў, што пераведзены з магілёўскай калоніі № 15 у шклоўскую калонію, дзе ў свой час трымалі Мікалая Статкевіча. У магілёўскай калоніі Мікалай двойчы адмовіўся пісаць прашэнне аб памілаванні, што выклікала гнеў не толькі турэмнай адміністрацыі, але і кіраўніцтва спецслужбаў. Мікалаю Дзядку вынеслі пяць папярэджанняў, пазбавілі спатканняў, перадач, кінулі ў ШІЗА. Спачатку гэта былі 10 сутак карцара, аднак падчас знаходжання там ён «заслужыў» дадатковыя трое сутак. У выніку палітвязня пазбавілі кароткачасовага спаткання з маці, на якое Мікалай меў права з 16 красавіка.

«Я перакананы, што турэмшчыкі выбіваюць пра-

шэнні, выконваючы волю кіраўніка. Сённяшнія заявы цалкам пацвярджаюць, што без прашэння аб памілаванні ніводнага палітвязня Лукашэнка не адпусціць на свабоду», — заявіў бацька Мікалая, Аляксандр Дзядок.

***Святлана Калінкіна**, «Народная воля»*

*27 красавіка 2012 г.*

## ЯК У БЕЛАРУСІ ВЫБІВАЮЦЬ ПАКАЗАННІ

Рэдакцыя сайта ucpb.org мае цікавы дакумент — паказанні Дзяніса Быстрыка — аднаго з удзельнікаў працэсу над анархістамі (Ігарам Аліневічам, Мікалаем Дзядком, Аляксандрам Францкевічам), якія ён напісаў, выехаўшы ў Польшчу, і даслаў да пачатку суда над імі.

У гэтым дакуменце, засведчаным натарыусам па ўсіх правілах, Дзяніс Быстрык заяўляе аб тым, што ўсе паказанні падчас следства дадзеныя ім пад ціскам і ён ад іх адмаўляецца. Аднак суд «не заўважыў» гэтага дакумента і пабудаваў абвінавачванне на паказаннях, выбітых са сведкаў раней.

30 верасня 2010 года супрацоўнікі ГУБАЗ і КДБ уварваліся ў кватэру, якую Дзяніс Быстрык здымаў разам з Ігарам Аліневічам. Пасляператрусу і канфіскацыі некаторых рэчаў яго даставілі ў ГУБАЗ на вуліцу Рэвалюцыйную, дзе пачалі дапытваць.

Супрацоўнікі КДБ адразу папярэдзілі, што тэлефон Дзяніса Быстрыка праслухоўваецца, і расказалі яму пра размову з братам, якая адбылася напярэдадні. Потым пачалі распытваць аб падпале аўтамабіля на тэрыторыі амбасады Расіі. Пры гэтым не вёўся запіс размовы і затрыманаму не быў прадастаўлены адвакат.

Супрацоўнік ГУБАЗ Літвінскі пагражаў Дзянісу Быстрыку вялікім тэрмінам у выпадку, калі ён не дасць па-

казанняў. Пасля допыту затрыманага адправілі ў РУУС Цэнтральнага раёна, а потым у ІЧУ, дзе ён прабыў шэсць сутак, а пасля быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе.

Праз два тыдні Дзяніса Быстрыка выклікалі тэлефанаваннем у КДБ, дзе ў яго зноў пыталіся пра Ігара Аліневіча і папрасілі намаляваць ягоны псіхалагічны партрэт. Таксама яму паказалі відэа з шэсця анархістаў і спыталі, ці пазнае ён на ім каго-небудзь.

17 лістапада на кватэру да Дзяніса Быстрыка прыехалі два супрацоўнікі ГУБАЗ Дзям’янаў і Сакалоў, якія зноў даставілі яго ў ГУБАЗ. Там запатрабавалі пацвердзіць словы дапытанага раней Веткіна, які паказаў, што Быстрык вёў відэаздымку акцыі анархістаў каля амбасады. У выпадку адмовы яму пагражалі адразу адправіць на Валадарку. Ужо знаёмы Дзянісу Быстрыку Літвінскі сказаў яму, што ў гэты раз ён «сядзе сур’ёзна і надоўга». Пасля гэтага затрыманы быў вымушаны пагадзіцца даць паказанні.

З будынка ГУБАЗ Быстрыка зноў адправілі ў ІЧУ. Праз двое сутак ад яго запатрабавалі паказаць месцазнаходжанне Аліневіча. Калі Быстрык сказаў, што ён пра гэта не ведае, то ад яго запатрабавалі даведацца аб гэтым у ягонай сяброўкі Чарнышовай, бо, па версіі следчых, яна магла ведаць, дзе хаваецца Аліневіч. У выпадку адмовы супрацоўнічаць Быстрыку зноў прыгразілі турмой.

Пасля затрымання Аліневіча следчыя зладзілі вочную стаўку паміж ім і Быстрыкам, папярэдне ўказаўшы апошняму, што і як трэба гаварыць.

У дакуменце Дзяніс Быстрык сведчыць, што паказанні, дадзеныя на папярэднім следстве і падчас вочнай стаўкі, былі лжывымі і ён іх даў пад пагрозамі маральнага і псіхалагічнага ціску. Таксама ён сцвярджае, што, на ягоную думку, прамых доказаў віны Ігара Аліневіча ў следчых не было, таму яны схілялі яго да дачы заведама лжывых паказанняў.

14 снежня 2010 года Дзяніс Быстрык пакінуў тэрыторыю Беларусі пасля таго, як супрацоўнікі КДБ па-

спрабавалі шляхам пагроз прымусіць яго прыняць удзел у здымках прапагандысцкага фільма «Анархія. Прамое дзеянне», пазней паказанага па беларускім тэлебачанні.

*28 красавіка 2012 г.*

**Dzianisa Bystryka**
ul. Grodzenskaya 94a
Navagradak, Belarus
Nr Paszportu MC 1903433
Minski Sad Mejski

**Быстрика Дениса Александровича**
ул. Гродненская 94а
Новогрудок, Беларусь
№ паспорта MC 1903433
в Минский городской суд

| **PODANIE** | **ЗАЯВЛЕНИЕ** |
| --- | --- |
| Proszę o dołączenie poniższych informacji do sprawy toczącej się przeciwko Wietkinu Maksimu oraz Oleniewiczu Igoru, w której są oskarżani o napad chuligański na Ambasadę Rosji w Mińsku 30 sierpnia 2010 roku, i ogłoszenie w trakcie rozprawy informacji, zawartych w niniejszym podaniu: | Прошу приобщить к материалам уголовного дела по обвинению Веткина Максима Ивановича и Олиневича Игоря Владимировича о нападении на посольство РФ 30 августа 2010 года и огласить в суде мое заявление о следующем: |
| 30 września 2010 roku do mieszkania, które wynajmowałem razem z Oleniewiczem I. przyjechali funkcjonariusze GUBOP (Główny Urząd Walki z Przestępczością Zorganizowaną) i KGB. Po przeszukaniu mieszkania oraz konfiskacji niektórych rzeczy należących do mojego współlokatora, zabrali mnie do siedziby GUBOP, która znajduje się na ul. Revoliucyonnaja 3. Zaczęto wypytać mnie jak dawno się znamy z Oleniewiczem, w jaki sposób się poznaliśmy, w jakich byliśmy relacjach, czy Oleniewicz nie był członkiem jakichś organizacji lub partii politycznych. Funkcjonariusze również pytali się o miejsce w którym na dany moment przebywał Oleniewicz. Zostałem uprzedzony, że okłamywanie ich nie ma sensu, bo oni wszystko o mnie wiedzą. Zostałem również poinformowany, iż mój telefon komórkowy był przesłuchiwany, dowodem czego posłużył szczegółowy opis telefonicznej rozmowy z moim bratem, do którego dzwoniłem 29.09. Wtedy zrozumiałem, że mój telefon rzeczywiście był przesłuchiwany. Następnie pytano mnie, czy wiem cokolwiek na temat podpalonego samochodu na terytorium Ambasady Rosji w Mińsku oraz gdzie byłem i co robiłem 29.08 i 30.08.2010. Powyższa rozmowa z funkcjonariuszami KGB nie została wpisana | 30 сентября 2010 года ко мне на квартиру, которую я снимал вместе с Олиневичем И.В. приехали сотрудники ГУБОП И КГБ. Проведя обыск и изъяв некоторые вещи, принадлежавшие моему соседу они доставили меня на ул.Револиционная 3, где находится ГУБОП РБ. Они начали спрашивать меня как давно я знаю Олиневича, как познакомился, в каких отношениях состоял. Не состоял ли Олиневич в каких-либо политических организациях и партиях.Также они интересовались его местонахождением. При этом сотрудники КГБ предупредили меня, что обманывать их бесполезно, тк они все про меня знают. Один из них сказал что они прослушивали мой телефон, и подробно передал мне содержание разговора с моим братом, которому я звонил 29.09. Из этого я понял что они действительно прослушивали мои разговоры по мобильному телефону. Дальше они спрашивали меня знаю ли я что-нибудь о поджоге автомобиля на территории посольства Российской Федерации, и где я находился и чем занимался 29.08 и 30.08.2010. При этом не велась запись разговора в протокол и мне не был предоставлен юрист, хотя я просил об этом присутствующих на допросе. После того, как я сказал что ничего не знаю о |

do protokołu. Pomimo moich próśb adwokata mi nie przydzielono. Po tym, jak powiedziałem, że nic nie wiem o podpalonym samochodzie, funkcjonariusz GUBOP Litwinskij groził mi najwyższą karą wśród osób, które będą aresztowane w tej sprawie. Następnie znowu zostałem zapytany w jaki sposób spędziłem dzień 29.08, tylko tym razem ze szczegółami. Funkcjonariusze KGB twierdzili, że byłem obecny na spotkaniu anarchistów na pl.Jakuba Kolasa, na co odpowiedziałem, że nic nie wiedziałem o żadnym spotkaniu i tym bardziej nie mogłem być na nim obecny. Powtórzyłem również to, że nic nie wiem na temat podpalonego samochodu. Następnie Litwinskij dał rozkaz dostarczenia mnie do ROWD (Oddział Dzielnicowy Spraw Wewnętrznych) Centralnej dzielnicy Mińska, wystawili protokół zatrzymania oraz dopytali jako podejrzanego w sprawie wrzucenia świecy dymnej na terytorium Sztabu Generalnego Sił Zbrojnych RB, wnosząc tę rozmowę do protokołu. Śledczy ROWD Centralnej dzielnicy zadawał identyczne jak i funkconariusze GUBOPu pytania dot. Oliniewicza. Następnie dostarczono mnie do aresztu tymczasowego, gdzie spędziłem trzy dni, po czym do aresztu przyjechali funkcjonariusze ROWD Moskiewskiej dzielnicy i dopytali mnie jako podejrzanego w sprawie podpalenia drzwi aresztu tymczasowego na początku września 2010 roku, wpisując rozmowę do protołu. Następnie po raz kolejny odwiedził mnie funkcjonariusz GUBOPu Demjanow i dopytywał się czy nie przypomniałem sobie jakichś szczegółów jak spędziłem 29.08 i 30.08. W sumie przebywałem w areszcie 6 dni, po czym byłem zwolniony pod warunkiem zakazu opuszczania kraju.

Dwa tygodnie później na mój telefon komórkowy zadzwonił funkcjonariusz KGB, który był obecny podczas rozmowy 30.09 w siedzibie GUBOPu i poinformował, że muszę się stawić o 18.00 przy wejściu do budynku KGB. Na miejscu odebrał mnie nieznajomy funkcjonariusz i zaprowadził do pokoju w którym już znajdowało się dwóch funkcjonariuszy, którzy byli obecni na rozmowie 30.09, od razu informując, że mój

поджоге, сотрудник ГУБОП Литвинский, пригрозил, что посадит меня надолго и что сделает так, что я получу самый большой срок из всех кого они арестуют. После этого они начали опять спрашивать что я делал 29.08, просили чтоб я начал в подробностях рассказывать как я провел этот день. При этом сами говорили что я присутствовал на собрании анархистов на пл. Якуба Коласа.Я сказал что о собрании не знаю и не посещал его. Также я не знаю ничего о поджоге автомобиля. Тогда Литвинский сказал, чтоб меня везли «оформлять». Меня доставили в Районное отделение внутренних дел Центрального района г. Минска и составили протокол о задержании а также допросили в качестве подозреваемого в совершении забрасывания дымовой шашки на территорию Генерального штаба Вооруженных Сил Республики Беларусь, занеся содержание разговора в протокол. При этом следователь опять спрашивал меня об Олиневиче и задавал теже вопросы что и сотрудники Губоп. После меня поместили в ИВС на трое суток. Затем в ИВС приехали милиционеры из РОВД Московского района и составили протокол о задержании и допросили в качестве подозреваемого в поджоге дверей ИВС, имевшего место в начале сентября 2010 года. Также за это время меня посетил сотрудник ГУБОП Демьянов и спросил не вспомнил ли я что-нибудь о том что делал 29.08 и 30.08. Так я провел в ИВС 6 суток, после чего был выпушен под подписку о невыезде. Через две недели на мой мобильный телефон позвонил сотрудник КГБ, который присутствовал во время допроса 30.09 и сказал что мне надо приехать к 18.00 к проходной КГБ. Там меня встретил незнакомый мне сотрудник КГБ и провел в кабинет, где сидел человек, который мне звонил ранее и ещё один сотрудник КГБ, присутствовавший на допросе 30.09 и заявлявший что они прослушивали мои разговоры по мобильному телефону.

Они стали задавать вопросы, касающиеся личности Оленевича и просили нарисовать его психологический портрет. Спрашивали

telefon cały czas był przesłuchiwany.
Zaczęli zadawać pytania dotyczące Oleniewicza, prosili nakreślić jego portret psychologiczny, pytali czy ma dziewczynę. Następnie puścili film nagrany kamerą Ambasady FR w Mińsku i zapytali się czy jednym z rzucających koktajle Mołotowa nie jest Oleniewicz. Również puścili nagrania demonstracji obok Sztabu Generalnego i zapytali się, czy nie widzę na nim Oleniewicza. Po tym jak odpowiedziałem, że w żadnym z filmów nie widziałem Oleniewicza, zostałem zwolniony.
17 listopada 2010 roku do mojego mieszkania przyjechali funkcjonariusze GUBOPu Diemjanow i Sokołow i powiedzieli, że muszę pojechać z nimi. Zostałem dostarczony do GUBOPu, gdzie poinformowano mnie, iż 4.11.2010 został zatrzymany Wietkin Maksim, który podczas przesłuchania powiedział, że to ja nagrywałem akcję na kamerę, a on i Oleniewicz rzekomo rzucali butelki na terytorium ambasady FR. Funkcjonariusze GUBOP dodali, że jeżeli natychmiast nie potwierdzę wersji Wietkina, to będę dostarczony do tymczasowego aresztu na ul.Wołodarskiego, gdzie poznam, co znaczy „prawdziwe więzienie". Litwinskij dodał, że tym razem „wyląduję" w więzieniu i to na dłuższy czas. Jeżeli bym potwierdził wersję Wietkina, to gwarantowano mi występowanie w sprawie jako świadka. Warto zauważyć, że znowu nie miałem możliwości skorzystania z usług adwokata. Po tym, jak wyraziłem zgodę, wezwali adwokata, z którym byłem wcześniej umówiony, a śledczy Iwczenko zapisał moje słowa w protokole. Następnie umieszczono mnie w areszcie tymczasowym na 2 dni. Następnie, po 2 dniach spędzonych w areszcie tymczasowym, funkcjonariusze Sokołow i Iwczenko zapytali mnie, czy ja chcę żeby w stosunku do mnie rozpoczęto sprawę karną, i jeżeli nie, to muszę im pomóc w znalezieniu Oleniewicza. Odpowiedziałem, że nie wiem, gdzie on się ukrywa, po czym zaproponowano mi się spotkać ze wspólną z Oleniewiczem znajomą Czernyszową, która według nich utrzymywała z nim kontakt i poinformować

есть ли у него девушка. Затем они демонстрировали мне видео снятое камерами наблюдения посольства РФ и спрашивали не узнаю ли я в одном из кидавших бутылку Олиневича. Также мне показывали видео с шествия возле Генерального Штаба и также спрашивали не вижу ли я там Олиневича. Я сказал что не узнаю ни на одном из показанных отрывков Олиневича. Тогда они сказали, что я могу быть свободен.
17 ноября 2010 ко мне на квартиру приехали сорудники ГУБОП Демьянов и Соколов и сказали что я должен ехать с ними. Они отвезли меня в Губоп и сказали, что 4.11.2010 был задержан Веткин, который указал на допросе, что я осуществлял видеосъемку акции, во время которой он и Олиневич якобы кидали бутылки на территорию посольства РФ. Они добавили, что если я сейчас не подтвержу слова Веткина, то они сразу поместят меня в СИЗО на ул. Володарского, где я почувствую, что такое настоящая тюрьма, имея ввиду что пребывая всего 6 суток в ИВС я этого видимо не ощутил. Так же в кабинет зашел вышеупомянутый Литвинский и сказал, что на этот раз я сяду в тюрьму и надолго. При этом они опять не предоставили мне возможность воспользоваться услугами юриста. В тоже время они сказали, что если я подтвержу слова Веткина, то они сделают так, что на суде я буду присутствовать в качестве свидетеля.
После того, как я согласился, они вызвали адвоката, с которым у меня был заключен договор, и приехавший следователь Ивченко, записал мои слова в протокол.Потом я был помещен в ИВС на двое суток. По прошествии 2 суток в ИВС приехал Соколов и Ивченко, и отвезли меня на ул.Революционную. Они опять спросили хочу ли я иметь судимость и что если я хочу остаться без судимости, то я должен им помочь в поимке моего соседа Олиневича, который в то время скрывался. Я сказал что не знаю где он находится и не могу им помочь даже если бы и хотел. Они сказали, что я должен встретиться с моей знакомой Чернышевой А.В. И выяснить у

śledczych o wynikach rozmowy. Jeżeli bym odmówił, gwarantowano mi więzienie.
Zostałem również poinformowany, że jeżeli okłamię, to będę mocno żałował.
Powyższa rozmowa toczyła się bez adwokata. Po tym jak ustnie się zgodziłem, zostałem wypuszczony bez sankcji prokuratora.
Po zatrzymaniu Oleniewicza odbyło się wspólne pomiędzy mną a nim przesłuchanie. Przed przesłuchaniem śledczy Iwczenko się zapytał, czy ja pamiętam, co mam powiedzieć. Podczas przesłuchania potwierdziłem wcześniejsze zeznania.

Chciałbym zaświadczyć, iż wszystkie podane przeze mnie informacje, szczególnie 17.11.2010 i podczas wspólnego przesłuchania z Oleniewiczem, podawałem pod naciskiem zarówno psychicznym i moralnym ze strony wspomnianych wyżej funkcjonariuszy. Na temat akcji o których toczyły się rozmowy nie posiadam żadnych informacji, nie brałem osobiście w nich udziału oraz nie podejrzewam nikogo ze swoich znajomych. Z rozmów z przedstawicielami służb bezpieczeństwa wywnioskowałem, że ewidentnych i bezpośrednich dowodów na to, że Igor Oliniewicz brał udział w akcji, która miała miejsce na terytorium Ambasady Rosyjskiej nie ma i dlatego stosowali w stosunku do mnie nacisk psychologiczny.
W wyniku próby zmuszenia mnie do wzięcia udziału w nagrywaniu filmu pt. „Anarchia – działanie bezpośrednie" dla oficjalnej białoruskiej telewizji, gróźb pozbawienia swobody po tym jak odmówiłem współpracy w filmie i szantażu ze strony funkcjonariusza KGB, opuściłem terytorium Republiki Białoruś 14 grudnia 2010 roku.

неё местонахождение Олиневича (тк по их мнению она поддерживала с ним контакт), после чего созвониться с ними и проинформировать об этом Соколова.
Также они добавили, что если я не сделаю этого , то сяду в тюрьму, а Соколов сказал, чтоб я не пробовал их обманывать или рассказывать об этом задании посторонним людям, иначе я буду сильно жалеть.
Этот разговор велся без ведения протокола и присутствия адвоката. Получив от меня устное согласие, они отпустили меня без всяких санкций прокурора.
После того, как задержали Олиневича, была проведена очная ставка, между ним и мной. Во время ожидания в приемной КГБ, следователь Ивченко спросил у меня помню ли я что надо говорить. На очной ставке я подтвердил свои показания, данные ранее.

Далее я хочу заявить, что свои показания, данные 17.11.2010 и позже на очной ставке с Игорем Олиневичем, я давал под воздействием морального и психологического давления указанных выше сотрудников милиции. Об акциях, о которых меня спрашивали я не имею никакой информации, сам не принимал в них участия и не подозреваю никого из своих знакомых. Из разговоров со следователями и оперативными сотрудниками я сделал вывод, что прямых доказательств причастности Игоря Олиневича к произошедшему на территории посольства РФ у них не было, поэтому они целенаправленно склоняли меня к даче показаний против него, при этом обещая, что сам я смогу избежать уголовного наказания, что и произошло.

Сам я покинул территоррию РБ 14 декабря 2010, после того, как сотрудник КГБ путем угроз и шантажа пытался склонить меня к участию в сьемках пропагандистского фильма «Анархия. Прямое действие.», вышедшего в эфир на беларуском телевидении. После того как я отказался, он сказал мне, что я попаду в тюрьму.

01.07.2011

KANCELARIA NOTARIALNA
Marzenna Wyrzykowska
NOTARIUSZ

Repertorium A Nr 1171 /2011

Dnia pierwszego lipca roku dwa tysiące jedenastego (01.07.2011 r.)------------------------
Poświadczam ze podpis drugostronny złożył własnoręcznie w mojej obecności Pan Dzianis Bystryk, według oświadczenia syn Aliaksandra i Valianciny, zamieszkały Navagradak, ulica Grodzenskaya 94a, Białoruś, którego tożsamość ustaliłam na podstawie okazanego paszportu białoruskiego MC 1903433 z terminem ważności do dnia 09 lutego 2028 roku.--
------------------------------------------------------------------------------------------------
Pobrano ---------------------------------------------------------------------------------------
- taksę notarialną na podstawie §13 pkt 1 lit.b rozporządzenia Ministra Sprawiedliwości z dnia 28 czerwca 2004 roku w sprawie maksymalnych stawek taksy notarialnej (Dz. U. Nr 148, poz. 1564) w łącznej kwocie 20 (dwadzieścia) złotych;---------------------------------------
- podatek VAT w wysokości 23% od pobranej taksy notarialnej na podstawie art. 41 ust.1 w zw. z art. 146a pkt 1ustawy z dnia 11 marca 2004 roku o podatku od towarów i usług (Dz. U. Nr 54, poz. 535 z późn. zm.) w kwocie 4,60 (cztery i sześćdziesiąt setnych) złotych:-----------
Łącznie pobrano 24,60 (dwadzieścia cztery i sześćdziesiąt setnych) złotych.---------------------
Warszawa, dnia 01 lipca 2011 roku.





Marzenna Wyrzykowska
NOTARIUSZ

# ВЫКРАДАННЕ ЗАМЕСТ ЭКСТРАДЫЦЫІ

Тры гады таму ў Маскве шматлікія наведнікі гандлёвых цэнтраў «Філіён» ды «Гарбушка», што непадалёк ад метро «Баграціёнаўская», сталі сведкамі, як невядомыя ў масках схапілі, скруцілі, а потым кінулі ў аўто маладога чалавека.

«Забойца-тэрарыст» — гаварылі адны, «шпіён» — сцвярджалі іншыя. Насамрэч хлопец не належаў ні да тых, ні да другіх. 27-гадовы беларускі інжынер-радёэлектроншчык ды прыхільнік ідэяў Пятра Крапоткіна Ігар Аліневіч не тое што ніколі «не судзіўся», «не прыцягваўся», «не быў у міжнародным вышуку», а нават позваў у міліцыю да тае пары не меў... У той жа дзень хлопец, кінуты на падлогу машыны, у нацягнутай на галаву шапцы, быў дастаўлены ў Мінск, у СІЗА КДБ. Праз пару дзён, там жа ў «амерыканцы», яму прад’явілі ордар на арышт. Праз шэсць месяцаў рашэннем суду па справе анархістаў яму было прызначана восем гадоў турмы.

Сёння мы больш падрабязна спынімся на падзеях трохгадовай даўніны, паколькі выпадак з Ігарам Аліневічам далёка не першы ды не апошні з гэтай серыі.

### «За намі доўг, мужыкі»

...На дзень свайго затрымання, 28 лістапада 2010 г., Ігар Аліневіч ужо пару месяцаў як жыў ды працаваў у Маскве. У белакаменную з'ехаў, калі на радзіме пачаліся масавыя затрыманні прадстаўнікоў анархісцкага руху. Сярод затрыманых былі блізкія сябры хлопца. Знаходзячыся ў Маскве, Ігар ладзіў розныя інтэрнэт-акцыі ў іх падтрымку. Перад тым як усё здарылася, Аліневіч атрымаў па электронцы мэйл ад Бураціны (так у асяродку беларускіх анархістаў звалі менчука А. Л.). Той прасіў Ігара аб сустрэчы з ім у Маскве. Дамовіліся. Разам з Ігарам на спатканне пайшоў яшчэ адзін беларус Дзіма Дубоўскі. Сёння гэты малады хлопец, не тэрарыст, не забойца, а проста сведка падзеяў таго дня, хаваецца ад беларускіх уладаў.

«Перад гэтым мы з Ігарам, — згадвае Дзіма, — дзесьці гадзіну-другую пасядзелі непадалёк ад месца сустрэчы ў кавярні гандлёвага цэнтра. Калі выйшлі з яго, на вуліцы нехта пагукаў: „Ігар!“ Ігар азірнуўся, і чацвёра незнаёмых у масках тут жа схапілі яго, пачалі заломваць яму рукі, паўтараючы ўвесь час: „Не тузайся!“ Я, у сваю чаргу, зрабіў некалькі крокаў убок і, абярнуўшыся, убачыў, як Ігара валяць на зямлю. Да мяне пачаў набліжацца нехта з той каманды, і я кінуўся наўцёкі. Праз гандлёвы цэнтр выбраўся на іншую вуліцу. Куды пацягнулі Ігара, я не ведаў».

Свае адчуванні падчас выкрадання ды дастаўкі ў Мінск Ігар Аліневіч апісаў потым у турэмным дзённіку «Еду ў Магадан». Вось, напрыклад, пра тое, як маскоўскія «невядомыя» перадавалі яго ў рукі беларускім «невядомым»: «Мяжа з Беларуссю. Галаву ўціскваюць у падлогу, значыць, аперацыя нелегальная. Перадача мясцовым у бусік. Маскоўскія кажуць: „Больш такой х... не падкідвайце“. — „Вядома, за намі доўг,

мужыкі“, — адказваюць тутэйшыя». Калі чытаеш гэтыя радкі, узнікаюць самыя розныя пытанні пра «доўг»...

Кніга Ігара Аліневіча перакладзеная ўжо на некалькі моваў, у тым ліку баснійскую, польскую, ангельскую, і вылучаная на заснаваную ПЭН-цэнтрам і Радыё Свабода прэмію імя Францішка Аляхновіча за найлепшы твор, напісаны ў зняволенні. Цалкам на беларускай мове яе апублікавала газета «Новы час». Плануецца таксама выхад аўдыёверсіі «Еду ў Магадан». Некаторыя ўрыўкі з кнігі чытае сябар Аліневіча Аляксандр Францкевіч.

...28 лістапада сябры Аліневіча абышлі, а таксама абзванілі многія маскоўскія пастарункі з тых, куды ён мог бы трапіць. Высветлілася, што ў ніводзін з іх хлопца не даставілялі. На запыты ва ўпраўленне міліцыі (тады яна яшчэ не была паліцыяй), а таксама ў пракуратуру прыйшлі адказы: па гэтых ведамствах матэрыялы па затрыманні беларускага грамадзяніна, як і па дазволе на яго экстрадыцыю з Расіі ў суседнюю дзяржаву, не праходзілі. Пасля безвыніковых паходаў ды абзвонаў сябры Ігара ў той жа дзень распаўсюдзілі інфармацыю пра выкраданне ў інтэрнэце.

Увечары 28 лістапада 2010 г. Валянціна Аліневіч вярнулася дадому з дня народзінаў маці — бабулі Ігара. У надзеі прачытаць электронны ліст ад сына яна ўключыла Інтэрнэт. Замест гэтага ўбачыла паведамленне пра яго захоп невядомымі ў Маскве:

«Я спаўзла з таго крэсла ды завыла па-воўчы. Калі б гэта нават быў арышт, калі б яго пасадзілі тыя, хто выступае ад імя органаў правапарадку, усё гэта было б не так жахліва... А тут — невядомыя. Адразу ж узгадала зніклых палітыкаў. Але ж які Ігар палітык?! Ён сацыяльны актывіст. Так, ён захапляецца ідэямі анархіста Крапоткіна, але ж сучасныя палітолагі класіфікуюць гэтыя ідэі як левыя сацыялістычныя і куды менш экстрэміс-

кія, чым ідэі Леніна з заклікамі да адкрытага тэрору... За ўвесь час да Ігара не прыйшла дадому аніводная позва з міліцыі, ён увогуле не меў аніякіх стасункаў з прадстаўнікамі праваахоўных органаў».

**Валянціна Аліневіч:**
**«Не вядзіцеся на „ветлівасць“ гэтай публікі!»**

Пра тое, што іх сын утрымліваецца ў СІЗА КДБ, цалкам знерваваныя ад невядомасці бацькі Ігара Аліневіча даведаліся толькі на трэці дзень. Устанавіць нейкую сувязь з Ігарам, хай праз адваката, удалося праз тыдзень. Таксама праз тыдзень дазволілі першую перадачу. Першы ліст ад Ігара прыйшоў праз месяц... Першае спатканне далі ў наступным годзе, у красавіку 2011-га. Прычым толькі бацьку.

Як узгадвае Валянціна Аліневіч, да трагедыі, якая здарылася ў іх сям'і, яе муж быў яшчэ больш далёкім ад палітычнага жыцця чалавекам, чым яна... У канцы верасня, калі Ігар ужо быў у Маскве, Уладзімеру Аліневічу патэлефанавалі на працу з упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і запрасілі на нефармальную размову.

«Запрасілі без позвы, без нічога, — кажа Валянціна. — А мы на той момант былі лохі лохамі. Гэта цяпер, маючы досвед, я раю ўсім: катэгарычна не вядзіцеся на „ветлівыя“ размовы гэтай публікі! А тады муж паехаў. Размова была ледзь не задушэўнай. Пара-тройка фармальных пытанняў пра анархістаў, а потым проста пра жыццё — пра род Аліневічаў, паходжанне, бабуляў-дзядуляў і г. д. Пазней гэта ўсё было выкарыстана супраць сына па поўнай. Напрыклад, калі Ігара ўначы дапытвалі, яму гаварылі: вось зараз патэлефануем тваёй бабулі, ты ж ведаеш, якое ў яе хворае сэрца, і яна адразу памрэ, калі даведаецца, што ты ў нас... Той паход мужа

ва УБАЗ скончыўся зусім не задушэўна. Прыканцы Валодзю прад'явілі санкцыю наператрус, падпісаную вельмі невыразна кімсьці незразумелым. Не выключаю, што гэта магла быць падробка. Што яны шукалі ў нас, так і не зразумела. Падчас тагоператрусу я ўчыніла ім поўны разнос. Больш ні на якія размовы не запрашалі».

Напачатку Ігару выставілі абвінавачванне за акцыю ля ізалятара на Акрэсціна. У акцыі ля Генштаба ды падпале машыны расійскай амбасады абвінавацілі ўжо потым.

«Парадокс, — кажа Валянціна, — але гэтае самае першае абвінавачванне, з-за якога зрабілі тэатр масак у суседняй дзяржаве, потым знялі. Затое навесілі злачынства, падчас якога сына і не было ў Беларусі... У выніку далі столькі гадоў, колькі даюць забойцу ці арганізатару ўзброенай групоўкі. Для судовага вердыкту дастаткова было паказанняў усяго пары сведкаў».

**Абарона, якую мы маем**

Пра сведкаў крыху пазней... Цяпер пра абарону. Першы тыдзень пасля затрымання Ігара Аліневіча абслугоўваў так званы дзяжурны адвакат. З тых, хто дзяжурыць у кансультацыі і едзе ў СІЗА паводле выкліку. На той момант паслугі дзяжурнага абаронцы каштавалі каля 90 тысяч за дзень працы. Плаціць трэба было толькі пасля суду, ды і тое ў выпадку, калі вязня прызнаюць вінаватым. Сустрэўшыся з маці Аліневіча, дзяжурны стаў размаўляць з ёй толькі пасля таго, як яна яму заплаціла.

Аліневіч: «Першае, што ён сказаў: справа ваша палітычная. Дзяжурны нават не сказаў нам, што Ігар апрануты і абуты зусім па-летняму, што ў камеры холадна і што ён літаральна дрыжэў падчас размовы. Пра гэта мы даведаліся пазней. А тады на пытанне, ці варта сыну перадаць цёплыя рэчы ў СІЗА, чула адказ: „Не, у яго ўсё нармальна, тут зусім не холадна!“ Яму што,

было настолькі абыякава, нават па чалавечы? Другога адваката мы нанялі паводле рэкамендацыі. Ён быў заслужаным юрыстам Беларусі і таксама гаварыў пра тое, што справа палітычная. Хутчэй за ўсё, на яго быў зроблены ціск, бо падчас працэсу паводзіў сябе вельмі асцярожна. Адносна адкрытай хлусні ў справе (там стаяла, што месца затрымання Ігара не Масква, а нейкая беларуская вёска на мяжы з Расіяй) выказваўся вельмі баязліва: маўляў, усё роўна нічога не дакажаш. Нічога не сказаў пра незаконную экстрадыцыю, пра тое, што ордар на арышт выдалі праз некалькі дзён пасля затрымання. А ён ведаў пра гэта ад самага пачатку. Што да Ігара, дык яму яго абаронца па-чалавечы падабаўся, бо падтрымліваў на спатканнях у цяжкія хвіліны. Ад многіх іншых зняволеных мне самой неаднойчы даводзілася чуць: усіх суддзяў, следчых ды адвакатаў трэба заганяць у адзін аўтобус ды везці ў турму за парушэнне закону».

А вось уражанні аб працы адвакатаў на працэсе па справе анархістаў Аляксандра Францкевіча. Яго судзілі разам з Ігарам Аліневічам і Міколам Дзядком... Як лічыць Саша, назваць актыўным абаронцу Ігара было нельга... Аднак хіба можна на гэта сёння спадзявацца ва ўмовах Беларусі?

**«Здалі свае ж сябры»**

Як кажа 23-гадовы Саша Францкевіч, які сёлета на пачатку верасня выйшаў на волю пасля трохгадовай адседкі, адным з самых цяжкіх момантаў у гісторыі з Ігарам, а таксама з ім самім ды Міколам Дзядком стала расчараванне ў сваіх:

«Па сутнасці, да лета 2010-га спецслужбы намі неяк і не цікавіліся... Бывала, што затрымлівалі падчас акцыяў, і ўсё. Але вось з лета ўсё і панеслася. Следчыя пачалі

прасаваць нашых, абяцаць, што павесяць на іх розныя злачынствы. Многія перапалохаліся, а некаторыя пайшлі на супрацоўніцтва. Так былы наш сябар З. К. здаў мяне і Міколу Дзядка. Прычым яшчэ ў дадатак наплёў на нас невядома што. Другі таварыш, А. Л., па даручэнні КДБ прызначыў спатканне Ігару ля гандлёвага цэнтра і такім чынам здаў яго. Яшчэ М. В., якога, пэўна, білі ды так запалохалі, што пачаў здаваць, потым плакаць у судзе. За супрацоўніцтва ён быў вызвалены з судовай залі... Яшчэ адзін таварыш, які цягам года здымаў разам з Ігарам кватэру, у выніку моцнага ціску даў паказанні супраць сябра, але рабіць тое, што А. Л., не захацеў. Замест гэтага ўцёк з Беларусі ў Чэхію. З-за мяжы даслаў у суд натарыяльна аформленую заяву, у якой адмаўляўся ад сваіх паказанняў, паколькі рабіў іх пад ціскам».

«Усё гэта, зразумела, расчароўвае, — працягвае Аляксандр, — але людзі ёсць людзі. Тым больш мы жывём у Беларусі. Нейкія высновы з гэтага ўсяго робіш... А вось Ігара мы ўсе чакаем. Спадзяёмся, што гэта адбудзецца як мага хутчэй. Ён моцны чалавек. Ён вытрымае. Гэта відаць з яго лістоў да мяне».

*Радыё Свабода, 30 лістапада 2013 г.*

**Серыя**
**«Беларуская турэмная літаратура»**

Ігар Аліневіч
# Еду ў Магадан

*Успаміны, артыкулы.*

Рэдактар:
**Алена Лапцёнак**

Вёрстка:
**Віктар Корзун**

Вокладка:
**Віктар Корзун**

Пераклад:
**Таццяна Шапуцька, Алена Сяргейчык**

Карэктар:
**Алена Сяргейчык**

Наклад 500 ас.